УДК 821.161.1
ББК 64 (4 Беи)
Е 11

Мастак
Васіль Камароў

**Еўмянькоў, В.**
**Е 11** Успаміны Ваяводы, або Пялёсткі белай ружы: шляхецкая гавэнда / Віталь Еўмянькоў. — Мінск: Кнігазбор, 2008. — 184 с.
ISBN 978-985-6852-40-7.

У кнізе адлюстраваны падзеі, якія адбыліся на тэрыторыі Навагрудскага ваяводства напярэдадні першага падзелу Рэчы Паспалітай. Аўтар асэнсоўвае шляхецкую гісторыю, пададзеную Адамам Міцкевічам у паэме «Пан Тадэвуш», запрашае чытача ў эпоху рыцараў-сарматаў, якія жылі і паміралі ў імя Айчыны, Веры і Кахання.

**УДК 821.161.1**
**ББК 64 (4 Беи)**

**ISBN 978-985-6852-40-7**





## ПРАДМОВА ДА ЧЫТАЧА

Niesiemy modły przed twoje ołtarze,
Zostaw nas wiecznie przy wolności darze[1].

Дзеля чаго на старых гадах я ўзяўся за пяро? Вядома ж, не дзеля таго, каб праз славу пісьменніка ўзнесціся на літаратурны Парнас ды, падобна да Вальтэра, падарожнічаць па розумах і сэрцах без таго залішне рамансовай ды экзальтаванай нашай моладзі. На парозе смерці дасканала разумееш, што зямная слава — усяго толькі нікчэмнасць, марны дым. Зрэшты, падзеі, удзельнікі якіх даўно ўжо спарахнелі ў зямлі, зацікавяць хіба што настаўнікаў былых піярскіх школаў, а яшчэ, магчыма, аматараў нашай старасветчыны — паноў Ю. Крашэўскага, ласкаваю апекаю якога я надзвычай усцешаны, ды З. Даленгу-Хадакоўскага — майго сябра і як-ніяк кроўнага, нягледзячы што і па кудзелі. Пішу ж гэтыя радкі pro publiko bono і ў імя Божае, каб, па словах аднаго полацкага каноніка, «тое, што да заняпаду нахілілася, падперці, што збалела — вылечыць, што разляцелася — пазбіраць у адно»[2].

Нават малыя дзеткі ведаюць тую ісціну, што вялікія каралеўствы паўстаюць і знікаюць, адзін народ прыходзіць на месца іншага, але робіцца ўсё гэта не без прычыны — de nihilo nihil[3] — ва ўсім справы чалавечыя, «якія з розуму і вольнай волі паходзяць. Тое, што дзякуючы розуму і пільнасці паўстала, тое неразумнасцю, нядбальствам і злосцю людской заняпала».

Сёння няма ўжо ані той веры, ані таго паклікання да адшукання ласкі Святога Духа, але жывая яшчэ светлая надзея,

[1] З верша А. Гарэцкага «Hymn do Boga o zachowaniu wolności» (Warszawa, 1817).
[2] Тут маецца на ўвазе П. Скарга. Аўтар прыводзіць цытату з так званых «Сеймавых казанняў» (cz. 1 / «Kazania Sejmowe». Pierwsze).
[3] Нічога не ўзнікае з нічога (*лац.*).

а з ёй разам жывыя і мы. Каб не згасла тая трапяткая знічка веры, як паветра, патрэбныя ўспаміны як пра вялікі гонар Літвы, так і пра яе злачынствы, грахі, якія ні на гэтым, ні на тым свеце не выкупіць. І, як некалі памінальны агонь выклікаў відмаў продкаў, так успаміны паклічуць з труны занядбаныя, пасечаныя шашалем нашыя прамінулыя цноты. Адно толькі той вераю жыву і ёю паміраю.

Няхай Пан і Сын Яго злітуюцца над намі, навучаць, як адшукаць дарогу да Айчыны-Маці, падперці падупалую веру, падмацаваць сэрцы і душы тых, якія назаўжды з Панам і з Духам Яго з'яднаныя. Амэн.

*Тадэвуш КНЯТЫНСКІ*
*Парыж, красавік, 1857 г.*



# I
# АБЛОГА ЗАМКА СТОЛЬНІКА АЖЭШКІ. БАРСКІЯ КАНФЕДЭРАТЫ. ФОН ДРЭВІЧ. ПЧАЛІНАЯ ПОМСТА. СМЕРЦЬ СТОЛЬНІКА. РАМБАЙЛА

Пракляты самапал! Бо той, хто забівае
Мячом — замахваецца, круціць, адбівае,
Раззброіць можа ворага, або спыніцца,
А зброя агнястрэльная — абы схапіцца,
Адна хвілінка, іскарка....[4]

Òрымаючы ў руках стрэльбу, прагным крумкачовым вокам сачыў пан Адам Міцкевіч[5] з Гарбатовіч за паўночнай вежай старога замка ЯВ Ажэшкі. Схавалася ў той вежы колькі паўстанцаў-недабіткаў, барскіх канфедэратаў, якія апошнім азартам стрымлівалі зацятыя наскокі маскоўскай кавалерыі ды чакалі падтрымкі ад мінскага харунжага Парахфяновіча.

Адразу пасля заходу спякотнага пятроўскага сонца замак, што «веліччу сваёй паважнай вабіў вока»[6], узяў у аблогу буйны аддзел царскіх войскаў на чале з прыкра вядомым у нашым ваяводстве маёрам фон Дрэвічам[7]. За малым не ўварваліся цараняты ў двор праз спарахнелыя брамы, але былі спыненыя стрэлам з марціры, які зрабіў пан Рдултоўскі, пісар земскі навагрудскі, і адышлі, пакінуўшы трох забітых. Яшчэ да світання Дрэвіч, разважыўшы, што толькі omne trinum perfectum[8], тройчы рабіў спробу штурмам здабыць фартэцыю, але кожны раз няўдала, бо канфедэраты трапна стралялі, прымушалі маскоўцаў шукаць выратавання ў каноплях. Раззлаваныя «госці» вырашылі паспрабаваць шчасця на досвітку, а пакуль што абстрэльвалі замак з гарматы: «А маскалі тым часам куль не шкадавалі, мы зрэдку, але метка ім адказ давалі. Разы тры гэта хамства дзверы штурмавала, ды з кожным разам трое ногі задзірала»[9].

[4] Міцкевіч А. «Пан Тадэвуш». (Тут і далей цытуецца па выданні «Пан Тадэвуш, або Апошні наезд у Літве». Мінск, 1998. Пераклад П. Бітэля.)
[5] Маецца на ўвазе стрыечны дзед славутага паэта — таксама Адам Міцкевіч.
[6] Міцкевіч А. «Пан Тадэвуш».
[7] Рэальная гістарычная асоба. Афіцэр рускага войска. Вызначыўся беспадстаўнай жорсткасцю ў дачыненні да палонных канфедэратаў і іх сем'яў.
[8] Усё, што тройчы, ёсць дасканалым (*лац.*).
[9] Міцкевіч А. «Пан Тадэвуш».

Між тым уся замкавая залога складалася з 13 чалавек: princes nobilitatis Навагрудскага ваяводства, «багач і фамільянт» Літоўскі Стольнік Ажэшка, яго зяць — Трокскі кашталян Агінскі, вяльможны пан і пачцівы абывацель Рамбайла, маршалак двара Стольніка, больш вядомы ў нас сваім de nominee et cognomine[10] — «Шчэрб» («бо на лысіне рубоў меў многа»), пан Рдултоўскі, тры п'яныя дазвання кухары, айцец Іерамія, два гайдукі ды тры кабеты, сярод якіх была і чароўная дачка Ажэшкі маладая панначка Эва.

Адбываліся гэтыя падзеі «падчас дзяржаўнага разброду», а менавіта ў 1771 годзе, недзе праз месяц пасля таго, як «пан Казімір Пуласкі добра натоўк царанятам пад Ландскронай»[11]. Весткі пра перамогу над Суворавым нарадзілі тады вялікія надзеі на выратаванне Дзяржавы — Рэчы Паспалітай абодвух народаў. Літоўская шляхта, якая раней сядзела па засценках, мяркуючы перачакаць навальніцу, хапалася за зброю і гуртавалася ў вайсковыя аддзелы. Некаторыя сыходзілі ў лясы і там дзейнічалі як партызаны, разам з сялянамі ды месцічамі вынішчаючы вайсковыя абозы, робячы нечаканыя напады з тылу.

Стольнік імкнуўся да таго, каб злучыць павятовае рушанне з казакамі легендарнага маршалка канфедэратаў Са́вы[12], які ўдала дзейнічаў спачатку на Украіне, а потым і ў нас на Літве. Таемна ведучы перамовы, Ажэшка адначасова збіраў вакол сябе засценкі, што было не так ужо і проста з прычыны звычайнай для шляхты хаатычнасці. Дзе прымусам, а дзе і тонкай дыпламатыяй, аздобленай золатам ды шчодрымі абяцаннямі будучых прывілеяў, магнат здолеў схіліць шляхту да супольных дзеянняў з «чаркесамі» Савы Цалінскага. Апошні ж меў на мэце ўзяць у аблогу Варшаву, знішчыўшы, як ён лічыў, галоўную прычыну дзяржаўнага зла — караля-здрадніка Станіслава Аўгуста Панятоўскага.

Магнат цалкам падтрымліваў гэту ідэю, разлічваючы выставіць ад свайго павета каля тысячы конных гусараў і дзве тысячы пяхоты:

«Пагоня» хай заржэ, на Жмудзі
Няхай «Мядзведзь» раўне, і ўміг паўстануць людзі.

[10] Мянушка (*лац.*).
[11] У 1771 г. невялікая колькасць канфедэратаў стрымлівала на працягу 6 гадзін атакі конніцы Суворава. Войскі цара панеслі тады значныя страты.
[12] Ю. С. Цалінскі — адзін з маршалкаў Барскай канфедэрацыі. Г. Жавускі паведамляе, што быў ён сынам казацкага палкоўніка і паходзіў з таго ж павета, што і Б. Хмяльніцкі. Выхоўваючыся пры двары магната, казак спачатку перайшоў у каталіцтва, а потым служыў жаўнерам у прускім войску. Папулярнасць Савы сярод канфедэратаў была надзвычайнай. Просты люд лічыў яго чараўніком: «паміж яго казакамі жыло перакананне, што быў ён характэрнікам, меў талент кулі замаўляць, і ніводная з іх у яго патрафіць не магла» (цыт. па: Rzewuski H. «Pamiątki Soplicy». — Warszawa, 1978).



Каб з тысячу спачатку ці хоць з палавіну
Сабраць, а там паднялі б мы і ўсю краіну[13].

Табар канфедэратаў — тры харугвы рушання — стаяў каля Белай, чакаючы загадаў ад Ажэшкі. Ачаляў канфедэратаў ut supra[14] мінскі харунжы Парахвяновіч. Па засценках сядзелі Міцкевічы, Дамейкі, Заны, Абуховічы, а таксама Чачоты з Багушэвічамі — усяго шабель каля пяцісот адборнай шляхты. Яны павінны былі, як меркаваў ЯВ Стольнік, застацца ў павеце па старым звычаі — дзеля абароны маёмасці і жыцця цывільнага насельніцтва.

Пакуль Ажэшка totis viribus[15] адбіваўся ад насядаючага ворага, пад брамамі яго замка адбываўся наступны дыялог:

— De lege ferenda[16], а таксама і на мой уласны розум, пане браце, яго трэба забіць! — казаў хуткім словам пан Гроза — высокі, кастлявы д'ябал у абліччы манаха-езуіта. Ён пранікнёна заглядаў у вочы Міцкевічу, шаптаў: — Раз і ўсё! А да таго ж сам ведаеш: pacta sunt servanda[17].

— Пакінь мяне ў спакоі, шатане, — з абыякавасцю адказаў яму шляхціц.

— Яго смерць, каханы паночку, conditio sine qua non[18] нашага пагаднення, — не сунімаўся чорт.

— Як і Яе жыццё таксама...

— Яна будзе жыць, ex voto![19] Хіба толькі неба ўпадзе на зямлю...

На гэты раз Міцкевіч змаўчаў. Думкі яго былі надта далёкімі, а сам ён, як здавалася ў той момант, узнімаўся ў паветра і разам з белымі аксамітнымі аблокамі ляцеў да вежы, за мурамі якой была яго Дзева Марыя, яго анёлак — без якой ні жыцця, ні смерці! Толькі пакуты... адны нямыя сцэны ў невычэрпнай адзіноце, блуканні па кругах пекла. Dei judicium![20] — вось нібыта штосьці міргнула, заяснелася ў чорнай бездані замкавага акна... І Міцкевіч пабег на гэтае ззянне, паляцеў, як ляціць падхоплены навальніцаю карабель на святло маяка, паляцеў — будзь што, не зважаючы на тлум маскалёў, на мураваныя сцены, на град куль і карцечы...

Але як толькі пагодны ласкавы вецер падхапіў яго душу, як толькі сонца выпрастала свае абдымкі і, здавалася, яшчэ імгненне і ён будзе

[13] Міцкевіч А. «Пан Тадэвуш».
[14] Як згадвалася вышэй (*лац.*).
[15] Апошнімі намаганнямі (*лац.*).
[16] Калі паводле закона (*лац.*).
[17] Дамовы трэба выконваць (*лац.*).
[18] Абавязковая умова (*лац.*).
[19] Так, як мы дамовіліся (*лац.*).
[20] Суд Боскі! (*Лац.*)

там, дзе лунаюць птушкі і мары, дзе ў вечным паланезе танчаць ружовыя зоркі-знічкі, нібы чорныя п’яўкі, прысмокталіся да яго ног словы шатана, абвіваліся вакол цела і няўхільна цягнулі да зямлі.

— Гэта ён цябе змяшаў з брудам! Памятаеш, кім ты быў — primus inter pares[21], першы на сейміках. Як цябе шанаваў Радзівіл, былы ваявода віленскі, як шанаваў Патоцкі, ваявода кіеўскі, якім панам над панамі ты быў на вялікіх Трыбуналах Літвы і нават Кароны. Як грымела па засценках і палацах тваё імя — «Міцкевіч! Міц-ке-віч!!!» «Як Адась круціць вус, трасуцца ўсе засценкі! Калі завяжа вус супроць тых, хто нямілы, дык хай дрыжаць, хоць бы і нават Радзівілы»[22]. А ён — пузан, зласлівы вырадак і тыран — як ён цябе прынізіў! Забыўся на нашы звычаі і законы. Як высока ўзнёсся над роўнасцю шляхецкай: Est modus in rebus[23]. Страляй, не бойся граху — бо забіць круцяля тое ж самае, што выканаць Боскую волю. Сплаці яму за ўсе нашы крыўды, і будзе гэта Digitus dei est hic[24].

Распальваў пан Гроза іскрынкі злосці ў сэрцы Міцкевіча. Efficiut Daemones, ut quae non sunt, sic tamen quasi sint, conspicienda bominibus exhibeant[25]. Раскладаў пякельны агонь помсты. Але не думаў пра злачынствы Адам з Гарбатовіч. Згадваў ён сваю каханую, быў з ёю, спяваў з ёю, танчыў і нават дыхаў разам з ёю.

«Ах, як бясконца быў яе мне вобраз мілы! Год столькі! Дзе не быў я! А не маю сілы аб ёй забыцца. Вечна твар яе каханы стаіць перада мной, нібы намаляваны!»[26] «Эва... Эва...» — шапталі яго вусны, як калісь у той забыты студзеньскі вечар, калі ў замку Стольніка яе рука саткала паланез...

Гледзячы міма нячысціка, нават міма замкавай вежы, Міцкевіч быў у тым зачараванні, якое звычайна нараджаецца на мяжы несвядомага. Быў ён побач з ёю, стаяў побач з ёю і праглынаў кожны яе рух, лавіў прагнымі вачамі кожны яе позірк. Amantes amentes[27].

— Бяры, пан, стрэльбу і рабі тое, што павінен! — злосна працадзіў д’ябал, штурхнуўшы Міцкевіча ў каршэнь. — Бяры, бяры... не крывіся — alea jacta est[28].

---

[21] Першы сярод роўных (*лац.*).
[22] Міцкевіч А. «Пан Тадэвуш». (Аўтар замяніў імя героя паэмы — Яцака Сапліцы — на імя Адась. У арыг.: «Як Яцак круціць вус...»)
[23] Усяму ёсць крэс (*лац.*).
[24] Боскае наканаванне (*лац.*).
[25] Д’ябал прымушае чалавека паверыць у тое, чаго ніколі не існавала ў рэчаіснасці (*лац.*).
[26] Міцкевіч А. «Пан Тадэвуш».
[27] Закаханыя не маюць розуму (*лац.*).
[28] Стаўкі зроблены (*лац.*).



Схамянуўшыся, пан Адам са здзіўленнем паглядзеў на шатана, узяў у рукі працягнутую яму двурурку і з роспаччу сказаў:

— Прадаў я душу табе, д’ябле. Не будзе мне спакою ні на тым, ні на гэтым свеце...

Тым часам маскалі паўзлі да разбураных брамаў замка.

— От жа вырадкі! — абурыўся Ажэшка, прымаючы з рук манаха стрэльбу. — Які чорт вас клікаў? — і, сказаўшы так, стрэліў у дужага сяржанта. Услед стрэлілі Рамбайла і Агінскі.

Маскалі спыніліся і, гучна мацюкаючыся, пачалі смаліць па вежы з ружжаў, але толькі марна папсавалі порах, бо абаронцы паспелі схавацца за тоўстымі мурамі. Убачыўшы, што яго жаўнеры зноў не дадуць рады канфедэратам, Дрэвіч выхапіў шаблю і рушыў наперад з «Ура!». Не чакаючы ад маёра такой нахабнасці, Ажэшка не паспеў скласці стрэльбу, як вораг ужо стаяў пад самым яго носам.

— Ляхи, отворяйте! — лямантавалі маскалі.

— Скулля вам, — адказвалі ім літвіны.

— Государь вас, подлецов, повесит!

— Усіх «не повесит»!

— Мерзавцы! В Сибирь... пасвить соболей...

— На пагібель вам, маскалі!

— Bogurodzica, dziewica, Bogiem sławiena Maryja! — казаў малітву ЯВ Стольнік, смалячы ў наступаючых салдат, — Twego syna, Gospodzina, matko zwolena Maryja, zyszczy nam, spuści nam...[29]

Не быў зломкам і ЯВ Агінскі, які пляскаў з ружжаў, быццам цвікі ўбіваў. Два вусачы-жаўнеры задралі ногі і адзін падафіцэр застаўся моцна параненым. Не шкодзілі сваім і паны Рамбайла з Рдултоўскім. Вялебны манах разам з Эвай набівалі ружжы, падаючы іх у рукі абаронцаў: «Ляжала дваццаць стрэльбаў тут вось на падлозе, мы выстралім з адной, другую нам падносяць — ксяндзу заняцца гэтай справай давялося, таксама пані і паненцы, і дзяўчатам...»[30]

Неўзабаве царанята прыцягнулі даўгія драбіны і падставілі іх пад вежу. Адразу некалькі жаўнераў з мурашынай зграбнасцю папаўзлі па іх уверх, спадзеючыся патрапіць праз даўгое вузкае акно ў памяшканне. Дрэвіч, які схаваўся за возам, махаў шабляй і галасіў адтуль так, што пра аблогу замка пачулі ў Міры і нават у Лідзе. Праз разбітыя брамы ўцягнулі і даўгую гармату. Становішча было крытычным. Зважаючы на гэта, Стольнік загадаў жанчынам шукаць паратунку праз прарыты пад вежай таемны ход да вады.

---

[29] Стольнік чытае вядомую «Багародзіцу», найстаражытнейшую ў Польшчы рэлігійную песню.
[30] Міцкевіч А. «Пан Тадэвуш».

Тым часам гармату прывалаклі на двор. Маёр сабраў сваіх і даў загад штурмаваць непахісную цвердзь, перад тым абстраляўшы муры ядрамі. Аднак пушкары марудзілі. Руды кананір з хвіліну ўжо як кіраваўся ў неба, скошаны трапным стрэлам пана Рамбайлы. Абозны трымаўся за плячо, енчыў і ўкленчваў. Маскалі таўкліся, лаяліся і перашкаджалі адзін аднаму.

«Багародзіцу» спяваў вялебны манах, рыхтуючыся прыняць гвалтоўную смерць, але раптам змоўк, прыгадаўшы пра два пчаліныя вуллі, што загадзя схаваў у вежы. Разам з маршалкам усцягнулі яны тыя вуллі і скінулі на галовы ворагу.

Ад той неспадзяванкі маскалі надта разгубіліся.

— Да зброі! — закамандаваў Стольнік, заўважыўшы, як трывожна топчацца вораг. Меў ён намер, скарыстаўшы зручны момант, выбіць Дрэвіча з замка. Дзеля таго і рушыў наперад. Не затрымаліся і паны Рамбайла з Агінскім. Вяльможны Рдултоўскі ў тую хвілю сцякаў кроўю каля брамаў вежы.

Нават святы айцец пасунуўся ўслед за маршалкам. А Стольнік выхапіў з похвы шаблю-аўгустоўку і ўжо адчыняў брамы, каб выйсці на двор замка, як неўзабаве «бухнуў стрэл з-пад брамы. Стольнік заікнуўся, пачырванеў, збялеў, крывёю папярхнуўся». На кармазінавым кантушы яснага пана наўпрост каля сэрца расплывалася вялікая пляма крыві: «Так загінуў пан пабожны, пан вялікай славы, што меў ў родзе крэслы, стужкі і булавы, сялянам бацька, шляхце брат»[31].

Усяго на якую гадзіну спазніўся пан Парахвяновіч на тое крывавае жніво. Чырвоным водбліскам сустракаў яго замак Літоўскага Стольніка. Гармата пад брамамі, некалькі забітых жаўнераў не пакідалі сумненняў адносна меўшага тут адбыцца эксцэсу. Мінскі харунжы загадаў агледзець ваколіцы і выправіў пагоню. Тым часам карнікі адыходзілі праз Міндоўгаў гай у бок раскватараванага па вёсках буйнога палка данскіх казакоў. Скрывавіўшы рукі, фон Дрэвіч імкнуўся як мага хутчэй схавацца ад помсты канфедэратаў.

У той момант, калі Парахвяновіч страціў апошнюю надзею знайсці сярод муроў замка хоць каго-небудзь з жывых, у брамах з’явілася даўгая постаць Рамбайлы. Нёс ён на руках цела свайго пана і горка плакаў. Не прайшоўшы і некалькі крокаў, маршалак спыніўся, паглядзеў на Парахвяновіча ды сказаў:

— Няма ўжо майго пана. Забіў яго той прайдзісвет, што ляжыць зараз пад грушай. Corpus delicti[32]. Дзеля Боскай справядлівасці, сплаціце яму за здраду як належыць!

[31] Міцкевіч А. «Пан Тадэвуш».
[32] Яўны доказ злачынства (*лац.*).



## II
## МАЕ ВАНДРОЎКІ ПА НАВАГРУДСКІМ ВАЯВОДСТВЕ. НАСТУПСТВЫ НАВАЛЬНІЦЫ. КАРЧМА. ЗАСЦЯНКОВЫ ШЛЯХЦІЦ

Ojczyzny! — krzyknął — ach,
srogie wspomnienie,
Co wznieca męki zbrodni niezmazanych!
O wieczna hańbo! O Wspomnienie smutne!
Widok braterskich Orłów i Pogoni
Nie zdołał zmiękczyć serce me okrutne,
Ani wytrącić oręża z mej dłoni,
Wśród rozjuszonych obcych wojsk orszaków,
Niestety! Polak walczyłem Polaków![33]

Ã історыя смерці Стольніка, апетая панам А. Міцкевічам у нашым народным эпасе «Пан Тадэвуш» («Pan Tadewusz»), зрабілася мне вядомай яшчэ падчас падарожжа па Навагрудскім ваяводстве ўлетку 1821 года. З торбай ды кіем пераходзіў я ад вёскі да вёскі, здзіўляючыся маляўнічым краявідам таго пекнага краю і неверагоднай паэтычнасці яго люду. Збіраў я фальклор для нашага студэнцкага таварыства ў Вільні. Цікавіўся песнямі ды абрадамі літвінаў, іх святамі, звычаямі. Запісваў прымаўкі, прыказкі, паданні, легенды, нават прымхі і анекдоты. Але асабліва ўсцешвалі маё сэрца гісторыі, звязаныя з апошнімі нашымі паўстаннямі. Памяць пра Касцюшку, Пуласкага, Рэйтана, як я пераканаўся, жыла не толькі ў мураваных палацах ды шляхецкіх засценках, але і пад стрэхамі сялянскіх хатак, урослых у зямлю, убогіх і халодных.

Чуў я неаднойчы шматлікія легенды пра казацкага палкоўніка Са́ву, які нібыта ўмеў замаўляць кулі, пра ксяндза Марка Яндаловіча, пра Караля Радзівіла Пане Каханку і яго славутае паляванне, пра Альбенскую банду і нечуванага гайдамака пана Ігнацы Валадковіча, пра ЯВяльможных Патоцкага і Вішнявецкага, а яшчэ — пра сеймы і сеймікі, здрады і злачынствы, пра годныя павагі ўчынкі і крывавыя, вартыя жалю, зухвальствы.

Усё гэта шаноўны чытач лёгка знойдзе, узяўшы ў рукі кнігі пана Ігната Ходзькі («Успаміны квестара», «Пустэльнік з Паранюнаў»), Ю. Крашэўскага («Паперы Глінкі») або добрага майго сябра дый суседа графа Генрыка Жавускага («Успаміны Сапліцы», чашніка Парнаўскага), някепскага чалавека, патрыёта і набожнага каталіка, які, праўда, у апош-

[33] Niemcewicz J. U. Śpiewy historyczne. Kraków, 2002.

нія часы нешта моцна спаскудзіўся, аб чым я ўсім сэрцам шкадую[34]. Але не буду адхіляцца...

Неяк пад вечар заспеў мяне дождж у невялічкім ляску. Неба спахмурнела ўсяго за хвіліну: набеглі хмары, запляскалі маланкі, сцямнела навокал так, што не відно было й дарогі. Знайшоў я разлапістую елку, мяркуючы схавацца пад яе шатамі, каб перачакаць дождж. Але не паспеў зрабіць і некалькі крокаў, як з радасцю заўважыў страху. Падзякаваўшы Пану за ратаванне, рушыў наперад і хутка апынуўся… невядома — ці каля касцёла, ці каля карчмы. Пастукаўся ў драўляныя дзверы і пачуў у адказ скрыпучы незадаволены голас. На парозе з'явіўся яўрэй, ужо сталага веку, з жоўтым тварам і даўгою казлінаю барадою.

Паглядзеўшы адным крывым вокам, ён павярнуўся і неўзабаве знік, пакінуўшы мяне аднаго. Каб не дождж, нават чорт не прымусіў бы мяне пераступіць цераз той парог. Бо, даліпан, горш за нашу карчму (у гэтым я цалкам пагаджаюся з Ю. Крашэўскім) можа быць толькі палеская дарога. Але што было рабіць... Мінуўшы навобмацак сенцы, я патрапіў у шырокі пакой, гэтакі брудны, што бадай бы на яго трасца: падлога нагадвала сапраўднае балота, па якім коўзаліся разам з жыдоўскімі дзецьмі куры і гусі. Да столі быў прымацаваны вялізны ліхтар, які звісаў так нізка, што трэба было мець досвед Маісея, каб прасунуцца далей за парог ды не ўляпіцца ў тую жалезную свацільню галавой. Акрамя таго — з ліхтара капаў лой, пакідаючы ў паветры невыказальны смурод, да якога дадаваўся пах гарэлкі, табакі, квасу, чаду, дзёгцю і яшчэ немаведама чаго.

Насупраць уваходу, на покуці, стаяла калыска, у якой сядзеў кірпаты хлопчык і еў бруднымі рукамі булку. Крыху збоку відаць была печ, на ёй размесцілася вялізная плойма пярэстых катоў. Ля печы завіхалася яўрэйка, рашчыняючы хлеб у драўлянай дзяжы, якая стаяла наўпрост на падлозе. Неўзабаве зноў з'явіўся стары, пагардліва агледзеў мой жабрацкі строй і плюнуў сабе пад ногі. Зразумеўшы, што нічога большага ад той «маісеевай» гасціннасці чакаць не давядзецца, я прайшоў далей і сеў ля печы за даўгі стол. Сярод цямноты і смуроду неяк не

[34] На пачатку 50-х гг. XIX ст. у размове з Багданам Залескім наш паэт А. Міцкевіч скажа: «Генрык Жавускі і да яго падобныя — нашы найвялікшыя ворагі». Чаму? Пасля з'яўлення дзвюх кніжак «Успамінаў Сапліцы» Жавускі паспяшаўся адмовіцца ад іх аўтарства. У 1840-я гады ён ператварыўся ў гэтакага ж «найвернонодданнейшего» цара-тырана, як і яго сястра — вядомая правакатарка Караліна Сабанская (чытач ведае яе па міцкевічаўскіх крыптонімах «Д. Д.»). Змест гавэнд Сапліцы відавочна не стасаваўся з пазіцыяй лаяліста Жавускага і, больш таго, быў для яго небяспечным. Калі ж «таямніца» аўтарства высветлілася, Жавускі выказаў здзіўленне, што «жартаўлівыя цыдулкі», зробленыя як падробка старых манускрыптаў, з'явіліся ў друку. Па сутнасці, граф рабіў усё, каб запэўніць расійскія ўлады ў лаяльнасці і як мага далей аддаліцца ад небяспечнага імя Адама Міцкевіча.



адразу патрапіў мне на вочы той дзіўны чалавек. Сядзеў ён злева ад мяне, прыхінуўшыся спінаю да сцяны, і цадзіў нешта з глінянага куфля. Час ад часу ён абціраў вусы і крадком пазіраў у мой бок.

— Вітаю пана, — сказаў ён на мясцовай мове.

— І я пана таксама вітаю, — адказаў я па-літвінску, разважыўшы, што маю справу з нейкім засцянковым шляхціцам.

Памаўчаўшы крыху, мой суразмоўца пацікавіўся:

— Veniam da mihi[35]. Вы і ёсць той студэнт з Вільні, сын былога мінскага стражніка Пятра Князьцінскага?

— Князьцінскі Тадэвуш, — паспяшаўся прэзентаваць сябе я, — падарожнічаю па павеце, збіраю казкі ды легенды, а таксама і праўдзівыя гісторыі пра мінулыя часы.

Чалавек усміхнуўся, зноў абцёр даўгія старасвецкія вусы і ўважліва прыгледзеўся да мяне.

— Янкель! — паклікаў ён яўрэя.

Той з вялікай зграбнасцю праслізнуў паміж печчу і жонкай, мімаходзь тузануў пярэстага ката і павіс над сталом, расхінуўшы рукі і драпежна вылупіўшы крывое чырвонае вока.

— Прынясі іхмосцю нашага мёду, а мне яшчэ піва, — сказаў шляхціц.

Пачуўшы загад, яўрэй усё спрытна выканаў і знік.

— Ну дык што ж, — вусач узняў куфаль, — за нашу непахіснасць! Prosit!

Маючы намер толькі паспрабаваць, нечакана я праглынуў усё да апошняй кроплі. І не паспеў яшчэ як след перавесці дух, як «вашэсць», ужыўшы табакі, сказаў:

— Пан кажа, што збірае казкі?

— Так, — ледзь чутна прасіпеў я ў адказ, — але непараўнальна больш мяне цікавяць праўдзівыя гісторыі.

— От! Пан студэнт патрапіў, куды трэба. У гэтай карчме пад кожнай лавай сядзіць чорт-гавэндаж[36]. Паслухаеш яго — жахнешся... Ad vocem[37], а ці чуў што дабрадзей пра забойства Стольніка?

Я запэўніў, што чуў, і нават пераказаў вядомую ўжо чытачу гісторыю аблогі замка Ажэшкі.

— Так і было. Res ipsa loquitur[38], — пацвердзіў шляхціц. — Але ці ведае пан, хто забіў Ажэшку?

— Канешне, — адказаў я, — пан Рамбайла засведчыў на рускай сесіі Трыбунала, што бачыў забойцу свайго патрона. Быў ім нехта з Міцкевічаў — здаецца, пан Адам, празваны Ваяводам[39].

[35] Прашу мяне прабачыць (*лац.*).
[36] Чорт-апавядальнік (*пол.*).
[37] Дарэчы (*лац.*).
[38] Справа відавочная (*лац.*).
[39] Забойца Стольніка, паводле версіі А. Міцкевіча.

— Nec sutor ultra crepidam[40], — перапыніў мяне чалавек, — памыліўся ключнік... прайшло столькі год, а праўды пра той dies illa[41] так і няма.

Крыху памаўчаўшы, ён выпіў яшчэ і, гледзячы на мяне вачамі, у якіх блішчэлі слёзы, сказаў:

— Mea maxima culpa![42] — толькі не з таго трэба пачынаць.

## III
## АПОВЕД ШЛЯХЦІЦА. НА ПАЛОВУ СТАГОДДЗЯ НАЗАД. МІЦКЕВІЧЫ. ПРАКЛЯЦЦЕ

Хто закаваны ў сталёвы панцыр,
І Бога можа не пабаяцца.
У вёсцы шляхта з абозным збродам
Глуміцца стала па-над народам.
Ламаюць свірны, рабуюць хаты,
Галосяць, енчаць ад іх дзяўчаты.
Валам рабочым сякуць галовы,
А хто заплача — б'юць дадаткова.
І хто ж смяецца з тае расправы? —
Вяльможны гетман польнай булавы[43].

Æыў у даўнія часы, яшчэ пры каралю Аўгусце III Сасе[44], на мяжы з маястатам яснавяльможнага Ажэшкі шляхціц Восіп Бжастоўскі. Быў гэта яшчэ не стары, даволі чэрствы і даўгі, як калодзежны журавель, чалавек. Паходзіў ён са Жмудзі, дзе меў кроўных і дзе жыла яго шматлікая фамілія. У нашым ваяводстве з'явіўся яго дзед — Казімір Бжастоўскі, удзельнік эксцэсу, здзейсненага ў 1701 годзе Літоўскай канфедэрацыяй супраць Сапегаў. Ажаніўся Казімір з рэспектовай[45] з дому Ажэшкаў пані Таліменай Камінскай герба Корчак і атрымаў у пасаг Глыбоцкую пушчу разам з фальваркам Воўчая нора. Бацька пана Восіпа, Казімір Бжастоўскі, памёр нешта дужа рана, але паспеў паслужыць Радзівілам, далучыўшы да фальварка яшчэ дзве невялічкія вёсачкі.

[40] Не кажы пра тое, чаго не ведаеш (*лац.*).
[41] Дзень гневу (*лац.*).
[42] Мая вялікая віна! (*Лац.*)
[43] Сыракомля У. «Гетман польны» (З кнігі «Добрыя весці». — Мінск, 1993).
[44] Кароль польскі і вялікі князь літоўскі (1733–1763).
[45] .Бедная шляхцянка (*старапол.*).



Пана Восіпа выхоўвала спачатку пялестра ў Навагрудку, а потым езуіцкая калегія ў Вільні. Быў ён чалавек набожны, але, як кажуць, дужа хітрай работы. Перадусім меў гонар шатанскі і нораў, які не саступіў бы нораву самога Валадковіча. Таму, калі ў жніўні паляванне Ажэшкі спынілася каля Воўчай норы і пан Рамбайла прыляцеў прасіць мужыкоў, каб загнаць заблукаўшага з наднёманскай пушчы мядзведзя, шляхціц адказаў дужа зухвала:

— Пане, — сказаў ён, — толькі вар'яты палююць у час жніва, а я, дзякуй Богу, розум яшчэ не страціў і памятаю, што адзін жнівеньскі дзень увесь год корміць.

З тым і паехаў Рамбайла да Стольніка, нягледзячы на тое, што меў загад ex cathedra[46] прывесці мужыкоў да Война, які ўжо расстаўляў кардоны па лесе.

— Што? — усхадзіўся Стольнік, пачуўшы пра гэтакую неспадзяванку. — Пан Бжастоўскі назваў мяне — польскага сенатара — extra muros[47] вар'ятам? Дык я ўжо навучу шляхцюгу так, што будуць памятаць усе іншыя!

Не былі гэтыя словы пустымі, бо ў тую ж ноч дзвесце Міцкевічаў здзейснілі на Воўчую нору наезд. Кіраваў імі «ліхі малойчык і забіяка» пан Адам з Гарбатовіч, «Ваяводам празваны, бо ён сапраўды ў ваяводстве многа значыў, у ім правадыра ўвесь стан шляхецкі бачыў, дык трыста галасоў трымаў ён сільнай воляй, а сам не меў нічога, апроч кавалка поля, ды шаблі і вусоў, даўгіх як у нікога»[48].

Апоўначы, пры святле месяца, гайдамацкая плойма пана Ваяводы ўвайшла на дзядзінец засценка. Падпаліўшы саламяную страху дома, шляхціцы цярпліва чакалі, пакуль агонь разам з дымам прымусяць гаспадара выйсці пад шаты зорнага неба.

— ЯВяльможны Стольнік дзякуе пану ad imo pectore[49] за ўдалае паляванне, — сказаў Ваявода, гледзячы на Бжастоўскага, якога трымалі пяцёра дужых Міцкевічаў.

Бжастоўскі, да таго часу ўжо моцна збіты, стаяў прыціснуўшы вушы і апусціўшы галаву.

— Што маўчыш, маспане? — пацікавіўся Міцкевіч.

— А што мне табе сказаць, пракляты эксцэсант[50], — так пачаў гаспадар Воўчай норы, — калі ты Бога не баішся і падобна лютаму татарыну сярод ночы супраць гэтакага ж, як і сам, шляхціца робіш нечуваны гвалт? А мо, гайдамача, ты думаеш, што воля магнацкая

[46] Цвёрды, які не абмяркоўваецца (*лац.*).
[47] Публічна (*лац.*).
[48] Цытата з паэмы А. Міцкевіча «Пан Тадэвуш» зменена аўтарам, бо ў арыг.: «У ім правадыра ўвесь род Сапліцаў бачыў».
[49] Ад усёй душы (*лац.*).
[50] Злачынец (*лац.*).

цябе ад помсты і закону абароніць? Што ж, лепей забі мяне тут manu propria[51], ля майго парога, бо прысягаю крывёю Езуса: я табе і твайму пану адпомшчу!

Тым часам Міцкевічы выцягвалі на паясах са скляпенняў гарэлку і частаваліся ёю без усялякіх цырымоній. Разам з палаючым засценкам жніўеньскую ноч асвятлялі сялянскія вёскі. Шляхта, ужо добра падпіўшы, куды больш нагадвала драпежных ваўкоў, чым людзей... бо, horribile dictu[52], не шкадавала ні малых, ні старых. Адусюль чуліся стогны і енкі сялян. Дачка тамтэйшага каваля Яна, схапіўшы серп, баранілася ад высачэннага Міцкевіча па мянушцы Аглабля. Расхінуўшы даўгія лапы, ён сунуўся на дзяўчыну і драпежна скаліў зубы.

У другім баку вёскі старая кабета кідалася ў ногі п’янай хеўры, упрошваючы не забіваць апошняе быдла. Лямантавалі дзеці, вылі жанчыны, мужчыны гінулі пад шаблямі апанаваных д’ябалам шляхціцаў.

Не жадаў усяго таго пан Ваявода, але і спыніць гвалт не мог: cujus regio, ejus religi[53]. Такі загад Стольніка: сплаціць за крыўду, не шкадаваць нікога. Не першы раз на Літве адбывалася гэтакае шаленства. Нікога ўжо не здзіўлялі гвалты, якія чынілі магнаты супраць дробнай шляхты. Лілася разам з слязамі і кроў хрысціянская, так што ўжо ні зямля, ні неба не прымалі чалавечых ахвяраў. Недарма ж, напэўна, біскуп Ян Хрызастом Жалускі, гледзячы на магнацкае самаўладства, адзначыць: «Зчэзлі ў Літве права, справядлівасць, сорам; усё падлягае мячу, кіруе мацнейшы, парадак заступіла дзікая сваволя. Баяцца трэба, каб за гэткі прыгнёт шляхты, хаця і не хутка, не наступіла кара Божая...» Але гэтае «не хутка» цягнулася ўжо больш за стагоддзе. Бог маўчаў, як маўчала і Святая Марыя, калі адзін з Міцкевічаў няславіў крывічанку Зосю, а п’яная зграя спусташала дамы аднаверцаў. Маўчаў Бог і тады, калі падскарбі літоўскі Сапега, з асалодай прыглядаючыся да палаючай літвінскай вёскі, вымавіў: «O, quam pulchurum spectaculum!»

Беглі людзі з роднага краю, ратаваліся ад уласных паноў, якія былі горш за чуму і халеру, папаўнялі гайдамацкія табары правабярэжнай Украіны, знаходзілі прытулак у Інфлянтах, ваяводствах Кароны, бясконцых лясах Масковіі. Гарэлі вёскі, гінулі людзі, а разам з людзьмі — і Вялікае Княства, якое ўжо ірвалі, быццам галодныя сабакі, ляхі і маскалі. Бог, пашкадаваўшы некалі апошняга з людзей, на стогны паміраючай Літвы не звяртаў аніякай увагі. Мусіць, захінулі яго вочы грошы Паца, які ўзвёў у Вільні на Антокалі сабор святых Пятра і Паўла. Што ж, калі законнікі вымольвалі ў суровага, але неміласэрнага Бога

[51] Уласнай рукой (*лац.*).
[52] Баюся сказаць (*лац.*).
[53] Чыя зямля, таго і вера; параўн. бел.: чый хлеб ясі, таго і волю выконваеш (*лац.*).



прабачэнне ўсім тым злачынствам і ўсёй той крыві? Божа, адзін ты толькі відушчы... Amen.

— Нельга яго так пакідаць, — сказаў маршалак двара Стольніка, маючы на ўвазе Бжастоўскага.

— Але што з ім рабіць? — пацікнуў плячамі пан Ваявода. — Ён як-ніяк шляхціц...

На гэтыя словы Рамбайла толькі крыва ўсміхнуўся і, пасунуўшыся наперад, загадаў гайдукам маляваць чырвонае сэрца на грудзях палоннага[54].

Пан Бжастоўскі яшчэ ніжэй апусціў галаву і жудасна заскрыгатаў зубамі.

— Праклінаю, — раптам залямантаваў ён, утаропіўшы маланку-пагляд у Міцкевіча, — кажу табе: памрэш ты sine missa[55], як і я...

Пахіснуўся ад гэтых слоў Ваявода ў сядле і, каб не бачыць меўшага адбыцца далей, крануў каня...

## IV
## ПАН ВАЯВОДА. СКРУХА. КЛЯШТАР. ПУСТЭЛЬНІК. БОГ НЕ ПАМІРАЕ ТАДЫ, КАЛІ МЫ ПЕРАСТАЕМ У ЯГО ВЕРЫЦЬ

Глядзіш у неба ўгару над сабой,
Ды не зірнеш у сябе самога.
Ніколі Бога не знойдзе той,
Хто толькі ў небе шукае Бога[56].

— Íеяк запытаўся ў мяне адзін маладзён з Вільні: «Чаму, кажа, вашэсць, Літва і Рэч Паспалітая нашыя загінулі?» Ат, думаю, адчапіся сталічны стрэльчык... «Bóg dał, Bóg wziął», — так яму кажу, а сам сабе думаю: «Мусіць, абрыдлі мы Богу, што выракся ён нас і дазволіў чужаземцам таптаць нашыя нівы і паліць нашыя месцы».

Але як баліць сэрца па тым, што не вернецца ўжо ніколі... Грахамі, вашэсць, вычарпалі мы цярпенне Боскае! Крывёю нявінных спатолілі сваю шатанскую прагу! Кінулі ворагу пад ногі скарбы, бацькоўскай

[54] У даўнія часы, яшчэ за часамі Сасаў, на Літве-Беларусі злачынцу перад пакараннем смерцю да грудзей прымацоўвалі папяровае чырвонае сэрца. Быў гэта знак вернай смерці ад кулі.
[55] Без права адпушчэння грахоў (*лац.*).
[56] Міцкевіч А. «Вершы і паэмы». — Мінск, 2000.

крывёю здабытыя. І зляцела перунова помста на нашыя галовы, спапяліла ўсё — і добрае, і злое...

Пасля рапту[57] на маёнтак пана Бжастоўскага мінуў месяц. Спякотны жнівень змяніў халаднаваты дажджлівы верасень. Вакол шчыравала восень, сыплючы паўсцяж золатам і срэбрам. Міндоўгаў гай, нібы апрануўшы святочную мантыю asperges[58], узносіўся зубчастымі вежамі ў неба. Нівы, сплаціўшы руплівай працы селяніна копамі жыта і ільну, адпачывалі, патанаючы ў раскошы неверагодных колераў і адценняў. Дзе-нідзе чутны яшчэ былі самотныя песні талакі: «Не капайце крынічэнькі — не будзе вады, не кахайце дзеўчынэнькі — не будзе бяды! А ўжо з тае крынічэнькі сакол воду п'е. А ўжо ж тая дзеўчынэнька да шлюбу йдзе!»

Разам з павуціннем разносілі тыя песні спакон веку сумную, літвінскую — з багнаў і з пушчаў паўсталую — народжаную ў працы і ў марным змаганні з нядоляй, паэтычнасць: «Жаль-жаль мне будзе... — даносілася — яе людзі, а мне не будзе!»

Пан Адам, празваны Ваяводам, прыспешваў каня, спадзеючыся пакінуць за спінай надакучлівы тлум змрочных думак. Былі яны цяжкімі, як камяні на сялянскіх палетках, і ўвесь час цягнулі яго душу ў бяздонне чорнай роспачы. Схіліўшы галаву і заплюшчыўшы вочы, de die in diem[59] згадваў ён старога дзеда са спаленай ім вёскі пана Бжастоўскага, трымаў той на руках забітую дачку і горка плакаў. Вакол гарэлі хаты, гучалі енкі, але небарака быццам нічога не чуў: стоячы на каленях, лашчыў ён скрываўлены, белы, як першы снег, твар дзяўчыны.

Памятаў Міцкевіч і яго вочы. Гэтыя дзве бездані болю! Толькі раз паглядзеўшы ў іх, мажліва было страціць розум назаўжды. І сціснулася ад той чалавечай пакуты сэрца шляхціца. Прыгадаў ён раптам, як малілася маці за яго душу, як замаўляў бацька ў Касцёле ватыву[60] за яго выратаванне ад хваробы.

«Божа, дзеля чаго гэта ўсё мне?! — пытаўся ён у пахмурнага неба. — Быў жа і я некалі іншым!»

Памяць вяртала пана Ваяводу ў анёльскае, сельскае дзяцінства, калі пачутае ў касцёле Te Deum laudamus узносіла над зямлёй, асвячала кожную кропельку яго маленькага цела. Як жадаў ён тады палюбіць увесь свет, дапамагчы ўсім гаротнікам, ахвяраваць сабою дзеля апошняга жабрака. Ён памятаў, як глядзеў на крыцыфікс Езуса і плакаў ад жальбы. Як хацелася яму паменшыць пакуты Сына Боскага, аддаць

[57] Рапт — наезд, раптоўны напад (*гіст*.).
[58] Святочнае адзенне каталіцкага святара (*лац*.).
[59] З дня на дзень (*лац*.).
[60] Падзячнае набажэнства (*лац*.).



усяго сябе дзеля таго толькі, каб адчуў ён палёгку. Але мінула ўсё, як мінае тур мазуркі, як мінаюць гады...

Дарога тым часам пайшла праз густы ельнік. Неўзабаве з-за шатаў разлапістых, высачэнных дрэў пачаў з'яўляцца драўляны кляштар, пабудаваны на грошы князя Радзівіла Сіроткі, у знак яго падзякі за шчаслівае вяртанне з пілігрымкі ў Святую зямлю, а таксама як напамін аб Ілліничу[61].

Пакінуўшы каня каля брамаў, Міцкевіч увайшоў у маленечкі дворык, мінуў рызніцу, сказаў «Пахвалёны...» калефактару[62], на нейкі час спыніўся ў парлаторыюме[63], перажагнаўся, прамовіў Gloria Patri et Filio…[64], падыхаў водарам васковых свечак і накіраваўся ў плябанію, сустрэўшы там ксяндза-кусташа айца Пётрака. Павітаўшыся са старым сябрам, ды яшчэ і нейкім далёкім фаміліянтам, шляхціц адразу запытаўся пра пустэльніка.

— Хутка ўжо тры месяцы як не выходзіў ён з келлі, — так адказаў кусташ, — святы чалавек, дрэнна толькі, што часам гэтую яго святасць захінае вар'яцтва.

— Я жадаю яго бачыць!

— Не варта вашэсці хадзіць да пустэльніка зараз, — словы айца Пётрака зрабіліся ледзь чутнымі, — бо душа яго пілігрымуе дзесьці сярод нябёсаў, размаўляючы з анёламі. Няма яму спраў да нас! Бо вельмі цяжка сысці на зямлю таму, хто хоць раз убачыць святло неба!

На гэтыя словы Міцкевіч адказаў горкай усмешкай. Ксёндз, пачаўшы Una salus servire Deo[65], раптам спыніўся і, гледзячы на госця, запытаўся:

— А ці не лепей табе, пане дабрадзею, распачынаць размовы пра збаўленне душы з невялікіх, але круць-верць прыемных клопатаў пра цела? Трэба ж, вашэсць, miscere utile dulci[66]. Ёсць у мяне адзін святы сакрамант, які адразу выштурхне з твайго сэрца скруху! Do manus![67]

Сказаўшы так, узяў айцец Пётрак шляхціца пад руку і павёў па цёмным калідоры да рэфэктора[68]. Праз якіх дваццаць крокаў яны спыніліся, і кусташ адчыніў вялікія драўляныя брамы. Перад вачамі Міцкевіча паўстаў малюнак, які б усцешыў сэрца кожнага, хто любіць добра пад'есці ды выпіць: фляшкі з гданьскай гарэлкай, старкай, віленскія

[61] Сусед нясвіжскіх Радзівілаў і сябар Сіроткі. Па смерці Ілліча яго маёнтак (у тым ліку і Мір) быў далучаны да маястату Радзівілаў.
[62] Калефактар — касцельны дзед, служка.
[63] Парлаторыюм — месца сустрэч і размоў з гасцямі кляштара.
[64] Слава Айцу і Сыну (*лац*.).
[65] Адзіны шлях збаўлення ў службе Божай (*лац*.).
[66] Прыемнае і карыснае мець разам (*лац*.).
[67] Даю руку, прысягаю! (*Лац*.)
[68] Кляштарная ядальня.

кварты з мёдам-трайняком, старасвецкім півам, якое збівае з ног пасля першага ж куфля, а таксама ўсялякая вяндліна, каўбасы, шынкі... адным словам, усё ў той манаскай спіжарні сведчыла, што браты не маюць звычкі трымаць зубы на паліцы.

— Хадзем, пане-браце, пасвенцімся. Ubi amici, ibi opes[69], — запрасіў кусташ Міцкевіча за стол, дастаючы аднекуль з завуголля кварту з вадкасцю, якую крыху раней назваў святым сакрамантам, а была гэта гданьская гарэлка.

Але Міцкевіч не спяшаўся пераходзіць цераз парог, чым вельмі здзівіў і нават засмуціў гаспадара.

— Вось чалавек! Паглядзіце на яго: tamquam truncus stat[70]. Вяльможны пан зачапіўся за парог? — запытаўся ён, ставячы на стол кілішкі. — Adventum tuum gratulor[71]! Хадзем, кажу, вашэсць, пасвенцімся, бо сёння не грэх!

— Я б жадаў бачыць пустэльніка, — не пакідаў свайго Міцкевіч.

— От, прыдаўся табе гэты пустэльнік! Жадаеш спавядацца — спавядайся мне. Гарэлка таму не бракуе!

Аднак шляхціц адмовіўся ад гэтых трактаментаў[72] і другі раз.

— Упарты ж ты, пан Ваявода, як баран! Даруй мне, Божухна, за такія нялюдскія, прыкрыя словы, зноў кажу табе — пасвенцішся, а потым пойдзеш да свайго манаха, бо, як вядома кожнаму, хто вучыўся ў піярскіх школах і пайшоў далей інфімы: Vinum laeficat cor hominum[73]. Да таго ж... гэта не дзеля задавальнення, а так — дзеля вылечвання — dira recessitas[74], пане браце...

Няёмка было Міцкевічу адмаўляць кроўнаму трэці раз. Не так па ўласным жаданні, як di rispetto[75] сеў шляхціц за стол і пачаў назіраць за манахам, тоўстыя пальцы якога тым часам палявалі на каўбасу, што боўталася на штабе[76] пад столлю.

— Ведаю я, што грызе цябе, даражэнькі камрад, скруха, — сказаў ксёндз, упаляваўшы нарэшце даўгі кавалак, і, быццам цецерука за хвост, сцягнуў яго са штабы на стол. — Ахво! нядобра тое, канешне, бо кроў каталікоў праліваць грэх! Але чаму **Ты** робіш трывогу? Plus peccat auctor quam actor[77]... Няхай мае клопат аб выратаванні душы той,

[69] Дзе сябры, там і добра (*лац.*).
[70] Стаіць як пень (*лац.*).
[71] Шчыра запрашаю! (*Лац.*)
[72] Пачастункаў (*лац.*).
[73] Віно весяліць сэрца чалавека (*лац.*).
[74] Суровая неабходнасць (*лац.*).
[75] Як з-за пашаны (*лац.*).
[76] Драўляны брус (*дыял.*).
[77] Той, хто падгаворвае на злачынства, больш вінаваты, чым уласна сам злачынца (*лац.*).



хто цябе на пана Бжастоўскага нацкаваў! Стольнік Ажэшка — пан волі тваёй, і ты гэта добра ведаеш. Калі куля забівае, то найбарджэй віну ў тым мае не ружжо, з якога яна вылецела, а той, хто гэта ружжо трымаў у руках... Але за здароўе вашэсці!

Тоўстае, як вінная дзяжа, пуза кусташа праглынула келіх гарэлкі так хутка, што наўрад ці яна нават паспела прамачыць вялебнае горла. Міцкевіч зрабіў усяго адзіны глыток і схапіўся ўжо за шапку, як ксёндз спыніў яго надзвычайнай канфедэнцыяльнасцю ў словах:

— Кажуць, з'явіўся ў нас шатан. Лётае на намаляванай кабыле па павеце ды спакушае людзей рознымі шатанскімі выдумкамі. Такі зух!..

Невядома, колькі б яшчэ выпіў кусташ, распавядаючы пану Міцкевічу пра шатана, каб шляхціц не ўсхапіўся на ногі ды не падаўся самаходзь да келлі айца Марка.

Спыніўшыся каля яе парога, пан Ваявода ў нерашучасці патаптаўся на адным месцы і няцвёрдай рукой прыадчыніў дзверы.

— Laudetur Jezus Chrystos[78], святы ойча! — сказаў ён, уваходзячы ў цесны прытулак пустэльніка.

Манах у маладыя гады ўдзельнічаў у войнах і заездах. Шмат было на ім крыві. Жахнуўся чалавек зробленага ды пакінуў свет, схаваўшыся спачатку ў віленскіх езуітаў, а потым у тутэйшым кляштары. Быў ён набожным і бавіў апошні кавалак жыцця ў вялікай цноце, падобна тым першым хрысціянам, ад якіх вера найсвятая нашая па свеце разышлася. Некалі дужы і зграбны чалавек, зух да корда, выпівоха і кавалер, зараз ён ператварыўся ў маленечкага, ссохлага старога. Цела яго ад шматлікіх дысцыплін[79], якія ён сам на сябе ўскладаў, было больш падобным да легкаважкай здані, чым да цела дыхаючага зямным паветрам чалавека. Перарэзаны зморшчынамі твар нагадваў печаны яблык, на якім яркімі зоркамі ззялі вялізныя вочы. Апрануты ён быў у чорны манаскі каптур, гадоў якому было ледзь не столькі ж, колькі і самому манаху.

Пустэльнік стаяў на каленях перад крыцыфіксам, спінаю да ўваходу. Яго вусны ўсё яшчэ шапталі словы малітвы, калі шляхціц павітаўся яшчэ раз і, не ведаючы, што яму рабіць далей, застаўся стаяць каля парога. Стары пачаў углядацца ў постаць незнаёмага яму чалавека.

— In saecula saeculorum[80], — адказаў ён роўным, ледзь чутным голасам і праз нейкую хвіліну запытаўся: — Дзеля чаго ты тут, сын мой?

— Дзеля суцяшэння! — прашаптаў пан Адам, заўважыўшы, як па вуснах манаха прабегла ўсмешка.

[78] Слава табе, Езус Хрыстус (*лац.*).
[79] Дысцыпліна — скураная вяроўка, якая выкарыстоўваецца падчас уласнаручнага пакарання цела. Тут — цялеснае выпрабаванне.
[80] На векі вякоў (*лац.*).

— Дзеля суцяшэння?! — паўтарыў пустэльнік. — А ці варты ты яго, сын мой?

Міцкевіч не знайшоў, што адказаць, і толькі цяжка ўздыхнуў.

— Якога суцяшэння вам трэба ад мяне? Ад таго, хто не жыве нават, бо затачыў сябе ў цёмнай келлі. Даўно ўжо справы зямныя мяне не цікавяць. Толькі адной нагою я тут, разам з табой — на зямной цвердзі, а другою стаю на цвердзі неба. Так далёка мая душа ад вас, неверагодна далёка!

— Цяжка мне, святы чалавек, баюся я, што страціў веру ў міласэрнасць Боскую, а разам з ёю і надзею на выратаванне.

— Выратаванне? Хіба можна выратаваць таго, хто даўно ўжо страціў душу?

— Што? — запярэчыў Міцкевіч. — Я такі ж самы каталік, як і ты, айцец.

— Канешне... бо ты прыходзіш у Касцёл, трымаючы за плячамі мяшок з грахамі, кідаеш яго пад ногі ксяндза разам з ілжывымі словамі шкадавання, спавядаешся, выкупляеш злачынства ахвяраваннямі і мольбамі. Дык чаму ж ты прыйшоў да мяне? Дай айцу Пётраку грошай на новы дах у касцёле, і ён перапросіць у Бога не толькі твае мінулыя, але і будучыя грахі... або яшчэ лепш, дашлі na wotum[81] да віленскіх канонікаў якую-небудзь дробязь, знойдзеную на папялішчы спаленай табой вёскі! Бог усё прымае...

— Але я не большы грэшнік, чым усе астатнія! — з вялікім хваляваннем выгукнуў шляхціц.

— І гэта нібыта праўда! Але калі на тым свеце на празрыстых шалях будуць важыць твае грахі і тваю цноту, нікога, апроч Бога і цябе, не будзе. Што табе рахаваць грахі іншых... Cura te ipsum![82]

— Няўжо я такі вялікі грэшнік?

— Я не суддзя табе! Кажу, што бачу на ўласныя вочы.

— Але ў чым мае грахі? У тым, што ўвесь век змагаўся за свой гонар? Я, як ланцужны пёс, — чым горшы, тым лепшы! Так, праўда твая, ойча, — шмат на мне крыві! Але я нікога не забіў з-за вугла. Так, піў і баляваў, але на тое я шляхціц! Мне Бог так даў! Заезды, вайна, паляванні, сеймікі... вось маё жыццё! Дык чаго ж ты жадаеш ад драпежнага звера? Каб ён жыў у зграі ваўкоў і быў безабаронным ягнём? А мо каб на месцы Бжастоўскага апынуўся я, Бог бы тым усцешыўся? Не я такі, святы ойча... паглядзі вакол — жах і цямнота, гвалт і крыўда! І дзе яна, тая Боская міласэрнасць, падзелася? За якімі лясамі і гарамі яе шукаць?

[81] Падараванае на вылечванне (*лац.*).

[82] Думай пра сябе! (*Лац.*)



— Я, крый Божа, не папракаю цябе, — зноў паўтарыў пустэльнік, — але твая драпежнасць прывядзе наўпрост да пекла. Бо жывеш ты толькі дзеля сябе, як дзікі звер! Што табе слёзы людскія, нобіль? Ты абраны Богам... Але ці дзеля гвалту і крыві? Стваральнік падараваў табе вольнасць, пане, а ты ператварыў яе ў самавольства! Bóg nie daje nam tego co możemy mieć, ale to kim możemy być...[83].

— Ойча, няўжо хрысціянства не вучыць дараваць? Чаму ты гэтакі жорсткі да мяне? Бо, кажу табе, я вельмі нешчаслівы!

— Ты нешчаслівы таму, што шукаеш шчасця не там, дзе яно ёсць. Цела твяё здавальваецца, а душа горка плача і ўкленчвае да цябе. Але што ж, калі мольбы гэтыя не даходзяць да твайго слыху?

Міцкевіч, захінуўшы вочы рукавом кантуша, строс слязу.

— Няўжо, святы чалавек, табе зусім не шкада мяне?

— Наадварот, таму я і кажу табе праўду. Прымі слова праўды і «амэн».

— Я не зло, ойча, — так пачаў Міцкевіч, спакваля супакойваючыся, — бо калі я зло, як назваць усё астатняе? Бог стварыў нас дзеля пакут: яму радасць, калі мы плачам, яму шчасце, калі мы, як сляпыя, соваемся па краі бездані... Вольнымі, ты кажаш, стварыў нас Бог? А ці праўда гэта? Якая можа быць воля ў таго, хто падае з вышыні на халодную зледзянелую зямлю? Душа якога сціскаецца ад прадчування смерці! Што, боўтаючыся ў паветры, яшчэ не мёртвыя, але і не жывыя, мы здольны нешта выбіраць? Бог даўно ўжо выбраў за нас — а мы маем толькі тузаць адзін аднаго, грызціся. Homo homini lupus est[84]. Ўся наша воля — падставіць сваю шыю або перагрызці шыю іншага... Альтэрнацыя!.. Святы айцец, ты адышоў ад свету людзей, няўжо здалёк табе не бачны нашыя пакуты?

— Не блазнуй, пан, — узвысіў голас манах, — ніхто не ведае свайго кону і ніхто не здольны звесці рахунак з лёсам. Bóg nie zdejmuje ciężarów, wzmacnia tylko plecy[85]. Цярпі лепш і пакутуй, як цярпеў і пакутаваў Езус. А да ўсяго — ніхто з жывых не існуе дзеля смерці. Хто нашаптаў табе, што за тым краем толькі зледзянелая бездань?

— Ты не бачыў зацярушаныя снегам вочы забітых на полі бою! Зазірні ў іх... і таямніца стварэння зробіцца зразумелай. Воля Бога — нашы пакуты!

— З такою верай табе адзін шлях... Аднак не думай, што прынясе ён табе палёгку... Бог дае нам выпрабаванні часам жорсткія — гэта праўда, але не дзеля пакут, а дзеля выратавання, бо czasem człowiek musi przejść przez piekło, by zmienić się w anioła[86].

[83] Польская прымаўка.

[84] Чалавек чалавеку воўк (*лац.*).

[85] Хрысціянская максіма.

[86] Тое самае.

— Але злом не выправіш зло, — перарваў шляхціц манаха жудасным голасам.

Святы айцец апусціў галаву і, гледзячы ў падлогу, адказаў ледзь чутна, але цвёрда:

— Здараецца, што і анёл апранае маску страшыдлы, каб зварухнуць чалавечую душу і атачыць самотай. Зло гэтае ад Бога нельга ўспрымаць як варожасць. Яно спыняе на шляху пазнання самога зла, прымушае схамянуцца, дае шанец на выратаванне. А часам д’ябал раскідае сеткі, прымаючы падманлівае аблічча. Дае задавальненне, дорыць раскошай... Але ці трэба ўсё гэта, калі душа патанае ў багне? Калі чалавек у вялікай скрусе ідзе з уласнай волі да бездані, жадаючы звесці апошнія рахункі з жыццём, няўжо будзеш спыняць яго ласкавым словам? Не! Бо не паслухае. Але калі гвалтам прымусіш спыніцца, скруціш яму рукі і ногі, тады толькі выратуеш яго ад яго ж самога.

— Мудра ты кажаш...

— Я не прымушаю цябе спыніцца на шляху да бездані, бо гэта немагчыма, — перапыніў шляхціца манах, — чыні, як жадаеш! Толькі памятай: «Бог гэты свет можа знішчыць і другі збудаваць, ды без дапамогі нашай яму нас не ўратаваць»[87].

Сказаўшы так, павярнуўся пустэльнік да пана Адама спінаю і зноў пачаў перарваную з’яўленнем шляхціца літанію: «Beati pauperes spiritu…»

[87] Міцкевіч А. «Вершы і паэмы».







## V
## КАХАЙМАСЯ. РАХУЙМАСЯ. У ЗАМКУ АЖЭШКІ. ПОЛЬНЫ ГЕТМАН. ПАЛІТЫКА. АД ПРЫМАЎКІ ДА ВЫМАЎКІ. ЗВАДА. НЕБЯСПЕКА. АНЁЛАК

Няма ў паркеце залы гэтулькі каменняў,
Якую колькасць бочак він яна глынула.
На паясах іх шляхта з пограба цягнула,
Прыбыўшы к нам на імяніннае гулянне,
Або на сейм, на сеймік ці на паляванне.
А вунь на хорах там капэлія стаяла,
Яна ў арган і іншыя інструманты іграла.
Як мы ўзнімалі чары, трубы безупынна,
Як судным днём раўлі, а тосты гучна, чынна
Ішлі чаргой: найперш за караля, а далей...[88]

Ó замку ЯВ Стольніка, як гэта звычайна прынята ў вялікіх магнацкіх дамах, пятым тостам прагучала «Кахаймася!», а гарматы выпалілі ўжо некалькі разоў, распужаўшы ўсіх птушак ад Навагрудка да Ліды. Шляхта банкетавала, святкуючы прыбыццё з Беластока высокіх гасцей. Побач з Ажэшкам у французскім камзоле сядзеў Ян Браніцкі, польны гетман каронны і адзін з першых сенатараў палаючай у пякельным агні Рэчы Паспалітай. Прыехаў гетман на Літву дзеля палітычных перамоваў і зараз асабліва ўважліва прыслухоўваўся да таго, пра што вяліся гутаркі за сталом. Шляхту ж Навагрудскага ваяводства на шырокіх лавах моцна пацяснілі дваране з-за Буга.

А тэмы гутарак былі добра вядомыя. Яго каралеўская мосць Аўгуст ужо стары і не сёння-заўтра памрэ, пакінуўшы Рэч Паспалітую ў сітуацыі чарговага бескаралеўя.

— Надакучылі нам Сасы... Дзеля чаго запрашаць на трон іншаземцаў, калі ў нас ёсць свае? Няхай жывуць Пясты! — казалі адны.

— Мосці панове прадаліся Familii[89]! — адказвала ім altera pars[90] Радзівілаў і Патоцкіх. — Ці так ужо дрэнна было пры Сасах нашаму брату шляхціцу? Ці не мелі мы вольнасці столькі, колькі хацелі, і нават празнадта?! Дык няхай квітнеюць Польшча і Літва пад уладаю Сасаў!

Урэшце гутарка спынілася на дужа балючым пытанні дзяржаўных рэформаў, распачатых князем-канцлерам. Былі гэтыя рэформы накіра-

---

[88] Міцкевіч А. «Пан Тадэвуш».
[89] Тут маецца на ўвазе ўплывовы род князёў Чартарыйскіх.
[90] Другая партыя (*лац.*).

ваныя на абмежаванне ўлады магнатаў, што цалкам не задавальняла Літву. Даўно ўжо ў Варшаве казалі, што Княства губіць дзяржаву, бо нараджае Хаос магнацкага самавольства.

Тым часам палітычныя спрэчкі спакваля пераходзілі ў зваду. Вока Стольніка прыкмячала, як то ў адным канцы стала, то ў другім падпітыя госці хапаліся за шаблі. Яму і самому надакучылі пыхлівыя, па-французску апранутыя, размаўляючыя ў нос, «а то і зусім бязносыя» людзі Браніцкага. «Што ў іх ад нашага, славянскага?» — пытаўся сам у сябе Стольнік і адказваў змрочна: «Нічога!»

«Панічыкаў разбэшчаная зграя ўварвалася з чужыны к нам, накшталт нагаяў, і ганіць пачала законы, веру ў Бога і вопратку — усё да самага малога»[91].

Даўно ўжо ў Варшаве разам з французскай модай з'явілася і вера французская. Старасвецкія кантушы зніклі немаведама куды разам з мовай і традыцыямі славянскімі. Схільныя да перайманя, маладыя людзі нават звесткі пра суседнюю Літву чэрпалі з парыжскіх газет, а літвінаў лічылі ледзь не варварамі, «людзьмі з вёсак»:

«Як, пан з Літвы? Па-польску ведаюць літвіны? Я ж думаў, у Літве жывуць адны русіны. Я знаю больш Кітай, чым Край суседні гэты. Не пішуць пра яго й парыжскія газеты. Мо Constitutionnel калі згадае»[92].

Даўняе саперніцтва паміж Літвой і Каронай, пра якое ксёндз Альшэўскі[93] з сумам згадваў яшчэ за часамі Сапегаў, не суцішвалася і зараз. Разумеў і прызнаваў Стольнік, што няма нічога горшага за гэтае саперніцтва для слабой і знясіленай анархіяй Рэчы Паспалітай, прызнаваў... але ўсё ж ад магчымасці «падчасаць» караняжаў ніколі не адмаўляўся. Таму, калі малады паручнік Пяцігорскага палка шляхціц Сандамірскага ваяводства Міхал Гурскі пачаў закідаць у бок Міцкевіча адну непрыстойнасць за другой, Стольнік з нецярплівасцю чакаў звады. Аднак пан Ваявода пасля заезду на сядзібу Бжастоўскага быў не ў гуморы. Было яму відавочна ad restim res rediit[94], а таму, схіліўшыся над келіхам з мёдам, ён сядзеў сабе моўчкі і спачатку ніяк не рэагаваў на закіды зухаватага маладзёна.

— Касцельны дзед, праўдзівы калефактар, — казаў тым часам пан Гурскі, маючы на ўвазе Міцкевіча і асабліва яго добра страпаны, залатаны ў некалькіх месцах, але яшчэ досыць прыстойны кармазінавы, падпаясаны слуцкім пасам кантуш, — панове, толькі прыгледзьцеся

[91] Міцкевіч А. «Пан Тадэвуш».
[92] Міцкевіч А. «Дзяды» / пер. з пол. мовы К. Цвіркі. — Мінск, 2001.
[93] Аўтар твора «Апісанне няшчасцяў і нутраного разладу, вайны Кароны Польскае і Вялікага Княства Літоўскага pro informatione патомным у будучых часах асобаю духоўнаю пераказанае і з жаласцю выкладзенае».
[94] Хоць у пятлю лезь (*лац.*).



да гэтага гультая: не інакш як шляхціц зямлі хамскай, ваяводства хлопскага, герба вырвігрош.

І паколькі Міцкевіч змаўчаў, п'яніца працягваў яшчэ больш зухвала:

— Псявера! Пане, ці прыстойна добраму каталіку і пачціваму абывацелю быць такім абадраным? Гэта ж casus belli[95] і вялікая крыўда для ўсёй Рэчы Паспалітай... Но, праўда ж: пан пасуе да нашай кампаніі jak wół do karety[96].

— Favete linguis[97]! Калі шукаеш гуза, саколе, то хутка яго знойдзеш, — нарэшце не вытрымаў Міцкевіч.

— Ого, вашэсць мае язык, — зноў пачаў сваё пан Гурскі, — але ж усім вядома, што gdy język nieuważnie gada, skóra za niego często odpowiada[98].

— Няхай за маю скуру пан паручнік не клапоціцца, бо шляхецкая скура занадта жорсткая, каб з яе фіглі выраблялі.

— Паглядзіце на яго, панове, — не спыняўся п'яніца, — czepiło się gówno okrętu i mówi: my płyniemy[99]. Які ты шляхціц, галадранец, ідзі кідай гной, вашэсць, не псуй нам паветра...

Пачуўшы такія словы, усхапіўся пан Ваявода на ногі, а разам з ім паўстала ледзь не палова залы.

— Pax vobiscum[100], — пачаў быў ксёндз-правінцыял, які сядзеў па правую руку ад Ажэшкі, але, так і не перамогшы ўласны, завязлы паміж зубамі язык, змушана змоўк.

— Пан Адась нешта сказаў? — з вялікай надзеяй запытаўся Стольнік, прыглядаючыся да свайго фаварыта.

— Я сказаў, — Міцкевіч грозна паглядзеў на паручніка, — пра тое, што на Літве за кожную абразу сплочваюць добрым кухталём! Пра гэта наш госць напэўна не ведае... Калі ж ягамосць не жадае, каб яму вушы накруцілі, няхай зараз жа адказвае за словы як належыць нобілю! Dixi...

— Kaszel nie chorobo, koza nie chudoba, litwin nie szlachcic[101], — дадаваў паручнік сухога галля, неабачліва распальваючы і без таго вялікае вогнішча.

Ад прымаўкі да вымаўкі... Дайшло да таго, што абодва схапіліся за шаблі.

[95] Тут: прычына для сваркі (*лац.*).
[96] Як бык да карэты (*пол.*).
[97] Змоўч! (*Лац.*)
[98] За тое, што язык змалоў, скура адкажа (*лац.*).
[99] Прычапілася пярэштка да карабля і кажа: мы плывём (*пол.*).
[100] Мір з вамі (*лац.*).
[101] Кашаль не хвароба, каза не худоба, літвін не шляхціц (*пол.*).

Стольнік нават вокам не павёў, каб спыніць звaду. Браніцкі, гледзячы на ўсё гэта акручэнства[102], адно толькі махнуў рукой, спадзеючыся хіба што на волю Пана. Шляхціцы загулі, з асалодай чакаючы крывавай сцэны.

— Спыніцеся! У імя Бога, панове-братове, спыніцеся! — нечакана зноў азваўся правінцыял. — De lingua slulta incommoda multa[103]. Ці прыстойна гэта пляжыць адзін аднаго як, даруй Божухна, дурным мужыкам?

Словы ксяндза прагучалі сярод галасу, як перуновы подых сярод пагоднага неба. Ці то са здзіўлення, ці то з цікаўнасці да таго, што ж святы айцец скажа далей, прысутная шляхта скамянела, пранізваючы паўсталую над сталом вялебную глыбу нецярплівымі паглядамі. А ксёндз тым часам з надзвычайным пафасам сказаў:

— Поскудзь вы, лотры і варвары, а не шляхціцы! Ці мала і без таго нарабілі грахоў, што ўжо нават Святой Марыі надакучылі сваімі глупствамі? Схамяніцеся, вырадкі, пакуль in corpore[104] шатан не зацягнуў вас у пякельны агонь, — вымавіўшы гэтыя словы, ксёндз ex consuetudine[105] шырокім жэстам вялізнай правіцы перажагнаў прысутных і пачаў быў Pater Noster, але нечакана спыніўся на «Ave» і in hoc statu[106] гучна захроп.

— Амэн, — падвёў вынік гэтай супліцы Стольнік і дадаў у яе крыху маралі: — Без прычыны біцца нядобра! А вось калі ў імя Святой Марыі...

— У імя Святой Марыі сапраўды лепш, чым так... — пагадзіўся Браніцкі.

— Гу! Га! — пранеслася па зале.

— Хура-рура! — адгукнулася недзе пад столлю і панеслася ў неба разам з абяцаннямі ў імя Святой Марыі, а таксама святых Пятра і Паўла знішчыць усіх да аднаго ворагаў Рэчы Паспалітай. Bellum omnim contra omnes[107].

Трэба заўважыць, што падпіты лях надта няцвёрда трымаўся на нагах, але тым не менш ляцеў да пана Ваяводы з імпэтам раз'юшанага зубра. Узняўшы карабелю[108] над галавой, ён, быццам у кавалерыйскай атацы, наскочыў і рубануў ад вуха так, што аж загуло ў паветры.

— Ахі, вохі! — зашапталіся вакол...

---

[102] Злачынства (*пол.*).
[103] З-за марных слоў адны непрыемнасці (*лац.*).
[104] Усіх разам (*лац.*).
[105] Па звычцы (*лац.*).
[106] У такім становішчы (*лац.*).
[107] Вайна ўсіх супраць усіх (*лац.*).
[108] Карабеля — парадная шабля ў XVI–XVIII стст., якую выкарыстоўвалі выключна для ўпрыгожвання шляхецкага ўбрання.



Аднак з вялікай хмары нярэдка — малы дождж, бо жаданага выніку тая рашучасць не прынесла. Міцкевіч лёгка адвярнуў небяспечнае лязо ўбок і апынуўся за спінаю караняжа, які з імпэту наляцеў на лаўку і ўваткнуўся носам у брук:

— Суцішся, саколе, — сказаў Ваявода і з вялікай пагардай да ляха дадаў: — Lepsze bite niż zdechłe![109]

Гэтыя словы толькі распалілі злосць пана Гурскага, які мусіў згладзіць канфуз.

— Hołyszu! Szaraku! — паўтараў ён, пырскаючы на Міцкевіча пякельным агнём з вялізных, налітых крывёю вачэй. — Зараз, хаме, я тваім мясам псоў карміць буду!

— Але, але, пане паручніку, памалу!

Па тых словах крутануў Міцкевіч шабляй і lege artis[110] адхапіў крыху ад вуса пана Гурскага! Пахіснуўся паручнік, з якое імгненне пастаяў, нібы перуном працяты, а затым бліскавіцаю зляцеў на Міцкевіча і прымусіў яго бараніцца. Двубой адбываўся ў цэнтры залы. Уздоўж яе сцен стаялі сталы і шырокія дубовыя лавы, на якіх засядала, банкетуючы, шляхта. Зараз тыя лавы былі адсунутыя, а на сталах — як вароны на паркане — размясціліся госці, перамяшаўшы зялёныя кантушы дваран Ажэшкі з чырвонымі камзоламі службы Браніцкіх.

— На злом галавы, праклятаму ляху! — крычалі адны.

— Bij! Zabij jego! — адказвалі другія.

Зацята, з вялікаю рашучасцю і злосцю наступаў пан Гурскі. Міцкевіч, прысядаючы, antiquo more[111] узяўшы левай рукою ўбокі, правай апантана дзейнічаў і, трэба сказаць, з вялікай цяжкасцю адбіваў д'ябальскія наскокі ворага. Месца для манёўраў было замала, таму шляхціцы круціліся побач, што здалёку нагадвала мяцеліцу — гэтакімі ж былі іх прыскокі і прысяданні. Адно толькі — мяцеліца тая была крывавай...

Шалёна рубіўся паручнік, насядаў на літвіна то злева, то справа, пераразаў паветра з такой неверагоднаю сілай, што, здавалася, яно, пасечанае, кавалкамі падае на брук. З кожным узмахам шаблі зляталі з яго вуснаў праклццці, але чым больш ён распаляўся, чым страшнейшымі былі яго наскокі, тым больш спакойным выглядаў Міцкевіч, а чорныя вочы яго спакваля ператвараліся ў дзве заледзянелыя стужачкі.

Знянацку ўдарыў караняж па шаблі літвіна так, што ажно іскры пасыпаліся з стальнога ляза. Заліла кроў твар Міцкевічу. «Vivat!» — азваліся на тое дваране Браніцкага. Але толькі пахіснуўся Ваявода і ў той жа момант нечакана прысеў, бліскавіцаю крутнуў шабляю і ўдарыў ёю

---

[109] Лепш пабіты, чым забіты (*пол.*).
[110] Па-майстэрску (*лац.*).
[111] Па старым звычаі (*лац.*).

па правай руцэ паручніка. Страшны крык агаласіў залу, бо ўбачыў пан Гурскі, як падляцела ў паветра разам з адцятай рукою яго абсыпаная брыльянтамі карабеля, у канвульсіях сціснулі рукаяць яго белыя даўгія пальцы.

— О, Езусе! — пранеслася па зале і змоўкла нямым рэхам пад столлю. Чутно было толькі нервовае дыханне Міцкевіча ды выццё пана Гурскага, які віўся па зямлі, схапіўшыся за кульбаку.

І толькі пачцівы літвін наважыўся звесці рахунак з зухаватым ляхам, як на хорах залы ўбачыў, здалося яму ў тое імгненне, панскага анёла. Была ж гэта дзеўчына ў такім светлым ззянні, з такімі даўгімі і сонечнымі валасамі, з такім глыбокім і пяшчотным паглядам, што ў Міцкевіча раптам паблыталіся ўсе думкі...

— Вашэсць, — раптам спыніўся шляхціц, — напэўна ўжо не ведае нашых старых канцэптаў пра Боскае каханне, а я за часамі маладосці наслухаўся іх вялікую колькасць. Канешне, больш у іх хлусні ды рамантычных выдумак, але тое, што мужчына, часам толькі раз паглядзеўшы на якую кабету, забываецца нават на сваё ўласнае імя, дык гэта святая праўда як Бог на небе. Не здарма ж у старых кнігах напісана: «Amor vincit omnia»[112]**.** Усе пра тое ведаюць, бо калі і не на ўласныя вочы бачылі, то ў варшаўскіх часопісах пэўна ж ужо чыталі: «Miłość zdrowy rozsądek odejmuje». Або: «Miłość bez pieniędzy — wrota do nędzy». Глупства ўсё гэта, вядома! Бо запытайся, вашэсць, у якога цяперашняга франта: «Адкуль у сэрцы тыя пякучыя іскры выкрасаюцца?» Будзе казытаць патыліцу ды дуб'ё з галлём мяшаць, а праўды ад яго так і не дачакаешся. А чаму? Таму што празнадта вялікую ўвагу зараз аддаюць нямецкай навуцы, а навуку сапраўдную, якая ад Святога Духа паходзіць, зусім занядбалі... Вось і атрымоўваецца, што пацягу да жанчыны адчуваюць, а ні прычын таму, а ні скуткаў той пацягі не ведаюць...

Шляхціц перавёў дух і ўжо цішэй крыху дадаў:

— Чуў я ад пробашча нашага касцёла, нябожчыка ўжо (няхай яму на тым свеце будзе лёгка і радасна), што крочыць чалавек да Бога не так дарогай, як каханнем[113], бо каханне — гэта крылы, якія Пан даў душы, каб ляцела яна да неба. Распавёў мне ксёндз таксама і апокрыф, які б табе, дужа шаноўны пане, варта было паслухаць, нягледзячы, што in brevi[114].

Трэба тут праясніць: у тыя часы я і сам надзвычай моцна кахаў і нават дужа пакутаваў ад адсутнасці ўзаемнасці. Таму наставіў вушы на словы шляхціца, спадзеючыся адшукаць у іх якое-небудзь суцяшэнне.

---

[112] Каханне перамагае ўсё (*лац.*).

[113] Цытата са святога Аўгусціна. У польскім перакладзе: «Idziemy do Boga nie drogą, lecz miłością».

[114] У скарочаным выглядзе (*лац.*).



## Апокрыф

У апошні дзень стварэння, — так пачаў ягамосць, — Аданаі паглядзеў на самотнага Адама і даслаў яму анёла ў абліччы жанчыны, імя якой было Эва. Адама і Эву Аданаі назваў «чалавекам» і пасяліў у рай на ўсходзе зямлі ў чароўнай даліне Эдэмскага саду.

З таго часу кожны мужчына нараджаецца толькі дзеля адзінай жанчыны. Усё жыццё шукае яе сярод людзей. Часам уяўляецца, што вось яна — побач, мажліва нават дакрануцца рукой, пацалаваць, але памыляецца Адам і ідзе далей, шукае, шукае сваю Эву, пакуль стае моцаў. «Ave! Ave!» — лямантуе ён, каб прабіць гэтым святым словам цемень бязлюддзя.

І калі вочы, здавалася б, самай звычайнай, самай непрыкметнай дзяўчыны ў адказ на гэты заклік запальваюцца райскім святлом, мужчына спыняецца, бо пазнае ў ёй анёла. Змяняецца ад гэтай сустрэчы і яна, бо атрымоўвае крылы, ператвараецца з паспалітае кабеты — з Ганны, Алены, Насты ці Праксы — у Эву, тую самую — адзіную несмяротэльную Эву, якая, схаваная ў кожнай жанчыне, — жыве і памірае разам з яе надзеямі і марамі.

І тады, пасля іх сустрэчы, такое шчасце нараджаецца ў свеце, такая радасць яснее ў небе, што нельга апісаць гэта ўсё ніякімі словамі. Святочны фэст учыняецца на небе — танчаць анёлы, смяецца Дзева Марыя, пляскаючь у далоні херувімы: «О, дзякуй табе, Ойча, за новую зорку на небе, за новае каханне на зямлі!»

Урачыстымі гасцямі запрашаюцца на той нябесны фэст Адам і Эва. Архіанёлы кідаюць ім пад ногі пялёсткі белай ружы, схіліўшы галовы, расступаюцца перад імі святыя апосталы і пакутнікі. «Асанна! Асанна!» — гучыць з усіх бакоў Панскага трона. Адна толькі Найсвятая Дзева Марыя скрозь радасць не хавае смутак, бо ведае, які лёс закаханых...

— Adonai! Што ты робіш з намі? — узносіў свой голас Адам, стоячы на парозе з раю.

— Адрачыся...

— Без Эвы нялюбы мне рай, Adonai! Толькі з ёю мне радасць і гора, слодыч і гаркота. Чуеш мяне… толькі з ёю мне жыццё!

— І смерць! Адрачыся...

— Я не аддам яе ў кіпцюры шатана, які змеем праслізгнуў у тваё Царства і зараз смяецца, назіраючы за нашым горам. Чуеш, Adonai! Ён смяецца, бо прадчувае лёгкую здабычу…

— І тваю ахвяру! Адрачыся...

— Няхай абое мы пойдзем у яго вогненную пашчу, няхай абаіх нас апаліць яго смуродны подых... Не адракуся, Adonai!

— Не адрачэцца... — шапталі вусны архіанёла Габраіла ў той момант, як зачыняў ён брамы за спінамі Адама і Эвы. Горка плакаў Габраіл,

назіраючы за тым, як знікаюць дзве постаці ў цемені ночы, у імгле егіпецкай пустэчы. Бачыў архіанёл, як недзе на захадзе сярод хмараў і зорак нараджаецца навальніца, як паўстае сцяна пяску, як магутны павеў вырывае з каранямі спрадвечныя дрэвы і кідае іх услед чалавеку.

— Адам?

— Эва-а-а-а! — неслася далёкае рэха над пустэчай.

— Гу-га! — лямантаваў у адказ вецер. — Закідаю вас пяском, разлучу навек, развяду па розных гасцінцах і краях...

— Гу-га! — і памрэ ў нястачы ды самоце вашае каханне, сярод штодзённых клопатаў затрэцца пачуццё...

— Памрэ каханне, затрэцца пачуццё, — па-вар'яцку рагатаў шатан, — памрэ і ўспамін пра Adonai! Бо Бог ёсць... ёсць каханне...

Abyssus abyssum invocat[115]! З таго даўняга часу блукаюць Адам і Эва па свеце. Толькі на імгненне ім наканавана сысціся, узяўшыся за рукі, узляцець на неба і... з сонечнай светлай вышыні каменем паляцець на халодную зямлю. А здараецца і так, што шатан блытае ўсе карты... бо падсоўвае ён Адаму пякельную відму ў абліччы чароўнага анёла. Яна зводзіць мужчыну, высмоктвае з яго жыццёвую сілу, ператварае душу ў пустэчу, а сэрца ў халодны камень. І тады ўжо марна будзе маліць Эва яго, бо не пачуе Адам малітваў: «Калі ж кране душу найчысты позірк нейчы, ля ног анёла ён не стане слёзы ліць»[116].

Не прымай, пане, гэту гісторыю блізка да сэрца, бо людзі кажуць, а вецер носіць. Хто яго ведае, як яно там было... Але вернемся да тых падзей, сведкамі якіх мы зрабіліся. Ecce spectaculum dignum, ad quod respiciat intentus operi suo deus[117], хоць, калі праўду казаць, Бог напэўна той момант праспаў...

— Святая Марыя, — вымавіў Міцкевіч, гледзячы на таямнічую постаць, што нечакана ўзнікла на версе замкавай залы.

У адно гэтае імгненне шляхціц раптам зразумеў, што жыў дарма, што яго блуканні па свеце былі марныя! Ісус Марыя! Столькі дарог і сцяжынак, столькі дзён і начаў... без яе — хістанні ў цемені, у паняверцы, у жалі і роспачы. Adsis inceptis Benigna Virgo meis[118]! І неба не тое, і сонца не тое, і радасць не радасць — без яе!!! Марыя-я-я-я!

Розум нобіля яшчэ змагаўся з прагай помсты, але крыві пан Ваявода ўжо не жадаў, бо свет, які сыходзіў з вышыні, цалкам авалодаў яго сэрцам, нарадзіў незвычайнае пачуццё шчасця. Шляхціц адчуў, што знаходзіцца на тым парозе, за якім або смерць... або адкрыццё жыцця.

[115] Бяда за бядою! (*Лац.*)
[116] Цытата з Міцкевічавага санета «Адмаўленне» («Rezygnacja»).
[117] Вось відовішча, на якое варта было б паглядзець Богу (*лац.*).
[118] Прыйдзі мне на дапамогу, Міласцівая пані! (*Лац.*)



Імгненне тое нібы заваражыла. І ён, скуты пачуццямі, не адрываў пагляду ад доўгавалосага анёла з васільковым німбам над галавой.

— Gloria, Litvo!!! — лямантаваў між тым п'яны тлум. — Няхай жыве Міцкевіч! Няхай жыве Стольнік Літоўскі!

Але нічога не чуў Ваявода, бо патануў у блакітных вачах дзяўчыны, траціў зрок ад святла залатых яе валасоў.

«Валасы ў цябе з залатога сатканы руна, з гукаў рэк маладых і з разлітага ў чаркі віна. У іх пяшчотны, мядовы, чаромхавы пах, у іх жар-птушчыных крылаў маланкавы ўзмах.

Валасы ў цябе як бурштын, як ядваб, як агонь. У іх раскоша апошніх кастрычніцкіх дзён. У іх — шчымлівая поўня каляднай зімы, у іх шаптанні лагодным бруянне вясны.

Валасы ў цябе — раздзьмуханае полымя завей. То лагоднае мора, то шыпенне атрутнае змей!»

Не чуў і не бачыў нічога Міцкевіч... бо сярод вэрхалу, нібы ў чорную бездань, падаў на халодны брук старога замка стольніка Ажэшкі. На зялёным кантушы шляхціца расплывалася чырвоная пляма крыві, якая ручаём сцякала і хутка ператваралася ў калюжыну...

— Але, вашэсць, час ужо і выпіць, бо humana non sunt turpia[119], — раптам спыніўся шляхціц і перакуліў у горла вялізны келіх з мёдам ad gloriam[120] прысутных тут жыда і яго пярэстых катоў. Кажу як ёсць: аднаго гэтага келіха хапіла б на нас усіх (я маю на ўвазе паноў: Яна, Тамаша, Юзафа і Францішка[121]), мусіць, яшчэ засталося б нешта і пану Сымону[122]. Аднак ягамосць меў выгляд абсалютна цвярозага чалавека і нават загадаў жыду прынесці крупню. Чуў я ад Тамаша, а той чуў ад свайго бацькі, радашковіцкага бурмістра пана Кароля, пра тое, як пілі яснавяльможныя Радзівілы і Валадковічы. Але толькі зараз увачавідкі пераканаўся, чаго сапраўды вартая нашая шляхта. Божа, ратуй нас ад гэткага пякельнага доседу!

— Пан, напэўна, мяркуе, — яшчэ раз звярнуўся да мяне шляхціц, — што каханне выдумалі немцы ў тых ксёнжачках, якія нашыя бязбожныя паненкі зараз замест кавы ўжываюць, а потым з маладымі паручнікамі ад бацькоўскага дзядзінца немаведама куды бягуць, здабываючы сабе сораму, а кроўным клопату. Не! У нас так раней не было! Дзеўка спачатку слухалася волі бацькі або маці, а потым, кабетай, піль-

[119] Што чалавечае, тое не злое (*лац.*).
[120] У гонар (*лац.*).
[121] Аўтар мае на ўвазе вядомых філаматаў Яна Чачота, Тамаша Зана, Юзафа Яжоўскага і Францішка Малеўскага.
[122] Сымон Малеўскі — рэктар, абраны прафесарамі Віленскага універсітэта ў лістападзе 1816 г.

навалася ўжо слова мужа! Бо так свет Богам створаны — усё проста і ясна! Аднак з таго зусім не вынікае, што даўнія людзі замест сэрца ў грудзях камяні мелі. Дастаткова згадаць князя Сангушку і яго гісторыю кахання да пані Альжбеты з Астрожскіх або каханне нашага Гетмана Літоўскага ЯВяльможнага пана Міхала Радзівіла да панны Уршулі, каб пераканацца ў адваротным... Такое каханне да неба набліжае! Робіць абаіх шчаслівцамі, бо анёльскай чысцінёй і цнотай ахінае... Зайздросны лёс у закаханых! Дапамажы ім, Святая Марыя...

## VI
## ЗВАНЫ ІЕРАМІІ. НЕСВЯДОМАСЦЬ. НА ШЛЯХУ ДАНТЭ. СВЯТАЯ МАРЫЯ. ЗБАЎЛЕННЕ

Maryja dziewica, prosi Syna swego,
Króla niebiskiego,
Aby nas uchował ode wszego złego[123].

Іерамія крануўся рукою званоў. І адразу быццам скаланулася ўсё на зямлі, задрыжала і знямела, у пяшчотным замілаванні прыслухоўваючыся да таго, як паляцелі гукі ў неба, працінаючы пахмурнае бяздонне аж да самага краю... Аж да самай вышыні, дзе сярод зорак і планет жывуць мары і летуценні, прыгожыя здані нашых душаў. Музыка, якую грае вецер, прыляцеўшы з усходу... Разносяць яе званы далёка па свеце голасам праўды, схаванай ад нашых сэрцаў таямніцай стварэння. Спрадвечныя напевы адраджаюць яго натхненне і не жадае перашкаджаць убогі старац ветру, назіраючы з жудасцю і замілаваннем, як рве пастромкі шалёны парыў, як узносіць да Бога занадта вольны матыў, і не спыняецца там, дзе б нават самы смелы з людзей спыніўся.

Трызнілася пану Адаму такое, што і сам д'ябал наўрад ці выдумаў... Быццам ішоў ён па бітай дарозе, шырокай, як два Віленскія гасцінцы, сярод ночы пры святле месяца. Побач, куды толькі не кінеш вокам, ішлі і ішлі людзі! З усіх бакоў атачаў шляхціца бясконцы тлум: мужчыны, жанчыны, нават дзеці. Наперадзе ж усіх быў пан Бжастоўскі з прышпіленым да грудзей чырвоным сэрцам. З вялікай прыязнасцю махаў нябожчык рукою і жудасна ўсміхаўся ссінелымі вуснамі.

Расхінаючы людзей, пан Міцкевіч з вялікай цяжкасцю рухаўся ўслед, бо ногі небаракі былі скутыя чорнымі вяроўкамі, а на плячах боўталіся вялізныя цяжкія клумкі з грахамі. Чуў Ваявода енкі і плач, стогны і

[123] З песні «Багародзіца» ў апрацоўцы Ю. Нямцэвіча.



лямант — галасілі жанчыны; маладыя панічы ўкленчвалі да чорных нябёсаў, просячы аб збаўленні хаця ад дзесятай часткі таго цяжару, які яны мусілі валачы разам з сабою.

Ішлі тут забойцы і скрыгаталі зубамі, ішлі злодзеі і кралі грахі ў тых, хто ішоў побач, цягнуліся старыя спакуснікі, скакалі, як блохі, прайдзісветы і махляры, трымаючы ў руках французскія карты. П'яніцы ехалі на вазах, на якіх стаялі вялізныя бочкі з гарэлкай, седзячы на іх, яны наталялі ненажэрную прагу, саплі ад задавальнення і, узнімаючы ўгару вялізныя келіхі, лямантавалі:

— Малы кілішак не дойдзе да кішак! Гу-га!

— Ці можа быць зло ад добрай гарэлкі?!

— Не, не можа... Гу-га!

— Лепш няхай згарыць Варшава, чым вадою вудка стане! Гу-га!

Беглі ўслед за тымі вазамі «сціплыя Агнешкі»[124], жонкі, якія здрадзілі мужам, кляліся яны ў вернасці і салодка ўсміхаліся кожнаму сустрэчнаму. Цягнуліся старыя бабы-пляткаркі, пра якіх людзі кажуць, што бык рогам, а баба языком коле. Усіх іх штурхаў Міцкевіч, апантана цiснучыся ўперад...

Раптам на дарозе з'явіліся вершнікі. Былі гэта чорныя д'яблы, трымалі яны ў руках даўгія бізуны і частавалі імі без усялякіх шкадаванняў кожнага, хто трапляўся пад руку.

«Яго Мосць Кароль!» — пранеслася па натоўпе навіна.

І сапраўды, хутка на дарозе з'явілася каралеўскае рушанне. Наперадзе яго ехала вялікая залатая карэта, да даху якой быў прымацаваны трон. Сядзеў на ім Жыгімонт III[125], апрануты ў манаскі габіт. Трымаў ён у руках крыж, з якога ручаём сцякалі людскія кроў і слёзы. Упрэжаны былі ў тую карэту езуіты, якія з замілаваннем глядзелі ў неба, правілі missale Romanum[126], але in signo cruces[127] кусалі адзін аднаго, як злыя сабакі.

«Гэта з яго волі мячамі заганялі ў касцёлы праваслаўную Украіну... — шапталіся людзі вакол Міцкевіча, — гэта ён адвярнуў ад Рэчы Паспалітай казацтва, нарадзіў Хмяльніцкага, укінуў абедзве нацыі ў багну рэлігійнага цемрашальства! Злачынец, і ён верыў у Езуса і Святую Дзеву Марыю!»

[124] «Сціплая Агнешка» — так звычайна называлі жанчыну, якая пад маскай сціпласці хавала надзвычайную разбэшчанасць. Словазлучэнне ёсць частка вядомага польскага выслоўя: «Skromna jak święta Agnieszka, a diabeł w niej mieszka».

[125] Жыгімонт III Ваза, вялікі князь літоўскі і кароль польскі ў 1587–1632 гг.

[126] Рымская імша (*лац.*).

[127] У знак крыжа (*лац.*).

Далей за карэтай цягнуўся сялянскі воз, стаяла на ім кабета. Была гэта некалі «найбагацейшая гаспадыня ўсходу і захаду сонца, паўднёвых і паўночных краёў»[128]. Але зараз з пакутаю глядзела вакол сябе, лямантавала, распасцёршы рукі да дзяцей сваіх, упрэжаных у воз магнатаў. Прасіла кабета не пакідаць яе на здзек чужынцам, не выракацца дзеля зманлівых багаццяў. «Саламярэцкія, Агінскія, Чартарыйскія, Масальскія, Пузыны... як толькі здрадзілі яны веры святой праваслаўнай, так адразу ж выракліся і Айчыны. Увайшоўшы ў Касцёл Рымскі, забыліся на славу продкаў і гонар зямлі сваёй!»

Далей за возам ішлі Сапегі. Сыплючы вакол сябе пазычанае ў д'ябла золата, яны спявалі Te Deum laudamus. Але чырвонцы, выцягнутыя з кішэняў, былі гэтакія ж фальшывыя, як і іх словы.

За Сапегамі ішлі Радзівілы і Вішнявецкія, Патоцкія і Сангушкі... Трымалі яны сцяг, на якім з аднаго боку быў вышыты белы арол, з другога — імклівы вершнік. Крычалі аб выратаванні Радзімы, але адразу ж забываліся на ўласныя словы, штурхаючы і тузаючы адзін аднаго.

За магнатамі ў тым, узначаленым Жыгімонтам III, рушанні відаць былі постаці шляхціцаў, якія пры жыцці злоўжывалі правам liberum veto, ператвараючы сеймы ў бессаромныя д'ябальскія шабашы. Ганебнай памяці Сіцінскі[129] з весялосцю маладога вісуса распавядаў усім, што Бог любіць, гледзячы на польскія сеймы, забаўляцца. Маніфеставаў і пратэставаў ён, укленчваючы да сумлення і гонару прысутных сп'янелых вар'ятаў.

Услед за плоймай Сіцінскага сунуліся ўсялякія крымінальнікі і эксцэсанты. Цягнулі яны воз, на якім скакаў блазан і лямантаваў: «Я Вольнасць! Бог стварыў мяне дзеля вас, але ж вы ператварылі вольнасць у самавольства! Дурні! Дурні! Вольнасць без права — шалёных забава...»

Самую ж вялікую частку таго рушання складалі святары, якія пры жыцці і ў Бога не верылі, і д'ябла не баяліся. Ачаляў іх «крывавы ксёндз», віленскі канонік Крыштоф Белазор[130]. Імем Святой Дзевы Марыі заклікаў да помсты і катаванняў. Як і ў тую ноч, калі Сапега прасіў аб выратаванні душы, усміхаўся канонік драпежным воўчым

[128] Цытата з «Фрынаса» М. Сматрыцкага (1577–1633). Маецца на ўвазе праваслаўная царква.

[129] Шляхціц У. Сіцінскі, пасол з Упіцкага павета на вальным сейме 1652 г., які першым выкарыстаў права «свабоды забароны» — liberum veto і даў, такім чынам, пачатак палітычнаму бязладдзю ў Рэчы Паспалітай. У літаратуры вобраз Сіцінскага ў значнай ступені дэманізаваўся. Шляхціц ператварыўся, напрыклад, у вершы А. Міцкевіча «Папас ва Упіцэ», у злога д'ябла, што выпіў «кроў з цела народаў».

[130] Крывавы канонік — адзін з забойцаў Сапегі падчас перамогі войскаў шляхты над магнатамі пад Алькенікамі (1700).



ашчэрам. Вочы яго ззялі вайной, а душу сціскалі ненажэрныя цмокі помсты. Услед ехаў Віленскі біскуп Масальскі[131]. На шыі матлялася ў яго вяроўка, якую ўскінулі варшавяне, быццам «Белага арла»[132], за здраду Радзіме. Ехаў біскуп на возе, у які былі запрэжаныя «свецкія ксяндзы». Гучна ўкленчвалі святары скрыпучымі, як стары воз, галасамі: «Любі бліжняга, але скуру з яго дзяры! Дзяры-ы-ы!»

Насілі гэтыя людзі мантыі не дзеля паклікання Боскага, а выключна як сродак дасягнення ўласных мэтаў. Той служыў у канцылярыі прымаса, рахуючы яго грошы і не забываючыся пра ўласную кішэню, той сачыў за кляштарнай кухняй, частуючыся ў час набажэнстваў наліўкай, бо, як вядома, «і святыя сем раз на дзень грэшаць». Усе тыя Боскія служкі з Езусам на вуснах жылі дзеля задавальнення мамоны. А былі і тыя, хто, цалуючы крыж, імкнуўся да славы зямных цэзараў. З мінай прапаведніка і ўсмешкай тырана ўпрагаўся ў воз вялебны Канарскі[133].

Са здзіўленнем глядзеў Міцкевіч на гэтую карціну. Бо пачынаў ён усведамляць, што шырокі той гасцінец з'яўляецца шляхам да пекла. А ўсе, хто рухаецца па ім, — нябожчыкі, якія чакаюць пакарання за грахі. І так яму зрабілася шкада сваёй неўміручай душы, што пацяклі з яго вачэй слёзы. «Божа, няўжо няма для мяне ніякага выратавання? — думаў ён. — Няўжо я такі страшны чалавек, што ўжо пры жыцці накіравалі мяне ў пекла!» І як толькі думкі пачыналі вяртаць яго душу праз шкадаванне да Боскай міласэрнасці, pro memoria[134] аб грахах, з'яўлялася скрываўленая постаць Бжастоўскага, запрашаючы ісці ўслед.

Нарэшце спыніўся ён каля брамаў пекла, зрабіў крок і апынуўся на тым баку... і толькі д'яблы, схапіўшы яго, павалаклі ў чорную бездань, як з вышыні пачуліся галасы званоў. Быццам хор анёлаў спяваў на нябёсах:

«Deus meus, ab insurgentibus in me libera me. Eripe me de operantibus iniquitates et de viris sanguinum salva me. Quia ecce ceperunt animam meam: irruescunt in me fortes. Nec iniquitas mea, nec peccatum meum, Domine, sine iniquitate cucurri et direxi...»[135]

Незвычайнае ззянне разлілося па наваколлі, асвятляючы жудасныя малюнкі пекла. Але Міцкевіч не звяртаў на іх аніякай увагі, бо сэрца

[131] Здраднік і прайдзісвет, павешаны варшавянамі на слупе.

[132] Узнагарода ў Рэчы Паспалітай.

[133] Станіслаў (Геранім-Францішак) Канарскі (30.9.1700–3.8.1773 г.) — асветнік, буйны палітычны дзеяч у Рэчы Паспалітай перыяду яе заняпаду і першага падзелу.

[134] Як напамін (*лац.*).

[135] «Божа мой, абарані ад тых, што на мяне паўстаюць. Вызвалі мяне ад злачынцаў, уратуй ад крыважэрных, бо вось яны цікуюць за душою маёю, на мяне збіраюцца дужыя, не за правіну маю і не за грэх мой, Госпадзе, без віны маёй збіраюцца і зброю рыхтуюць» (*лац.*).

яго працінала святло той нябеснай музыкі. Прыслухоўваючыся да слоў гімна, шляхціц таксама пачаў спяваць. Кінулі тады яго д'яблы на паўдарозе да вогненнай бездані. І ўбачыў ён, як па светлай сцяжынцы зыходзіць да яго Дзева Марыя. З чыстай усмешкай яна схілілася над ім і працягнула руку дзеля пацалунка. У замілаванні дакрануўся Міцкевіч вуснамі да той рукі, адчуўшы, як звышнатуральная светлая моц разліваецца па яго целе. Як адступае цямнота і як узнімаецца ён да нябёсаў, пакідаючы далёка ўнізе жудаснае пекла...

Шчасце напаўняла розум шляхціца, і ён, не адчуваючы кайданоў цела, ляцеў, як здавалася, у несмяртэльнасць, у бяздонне чысціні і любасці. О, што гэта было за чароўнае імгненне! Кожная яго кропелька жыла ў надзвычайнай радасці, ён дыхаў паветрам так вольна, як ніколі да гэтага. Быццам з плеч знялі скалу, чорную, цяжкую, што гняла яго ад самага нараджэння. Аблокі, аксамітнае ззянне, ружовае святло, пяшчота... невыказальнае адчуванне паўнаты існавання. Як у дзяцінстве! Толькі не... куды мацней! У колькі разоў болей тое адчуванне святасці! І раптам, бы бліскавіца, усмешка Святой. З-за аблокаў яна працягнула да яго руку і ласкава паклікала ў акіян блакіту.

«Ave Maria», — зварухнуліся вусны Міцкевіча. — «Ave Maria!»

## VII
## АНЁЛАК. ПАН ВАЯВОДА. ХІТРЫКІ ШАТАНА. КАХАННЕ І ПОМСТА. ПАЛІТЫЧНЫЯ ЗАМАЛЁЎКІ ПАНА Ю. КРАШЭЎСКАГА

Хоць вера ўжо мая прапала недзе,
Хоць для мяне ўсё роўна — ёсць ці не святыя,
Блюзнерыць не дазволю я з імя — Марыя![136]

Óцеснай манаскай келлі стаяў невялічкі драўляны ложак, на якім размясціўся схудалы, з жоўтым хворым тварам і запалымі вачамі-ямінамі чалавек. Быў гэта не высокі, але ладна скроены, зграбны мужчына, з жылістымі моцнымі рукамі, якія, аднак, у той момант бязвольнымі вяроўкамі віліся ўздоўж цела. Надзвычай развітая правіца падказвала, што мае ён справу часцей з шабляй, чым з сахой, а вялікі чырвоны рубец, які пераразаў правую шчаку ад скулы да падбародка, цалкам пацвярджаў гэта, надаючы хвораму выгляд зацятага ваякі. Быў ён падобны да драпежнага крука — ва ўсялякім выпадку такое ўражанне рабілі яго

[136] Міцкевіч А. «Дзяды».



вострым з гарбінкаю нос ды чорныя, раскіданыя па падушцы, як птушыныя крылы па паветры, крыху падпаленыя на сонцы валасы.

Левае плячо «крука» неяк ненатуральна нахілілася набок, а правае прыўзнялося, як у падстрэленай качкі, што спрабуе на адным крыле ўзляцець у неба, а другое, падбітае, цягне па зямлі. Злева, крыху ніжэй за сэрца, на белай перавязцы, нібы дзве рабінавыя ягады на снезе, заўважаліся маленечкія кроплі крыві. Мужчына відавочна незвычайна пакутаваў, бо на яго ілбе раз-пораз з'яўлялася халодная вільгаць, а зубы па-ваўкалачы сціскаліся, кідаючы хвалі сутаргаў па ўсім твары. У такі момант галава яго пачынала хістацца, як макавы карабельчык падчас жнівеньскай навальніцы, а са сціснутых, тонкіх вуснаў зляталі праклёны, якія б увялі ў чырвань нават апошняга боскага неслуха і сейміковага забіяку.

Але нікога з прысутных у келлі тыя праклёны не бянтэжылі. Побач з ложкам на шырокім, цыклапічным крэсле эпохі апошніх Ягелонаў сядзела маладая паненка. Поруч з ёю стаяў манах і зацята тоўк нешта ў алавянай талерцы. Спакваля, з вялікім нежаданнем пан Міцкевіч, а гэта быў менавіта ён, пачынаў вяртацца да прытомнасці. Манах з палёгкай уздыхнуў і спыніў працу.

— Salve! Жывы, пан? — абыякава запытаўся ён і ўжо крыху весялей дадаў: — Вось і добра! Значыць, нездарма малілася паннчачка за тваю грэшную душу, відаць, адмаліла.

Міцкевіч няўдала паспрабаваў узняць галаву, але заенчыў ад вострага болю, які апаліў яго правае плячо. Усё яшчэ шэпчучы імя Святой Марыі, ён расплюшчыў вочы і ўбачыў, як з-за даўгой спіны манаха выглядае дзявочая галоўка. Прыгледзеўся пан Ваявода і заўважыў саламяныя валасы, якія вольна разбегліся па плячах, потым патрапіў вокам на прыгожы, амаль дзіцячы твар з вялізнымі блакітнымі вачамі і нарэшце дацягнуўся паглядам да белай спаднічкі, з-пад якой відаць былі босыя ногі.

«Дзеўка! — пранеслася ў галаве думка-бліскавіца. — Чыя? Адкуль?»

— Sub tuum praesidium[137]. Што за ліха?! — запытаўся ён у манаха.

— От, ці бачыце, пачаў размаўляць, — заўважыў айцец Ірамія, — аджыў, лаецца! І на якое ліха я цягнуў гэткага вырадка як вашэсць праз увесь замак ды яшчэ ў самую далёкую вежу?

Неўзабаве дзявочыя, як адчуў Міцкевіч, пяшчотныя далоні кранулся яго гарачага ілба.

— Марыя? — спытаўся ён, пачуўшы ў адказ вясёлы смех. Анёлак схіліў галаву і з пяшчотаю паглядзеў на шляхціца з-пад вадаспаду валасоў.

[137] Пад тваю абарону (*лац.*).

— Зноў Марыю прыгадаў, — не спыняў сваю водпаведзь манах, зацята мнучы рукою кавалак аржанога хлеба, — як у мінулым годзе вёску лідскіх бернардзінаў паліў, то пра Марыю не згадваў! Ab initio mundu[138] такога не было, каб чалавек, атрымаўшы дзве кулі пад сэрца, не патрапіў на той свет, як з маслам. Га, пане дабрадзею?! Incredibili dictu[139]. Троіцай клянуся, што гэта ненатуральны цуд! Толькі Бог мог уздумаць ратаваць гэтакае шатанскае адроддзе, як вашэсць! Няхай бы добрага чалавека з труны падняў! Дзетак ад галоднай смерці збавіў. От жа ж не, пане дабрадзею, — шатану жыццё падараваў! Якому адзін шлях — у пекла!.. Эва, — звярнуўся ён да «анёлка», — час на вылечванне.

Дзяўчына легкакрылай птушкай ускочыла на крэсла і, ледзь дацягнуўшыся да распяцця, хутка пазбірала з яго павуцінне, чым раззлавала павука, які, хаця і зашыўся ў шчыліну пад столь, аднак надзвычай грозна варушыў адтуль даўгімі касматымі лапамі: лаяўся. Эва аддала тыя рабункі манаху, наблізілася да хворага і зноў правяла па яго твары пяшчотнаю далоняй. Сустрэўшы пагляд чорных вачэй шляхціца, дзяўчына паружавела і адвярнулася. Яшчэ вельмі слабы, Ваявода ўзняў руку і ледзь-ледзь дакрануўся да яе пляча.

— Мой анёл-ахоўнік, — шаптаў Міцкевіч, — ведала б ты, з якой небяспекі ўратавала маю душу.

Свядомасць зноў пачынала пакідаць яго. Нібы скрозь сон, пан Адам бачыў, як схіляецца над ім вялебны манах, як расхінае перавязкі на яго грудзях і закладае ў небяспечныя раны аржаны хлеб разам з павуціннем — стары літвінскі *вульнырарыюм*, сродак гаення і спынення крыві. Як моліцца над яго ложкам і горка плача паненка і як крадзецца ў дзверы чорная здань, што ўжо не адзін год палюе на яго душу. Ведаў Міцкевіч тую чорную здань, бо бачыў яе ўжо раней…

* * *

Музыка, дзікая сваволя, замак Стольніка... людзі Браніцкага п’юць за братоў літвінаў, Ажэшка ўзняў келіх з чарговым «Кахаймася!». Паляцелі словы, як вераб’і, узняўся неверагодны тлум, выпалілі гарматы... Дамейкі і Заны павыцягвалі з піўніцы бочкі з трайняком, Міцкевічы — бочкі з гарэлкаю. Малодшы Чачот няўдала заляцаўся да падкамарыні: «Гу-га!»

Вось нейкі франт узняўся з-за стала і сказаў нешта, звяртаючыся да яго... Пракляты лях! Вось сказаў нешта і ён... літвін. А мо і не ён зусім? А тая шалёная здань, што стаіць у яго за спінаю і цярпліва чакае, трымаючы ў руках чорную Ваканду[140]. О! Ведае ён, што гэта за здань!

[138] Ад пачатку стварэння (*лац.*).
[139] Неверагодна (*лац.*).
[140] Судовая кніга, у якой занатоўваюцца маючыя адбыцца справы. Тут — чорная кніга, у якой д’ябал запісвае чалавечыя грахі.



Ашчадны, руплівы д’ябал рахуе яго грахі. Не хапае яму ўсяго дробнага зерня, каб пераважылі яны святло, падараванае чалавеку ад нараджэння. Парупіўся нячысты дух, каб схапіць яго душу і зацягнуць у пекла.

Ляціць лях, узняўшы карабелю над галавой. Быццам у кавалерыйскай атацы, наскочыў і рубануў ад вуха так, што аж загуло ў паветры... Толькі шмат выпіў караняж: не слухаліся яго ногі. З імпэту наляцеў на лаўку. Але ўзняўся, б’ецца... зацяты лях, добры жаўнер, ды не зломак і пан Міцкевіч.

Імгненні двубою, бліскавіцамі лётаюць шаблі, гудзе раззлаванае паветра, пырскаюць іскры са стальных клінкоў, пякельнае полымя ў вачах ляха, зледзянелая прорва ў яго вачах. «Віват, Літва! Міцкевіч, віват!» Удар! Удар! Яшчэ і яшчэ... і ўжо заліты крывёю замкавы брук... Смяецца чорная здань, пляскае ў далоні, трэцца каля яго ног, быццам паскудны кот, заглядае ў вочы, вымольвае, шэпча на вуха: «Смерці! Смерці!»

«Міцкевіч-ч-ч-ч! — словы шатана пранізалі сэрца халоднымі джаламі. — Забі ляха. Чуеш? Не вагайся, вашэсць! Раз, і ўсё! Ad patres[141]. Няхай не грызе цябе скруха, не раздзіраюць душу сумненні! Хрысціянскае «не забі» — хлусня! Чуеш? Якая можа быць мараль у таго, хто мусіць выжываць? У таго, хто шабляю высякае шлях да неба. Чый лёс — circulus vitiosus[142]. Апусціш зброю — прападзеш! Пашкадуеш — загінеш!»

І ўжо намацаў Міцкевіч позіркам тое месца на шыі паручніка — паміж хусткаю і кудзеркамі парыка, куды скіруе ён вострае лязо шаблі, уявіў амаль увачавідкі, як паддаецца чалавечая плоць, як разбіваюцца аб сталь косткі і як, аддзяліўшыся ад тулава, падлятае ў паветра адсечаная галава, на якой усё яшчэ міргаюць здзіўленыя, вымольваючы міласэрнасці, вочы, і як злятае з вуснаў мёртвага караняжа апошняе праклящце.

«Паглядзі вакол сябе: mala herba[143]. Хіба хто-небудзь з іх — з гэтых хцівых п’яніц і кантушовых д’яблаў, якія даўно ўжо патанулі на дне келіха, думае пра тое, што такое дабро і зло? Ім усё роўна, абы было што піць і есці! «Ёсць людзі, сэрца якіх згасла, але кажуць: цёпла нам і ясна!» І яны — выродкі і прайдзісветы — папаўзуць уверх, пабачыш, не зважаючы на кроў і слёзы. Папаўзуць, паскуды, пакуль ты, вашэсць, будзеш вагацца. Бо, Міцкевіч, ты — унікальны, ты адзіны, хто думае, разважае і сам для сябе стварае пекла. Але цябе, больш за ўсё да Бога падобнага, гэтыя слізнякі стопчуць! Пабачыш, цябе — у якім больш за ўсё ад чалавека, яны праглынуць! Margaritas ante porcas[144]. Дык што, нобіль, няўжо будзе лепш, калі яны, якія і без таго ўжо адной нагой у

[141] На той свет яго (*лац.*).
[142] Пякельнае кола (*лац.*).
[143] Пустазелле (*лац.*).
[144] Не кідайце срэбра перад свіннямі (*лац.*).

пекле, узвысяцца, а ты — з разуменнем Праўды — патонеш у блоце? Няўжо лепей будзе на свеце? О не, паночку, не будзе лепей. Сячы ж іх без шкадавання! І памятай: Пан стварыў нас, бо так яму заманулася, а мы жывём, бо мусім!»

І прыгадалася Міцкевічу, як секліся вайсковыя аддзелы ЯВяльможнага Радзівіла з харугвамі Чартарыйскіх пад Беластокам, як лілася чалавечая кроў на маёвыя кветкі і як балявалі потым пераможцы на костках загінуўшых, гэтакіх жа як і яны — грамадзян Рэчы Паспалітай, каталікоў, хоць ляхаў, — як пятым тостам гучала «Кахаймася!» і гайдамацкае «На пагібель!»... «Курва! Курва!» — лямантаваў Міцкевіч, узнімаючы шаблю над галавою пана паручніка: «Раз ужо зло пануе ў свеце, дык няхай яно пераможа цалкам! Dixi».

І толькі Міцкевіч узняў шаблю, толькі адной нагою перайшоў цераз парог пекла, як пачуў з вышыні:

«Не! Божа мой, дзеля ўсяго Святога не забівай!»

Лямант гэты даляцеў да пана Міцкевіча разам з ветрам, узвёў вочы шляхціц — і ўбачыў анёла, у вачах якога адразу ж схавалася яго душа. Быў гэты крык не чутны нікому, акрамя яго і д'ябла. І апусцілася рука чалавека, знерухомеў ён сярод галасу. Заскрыгатала зубамі здань, падалася ў бок ляха, шапнула яму на вуха слова помсты, і пранеслася па зале рэха двух стрэлаў.

Падаў Міцкевіч са шчаслівай усмешкай... І не здолелі падступіцца да яго душы шатаны, якія ўварваліся ў той момант, як кранулася яго цела халодных камянёў...

Так усё і было, — заўважаў шляхціц, — прысягаю ранамі Езуса. Але ж ягамосць, мусіць, не разумее, якім чынам Міцкевіч патрапіў з замкавай залы ў келлю да манаха. Не перайміся тым, бо nihil fit sine ratione sufficienti[145].

У той нешчаслівы вечар, калі Міцкевіч павадзіўся з паручнікам, і, атрымаўшы дзве кулі акурат каля сэрца, ляжаў на замкавым бруку, сцякаючы крывёю, у вядомую ўжо нам келлю ўварвалася маладая панначка і, быццам шалёная, ухапілася за руку манаха, пацягнула яго за парог. Вялебны Ерамія спалохаўся, пачаў уважліва прыглядацца да выхаванкі, але не знайшоў на ёй ніводнага новага гуза і пакрыху супакоіўся.

— От, нарабіла трывогі! — казаў ён. — Зноў, мусіць, гусіна ўшчамілася ў плот?

Прыгожая галоўка панначкі захісталася ў знак адмаўлення.

— Што? — дапытваўся манах, здзіўляючыся такой апантанасці. — А што ж тады? Куды ты мяне цягнеш, шалёная? От, Мацер Боская...

Але Эва зусім не звяртала ўвагі на словы Ераміі і цягнула яго за руку праз увесь двор да замкавай залы, дзе тым часам Міцкевічы ўбачылі свайго кроўнага ў небяспечным стане, выхапілі шаблі і разам з

[145] Нічога не адбываецца без важкіх прычын (*лац.*).



Чачотамі і Дамейкамі, а таксама Багушэвічамі і Занамі гэтак населі на дваран Браніцкага, што Стольнік пачаў ужо думаць аб ацаленні жыцця высокіх гасцей.

Манах пачуў гукі звады, перажагнаўся і схаваў галаву ў капялюш. Ён больш не пярэчыў і, крадучыся, пайшоў услед за дзяўчынай праз калідор да патаемных дзвярэй, якія вялі ў залу.

А па той бок падзеі разгортваліся ледзь не як на апошніх карцінах пана Матэйкі. Бо, вядома ж, што latrante uno latrat stati met alter canis[146]: Міцкевіч-Аглабля, схапіўшы даўгую лаву, два разы ўжо прайшоўся ёю па галовах караняжаў, а Якуб Міцкевіч, родны брат пана Ваяводы, сунуўся да пана Гурскага з гэтакай мінай, што тлум вакол яго расхінаўся падобна да таго, як некалі расхінулася мора перад Маісеем. Чулася ўжо бразгатанне шабляў, і енчыў ужо хтосьці ад болю, калі манах Ерамія праслізгнуў у залу і падышоў да раскрыжаванага на бруку Міцкевіча.

Кожнага, хто сустракаўся яму на шляху, бласлаўляў манах па-хрысціянску — крыжам або па-літвінску — кулаком, які важыў не менш за пуд і цудоўна прыкладаўся да ілбоў не толькі мясцовай шляхты, але і каронных. Апынуўся каля Ваяводы Ерамія і, не марнуючы часу, ускінуў акрываўленага шляхціца сабе на плечы, адсальваваў Стольніку і нарэшце пакінуў залу.

## A linea

Эксцэс той меў дужа непрыемныя вынікі — nec plus ultra[147], бо, не лічачы пана паручніка, моцна пацярпелі яшчэ тры шляхціцы з атачэння Браніцкага, ды і сам польны гетман меў усе падставы быць незадаволеным такой гасціннасцю. Пакінуўшы замак Ажэшкі ледзь не з першымі промнямі сонца, ён так і не завяршыў перамовы, якія вёў са Стольнікам, а да яго з ЯВяльможнымі Радзівіламі, Агінскімі і Патоцкімі. У палітычных адносінах гэта азначала тое, што да 1764 года кааліцыі супраць Чартарыйскіх, Флемінгаў і Масальскіх, якіх падтрымлівала руская імператрыца, так і не наканавана было спраўдзіцца. Тым часам у рэзідэнцыі князя-канцлера пляліся інтрыгі, якія ў хуткім часе паставілі кропку ў існаванні Рэчы Паспалітай абодвух народаў. Згаданае вышэй супрацьстаянне паміж Літвой і Каронай дасягнула свайго апагею.

Яшчэ пры Яне III[148] палітычная незалежнасць Княства калола вочы і прымушала рабіць захады да яе скасавання. Тады кароль, мудра разва-

[146] Як толькі забрахаў адзін сабака, пачынаюць брахаць і ўсе астатнія (*лац.*).
[147] Горш і не прыдумаць (*лац.*).
[148] Ян III Сабескі, вялікі князь літоўскі і кароль польскі з 1674 г. Пераможца турэцкай арміі пад Хоцінам (1673) і Венай (1683).

жыўшы, знайшоў прычыну гэтай незалежнасці ва ўладзе магнатаў. Знайшоў кароль і лекі ад хваробы, нацкаваўшы шляхту на Пацаў і распачаўшы тым самым грамадзянскую вайну. Аўгуст II Моцны[149] таксама выпрабаваў стары прыём, падтрымаўшы канфедэрацыю супраць Сапегаў.

У часы панавання Аўгуста III старыя лекі ў большасці выпадкаў ужо не спрацоўвалі, нягледзячы нават на тое, што магнаты, і ў прыватнасці Радзівілы, чынілі самавольствы нікольні не меншыя за самавольствы Сапегаў ці згаданых тут Пацаў. Ды і не толькі адны Радзівілы, дастаткова прыгадаць ЯВяльможнага Жабу, ваяводу Полацкага, які пяць год трымаў у зняволенні шляхціца Міхала Гутаровіча, або ЯВ-га Тызенгаўза, падскарбія Літоўскага, які ў пана Тура за адну ноч усіх падданых на сваю зямлю перасяліў і «так дамы вясковыя і двор зруйнаваў, што там, дзе была вёска, засталося адно поле»[150]. А што ўжо казаць пра ЯВ-га Мікалая Базыля Патоцкага, Канёўскага старасту, які сам і набілітаваў, і гвалтам пазбаўляў шляхецтва, нярэдка разам з жыццём. Усе тыя выпадкі на Літве і ў нас на Русі добра вядомыя і памятныя нават цяпер, праз столькі год.

Аднак бралі пад увагу Чартарыйскія і надзвычайную папулярнасць Караля Радзівіла Пане Каханку сярод засцянковай шляхты, нягледзячы на ўсе яго зухвальствы і п’яныя гвалты. Улічваючы ўплыў князя-ваяводы на Літву, а таксама, праз сваяцкія сувязі, на Украіну і Малапольшчу, нават усемагутная Familia вымушана была шукаць іншыя сродкі дзеля барацьбы з Нясвіжам[151]. Сродкі ж бачылі ва «ўваскрэшанні старапольскіх вартасцяў» шляхам рэформаў, пад якімі разумелася скасаванне ўлады intra libertatem et majestatem — гетманаў і ваяводаў. Рычагі дзеля гэтага «ўваскрэшання» Чартарыйскія знайшлі ў падтрымцы расейскіх

[149] Аўгуст II Моцны, вялікі князь літоўскі і кароль польскі ў 1697–1706 і 1709–1733 гг.

[150] Rzewuski H. «Pamiątki Soplicy».

[151] Засцянковым нобілям імпанавала дэмакратычнасць князя, яго ўменне бачыць нават у дробным пахолку, але са старажытнага дому, роўнага сабе. Чаго нельга было сказаць аб пыхлівых Чартарыйскіх або пра страціўшых усялякае пачуццё шляхецкага братэрства Масальскіх і Флемінгаў. Стары кантушовы покліч: *nobilis Polonus omnibus par* якраз і ўваскрашаў тыя даўнія каштоўнасці, пра якія так шмат казалі ў Кароне. Радзівіл верыў у пераможны заклік крыві, які ўжо некалькі разоў аб’ядноўваў шляхту ў паспалітае рушанне і выратоўваў Айчыну ад крыжакаў, татараў, маскавітаў і шведаў. Таму і далучаў да сябе толькі тых, хто быў шляхціцам *via facti* і меў заслугі прад Краем і Рэччу Паспалітай. Менавіта з таго ваяводства, якое некалі ачаляў нібыта «п’яніца» Радзівіл, паўставалі Рэйтаны і Корсакі, Міцкевічы і Багушэвічы, Касцюшкі і Каліноўскія. Вобраз «літоўскага мядзведзя», п’яніцы і злачыннага вырадка, які замацаваўся ў нашым прыгожым пісьменстве за магутнай постаццю Пане Каханку, створаны якраз палітычнымі ворагамі Радзівіла. Гэта неаспрэчны факт!



войскаў, якія пад рознымі падставамі[152] хуткім часам акупавалі тэрыторыю Княства і Кароны.

Безумоўна, справа скасавання феадальнага самавольства магнатаў наспела ўжо даўно, аднак (і ў гэтым вялікая іронія гістарычнага лёсу) без іх улады пра палітычную незалежнасць ад Кароны Вялікаму княству не варта было і думаць. Разумелі гэта ў Варшаве і нават у Санкт-Пецярбургу. На Літве ж, як гэта было спакон веку, асабістыя амбіцыі перашкаджалі магнатам аб’яднацца і выступіць адзінай партыяй. Аднак сітуацыя недалёкага бескаралеўя патрабавала рашучых дзеянняў. Тая грамадзянская вайна, якая заліла крывёю Княства на пачатку стагоддзя — пры Сасах, — пры Чартарыйскіх мусіла працягвацца на сейміках і сеймах. ЯВяльможны Ажэшка гэта добра ўсведамляў, таму дзеля перамогі над кааліцыяй князя-канцлера імкнуўся заручыцца падтрымкай Агінскіх, а праз іх — Радзівілаў і Патоцкіх, выдаўшы за Трокскага кашталяна сваю дачку, шаснаццацігадовую Эву.

## VIII
## ДАЎНІЯ ПАДЗЕІ. ВАЛАДКОВІЧ. ЭВА

Ворагі вы Айчыны сваёй. Няма ратунку для вас! Як можаце вы Святую Марыю называць сваёй Каралевай? Добрых яна з Вас мае падданых. Дзева чыстага і лагоднага сэрца павінна панаваць над ліхадзеямі і бурдамі? Скіне яна хутка тую сваю карону[153].

Айцец Іерамія быў з тых хрысціян, якія bona fide[154] перайшлі цераз парог Касцёла, памятаючы яшчэ, як гарыць купальскае вогнішча і як сустракаюць дзядоў, стаўячы на покуць куццю і збан з мёдам. Меў ён надзвычай цьмянае ўяўленне пра закон Боскі, бо быў непісьменным і ведаў евангеллі толькі з казанняў ксяндза-пробашча аднаго дужа далёкага пінскага кляштара, у якім з маленства выхоўваўся. Недахоп тэалагічнай адукацыі і адсутнасць кніжнай навукі замяняў ён, аднак, інстынктам адчування чысціні і святасці. Тое, да чаго іншыя даходзілі розумам, манах лёгка адчуваў сэрцам, ніколі не вагаючыся ў справах

[152] У тым ліку і пад падставай абароны праваслаўнага насельніцтва — «беларусцаў», пра якіх з гэтакай жальбою пісаў магілёвец Каніскі, укленчваючы да «найцнатлівейшай» з імператрыц Кацярыны II.

[153] Rzewuski H. «Pamiątki Soplicy».

[154] Па ўласным жаданні (*лац.*).

веры. Прыроджаная дабрыня жыла ў ім падобна да таго дыямента, якога яшчэ не кранулася рука майстра і не адціснула на ім пячатку цывілізаванай, але і штучнай таксама прыгажосці. Існаванне гэтага чалавека праходзіла ў штодзённай працы і ў малітвах, якія простата складаў сам, перапрашаючы ў Бога за ўсе іх хібы і недакладнасці.

Ad notata ЯВ Стольнік узяў Іерамію з правінцыйнага кляштара не столькі з-за яго дабрыні, колькі з-за вельмі рэдкага, нават у тыя даўнія часы, умення замаўляць хваробы і лячыць тое, да чаго дакранулася ўжо няўмольная рука смерці. Прычынай таму была адзіначка Стольніка — Эва.

Мінула ўжо каля дзесяці год, як на вузкай дарозе, што вядзе з Міндоўгавага гаю праз крыжацкія могілкі да Навагрудка, рачыў д'ябал сустрэцца картэжу Ажэшкі і п'янай хеўры радзівілаўскага палявання. Ачаляў паляванне вядомы ўсёй Літве пан Ігнацы Валадковіч, цяпер ужо нябожчык, а ў мінулым — калігант Віленскага ваяводы ЯВ-га Караля Радзівіла. Калі паўстала пытанне, каму ж саступіць дарогу, пан Валадковіч выказаў вялікую непавагу да сустрэчных, перакрыжаваўшы бізуном кучара, што правіў конямі карэты, у якой ехаў Ажэшка разам з жонкаю Ядвігай з Валадыёўскіх і іх шасцігадовай дачкой Эвай. Было гэта нечуванае зухвальства. У адказ Стольнік загадаў гайдукам сплаціць Валадковічу той самай манетай, разважыўшы, што quodcunque aliquis ob tutelam corporis sui fecerit jure id fecisse videtur[155]. Звада перарасла ў крымінал, калі радзівілаўскія альбенчыкі абстралялі карэту, забіўшы некалькі гайдукоў і моцна напалохаўшы пані Ядвігу.

— Да зброі! — крыкнуў Стольнік, але не паспеў узняцца з крэсла, як дзверы карэты адчыніліся і п'яны Валадковіч extra formam[156] наставіў двурурку ў твар магнату.

— Salve! — павітаўся ён.

Людзей Ажэшкі скаваў жах. Ясная пані Ядвіга, ледзь толькі Валадковіч з'явіўся каля карэты, страціла прытомнасць. Стольніка ж выратавала ад пэўнай смерці яго маленькая дачка. Застаўшыся без нагляду, яна стала паміж бацькам і п'яным дэліквэнтам[157]. Маючы нешта сказаць, дзяўчынка, аднак, толькі хапала паветра, задыхаючыся і глытаючы слёзы. Плечыкі Эвы калаціліся, быццам у ліхаманцы, а сама яна была падобная да касцельных муроў: гэтак збялеў яе дзіцячы твар. Схамянуўся злачынца, ці то жахнуўся ён выгляду дачкі Ажэшкі, ці то пазнаў залатых «Паўкозічаў» на дзвярах карэты — невядома, — але адвярнуўся і пайшоў сабе ўбок, да сваіх, апусціўшы галаву. Як толькі радзівілаўскае паляванне знікла, малая без прытомнасці паляцела на рукі бацькі.

[155] Усё, што чалавек зрабіў дзеля ацалення жыцця, справядліва (*лац.*).
[156] Без усялякіх фармальнасцяў (*лац.*).
[157] Злачынца (*лац.*).



З таго выпадку міналі дні, тыдні, нават, месяцы... Толькі не вярталася Эва да жыцця, нягледзячы нават на тое, што лепшыя лекары выпрабоўвалі сваё майстэрства, а ў касцёлах па ўсёй Літве маліліся за яе выратаванне. Стольнік не шкадаваў нічога. Ва ўсе напрамкі ляцелі на хуткіх конях яго людзі, шукаючы рады панначцы. І калі б нават шатан прапанаваў яму ў той момант дапамогу, ён не вагаўся б аніводнай хвіліны, бо дзень і ноч сядзеў каля ложка дачкі, назіраючы, як жыццё згасае ў яе кволым целе. І гэтак горка плакаў Ажэшка, што, гледзячы на яго, нават у самага жорсткага чалавека сціскалася сэрца.

І пашкадаваў Бог Стольніка... даслаў манаха з аддаленага кляштара. Быў гэта айцец Іерамія, які пачуў пра гора Ажэшкі і з'явіўся ў замак. Адразу ж, як толькі апынуўся манах каля ложка паміраючай, прагнаў ён немцаў і французаў, якія, як мухі на мёд, паназляталіся з усёй Рэчы Паспалітай. Знайшоў вялебны Іерамія невялічкі пакойчык ва ўсходняй вежы, загадаў перанесці туды дзяўчынку і зачыніўся ў ім, не выходзячы на працягу некалькіх дзён. З надзеяй глядзеў у бок вежы Стольнік, а ў замку ў тыя дні цішыня стаяла ледзь не цвінтарная. І не падмануў Іерамія тых надзей, бо малітвамі абараніў душу панначкі, а зёлкамі ды замовамі вярнуў яе цела да жыцця. Адно толькі засмучала Стольніка: ад часу сустрэчы з паляваннем Эва не сказала ніводнага слова.

Манах, які выратаваў жыццё малечы, так каля яе і застаўся. Зрабіўся для паненкі апекуном, выхавацелем і дарадцам, бо жонка Стольніка хутка памерла, а самому Ажэшку не было часу з-за палітычных баталій пільна прыглядацца да выхавання дачкі.

## IX
## СТАРЫЯ ПАДАННІ. БЕКЕШ.
## ПРАКЛЯЦЦЕ РОДУ МІЦКЕВІЧАЎ

Калі Бог ссылае кару для народу,
То ўперад розум адымае грамадзянам[158].

Їасля звады ў замку Ажэшкі мінула некалькі месяцаў, — так працягваў шляхціц.

Contra spem[159] Міцкевіч пачынаў вяртацца да жыцця, чым вельмі здзівіў надворнага лекара мсье Габана́. Убачыўшы, як хворы выпіў кварту старога віна і з'еў за адзін раз столькі, колькі самому Габана

[158] Міцкевіч А. «Пан Тадэвуш».
[159] Насуперак чаканням (*лац.*).

хапіла б не на адзін дзень, лекар узяў шапку і развітаўся. Digitus dei est hic, паўтараў француз, ускідваючы плечы, digitus dei est hic. Valebitis[160]. Іерамія на тое перажагнаўся і з прыкрасцю зачыніў за «агідным пратэстантам» дзверы. Лекі, прынесеныя «недаверкам», манах акуратна збіраў у ільняны мяшок і штодня закопваў каля сцен замка, шэпчучы пацеры і згадваючы ўсіх святых.

Спачатку з вялікай цяжкасцю ўзнімаўся шляхціц з ложка і крок за крокам настойліва вымяраў келлю. Але магутнае здароўе і, напэўна, упартасць хутка дазволілі яму, праўда з дапамогаю манаха, выходзіць у калідор і per aversionem[161] здзяйсняць падарожжы па замку. Быццам апантаны, хадзіў ён усюды, заглядаў у кожны пакойчык і нават у закуток, спадзеючыся адшукаць у іх жаночы след. Ужо некалькі разоў пытаўся ён у Іераміі пра Эву. Але той або зацята маўчаў, або адказваў так, што рука шляхціца мімаволі спрабавала намацаць шаблю.

Неяк ужо пад вечар стомлены Міцкевіч і яго спадарожнік Іерамія спыніліся ў старой частцы замка, якая складалася з вузкіх пераходаў, маленечкіх пакойчыкаў-схованаў і вялізнай залы на версе паўднёвай вежы, да якой вілася вузкая пакручастая лесвіца. Цяжка дыхаючы і раз-пораз памінаючы нячыстага духа, узнімаўся па той лесвіцы Міцкевіч; наперадзе яго з грамнічнай свечкаю ў руках моўчкі крочыў манах. Зрэдку толькі, пачуўшы новае блюзнерства з вуснаў шляхціца, ён спыняўся і кідаў кароткае «Прыкра слухаць, вашэсць», са шкадаваннем хістаў галавою і сунуўся далей. Нарэшце агонь асвятліў пераплеценыя павуціннем цагляныя сцены. Быццам чорныя воспіны, заўважаліся на іх старасвецкія вайсковыя прылады — шаломы, панцыры, перакрыжаваныя мячы і шаблі. Цэнтр залы крыху асвятлялі сонечныя промні, якія залатымі стужкамі прабіваліся праз чатыры акенцы пад страхою.

— Тут піраваў Ягамосць кароль Рэчы Паспалітай Стэфан Баторый, — з гонарам вымавіў Іерамія, аглядаючыся на залу, — вяртаўся ён з Маскоўскай выправы і цягнуў за сабою тысячы вазоў з нарабаваным золатам. Замак жа ў тыя часы належаў Саламярэцкім, старой літвінскай радзіне, продкі якой паходзілі з крыві Рурыкавічаў. Князь Яраслаў, дзедзіч, належаў да ўсходняй царквы і зацята бараніў яе на працягу ўсяго жыцця. А сыны яго — Кароль і Геранім — перайшлі да кальвіністаў, чым вельмі засмуцілі бацьку, які праз тое неўзабаве памёр, а спадчыну пакінуў непачціўцам. Выключэнне складаў толькі замак, які стары князь разам з вялікім кавалкам тутэйшых лясоў ex lege[162] падараваў у пасаг дачцэ Марыі. У адрозненне ад братоў Марыя веры не здрадзіла і не дазволіла сялян з акаляючых вёсак цягнуць ні ў касцёлы, ні ў пратэстанцкія зборы. Была ж гэта прыгожая і светлая душа. Дзяўчына, годная рукі самога караля.

[160] Гэта перст Божы. Да пабачэння (*лац.*).
[161] Дзеля забавы (*лац.*).
[162] Паводле закона (*лац.*).



Патрапіла яна на вока дзвараніну Яго Каралеўскай Мосці, шляхціцу з вугор, арыяніну Кашпару Бекешу. Чалавек гэты быў вядомы як сваімі жаўнерскімі подзвігамі, так і агіднымі блюзнерствамі, бо казалі пра пана Бекеша, што нібыта прадаў ён душу д'яблу. Нездарма як памёр, то на помніку загадаў напісаць:

Nie pragnę jeno nieba, piekła się nię boję,
Miłosierdzia nie proszę, a o sąd nic nie stoję, <…>
Nie troszczę się o ciało, ani mniej o duszę,
Społem ze mną umarła, wyznać śmiele muszę.

Быў пан Бекеш ерэтыкам ці не быў — Бог ведае... але тое, што раскахаўся ён не на жарты — святая праўда. Не было небараку без Марыі ні жыцця, ні быцця. А быў жа гэта ладны кавалер і франт, па якім сохла не адна паненка. Толькі сэрца Марыі для Бекеша заставалася недасягальным.

Яго каралеўская мосць Стэфан ведаў пра скруху свайго фаварыта і даслаў да старэйшага з Саламярэцкіх, Гераніма, сватоў. Паабяцаў кароль дадаць да і без таго не малых яго фартунаў яшчэ і каралеўскіх земляў. Выслухаў паслоў Геранім і без жадных сумненняў даў згоду. «Марыя, — сказаў ён князёўне, — пан Бекеш — твой будучы муж!»

Хоць збялела нябога, але сумелася. «Добра, мой браце, — адказала яна, — твая воля святая, але калі ўжо такі нешчаслівы лёс, дык няхай мой нарачоны не Боскім неслухам з'явіцца да алтара, а пачцівым хрысціянінам». З тым і паехалі сваты да Бекеша, які пачуў навіну і з роспачы счарнеў. Не жадаў ён пераходзіць цераз парог царквы, бо не верыў у Бога, не прызнаваў ні Яго моцы, ні Яго праўды. Але трэба было выбіраць паміж сэрцам і перакананнямі. На дапамогу пану прыйшоў пахолак — шляхціц герба Порай, заняпалага роду з Магілёва над Дняпром, празваны Міцькам. Быў гэта круцель, на чатыры нагі куты, які, як і гаспадар, ні Бога, ні д'ябла не баяўся.

І вось падчас балявання пахолак здзейсніў такое блюзнерства, пра якое раней ніхто нават і не чуў. Было так... Сядзела князёўна па правую руку ад караля, здзіўляючы ўсіх прыгажосцю і шляхетнасцю. «Элена траянская, — казаў ёй зачараваны Стэфан, — ты будзеш самай яркаю зоркаю пры двары, калі дасі згоду на шлюб з панам Бекешам».

— На ўсё воля Божая, — адказвала на тое Марыя.

— Няма ніякай іншай волі, апроч чалавечай, — гучна і ганарліва казаў Бекеш, — няма Бога, нічога няма, апроч цябе і мяне.

Вядома, пане Міцкевічу, сярод дваран караля было шмат такіх, якія зараз смажацца ў пекле, а ў тыя часы смела зневажалі імя Святой Ма-

рыі. Гучным смехам прывіталі яны блюзнерскія словы Бекеша. Разам з іншымі смяяліся і абодва Саламярэцкія.

— Няма? — запыталася Марыя. — Мо пан змераў зямлю і неба, бясконца спазнаў іх, а таму можа з пэўнасцю казаць ab hoc et ab hac[163], што на іх ёсць і чаго няма?

— Я давяду табе: Бога няма! — страшным голасам, ад якога скалануліся сэрцы прысутных, закрычаў Бекеш. І ў тую ж хвіліну выйшаў наперад Міцька. Трымаў ён у руках стары, напісаны яшчэ візантыйскімі майстрамі абраз Дзевы Марыі з маленькім Езусам на руках. Узняў ён той абраз высока над галавою і... на вачах князёўны кінуў сабе пад ногі ды пачаў таптаць, бы скіраваны д'ябламі, скакаў па ім, скакаў і біў цяжкімі абцасамі.

— Бачыш, бачыш, Марыя! — кідаў, па-вар'яцку смеючыся, Бекеш. — Чаму Ён Перуном не зляціць, не пакарае? Таму... таму... што яго няма і не было ніколі!

У зняменні застылі людзі. З жахам і з вялікай надзеяй чакалі яны таго, што раптам... што вось-вось сярод насычанага праклянццямі і блюзнерствамі паветра лясне маланка. Лясне і заб'е, расцярушыць пахолка па зале,ператворыць у вуголле, у смецце, у парахню... зляціць помста Боская і застануцца попел і ганьба... Але... Але нічога не адбылося.

— Ці загадаеце гарачае? — толькі і сказаў маршалак Саламярэцкіх.

З новай сілаю ўзняўся вэрхал. Харунжыя ЯКМ пачалі піць кожны за свой полк. Літвіны раптам прыгадалі Падолле і пачалі даводзіць караняжам пра тое, што тыя няслушна валадараць ім. Ніхто не жадаў бачыць слёзы на вачах князёўны, ніхто не звяртаў увагі на тое, як чорная здань маленькімі крокамі праслізгнула ў залу, спынілася каля разбітага абраза Святой Дзевы Марыі, схілілася над ім і пачала збіраць парэшткі, з гневам азіраючыся навокал.

Не... не зляцеў перуноваю помстаю анёл Панскі на зямлю, не спапяліў блюзнерцаў, не адпомсціў за знявагу Неба. Адно толькі — чорная здань шчыравала на бруку, збіраючы нават шматкі, нават пыл, што ляжаў на вачах Дзевы Марыі і Сына Яе. Перапіліся тады дваране ЯКМ, перапіліся і шляхціцы з атачэння Саламярэцкіх. Прапілі яны князёўну, вырадкі, прапілі душы, гайдамакі. Аднак, як вядома, furiosus furore solo punitur[164].

— За тое зухвальства Міцькі дзяды і бацькі мае крывёю заплацілі, — ціха сказаў пан Ваявода, — а сам ён — пустэльнікам — рэшту дзён бавіў у пячоры, перапрашаў грахі.

[163] Тое-сёе, тут — лухту казаць (*лац.*).
[164] Апантаны ўжо пакараны самім вар'яцтвам (*лац.*).



— Няма пра што казаць, бо шчырае шкадаванне — Бога дараванне, але ж ягамосць лепш за мяне ведае пра праклянцце, якое ляжыць на кожным Міцкевічу ад нараджэння да смерці, — бліснуў вачамі Ірамія.

— Ненавідзець адзін аднаго: сынам бацькоў, братам сясцёр, і паміраць veluti persona[165] ганебнай смерцю далёка ад Радзімы.

— Пакуль адзін з вас не будзе несправядліва пакараны, дазнае нечалавечыя пакуты і атрымае absolvitur[166], знак міласэрнасці з неба.

— Так... — азіраючы сцены залы, бы зацверджанае на памяць, павольна казаў шляхціц, — у мяне, святы айцец, толькі крыху той Міцькавай крыві, ды і выхоўваўся я далёка адсюль у пачцівых, набожных людзей.

— Але ж ты Міцкевіч!

— І таму памру банітаю[167], — усміхнуўся Ваявода, — так, як насурочыў Бжастоўскі, sine missa[168]. Толькі wnuk za dziada nie odpowiada[169].

— На ўсё воля Боская... Але як жахліва памёр Кашпар Бекеш. Нарэшце дапяў ён свайго, атрымаў толькі цела Марыі, душа і сэрца яе заставаліся па-ранейшаму недасягальнымі. Выклікаў Бекеш д'ябла, паабяцаў нячыстаму душу ўзамен на каханне князёўны. Толькі дарма біўся д'ябал, спакушаў літвінку ўсялякімі штукамі — рассыпаў золата, кідаў ёй пад ногі дыяменты, даставаў французскія ды варшаўскія строі, выдумляў розныя чарадзействы. Усё марна! Марыя вытрымала д'ябальскія наскокі і засталася набожнаю. Вырашыў тады Бекеш забіць сябе і яе. Відаць, зусім страціў розум вугор, а да таго ж знаходзіўся ён пад уладаю шатана. De dolo malo[170] падпаліў дваранін караля ўласны дом і, па-вар'яцку смеючыся, назіраў, як агонь бяжыць па сценах ды па падлозе. Лёкаі спрабавалі яго ратаваць, але аднаго з іх Бекеш забіў, а другога моцна параніў. Убачыўшы гэтакую апантанасць, слугі паляцелі да пакоя Марыі, дзе і знайшлі яе без прытомнасці. Выратавалі яны князёўну, а Бекеш так і застаўся ў палаючым доме. Кажуць і такое, быццам бачылі, як д'яблы вылецелі разам з Бекешам праз комін, але гэта, канешне, хлусня...

— А Марыя? — запытаўся Міцкевіч.

Ірамія нечакана павярнуўся да суразмоўцы, сурова паглядзеў яму ў вочы і гучным голасам, ад якога ў шляхціца сціснулася сэрца, сказаў:

— Трымайся, вашэсць, здалёк ад Эвы, а не дык... заб'ю!

[165] Як быдлу (*лац.*).
[166] Апраўданне (*лац.*).
[167] Гіст. ад слова «баніцыя» — выгнанне. Здаўна вядомае ў нас на Літве пакаранне за крымінальныя ўчынкі.
[168] Без права адпушчэння грахоў (*лац.*).
[169] Унук за грахі дзеда не адказвае (*пол.*).
[170] Са зла (*лац.*).

З якую хвіліну манах і шляхціц нібы скамянелі, з пагрозаю і са здзіўленнем — кожны інакш — глядзелі адзін на аднаго. Пагляд Іераміі быў перуновы, так звычайна глядзіць хцівы ястраб на шарака, перш чым кінуцца і ўпіцца кіпцюрамі ў яго кволае цельца. Міцкевіч, наадварот, быў збянтэжаны такім завяршэннем размовы, а таму змушана скіроўваў пагляд у падлогу, пачуваў сябе няёмка.

— А калі я яе кахаю... — знайшоў ён нарэшце патрэбныя словы.

— Каго, гайдамацкая юшка, ты можаш кахаць? Бязвінную душу, анёлка, якога павядзеш у пекла або яшчэ горш: ператворыш у гэтакае ж шатанскае адроддзе, як і сам... Не руш, кажу, тое, што Богам не наканавана!

— Адкуль табе, манах, ведаць, што мне наканавана? — з гневам запытаўся шляхціц і заўважыў: — Nulla regula sine exceptione[171].

— Ды ўжо ж бачу круцельскую кроў ягамосця. Цябе і Міцьку — у адной дзяжы вас ведзьмакі ўчынялі... А калі ў розныя печы ўсадзілі, дык нішто з таго... кропля дзёгцю бочку з мёдам псуе!

— Вось як... — шляхціц збянтэжана і нават спалохана прыглядаўся да манаха, адчуваў ён сябе хлапчуком перад дарослым мужчынам. Манах тым часам казаў, быццам рэзаў па жывому:

— Кахаеш, кажаш? Каралінку Сабяшчанку, маспане, кахай, а ў чыстую ваду не лезь! Ці зразумеў?

— Зразумеў, — ціхім голасам адказваў Міцкевіч.

— Вось і добра! — суцішыўся Іерамія і, быццам не было нічога перад тым, дадаў: — А Марыя, вашэсць, ігуменняй манастыра зрабілася. Таго самага, у якім я дзіцячыя гады бавіў. Прайшло яе жыццё ў святасці. Слава пра набожную жанчыну разышлася далёка па свеце, так што з усіх куткоў цягнуліся да яе пілігрымы. Былі сярод іх і майстры, якія пасля Марыіна анёльскае аблічча ў вобразе Мацеры Боскай на абразах перадавалі. І сёння, паглядзеўшы на такі абраз, вашэсць смела можа разам з Езусам і Дзевай Марыяй вітаць таксама і Марыю Саламярэцкую.

[171] Няма правіла без выключэнняў (*лац.*).



## X
## ВЯРТАННЕ ДА ПРЫТОМНАСЦІ. ЭВА. ЗЛО Ў ІМЯ ДАБРА. ПЯКЕЛЬНЫ ПАДМАН

Í а свята Трох каралёў замак ЯВяльможнага Стольніка ператварыўся ў мурашнік. З усіх бакоў Літвы цягнулася ў яго ўзброеная шляхта. Паветра было літаральна насычана чуткамі пра будучую вайну Рэчы Паспалітай з Масквой. Адзін за адным з'яўляліся і нядобрыя знакі. Напрыклад, казалі пра камету ў небе над Мірам, згадвалі пра маравую панну, якая з'яўлялася на раздарожжах. Казалі таксама пра ваўкоў, якія жахліва вылі ў пушчах. Больш дакладнымі знакамі вайны былі ўцёкі яўрэяў, раптоўнае знікненне з гасцінцаў чумакоў, а таксама зацятае п'янства хлопаў. Літвіны прадчувалі ліхалецце, кідалі звыклую працу і, быццам чакаючы нейкай пошасці, марна туляліся па вёсках, не хадзілі нават у касцёлы, адно толькі — збіраліся да купы ды заводзілі невыносна сумныя песні, ад якіх у выпадковага слухача разрывалася сэрца. Гледзячы на гэтыя і іншыя прыкметы, разам з мужчынамі ў замак прыязджалі жанчыны і дзеці. Не спадзяваліся яны на бяспечнасць засценкаў, бо мелі сумны вопыт папярэдніх кампаній, якія непазбежна завяршаліся гвалтамі і рабункамі. Паміж дамовымі выгодамі ды тоўстымі мурамі Ажэшкавай цвердзі шляхцянкі без асаблівых ваганняў выбіралі апошнія. У імгненне вока пакоі замка і нават блізкія да яго сялянскія хаты напаўняліся нязвыклым галасам.

Весткі пра вайну даходзілі і да Міцкевіча, які хутка набіраў моцы. Раз-пораз з вуснаў манаха чуў ён пра абвяшчэнне паспалітага рушання, а таксама пра маючы адбыцца ў Варшаве элекцыйны сойм. Калі ж з-пад сцен замка пачалі даносіцца гукі загадаў, спевы літаўраў ды бразгатанне зброі, Міцкевіч, не зважаючы на пратэсты Іераміі, выйшаў на дзядзінец.

Святло ранішняга сонца апаліла яго залішне аскетычны, зжаўцелы твар. Пан Адам пахіснуўся, але намацаў рукою сцяну і праз сілу зрабіў два крокі. У галаве адбывалася калатнеча, кроў нібы збіралася выштурхнуць сэрца, а рукі і ногі не слухаліся. Прыхінуўшыся спінаю да муроў, ён пасунуўся далей, туды, дзе чыстае паветра і дзе відно было, як плывуць па шэра-чырвоным небе даўгія, цяжарныя снягамі хмары. Міцкевіч пільна прыслухоўваўся да кожнага гука, лавіў кожны пах зімы. «Якая асалода, — паўтараў ён, як пацеры, — якая асалода быць тут, на зямлі!»

Яшчэ дагэтуль бачыў Ваявода той жудасны шлях, тых людзей — з вачамі без усялякай надзеі, без адзінага шанца на выратаванне. Грэшнікі ішлі туды, дзе няма ні смерці, ні жыцця, а ёсць толькі бясконцыя, пякельныя, прыдуманыя шатанам адмыслова дзеля іх пакуты. І ён ішоў побач з усімі, цягнуў на плячах клумкі, цяжкія здабыткі яго марнага жыцця. Ужо не было ў ім нічога ад чалавека — адзін толькі бясконцы страх, быццам акіян! Грэшнік! Грэшнік!

І не сон гэта! Дакладна ведаў ён тое, што быў там, дзе не наканавана быць жывому і адкуль ніколі не вяртаюцца назад.

Праз якую хвіліну Міцкевіч спыніўся, сеў на калоду і агледзеўся. У цэнтры замкавага двара стаяў вялізны воз з драўлянай бочкаю наверсе, па якой з паважнасцю каноніка шпацыраваў когут. Пад возам і амаль усюды, куды трапляла вока, хадзілі куры і гусі, ператвараючы двор у сапраўднае птушынае каралеўства. Сабака час ад часу, гультаявата віхляючы хвастом, узнімаўся з зямлі і рабіў гвалт, хапаючы ў зубы тое, што траплялася, але і ён хутка супакойваўся і клаўся на зямлю. На галінцы кволай грушы, якая расла немаведама чаму пад брамамі замка, ляжаў руды кот. Каля самой грушы самапасам хадзіла з дзесятак коней.

Аглядаючы дзядзінец, пан Ваявода нечакана адчуў, як яго сэрца спынілася, а потым, праз імгненне, шалёна панеслася наперад. Пад усходняй вежай дачка Стольніка карміла птушак, сыплючы на зямлю зерне жыта.

Эва, гэтая «простая кветка літоўскіх гоняў», якую мажліва параўнаць з чароўнай валошкаю або з пяшчотнай шыпшынаю, зусім не была падобная да варшаўскіх паненак — вогненна-чорных ганарлівых крокусаў ці аксамітных шыкоўна модных лілеяў, алых фанабэрыстых ружаў ці тонкіх ядвабных нарцысаў. Выхоўваліся яны — пястункі сталічнага густу — дзеля паланезаў і мазурак, банкетаў і залётаў, салонаў і тэатраў, а таму здатныя былі акрамя французскага пранонсу яшчэ і на нямецкую ашчаднасць.

Іншай была Эва... Пакінуўшы яе на Іерамію, ЯВяльможны Ажэшка зрабіў мудра, бо літвін выхоўваў яе проста, без усялякіх модных у тыя часы і жалю вартых высілкаў ды вычварэнняў, а папросту кажучы, — малпаванняў усяго замежнага. Ела панначка простую ежу, апраналася ў тое, што звычайна апранаюць на Літве сялянкі, і верыла гэтак жа праўдзіва, як верыў стары манах.

Сціпласць і шляхетнасць у абыходжанні, таксама чуласць, цярплівасць і шкадаванне да бедных сталі вызначальнымі рысамі ў характары стальнічанкі. Потым, у часы Касцюшкі, былы сябар Ажэшкі харунжы літоўскі Тамаш Красінскі будзе згадваць пра Эву наступнае: «Не была яна пекнай, у тым сэнсе, які звычайныя людзі ў тое слова ўкладаюць: невысокая, хударлявая, вялікія блакітныя вочы і светлыя валасы». «Усімі сваімі паводзінамі была яна ўмеркавана вясёлая, ці ў ажыўленні, ці ў меланхалічнай задуменнасці, заўсёды цікавая і прывабная», калі карацей — вартая быць жонкай самога канцлера.

Як і сялянкі, дзяўчына магла жаць збожжа, ірваць лён, ад іх яна навучылася добра спяваць, гатаваць, шыць, прасаваць, рабіць нарыхтоўкі на зіму, лячыць хворых. Адным словам, была добрай гаспадыняй. Аднак з гэтага зусім не вынікае, што адзіначка такога вялікага пана, якім быў ЯВны Ажэшка, не мела зусім ніякай хатняй адукацыі. «Музыцы яе вучылі французы, спевам — італьянец, класічным навукам — ксёндз». Маючы дапытлівы характар, яна, «як губка, усмоктвала ў сябе веды, часта ставіла перад навучыцялямі нечаканыя пытанні і карысталася ўсеабдымнай любоўю і прыхільнасцямі як шляхты, так і дваровай чэлядзі, сялян».

І цяпер апранутая яна была ў просты, але надзвычай пасуючы да яе постаці сялянскі паўкажушок, пекную даматканую спадніцу з вышытым па літвінскім звычаі чырвоным нізам. На нагах у паненкі былі белыя татарскія чаравічкі, а на галаве намітка, з-пад якой відаць была пераплеценая зялёнымі стужачкамі русая каса. Заўважыўшы Міцкевіча, Эва пачырванела, хутка высыпала рэшткі жыта на зямлю і, склаўшы далоні перад сабою, як на імшы, знерухомела. Вочы яе запаліліся такім лагодным, ясным святлом, што шляхціцу здалося, быццам анёл Панскі дакрануўся да яго душы. Небарака ўзняўся на ногі і прыхінуўся да сцяны. Усім сэрцам ён пажадаў быць побач з ёю, бачыць яе бясконца і гэтак жа бясконца дыхаць з ёю адным паветрам. «Эва, Эва, каханая», — паўтараў ён як закляцце, ідучы на хісткіх нагах у бок стальнічанкі.

Зноў і зноў згадваў Міцкевіч, як тануў у яе блакітных вачах, як страсаў шатанаў і ўзносіўся над пеклам да зорнага пагоднага неба.

Тым часам замак прачынаўся. Усюды ўжо заўважаўся шпаркі рух. Жаўнеры выцягвалі са студні ваду і паілі коней, кабеты хадзілі з кошыкамі ды гарнцамі, хлопы рыхтавалі дровы. Неўзабаве з каміноў з’явіўся дым, а ў паветры запахла хлебам. Хутка на дзядзінец пачалі выходзіць людзі. Заўважыў Міцкевіч і знаёмыя постаці. Былі гэта дваране ЯВ-га Ваяводы Віленскага паны Ян Дамінік Гарабурда і Казімір Свентаржыцкі. Павітаўшыся са старымі сябрамі, шляхціц з вялікім нежаданнем адарваў пагляд ад Эвы і пачаў распытваць пра справы ў павеце.

— У Варшаве здрада, — крыху прыціскаючы язык да зубоў, казаў пан Гарабурда, — у сенаце запраўляе расійскі пасланец, гетманы п’юць, як перад смерцю. А Чартарыйскія пхнуць на трон маладога Панятоўскага і ўжо нават прызначылі тэрмін сейма.

— Але перад тым на сейміках трэба пекла чакаць, — дадаў пан Казімір, — бо яго мосць пісар літоўскі такую паперу прывёз, у якой прозвішчы ўсіх паслоў відны і нават «лаўдум» насупраць іх пазначаны.

— Як гэта est modus in rebus[172], — Міцкевіч уважліва прыгледзеўся да пана Казіміра. — Мо ваша жартуе з мяне? Бо ніколі такога не было, каб без ухвалы шляхты паслоў прызначалі.

На што пан Гарабурда з горкаю ўсмешкай заўважыў:

— Не было, але будзе. Бо ўжо выдаткаваныя грошы на тое, каб шляхту купіць ды заліць ёй вочы гарэлкай. Ці першы раз — пагаворваць, паб’юцца, колькі бочак з мёдам вып’юць ды раз’едуцца...

---

[172] Усяму існуюць пэўныя межы (*лац.*).

— А што Стольнік? — пасля хвілiннай паўзы запытаўся Міцкевіч.

— ЯВяльможны Ажэшка пастанавіў «лаўдум» разбіць, паперу спаліць, а паслоў сваіх абраць, што будзе цалкам законна, — адказваў пан Казімір, — адно толькі — цяжка гэта будзе зрабіць. Бо надта шмат тых, хто прагаласуе не паводле сумлення, а паводле ўказанняў з Воўчына. Акрамя таго, для падтрымкі сваіх Чартарыйскія запрасілі маскоўскія роты.

Здзіўлялі і палохалі Міцкевіча такія навіны. За непрацяглы тэрмін яго хваробы, здавалася, перавярнуўся свет. Усё з ног на галаву: у Пецярбургу прызначаюць польскага караля — неверагодна! Так, быў час, калі рускі цар Аляксей Міхайлавіч загадваў элекцыйнаму сойму, але гэта адбывалася тады, калі, знясіленая вайной з казакамі Багдана Хмяльніцкага і магутнай Швецыяй, Рэч Паспалітая знаходзілася на мяжы жыцця і смерці. Аднак зараз...

Пасля развітання з панамі Гарабурдам і Свентаржыцкім Міцкевіч зноў шпаркім крокам накіраваўся ў бок стальнічанкі, але зноў няўдала, бо, напаткаўшы пані Каралінку Сабяшчанку, мусіў стрымліваць яе наскокі.

— Няўдзячны, — казала пані Каралінка, — ні слова, ні паўслова... мы ўжо думалі, што ягамосця, як таго Попела, мышы з'елі... Такі фацэт, такі гжэчны пан і кавалер, але сядзіць сабе як тычка на хмелі ў чатырох сценах і жадных спраў яму да нас.

— Вітаю васпанну, — не выпускаючы з-пад увагі Эву, адказваў пан Міцкевіч, — але мне здаецца, што ў замку і без мяне шмат тых, хто на злом галавы кінецца, толькі каб выканаць вашыя жаданні.

— Міцкевічу! Няўжо пан забыўся, як мы прыемна бавілі час... Але каго, вашэсць, маеш на ўвазе?

— Ды хоць бы пана Казіміра!

— Не, бо залішне пышны!

— Тады пан Ян!

— Залішне ходарлявы!

— Пан Данэйка...

— Яго варта мець на ўвазе, але куды пан увесь час глядзіць скрозь мяне?

Кабета прасачыла за паглядам Міцкевіча і, убачыўшы Эву, пырснула вясёлым смехам.

— Разумею цяпер, чаму ты такі суровы. Мужчыны! А я сабе думаю, на каго ён аблізваецца, як той кот на смятану... але маспане... гэта папялушка табе не пара. Завысокі прогі на твае ногі. Ды і паглядзі на яе — дзікае ваўчаня, ні табе прыстойных манераў, ні табе шляхетнага выхавання. Хамка, дый годзе.

Эва сапраўды была ў гэты час падобная да малога ваўчаняці. Паненка, пільна настаўляючы вушы, прыслухоўвалася да кожнага слова і глядзела на шляхціца так, нібы прасіла яго аб абароне і спагадзе. Слёзы дзвюма



стужачкамі перарэзалі яе яшчэ зусім дзіцячы твар. Вусны зліліся ў паўмесяц, а на выскокім ілбе з'явіліся зморшчынкі. Горкі смак сірочай долі адчуваўся ва ўсёй яе паставе. Сашчапіўшы рукі перад сабою, дзяўчына быццам адгарадзілася імі ад пані Каралінкі і ўсяго астатняга свету. Толькі святло яе вачэй, як святло дзвюх зорачак з вышыні неба, па-ранейшаму прыветна ззяла Міцкевічу.

— Неспадзяваныя шляхі твае, Божа, — працягвала пані Каралінка, — ці магчыма гэта, каб такі, як ты, даруй, вашэсць, біты, куты, на вуглях печаны і ў смале купаны чорт раскахаўся ў дзіця горкае, у анёла Панскага. І што ты з ёй будзеш рабіць? У далоні пляскаць ды ў лялькі гуляць? Дурны ты, Міцкевіч... даліпан дурны! А мо, ваша, думае спраўдзіць заручыны каля плота, а ўсё астатняе потым... Не, пан, са стальнічанкаю наўрад ці такія фіглі атрымаюцца...

Невядома, якія б яшчэ крыўдныя словы пачуў пан Адам з вуснаў пані Каралінкі, калі б не гусарская язда, якая ўляцела на двор праз расчыненыя брамы і напоўніла паветра грукатам, бразгатаннем і галасам. Былі гэта гусары ЯВ-га Радзівіла, на чале якіх стаяў вахмістр пан Костусь Саковіч-Корвін, шляхціц Лідскага павета, досыць стары ўжо чалавек, шмат разоў сечаны, але які ніколі не здрадзіў ні жаўнерскаму лёсу, ні волі свайго пана. Сустракаць вахмістра выйшаў маршалак двара Стольніка пан Рамбайла, які ўзяў яго пад руку і з вялікай павагай і далікатнасцю праводзіў у пакоі Ажэшкі. Гусары пусцілі коней самапасам, а самі разышліся па замку.

Раззлаваны кпінамі пані Каралінкі, шляхціц усяго на імгненне адарваў пагляд ад Эвы і зусім страціў яе са зроку. У роспачы шукаў ён яе пад усходняй вежай, заглядаў у кожную шчыліну, але марна... Эва неспадзявана знікла, пакінуўшы па сабе толькі раскіданае на снезе жытняе зерне.

Пасля тых падзей не прайшло і гадзіны, як па Міцкевіча з'явіўся пан Курцэвіч, афіцэр з драгунаў Ажэшкі. Без лішніх слоў перадаў ён загад Стольніка тэрмінова з'явіцца і быць гатовым да ўсяго, у тым ліку і да хуткай выправы. Падпарадкоўваючыся вайсковай дысцыпліне, шляхціц спрытна апрануўся ў кармазінавы кантуш, падпаясаўся чырвоным пасам, прычапіў шаблю, схапіў два пісталеты, падкруціў вус і выйшаў з келлі, пакінуўшы Іерамію сам-насам. «Няхай табе Бог заплаціць, манах!» — толькі і сказаў ён на развітанне.

У пакоі Стольніка не было як праціснуцца... не тое што самавітаму шляхціцу, але і дробнаму камару было там зацесна. Куды ні ткнеш пальцам — збройны афіцэр, куды ні кінеш вокам — вяльможны пан. Нават калі б на развод спатрэбіўся які хлоп, наўрад ці магчыма было адшукаць яго ў тым срэбрам і злотам ззяючым тлуме.

Стоячы разам з усімі, пан Міцкевіч прыслухоўваўся да размоў і сам, калі трэба было, устаўляў важкае слова. Бачыў ён, як адзін за адным,

атрымаўшы загады, выходзілі ад Ажэшкі спачатку пан Казімір, а ўслед за ім — паны Данэйка з Гарабурдам. Не было весялосці на іх тварах, а ў вачах чыталася такое, ад чаго ў прысутных ледзянела сэрца. Кожны ў тым натоўпе адчуваў сябе на парозе невядомага, а на дубовыя дзверы пакоя Стольніка глядзеў як на вароты, за якімі або рай, або пекла. Вайна? Мір? Што далей? Якім будзе іх лёс, што будзе з Рэччу Паспалітай? У такіх развагах мінулася яшчэ не адна гадзіна. Нарэшце па выйсці пана Саковіча шляхціц апынуўся ў кабінеце Стольніка, пакінуўшы за спінаю перашэптванні і насцярожаныя позіркі.

— Сынку, — сказаў Ажэшка ianus clausis[173], абдымаючы Міцкевіча за плечы, — не лепшы час для хваробы ты сабе выбраў. Бачыш сам — вайна! Не сёння — заўтра Масква разляцiцца па павеце. На Карону няма ніякіх надзей, мы самі мусім даваць сабе рады. Dimicandum[174]. Найперш жа трэба абраць караля — на ім Рэч Паспалітая і вольнасць шляхецкая трымаюцца. А каб тое зрабіць, вашэсць, трэба не лотраў і гультаёў у Варшаву скіраваць, а годных павагі і цвярозага розуму абывацеляў. З Воўчына даслалі да нас пана Гедройца, пісара вялікага літоўскага, які атрымаў загад ад князя канцлера насуперак нашым законам per fas et nefas[175] правесці праз соймікі не тых, каго шляхта пажадае, а тых, хто, прыціснуўшы хвост, азіяцкім звычаем будзе іх волі шатанскай трымацца. Ясна як дзень — тут здрада і махлярства! Primum agere[176] у імя Божае. Вось я і кажу, вашэсць, добра было б заехаць да пана Гедройца ў госці ды без залішняй далікатнасці ды remotis testibus[177] запатрабаваць у яго той ліст, у якім чорным па белым прозвішчы здраднікаў пазначаныя. Га, пане дабрадзею? Але патрэбны тут такі рызыкант, такі зух, які помсты княскай не пабаіцца і, калі што, нават на страшным судзе язык за зубамі трымаць будзе. Як думаеш, вашэсць, ці можна такога знайсці? А я б ужо гарнец злотых яму насыпаў, ды што гарнец... любое жаданне яго, як Бог святы, выканаў...

Па такіх словах запаліўся Міцкевіч надзеяй, згадаў ён Эву, яе анёльскія вочы, у якіх было ўсё яго жыццё і ўвесь яго лёс. Упаў шляхціц перад Стольнікам на калені і, пацалаваўшы яго руку, ціхім дрыготкім голасам запытаўся:

— Любое жаданне, яснавяльможны пане?

— Любое, вашэсць! — адказаў Ажэшка цвёрдым упэўненым голасам. — Нават калі загадаеш ускочыць у пякельнае вогнішча, выканаю без ваганняў... Dixi!

— Тады не трэба нікога шукаць, як перад Богам клянуся — я паеду!

[173] Пры закрытых дзвярах (*лац.*).
[174] Трэба змагацца (*лац.*).
[175] Усімі магчымымі сродкамі (*лац.*).
[176] Найперш дзейнічаць (*лац.*).
[177] Без сведкаў (*лац.*).



— Вось і добра, мапанку, іншага, прызнаюся, я ад цябе і не чакаў. Але памятай, каханы Адаме, дасылаю цябе не на варшаўскі шпацыр, а на смерць, бо ахоўваюць Гедройца данцы гэтага нямецкага чорта фон Дрэвіча. Таму шыхтуйся як належыць. Бяры сваіх міцкевічаў, дадай яшчэ чачотаў і дабрыньскіх, а разам з імі — тых гусараў, якіх да мяне сёння ЯВ-ны Радзівіл даслаў на чале з панам Саковічам. Добрыя гэта жаўнеры, і да ўсяго на розныя хітрыкі здатныя. Не пашкодзяць! Але яшчэ раз кажу: я цябе да пана Гедройца не дасылаў! Vox audita latet[178]. Няхай будзе гэта літоўскім наездам, а дзеля таго, каб у павеце засталася такая ілюзія, трэба высекчы засценак у пень, а хаты і маёнтак Гедройца спаліць. Усё pro publiko bono. Але ж самае галоўнае, вашэсць, — каб ніхто з кроўных пісара жывым не застаўся і пра цябе, крый Божа, на Трыбунале і наогул на свеце, на белым не згадаў. Ці зразумела?

Яшчэ раз злое прадчуванне распаленым нажом разанула па сэрцы пана Міцкевіча, але, зрабіўшы крок, трэба было рабіць і другі.

— Так, яснавяльможны пане, — дрыготкім голасам адказваў пан Ваявода, —зразумеў, але што рабіць з Гедройцам?

— Гедройца, — пасля кароткага роздуму зазначыў Стольнік, — валачы сюды разам з яго праклятай цыдулкай. Мы яму тут вушы накруцім дый амэн. Нічога па ім — вырадак і п’яніца, я яго колькі разоў бачыў у Вільні. А вось сам сцеражыся, бо ён не толькі піткі, але і біткі. Кажуць, што калі дойдзе да шабляў — то ён майстар над майстрамі, ніхто яго помсты пакуль не ўнікнуў.

З тымі словамі ЯВ-ны Стольнік яшчэ раз па-бацькоўску прыхінуў да сябе Міцкевіча, перажагнаў яго і развітаўся, пакінуўшы на пана Курцэвіча. З цяжкім сэрцам выходзіў шляхціц ад Ажэшкі. З аднаго боку, абарона дзяржаўных інтарэсаў — справа Боская і на тым свеце за добрую будзе прывітана. Але ведаў Міцкевіч, што не абыдзецца яна без крыві. Прыгадаў шляхціц шлях да пекла, зразумеў, што зноў неабачліва становіцца на яго, адчуў нават пах серы ў паветры. Але на другім баку таго д’ябальскага шляху, як гэта ні дзіўна, стаяла Святая Дзева Марыя, яго Эва, і яна пераважыла ўсё...

— Але ж і добры тут мёд, каханы Тадэю. Verbum nóbile[179], нягледзячы што і жыдоўскі, — заўважыў ягамосць і зусім цвяроза паглядзеў мне ў вочы.

— Ды ты, пане-браце, нібыта гавееш: не п’еш і не ясі нічога, — працягнуў ён праз хвіліну, так здзівіўшыся, нібыта ўбачыў святога Мікалая, — не, так не пойдзе! Скіс, вушы звесіў ды хвост паджаў — як ведзьма перад ружанцам. Не саромейся, ваша, пагрэй кішкі, бо, як вядома, вудка грэе, вудка хлодзіць, вудка справе не пашкодзіць[180], а

[178] Вымаўленае слова знікае (*лац.*).
[179] Слова шляхціца (*лац.*).
[180] Польская прыказка.

яшчэ падмацуйся кавалкам смажанай качкі, бо да раніцы надта далёка. Чаго цела патрабуе, тое і Бог звястуе, — так, звяртаючыся да мяне, казаў таямнічы літвін, але сам адставіў келіх у другі бок і працягваў аповед з сухім горлам...

Няхай пан не думае, што цмокі сумненняў пакінулі сэрца Міцкевіча ў спакоі. Адна справа на полі бою нехрысцяў праццаць, другая — у гайдамацкім заездзе каталіка знесці. Канешне, не было тут і кроплі ні ад шляхецкай, ні ад хрысціянскай годнасці. Але такі загад, і пану Міцкевічу, як выкшталцонаму жаўнеру, трэба было яго выконваць. Толькі не пра тое размова...

Abýssus abýssum invocat[181]. Казаў мне адзін лідскі законнік, а да ўсяго яшчэ і слынны на Літве экзарцыст (бо толькі ўласнаю рукою пяць брэсцкіх баб спачатку дапытаў, а потым пусціў разам з дымам па ветры) такое, пра што зараз вашэсці паведамлю. Памятай, — даводзіў святы чалавек, — калі ўжо які д'ябал усуне свой брудны лыч у душу, то і ніколі не пакіне яе ў спакоі, будзе намаўляць на грэх, аж пакуль не завалодае цалкам. Тое, што гэта святая анёльская праўда, давяду на прыкладзе лёсу Міцкевіча. Але будзе гэта, мой Тадэвуш, выключна inter nos[182], бо часам ad perniciem solet agi sincéritas[183].

Няма ніводнага чалавека без «але». Не быў Ваявода архіанёлам Міхалам, хоць, як той Боскі служка, таксама трымаў у руках меч панскай помсты. Бо, перадусім, не быў міласэрным Панам і сам Ажэшка, які нашмат болей пра славу зямную, чым пра славу нябесную думаў. Qualis rex, talis grex[184]. Калі, здаралася, прыязджаў Ажэшка ў Варшаву на сейм ці трыбунал, то рука Міцкевіча стамлялася секчы, да таго шмат Стольнік меў ворагаў сярод шляхты, з якой нават за дробныя правіны збіраў рахункі крывёю. Варта тут згадаць Бжастоўскага, забітага разам з фамільянтамі, ганарлівага Кунцэвіча, якога Ваявода застрэліў у карчме пад Варшаваю, старога Каліноўскага, якога спаліў разам з сынам у лазні, справядлівага Заблоцкага, якога на двубоі рассек на дзве часткі, адну прывёз Ажэшку, а другую загадаў паказаць жонцы нябожчыка. Не дзіця ён Боскае, а шатан in carne[185]. А колькі крыўды спазналі ад яго лідскія і навагрудскія дамінікане! Так што нават на сцяне касцёла д'ябла ў яго постаці намалявалі. Праўдзіва ж кажуць: каваль забіў, а цыгана павесілі. Божа, даруй нам правіны нашыя і et líbera nos a malo[186].

Карацей, вашэсць, пэўна ўжо, што шукалі пана Міцкевіча па ўсім пекле з грамнічнымі свечкамі і мусілі б адшукаць, каб не дачка Стольніка Эва.

[181] Бездань бездань кліча (*лац.*).
[182] Паміж намі (*лац.*).
[183] Шчырасць вядзе да гібелі (*лац.*).
[184] Які пан, такі крам / які пастух, такое і стада (*лац.*).
[185] Уласнай персонай (*лац.*).
[186] Вызвалі нас ад зла (*лац.*).



У ёй, ваша, уся справа. А каб лепей зразумець, пра што гутарка, уяві сабе яшчэ раз тое, колькі марных год палявалі д'яблы на душу Міцкевіча. Не адзін лапці стаптаў, і не адзін са скуры вылез, пакуль патрапіў шляхціц у пекла. І ўжо расклалі чэрці вогнішча, прыгатавалі патэльню — як на табе! Наўпрост з іх кіпцюроў, з іх праклятага каралеўства той шляхціц выдраўся ды яшчэ ўсё пекла ўскаламуціў спяваннем святых гімнаў. Indignandum est[187]. Не будзь я літоўскім нобілем, каб не пастанавілі раз'юшаныя д'яблы Міцкевіча, які належаў ім ipso jure[188], будзь што, але вярнуць! Бо вялося тут пра гонар усяго пекла. А яшчэ, канешне, — mortem effugere nemo potest[189]. Прыдумалі нячыстыя такое, да чаго чалавек ніколі б розумам не дайшоў.

Прыгадай, вашэсць, што Міцкевіч, якога ўжо трымалі за рукі шатаны і які ўжо развітаўся з жыццём, раптам убачыў Святую Панну ў постаці Эвы Ажэшкавай. У ясным святле сыходзіла Яна з чорнага неба. Прыгажосць стальнічанкі выцягнула Міцкевіча з пякельнай багны, бо ўбачыў шляхціц яе анёльскасць і моцна пажадаў жыць... жыць, каб кахаць. Не Дзева Марыя, а каханне да Эвы выцягнула Міцкевіча з пекла, вашэсць. Здавалася б, на гэтым і ўсё — няма чаго плявузгаць, аднак з гэтага і пачынаецца д'ябальскі план. Dum vitant stulti vítia, in contrária currunt[190].

Пан Ваявода не толькі раскахаўся, але і страціў розум. Не зважаючы на промысел Боскі, пачаў глядзець на Эву як на ўласнасць. І, падобна да лютага ваўка, гатовы быў біцца з кожным, хто на яе паквапіцца. Забыўся Ваявода, што анёл Панскі не аднаму яму, а ўсім паспалітым людзям служыць павінен, бо Боскі план у тым заключаўся, каб Эва нашу Рэч Паспалітую з пятлі пякельнай выцягнула, што я потым яшчэ патлумачу.

Толькі яму аднаму быць побач з Эваю, вашэсць, толькі яму адчуваць яе прыгажосць і цноту штохвіліны — вось чаго пажадаў вялікі грэшнік. Але non cuílibet pulsánti patet jánua[191], каб ляцець услед за анёлам да чароўнага неба, трэба было стаць шатанам — або інакш забіць ягамосця пісара літоўскага Гедройца. Гэта была вялікая спакуса і вялікі падман. Дзеля той, якая пазбавіла ад пекла, даводзілася ў тое пекла вяртацца ізноў. Але зараз д'яблы ўжо былі напагатове...

[187] Гэта непрымальна (*лац.*).
[188] Паводле самога закона (*лац.*).
[189] Ніхто не можа пазбегнуць смерці (*лац.*).
[190] Ад ваўка ўцякаеш, а на мядзведзя наскочыш (*лац.*).
[191] Не кожнаму, хто стукае, адчыняюцца дзверы (*лац.*).

# XI
# НАЕЗД ЛІТОЎСКІ

У часы Рэчы Паспалітай Польскай <...> скаржнік, атрымаўшы дэкрэт, быў змушаны дзеля спагнання прысуду звяртацца да рыцарскага саслоўя, г. зн. да шляхты, якая мела таксама і выканаўчую ўладу. Узброеныя сваякі, сябры, суседзі ехалі з дэкрэтам у руках і ў суправаджэнні з возным дабывалі, часта не без крыві, прысуджаную скаржнікам уласнасць. Такая ўзброеная экзекуцыя дэкрэта называлася наездам. <...> Упадак грамадскіх звычаяў Рэчы Паспалітай стаў прычынай павелічэння колькасці наездаў, якія бесперапынна парушалі спакой Літвы[192].

Ó прыцемках каляднай ночы па заснежанай дарозе, у напрамку з Навагрудка ў Ліду, нетаропкаю хадою, ледзь не нага за нагу, ехаў невялікі — усяго з сотню жаўнераў — конны аддзел. Наперадзе заўважаліся карычняватыя камзолы і чырвоныя шапкі, па якіх можна было пазнаць радзівілаўскіх гусараў. Загартаваныя ў далёкіх выправах, жорсткіх баях і кровапралітных наездах, з маленства прывучаныя да корда, яны, нібы ваўкі, рыскалі па наваколлі, выглядалі на снезе сляды і драпежна прынюхваліся да марознага паветра. За гусарамі бязладна расцягнулася па дарозе шляхта. Складалася яна пераважна з сабраных currente calamo[193] дужых адзін у адзін Міцкевічаў і высачэнных, даўганогіх, падобных да нашых бацяноў, Чачотаў, спрэс забіякаў і горкіх п’яніц. Траплялiся, праўда, сярод літвінаў і «адважныя» мазуры Дабрыньскія, якія за часамі Яна III былі заможнымі і славутымі, а зараз «усе збяднелі» і «мусілі самі аб сабе старацца, працаваць, як простыя сяляне з вёскі».

Мужчынам даводзілася «насіць толькі па святах кантушы», у льняных сярмягах збожжа жаць, «хоць і ў ядвабных рукавічках»; шляхцянкам — кароў пасці, ды «не ў лапцях, а ў чаравічках», у «крамных блузах і спаднічках». Зрэшты, тое ж можна было сказаць і пра іншых «гербаваных і вяльможных, у свабодах залатых хаваных», у тым ліку і пра Міцкевічаў, «герб якіх князёўскі, пра што пісаў вядомы пан Мацей Стрыйкоўскі».

[192] Міцкевіч А. «Пан Тадэвуш».
[193] Пазбіраных на хуткую руку (*лац.*).



На жаль, тыя гербы хоць і віселі над дзвярыма шляхецкіх гаспод, але «іх ластавак даўно ўжо гнёзды абляпілі», «паліцы з півам ды сырамі абступілі». Для справядлівасці трэба заўважыць, што імпэту ваяроў напрыканцы стагоддзя шляхта не страціла. Нягледзячы на чужыя рыцарскаму саслоўю штодзённыя заняткі — бортніцтва, земляробства, нават нечуваны ў старыя часы гандаль — быў гэта ўсё «народ ваенны», вочы якога збалелі ад нястомнага выглядання сякой-такой нагоды, каб рушыць у паход «на маскаля ці немца, турка, шведа ці, калі быў мір, — свайго ўласнага суседа».

Ніколі не чакалі тыя неспакойныя душы, каб два разы іх запрашалі «на каня садзіцца і шаблі браць». У любы момант гатовы яны былі ex própriо motu[194] счапіцца з кім заўгодна — няхай бы з самім д’яблам, ісці хоць бы і за Чорнае мора. А таму нікому на Літве не было цяжка «стралкоў сабраць», каб пасля памежных зацятых сварак, даўгой ды нуднай валакіты ў земстве, «актаў і блуканняў» надалей марна не судзіцца, а зброяй ды «наездам праў дабіцца», бо ўсім вядома: «у полі выйграй, дык прысудзяць суддзі».

Такім чынам, мой Тадэвуш, да сэрцаў шмат мілейшым шляхце «быў наезд стары сармацкі, чым гоман прыкры адвакацкі». Зараз, канешне, ужо не тое... Quod périit, périit[195]. Вернемся, аднак, да нашай размовы.

Не чакаючы небяспекі, шляхціцы напаўголаса перагаворваліся. У вялікім кажуху, перапаясаны паляўнічым рамянём, са старасвецкай бабровай шапкай на галаве, у атачэнні двух спадарожнікаў, як крук сярод варон, ехаў пан Саковіч.

— Не ў тым штука, мосці панове, каб забіць, — казаў вахмістр гусарскай язды голасам старога ментара, — а ў тым, каб добра забіць — штука.

— Нічога, — заўважаў пан Міхал па мянушцы Аглабля, цыбаты, як жураваль, і чорны, як комін, апрануты, быццам віцебскі шапуцька, — у кантуш, ветрам падшыты, ды боты, анучай падкручаныя, але затое з сакаліным пяром на шапцы і з срэбнай збруяй на кані [праўдзіва ж кажуць у Добрыне: Na szyi trzy chustki, a w kieszeni pustki. — *Т. К.*]. — Не бяры да галавы, вашэсць, ці ў Лідзе, ці ў Кракаве — людзі ўсюды аднакавы! Заб’ём не калом дык палкаю: за хвост ды аб вугал! А як заб’ём, то пахаваем. А як пахаваем — яго рабакі пажруць! І ўся справа, мосці панове! Nihil tam difficile est, quin quaeréndo investigári possit[196]. Каб мяне чарты парвалі, калі гэта не так...

[194] Па ўласным жаданні (*лац.*).
[195] Што прапала — прапала (*лац.*).
[196] Няма нічога настолькі цяжкага, чаго немагчыма было б дасягнуць стараннем (*лац.*).

— Так яно так, але можа быць і інакш... І нашу скуру на цвік могуць павесіць. — змрочна заўважаў Ян Дабрыньскі і дадаваў: — Indyk myślał o niedzieli, a w sobotę łed mu ścięli. Акрамя таго, nil inúltum remanébit[197].

— А каб жа, каханы Яне, не пры людзях кажучы, прышч табе на язык ускочыў, як ты брэшаш толькі абы брахаць, усялякую трасцу насупраць ночы сурочыш. Per ánserem[198]!

— Каб, пане Міхале, цябе дзеўкі любілі столькі, колькі глузду твая пустая мазгаўня мае! Кабыльнік бясхвосты! Ingénium stúpidum[199]!

— Што ты, вашэсць, чаўпеш? — ці не дачуў, ці не зразумеў пан Міхал, але на ўсялякі выпадак высунуў галаву наперад, нібы змяя перад кідком.

— Дурань, кажу! — спакойна адказваў яму пан Ян і дадаваў: — Gdyby był taki długi, panie Michałe, jak jest głupi, mógłby piwo na księżyc podawać.

На што пан Міхал, добра распаліўшыся, заўважаў:

— Вучыў Мацей Базыля, а сам дурны як свіння! Ці не ты гэта ў мінулым годзе кантуш, пас і нават порткі ў карчме прапіў, а потым узлез на званіцу, адкуль хацеў на месяц караскацца, але жонка цябе не пусціла?

— Я! — адказваў пан Дабрыньскі. — Але ж побач са мной быў і ты, пане Міхале. Гэта ты, ваша, прасіў званара, каб ён нам лесвіцу падстаўляў.

Літвін зноў зрабіў выгляд, што не дачуў, але працягваў ужо лагаднейшым голасам:

— Калі б дурняў не было, адкуль бы такія як ты, пане Яне, разумнікі браліся? Думаеш, што калі некалькі слоў па лаціне ведаеш, усе навукі пабраў? Быў тры гады ў полацкіх езуітаў, пуд солі з'еў, ані халеры ад іх не ўзяў. Каб я столькі часу ў тых старцаў бавіў, дык ужо б быў чалавекам, ужо б ты мне, лайдак, у пояс кланяўся. А калі б не кланяўся, я б цябе, пане Яне, батагамі, дый на голай зямельцы! Дый па скуры, нат і па азадку!

— Цьфу ты, ведзьміна калыска! — не вытрымліваў нарэшце стары Тамаш Дабрыньскі і грозна паглядаў у бок то аднаго шляхціца, то другога. — Змоўчце, чаравачы смярдзючыя, шмаравозы кашлатыя. Абое рабое! Адзін чорт, другі чортаў брат! Жаўны языкатыя! Расплявузгаліся, курвы, слухаць вушам баліць. Як той казаў, няма горш, jak dwie dupy zejdą się do kupy: і «бу-бу» і «бу-бу»! Ідзіце кабылам хвасты круціць, не тлуміце людзям галаву.

[197] Нішто не застанецца неадпомшчаным / валачыў воўк, павалаклі і ваўка (*лац.*).
[198] Клянуся! (*Лац.*)
[199] Тупіца, дурань (*лац.*).



— Усе дабры, дабры, адна расамаха ліха! — пакрыўджаным, але надта ціхім голасам, каб — хавай Божа — не пачуў стары Тамаш, заўважаў у адказ на тую водпаведзь пан Міхал.

З хвіліну ехалі зусім моўчкі. Чутно было, як б'юць коні капытамі аб снег ды як шуміць, заблытаўшыся ў верхавінах хвояў, вецер. Першым зноў не вытрымліваў раззлаваны Тамаш.

— Зрэшты, каго маці нарадзіла, таго і куля заб'е! — казаў ён, пагладжваючы старасвецкія пшанічнага колеру вусы. — Mórtui non mordent[200].

— Праўдзівыя словы, пане браце! А яшчэ кажуць, што mors et fugácem perséquitur virum![201] — пагаджаўся з Дабрыньскім пан вахмістр. — Толькі здараецца, што і нябожчык можа адпомсціць. Распавядаў мне мой дзед, набожны, шмат чаго бачыўшы і цёрты жыццём чалавек, як за часамі яшчэ Яна Казіміра на Літоўскім Трыбунале справа аб заездзе Рымшы чынілася. Тады пан Рымша спаліў фальварак пана Кміта, а перакруціў так, нібыта гэта маскалі зрабілі, хоць яны ў тым і не былі вінаватыя. Такога перапалоху нарабіў, што ўсе жыды, думаючы, што цараняты блізка, з Навагрудка і нават з Ліды паўцякалі. А ўсё з-за нейкай дробязі — Рымшавай копанкі, адзін бераг якой да зямлі пана Станіслава Кміта, былога браслаўскага мечніка, прыляпіўся. У тую копанку стронга трапляла, а рыба ж гэта, як вядома ягамосцям, сапраўднага шляхецкага гатунку, да якой пан мечнік быў вельмі ласы. Хціваму ж усяго мала. Вось неяк уночы ён тую стронгу з Рымшавай копанкі і выграб, на што пан Рымша падаў спачатку маніфест ЯВ-ну Крыштофу Пацу, а па маніфесце старым літвінскім звычаям на Святога Віта сплаціў за стронгу наездам. Папаліў усё, месца жывога не пакінуў, а пана Мацея па-гайдамацку засек.

Праз год на Трыбунале яго сын, таксама Станіслаў Кміт, паручнік з харугвы ЯВ-нага Гасеўскага, польнага гетмана літоўскага, засведчыў, што перад смерцю бацька імя Рымшы на сцяне кроўю пазначыў. Нічога даказаць пан паручнік не мог, але затое прысягнуў на Евангеллі. Рымша, канешне, на тыя абвінавачванні толькі aequo animo[202] усміхаўся, бо добра ведаў, што сведкаў не пакінуў. А да таго ж, ці мёртвы, ці жывы, але, паводле нашых законаў, testis unus, testis nullus[203]. Тады прысутны на Трыбунале ЯВ-ны Павел Сапега, Вялікі гетман літоўскі і Ваявода віленскі, папрасіў Рымшу таксама скласці прысягу на Евангеллі. І, як толькі Рымша пачаў крыва прысягаць, палілася ў яго з рота чорная юшка, па чым адразу ваўка ў авечай скуры пазналі. Culpam poena permit comes[204].

[200] Мёртвыя не кусаюцца (*лац.*).
[201] Смерць даганяе і таго, хто бяжыць ад яе (*лац.*).
[202] Абыякава (*лац.*).
[203] Адзін сведка — не сведка (*лац.*).
[204] Пакаранне ідзе за злачынствам (*лац.*).

— Fors dicta refútet[205], — раптоўна ўлез у размову пан Юзаф, шляхціц з Чачотаў, вядомы тым, што ў мінулым годзе звёз жонку пана Феліцыяна Прушынскага, Мастаўнічага мінскага, але праз тыдзень, што праўда, вярнуў, бо, як кажуць, не вытрымаў злога нораву яе мосці. — Богу свечка, вашэсць, а чорту агарак! У справе Рымшы пра прыватныя спрэчкі вялося, у якіх вінаватага зараз і д'ябал не знойдзе. А мы, вашэсць, пра справы дзяржаўныя рупімся, а калі і робім які крымінал, то pro publiko bono і ў імя Рэчы Паспалітай, што ў асобных выпадках нават святым Касцёлам дазваляецца. Гедройц хоць і даўні мой знаёмы, але здраднік і поскудзь, бо дагаджае нялюдскай волі Чартарыйскіх, якія спакон веку шляхту за блота лічылі.

Ад часоў Леха голас польскага нобіля быў вольным, бо такое права ён сабе крывёю здабыў. Чартарыйскія і голас той адбіраюць. Шляхціца, як таго ўбогага хама, б'юць і плакаць яму не даюць. І падумаць толькі: няўжо Чарнецкія, Радзівілы, Канецпольскія, Сангушкі менш славы і заслуг перад Рэччу Паспалітаю мелі, але і яны голас шляхты шанавалі, бо і самі былі перадусім шляхціцамі! Не, панове, стаць на шляху шатана не значыць быць шатанам! Бо і анёлы за меч, як прыпячэ, хапаюцца...

— Няма чаго казаць! Усім вядома: libértas res inatstimábilis[206], — абурыўся пан Саковіч, — Гедройц — крывадушнік, бо парушае спаконвечныя правы шляхты, а таму варты пакарання як ніхто іншы. Але трэба памятаць таксама і пра тое, што ён — пан над панамі, бо на ўсіх сейміках побач з яснавяльможнымі сядае і размаўляе з імі як роўны. Калі, крый Божа, даведаюцца ў Варшаве пра гэтую выправу, як неба святое, — нашыя галовы на калы ўваб'юць і на віленскай плошчы выставяць, як калісь ягамосць пан Януш Радзівіл зрабіў з галовамі гайдамакаў.

— Не даведаюцца, — адказаў стары Тамаш, — бо Святая Марыя не дазволіць, каб галовы каталікоў, як гарлачы, на паркане віселі. Бо matka święta o każdym pamięta.

— Quod di omen avértant[207]! — зноў пагаджаўся з такой высноваю пан Саковіч, але заўважаў: — Усё можа быць, мосці панове, усё можа быць!

— Божачка, Божачка! — выгукнуў пан Міхал. — Нас нямножачка, а й тым недзе дзецца!

— Змоўчы тэраз жа, п'яніца, — кінуў яму без асаблівай надзеі спраўдзіць тыя словы пан Мацей Дабрыньскі.

Размову перапыніў Грышка, стары пахолак пана Міцкевіча, які прыляцеў з ар'ергарда і перадаў камандзірскі загад тэрмінова спешвацца.

[205] Каб у цябе язык адсох (*лац.*).
[206] Няма нічога больш каштоўнага за свабоду (*лац.*).
[207] Барані Божа (*лац.*).



— Не далёка ўжо! — казаў Грышка, паказваючы рукою ў бок заснежаных елак. — Праз гэты лясок, паночкі, ды ў равок, а з раўка — беражок, а з беражка на гарышча. Скок! І ўжо адтуль на сабачы брэх мо будзе!

— Каб цябе з раўком, беражком і гарышчам ліхаманка біла, — разгневаўся на пахолка пан Саковіч, — а чаму нельга конна пад Гедройца пад'ехаць? Ведама ж, пойдзем за сем міль кісель хлябаць.

— Конна ніяк, паночку, бо ў Гедройца стаяць казакі, якія дужа пільна настаўляюць вушы! Як пачуюць што якое, пачнуць шыхтавацца, а тады будзе гора...

— Сам ты гора, знікні з вачэй прэч! — не суцішваўся вахмістр. — Каб цябе, хаме, чэрці ды на чвэрці, скуру на мяхі, а зубы на арахі, як ты добрых людзей на пакуты змушаеш!

З вялікім нежаданнем саскоквала шляхта на зямлю, пакідала коней на стражнікаў і сунулася ў нетры лесу. Нібы судны па заснежаным моры, паміж вялізных дрэў рухаліся дробныя людскія постаці. Узнімалі яны высока над галовамі ружжы, чапляліся шаблямі за дрэвы, падалі, нібы шчупакі ў Нёмане, знікалі ў белых бурштынавых хвалях сумётаў і зноў уставалі, зноў, сцяўшы зубы, цягнуліся далей — у яшчэ большыя сумёты і ў яшчэ глыбейшыя нетры. Часам паміж хвояў, як грамнічныя свечкі, блішчэлі вострыя воўчыя вочы. Рэзка адзываўся неспакойны пугач. Кугукала вірлавокая сава. Шастаў і трапятаў крыламі сонны цецярук. Шапацеў, заблытаўшыся ў прагаліне паміж небам і зямлёю, вецер. Чутно было нават, як затрымцела, закачалася, каўзанулася і — вох! — паляцела ў пашчу месяца-Вялеса сузор'е Сіта.

Праз чвэрць гадзіны пан Саковіч, знемарашчаны марным змаганнем са снегам, прытуліўся да маладога дубка і пацягнуўся быў у кішэню па бернардзінскую табаку, каб добрай панюшкай разагнаць кроў, як ледзь не самлеў ад жудасці, бо ўсяго за два крокі заўважыў, як здалося яму ў той момант, чорта шалёнага, куртатага, рагатага, з вогненнымі вачамі, рукамі-ветракамі і зубамі-шаблямі.

Пакуль разважаў пан вахмістр, у правы ці ў левы яму бок хрысціцца, якія былі валасы на яго галаве і тыя паўсталі дыбам. Ажно ў пот кінула пана Саковіча. Прыгадаў ён памятныя з дзяцінства байкі пра дзікіх людзей, а таксама пра ўпыроў, якія нібыта акурат на Каляды паўставалі з магілы. «Каб у цябе, падла зыркатая, галава другая вырасла! — выгукнуў пан Саковіч і імгненна схаваўся за дрэвам, адкуль быццам з-за тыну пачаў танюсенькім галасочкам: «Езусе! Святы, несмяртэльны...» Але раптам кінуў мальбу і ўзяўся за гразьбу: «Ідзі, бес, [сказаў] на сухі лес! Ці чуеш мяне, пан чорт? То ж я! Віленскі канонік, а да ўсяго яшчэ і набожны езуіт!» [Ведаў пан Саковіч ад дасведчаных людзей, што езуітаў шатаны баяцца асабліва моцна. — *Т. К.*] Шатан, відаць, сапраўды не быў ахвочы чапляцца да езуіта, бо схапіўся за шапку і,

вымавіўшы «Мацер Прачыстая! Ляхі!», даў такога дзёру, ажно пяткі яму заблішчэлі.

«Не на таго наскочыў! Чорт кашлаты!» — толькі і паспеў крыкнуць яму ўслед пан Саковіч.

Праўдзіва ж кажуць: «у страху вочы вялікія», а яшчэ кажуць: «сустрэліся мужык з мядзведзем, мядзведзь падышоў — «нюх», «нюх» — ды пайшоў сабе, а ў мужыка ўсе блохі падохлі». Так і ў пана вахмістра — ажно кроў зледзянела, сэрца спынілася. Не столькі таго чорта, колькі перапуду ад яго.

Але, даліпан, znік бы той нячысты дух сярод цемені, каб не радзівілаўскі гусар, які перуном зляцеў, прыціснуў чорта да зямлі ды яшчэ і прыставіў пісталет да яго морды. Неўзабаве на тлум сышлося колькі шляхціцаў.

— Трэба яму, мосці панове, галаву адцяць і паміж ног так пакласці, каб ён да яе, хавай Божа, рукою не дацягнуўся, — параіў праз хвіліну пан Саковіч, які ўжо паспеў перавесці дух, — так у кнізе ксяндза Багамольца напісана, а ён ужо, як ніхто іншы, пра ўпыроў ведае.

Пачуўшы гэтыя словы, колькі рук пацягнулася да шабель, але расправу над упыром перапыніў пан Ваявода.

— А дайце ж, панове, спакою таму нешчасліваму чорту, які ў казацкіх гайдаверах па начох цягаецца, — сказаў ён і ўзняў нячыстага духа за чупрыну з зямлі.

У маладзіковым ззянні відно было, хоць голкі збірай. Таму не дзіва, што, выцягнуўшы шатана на святло, убачылі шляхціцы гідкага, як аўца, ды не д’ябла, а данца. Быў гэта, праўду сказаць, руды, як гад, тлусты, як законнік, сівы, як голуб, і стары, як пень, але досыць яшчэ жвавы і моцны мужчына. Трымаўся ён за шапку, як хвароба за цела, і круціўся на адным месцы, як голы ў крапіве.

— Бадай бы цябе качкі затапталі! Казак усяго, — расчаравана сказаў пан Саковіч, — а я думаў, што — чорт... Праўдзіва ж кажуць: diábolus non est tam ater[208].

— Палахліваму ўсе пні здаюцца ваўкамі, — уставіў важкае слова пан Міхал.

— Strachy na lachy! Паляваў на сокала, а злавіў варону, — пагадзіўся пан Ян.

— Чорт, а чорт, а ці даўно з пекла? — падступіўся да казака шляхціц Юрага з Міцкевічаў.

— Адкасніся ад яго, vácua vertex[209], — сказаў кроўнаму пан Ваявода і адсунуў яго рукою ўбок, пасля чаго aperto libro[210] дадаў такім страшным голасам, ад якога ў прысутных перахапіла дыханне, а самога казака закалаціла, як у ліхаманцы: — Галаву як галаву, адцяць як адцяць, але лепей, мосці панове, усё ж яго павесіць. Га? Як думаеце?

— Павесіць! — выгукнула шляхта.

— Тады шукайце якую асіну!

— А калі альху? — запытаўся Юрага.

— Можна і альху, толькі каб вытрымала гэтага гультая! — згадзіўся пан Ваявода і зрабіў рашучы крок да казака.

Той стаяў прыціснуўшы вушы ды маўчаў, як забіты, але ўбачыў грознага Ваяводу і пачаў прасіцца:

— Памілуйце, паны ляхі, не бярыце грэх на душу. У імя Святога Спаса і Госпада нашага Ісуса Хрыста, пусціце мяне з Богам.

— Скулля табе, хаме! Хваробу табе! Павесім, і ўсё тут, — перапыніў палоннага Юрага, але сустрэў суровы пагляд Ваяводы і схаваўся за панам Саковічам; і адтуль ужо моўчкі пазіраў на казака, як галодны воўк на ягня.

Між тым пан Міцкевіч пачаў выпытваць, што ды як. Патрапіў у нерат, як высветлілася, есаул з аддзела данскіх казакоў, якраз з тых, што ахоўвалі пана Пісара. Хадзіў ён да адной ягамосці, імя якой тут называць не варта, ды вяртаўся назад. Даведаўся пан Міцкевіч таксама і пра тое, што ў засценку стаяць два афіцэры, адзін маскаль, другі наш — шляхціц з-пад Ліды. Разам з афіцэрамі было каля пятнаццаці казакоў, астатнія стаялі ў вёсцы па сялянскіх хатах.

— А што паны казакі зараз робяць? — пацікавіўся Ваявода.

— А што робяць? Спяць сабе, — адказваў на тое есаул.

— Як так спяць?

— А так, як і ўсе добрыя людзі ўночы!

— Шкада перапыняць іх сон, але давядзецца, — заўважыў Міцкевіч.

Не дужа хацеў есаул, што праўда, але давялося яму паказаць карткі шлях да Гедройцавай сядзібы. «Ох, ляхі, ляхі! — толькі і прыгаворваў ён ды хістаў у роспачы галавой. — Каб на вас трасца, ляхі!»

[208] Не такі страшны чорт (*лац.*).
[209] Тут: паганая сіла; літаральна — пустая галава (*лац.*).
[210] Адразу, без падрыхтоўкі (*лац.*).

* * *

Маёнтак пана пісара ягамосця Мацея Гедройца знаходзіўся ў адным з самых маляўнічых куткоў Навагрудскага ваяводства. З усіх бакоў — куды толькі не кінуць вокам — атачалі яго высокія, нібы Карпацкія горы, пагоркі, парослыя елкамі і бярозамі, дубкамі і альшынамі. Паміж тымі пагоркамі змяёю вілася рэчка-пакручанка, якая несла свае ледзяныя струмені ў Нёман. Блакітнай істужкай абвівала яна старыя літоўскія пушчы, пяшчотна ахінала гонкія елкі, магутныя дубы, пышныя ліпы; люстравала ў халодных хвалях чорныя волаты-камяні, абдавала іх гаючай вільгаццю і ляцела наўздагон — юрлівая і непрадказальная ўвесну, паважная і лагодная, быццам маладая маці, улетку, неспакойная, убіраючы ў сябе ўсе колеры наваколля, восенню, чароўна-строгая, у белым вэлюме і ледзяных шатах зімой. Для паляўнічага тыя мясціны былі сапраўдным зямным раем, бо варта было ўзяць у рукі ружжо ды з першымі промнямі сонца выйсці за парог дома, як адразу ж заўважаўся заяц-шарак ці чулася рохканне дзіка, поступ зубра ці мядзведзя, а далей — за межамі засценка, — як толькі нага трапляла на ігліцы хваёвага лесу, мажліва было, заплюшчыўшы вочы, страляць у любы бок і быць пэўным, што патрафіў у цецерука ці качку, драча ці бекаса. Столькі дзічыны было ў тых вядомых яшчэ за часамі Міндоўга лясах і гаях.

Нездарма параўноўваюць тыя абшары з «бяздонным морам», пасярод якога, быццам міфічны Вырай — хаваецца ад людскіх вачэй у самых нетрах балот і бароў *матачнік*: «агорнутая імглістым змрокам», «багатая зямля», «галоўная раслін і зверыны сталіца». «Літвін-стралок звычайна нетры абмінае», бо дрэвы там навокал чахнуць і хварэюць, «лісты кару губляюць, не растуць, чарвеюць», «сукі там пакрывае мох каўтунаваты, а кожны ствол і пень грыбамі барадаты». «Там зберагаецца ўсіх дрэў і траў насенне, з якога новае ўзрастае пакаленне. Хаваецца там ліс, мядзведзь і тур, на дрэвах — быстры рысь і хцівец расамаха, над галавою сокалы з арламі, накшталт нахлебнікаў, што жывяцца з панамі»[211].

Здаўна славіліся літоўскія пушчы паляўнічымі: Рэйтаны, Несялоўскія, Пацы, Радзівілы, Валадковічы. Здавалася, што кожны хлопчык, які ўдыхаў у тых пушчах паветра, набіраўся і паляўнічага імпэту. Не дзіва, што аматарам палявання быў і пан Гедройц, які ў Налібоках з адной толькі рагацінай хадзіў на мядзведзя, чым моцна здзівіў нават Ваяводу Віленскага.

Дом пана пісара належаў да тыповых у той мясцовасці шляхецкіх засценкаў: пабудаваны з дрэва, пачарнелы ад дажджу, але падмураваны

[211] Міцкевіч А. «Пан Тадэвуш».



так, што «здалёк бялелі яго сцены і парканы». «Дом, хоць не вялікі, але мілы воку», быў з шырокімі ганкамі, аздобленымі чатырма абшарпанымі калонамі. Страха — з дранкі, дзе-нідзе пакрывалася зялёным імхом, які, аднак, не псаваў агульнай карціны старога шляхецкага гнязда, а, наадварот, надаваў яму выгляд пэўнай старажытнай аўтэнтычнасці. Вокны глядзелі на дзядзінец і былі даўгімі, але вузкімі — з такіх зручна весці страляніну. Апошняе даводзілася рабіць ледзь не штомесяц, ад чаго ў сценах дома было «поўна знакаў, што многа помніць ён нападаў і атакаў»; «каб хто прыглядзеўся бліжэй к будынкам, заўважыў бы ў бярвеннях, шчылінах, пад тынкам шрамы счарнелыя, а ў кожнай гэткай пляме засела куля, быццам чмель у цёмнай яме». «За брамаю валялася паводдаль хаты, як галава дзіцячая, ядро гарматы», «на панадворку старэнькія крыжы тырчэлі. <...> тут знайшлі сабе магілы забітыя раптоўна ўдарам страшнай сілы»[212]. Дадзім да гэтага апісання таксама і тое, што на гармату, развернутую ў бок маладога дубовага гайку, абапіралася двухкольная дрындулька, на якой пан Гедройц звычайна падарожнічаў у Вільню або ў Варшаву...

У тую ноч у доме ягамосця пана пісара банкетавалі. Побач з гаспадаром, надзвычай худым, даўганосым, падобным да шпака, панам Гедройцам сядзеў зусім бязносы, але затое мажны чырванатвары «маскоўскі капітан» пан Мікіта Рыкаў, стары жаўнер і дужа паважаны ў войску, бо выбіўся ў афіцэрства з сялян, якімі былі яго дзяды і прадзеды. Сядзеў ён сабе моўчкі ды «чаркай забаўляўся» і, як здавалася, не зважаў на размовы, бо знаходзіўся на прыемным спатканні з печаным вугром, якога кухар засмажыў lege artis — у венгерскім віне і зараз падаў у густой літоўскай смятане. Крыху далей ад пана Рыкава, як жаба на купіне, узвышаўся над сталом добра падпіты, непрыемны на выгляд, рабы, вуглаваты маскоўскі маёр, імя якога было Плут-Круцілаў. Як казалі даўнія людзі, nomen est omen[213]. Пачуваў сябе ён панам у чужым доме і не саромеўся даваць загады лёкаям. Быў маёр калісь літоўскім шляхціцам з Дзяровіч «і называўся некалі, чуваць, Плутовіч», «ды лотрам стаў, перахрысціўся». «Так бывае з палякам, калі ён край родны забывае». Быў той Плутовіч такім нялюдскім у адносінах да паддадных, што ратаваўся ад іх уцёкамі. Падаваў ён скаргі, але не знайшоў падтрымкі ні ў земскім, ні ў гродскім судзе нашага ваяводства, бо за сялян заступіўся (!) Навагрудскі ваявода Несялоўскі[214], якому абрыдлі бясконцыя зухвальствы шляхцюгі.

[212] Міцкевіч А. «Пан Тадэвуш».

[213] Імя кажа само за сябе (*лац.*).

[214] Прыкра вядомы прыгоннік, тыран і ліхадзей, герой знакамітай балады Яна Чачота «Узногі».

Тады шалавіла паткнуўся да Радзівіла, але павадзіўся з панам Бароўскім і зноў уцёк, але цяпер ужо да маскалёў, у якіх здрадаю і махлярствам адшукаў сабе вялікую пашану, а таму яшчэ больш выслужваўся — глядзеў на суайчыннікаў звысоку, «нос дзёр і на паклоны нат не азіраўся»[215]; казаў не інакш, як па-расійску, а калі і згадваў, што літвін, то толькі са шкадаваннем. Пан Гедройц паглядаў на «зям'яніна» скоса і ўжо колькі разоў парываўся да вялізнага алавянага куфля, каб запусціць ім у лоб паліводы, але спыняўся на паўдарозе, пачуўшы перасцярогі ад манаха-бернардзіна.

А Плут, «вясёлы і сыты, разваліўся» на крэсле, сядзеў спярша надзьмуты, важны, бы міністр, «потым дастаў тытунь і люльку, прыкурыў банкнотам і, вусны чыста выцершы канцом сурвэты, звярнуў на дам свой твар, напіткам разагрэты»[216]. Перад залётамі дадаў яшчэ большай важнасці ў паставу, як цмок, пусціў дым з разяўленай пашчы і прамовіў, звяртаючыся да прысутнай за сталом шляхты:

— Большага парадку, чым у войску яе мосці імператрыцы, няма нідзе ў свеце. А перадусім, панове, жалезная дысцыпліна! Прайграўся ў карты, у вэльба-цвэльба, мар'яжа ці ў віста, — хоць бы і д'яблаў трыста, але са скуры вылушчысь, дзеншчыка, маці родную прадай ды доўг аддай, як той казаў, «вынь ды палож»! Nemine contradicente![217] А мундзіры, а медалі, а футры, нат і каўняры! Паглядзіш на якога генерала — аж вочы баляць, бо золатам, як шчупак шафранам, абсыпаны. А якая павага: выйдзе такі на пляц, «храсць-храсць» катораму ў пысу, няхай бы і двараніну, нат і афіцэру, дый крычыць, як ашалелы войт: «Сукін сын!» Тады [са смехам. — *Т. К.*], каб вы толькі бачылі, мосці панове, усе ад яго, як мышы з-пад веніка, бягуць, ратуюцца. Го-го-го! Не, ляхі, няма чаго вам з намі — з маскалямі — вадзіцца. Адзін для вас ратунак — скарыцца перад яе мосцю імператрыцай ды на каленях поўзаць, умольваць яе аб ласцы. Каб яна вамі апекавалася, сваёю ўладнаю рукою за чупрыны драла, але і шкадавала, але і чынамі жалавала!

— А бадай бы ты са сваёй імператаркай згарэў, павук паганы, — нячутна шаптаў пан Гедройц, — шалеючы ад нечуваных на Літве зухвальстваў Плута, які тым часам змоўк, пусціў струмень дыму ў твар пану Пісару, па-воўчы ашчэрыў жоўтыя зубы і пачаў «прыміляцца» да семнаццацігадовай паненкі, прыгажуні Магды Гедройцавай. Бедная, выхаваная віленскімі манашкамі, дзяўчына не ведала, куды ёй падзецца ад ганьбы. З жахам адчувала яна юрлівыя рукі маёра на ўласных каленках, бялела, марнела, кідала крадком умольныя пагляды ў бок бацькі.

[215] Міцкевіч А. «Пан Тадэвуш».
[216] Тамсама.
[217] Без пярэчанняў! (*Лац.*)



— «Люблю я дам, — сказаў, бы з гарматы выпаліў, маёр, — ды гэта ж не сакрэты! Клянуся чэсцю, мне пасля падмацавання закускай лепшаю бывае размаўлянне з такімі прыгажунямі, як вы тут, пані!»[218]

— Смярдзючая падла, сволач, рапуха разлезлая, — шалеў пан Гедройц ды шаптаў праклёны, нібы пацеры, і ўсё хацеў устаць, каб запусціць у нахабніка талеркай, расквасіць яму мазгаўню куфлем, расцерушыць па падлозе, змалоць на муку, растаптаць, бы апошнюю гадзіну. Але толькі ўжо пан Гедройц гатовы быў выбухнуць, нібы халодная вада, падалі на яго перасцярогі айца Марка: «Не час! Цярпі, вашэсць, бо Езус усім нам загадаў цярпець!»

— А якія там балі, маскарады! Не пераказаць паненкам, — працягваў празнадта салодкім голасам Плут, які ад гарэлкі зусім ужо страціў сорам і з дымам разам пускаў дамам кампліменты. — Такая мода зараз у Еўропе, што ў паненак спіна павінна быць аголенай. Не інакш як да самай... О! Як бы такая мода пасавала да пані Магды! О! Як бы было файна ўшыцца з ёю ў які радок ды пацерціся побач пры мазурцы. Зрэшты... «у егерскім палку я ж першы з мазурыстаў! Маёра слова! Мне не быць расіянінам, калі я лгу! Няхай я буду сукінсынам, калі я лгу! Спытай, пацвердзяць афіцэры ўсе, як ёсць, калі не хочаш даць мне веры, што ў арміі другой, у корпусе дзевятым дывіз'і першай, у палку пяцідзесятым егерскім, Плута лічаць першым мазурыстам! Хадзі, паненка, што ты гэтак наравіста!»[219]

«Тут скокнуў і, схапіўшы [Магды. — *Т. К.*] рукі, шырокім пацалункам у плячо ёй пляснуў», ды пан Гедройц яму наўпрост у вуха ляснуў. «Цалунак з аплявухай так адначасова азваліся ў пакоі як за словам слова»[220].

Плут адхінуўся ад паненкі, як ад распаленага коміна, і стаяў аслупянелы, пабялеў.

— Дзяўчатам час адпачываць, — ледзь не прасіпеў Гедройц. Пасля гэтага яго тры дачкі ўзняліся, ласкава развіталіся са шляхтай і зніклі ў дзвярах.

— Як смееш ты, шляхцюк! — заплятаючымся языком, пачаў маёр. — Трывога! Бунт!

На што пан пісар ледзяным голасам адказаў:

— Pauca verba![221] Не будзь я шляхціцам і Гедройцам, калі дарую табе, Плутовіч, знявагі і зухвальствы ў маім доме!

На хвіліну пакой апанавала злаславая цішыня — такая, якая звычайна ўсталёўваецца перад бурай падчас Гарабінавай ночы, калі вецер і

[218] Міцкевіч А. «Пан Тадэвуш».
[219] Тамсама.
[220] Тамсама.
[221] Меней слоў! (*Лац.*)

навальніца яшчэ толькі прадчуваюцца ў далечыні, а ў паветры ўжо ўсё камянее, дранцвее ў жудасці перад нябачнай магутнасцю прыроды.

Вочы Плута вылезлі далёка наперад носа, бакенбарды ўздыбіліся, ніжняя губа звісла, а тонкія, як той мышыны хвост, вусы сталі тырчком. За яго зубы, здавалася, зачапіліся ўсе вядомыя і невядомыя пану Снядэцкаму[222] перуны і маланкі, якія насуперак фізічным законам пайшлі не вонку, а ўглыб, уздыбілі маёра, раскрыжавалі плечы, раздзьмулі грудзі і нарэшце выпрасталі ногі, якія гвалтам узнялі шалавілу, перакулілі на падлогу крэсла.

Пакуль Плут ястрабаваў над сталом ды скрыгатаў зубамі, змагаўся з уласнай злосцю, кожны паспеў падрыхтавацца да неспадзяванай навальніцы. Пан Рыкаў адхінуўся ад місы з вугром, сашчапіў рукі перад сабой і спакойна глядзеў на Гедройца, айцец Марк паклаў далонь на шырокі паляўнічы нож, якім некалі добра ўмеў карыстацца, трапляючы за дваццаць крокаў у мэту, а пан пісар паспеў ужо два разы змяніцца ў твары і нават падкруціць даўгія вусы.

— Ах ты, нягоднік! — нарэшце знайшоў што сказаць Плут. — А пра «Жоўтую кнігу» ты ведаеш? Свалата, сукін сын, я цябе ў Сібіры згнаю, у рудніках змарную, як паскуднага сабаку на ланцугу валачыць буду.

На што ягамосць пан пісар літоўскі хоць і быў белы, як мур, але адказаў роўным, упэўненым голасам:

— Quodcunque aliquis ob tutelam corporis sui fecerit jure id fecisse videtur[223]. Хаця, канешне, што і казаць! На мне не зіхаціць золата, як на маскалях, але тое, што я шляхціц са старажытнага роду, ведае кожны. Ад часоў Палемона мае продкі баранілі свой гонар, які і я бараніць мушу. Бяру прысутную тут навагрудскую шляхту ў сведкі. Кожны бачыў, якую пякельную абразу міма законаў учыніў мне і майму дому пан маёр, як ён сам stímulos pugnis caédere[224]. Загасціўся ты, Плут, годзе піць і есці, проша ўзяцца за шаблю.

Па тых словах з-за стала ўзняліся пан капітан, айцец Марк, а таксама колькі шляхціцаў.

Плут, падобна да вугля на снезе, гучна шыпеў і нават па-вярблюджы пырскаў слінаю. У ім моцна брадзіла гарэлка, відно было, як шатаны рвуць яго на часткі, прымушаюць яшчэ далей заходзіць у тую багну, з якой не было іншага выйсця, акрамя двубою. Усведамленне гэтага факта дадало ў думкі маёра звярынага страху, які разам са злосцю зрабіў яго зусім шалёным. Перакуліў ён нагою стол, выхапіў шаблю і паляцеў у бок бяззбройнага пана пісара. Але не паспеў зрабіць і кроку,

[222] Ян Снядэцкі (29.08.1756–21.09.1830) — астраном, матэматык, філосаф, асветнік, выведзены ў абліччы «мудраца без сэрца» ў баладзе А. Міцкевіча «Рамантычнасць».

[223] Усё, што чалавек здзяйсняе ў імя абароны — законна (*лац.*).

[224] Лез на ражон (*лац.*).



як прагучаў такі моцны стрэл, што ў прысутных пазакладала ў вушах. У паветры запахла порахам і марозам. Плут пахіснуўся, але застаўся на нагах, бо стрэл той «толькі асмаліў і аглушыў».

На парозе са штуцэрам у руках стаяў пан Міцкевіч, які па-старасвецку прывітаў гаспадара і прысутных паноў гасцей.

— Чалом, чалом, ягамосцям! — сказаў ён, гледзячы скрозь дым на маскоўскага маёра.

* * *

Зусім нядоўга блукалі па заснежаных пагорках шляхціцы. Палонны казак хоць і выкручваўся спачатку, але, як толькі адчуў Міцкевічаву шаблю каля горла, адразу ж ціхамірна пайшоў наперад, а праз якіх паўсотні крокаў ткнуў пальцам у асветлены маладзіковым месяцам дзядзінец. Без перашкод пералезлі шляхціцы цераз гнілы паркан, адчынілі брамы і ўсёй грамадой падступіліся да ганкаў. Ніводная сабака не забрахала, ніводзін голас не азваўся на іх гвалтоўную прысутнасць. Ляжалі казакі покатам каля драўлянай бочкі з літоўскім мёдам. Вывалаклі яны тую бочку з Гедройцавай піўніцы і, адбіўшы дно, не саромеліся частавацца духмяным напоем. Разгаўляліся цараняты ў вялікай ёўні, якая стаяла блізка ад дома, прыхінуўшыся страхою да яловага лесу, а потым, апанаваныя хмелем, паснулі, агалашаючы наваколле гучным храпам: «Так храплі і гэткім сном цвёрдым спалі, што іх не будзяць ліхтары, ні бляскі сталі, ні людзі, што напалі на безабаронных, як быццам павукі-касцы на мух паўсонных»[225].

— Зухі, — з вялікай зайздрасцю да казакоў прашаптаў пан Міхал і выцягнуў з-пад кажуха пас, — звяжам іх, мосці панове, а ўжо потым і мы разгавеемся.

«Сказана — зроблена». Праз якую хвіліну данцы, як снапы жыта, былі перавязаныя, пакладзеныя адзін да аднаго на зямлі, і да ўсяго яшчэ абяззброеныя. Усе працэдуры рабіліся да таго хвацка, што ніхто з п’яніц нават вухам не павёў: «Не бзыкае ніхто, ляжыць зусім без духу, хоць сіла дужых рук іх брала, несла і, як салому, адкідала ўбок і трэсла»[226]. Аднаго пузана нават перавалаклі за ногі ў другі бок ёўні, бо казак разваліўся ля самага ўваходу і моцна перашкаджаў шляхце, якая хадзіла туды-сюды ды хціва ўцягвала ў грудзі насычанае мядовым пахам паветра.

— Відаць, усё ж харошы мёд у Гедройца, нездарма нос у яго, як у бацяна, чырвоны і даўгі, ды такі даўгі што, калі ў цемені на каторага напорацца — адразу вока выкале, — казаў пан Міхал пану Яну.

[225] Міцкевіч А. «Пан Тадэвуш».

[226] Тамсама.

— Так, — згаджаўся пан Ян, — сапраўды, някепскі нос у Гедройца, мажліва нават свечкі ім у касцёле прытушваць.

— Харошы нос, — цягнуў сваё пан Міхал, — а мёд яшчэ лепшы!

— Няма сумненняў, што добры мёд! Нездарма ж кажуць: Kto miód pije, długo żyje, а яшчэ ў нас кажуць: Gdzie jest miód, tam będą i chłopcy[227].

І, паглядзеўшы адзін на аднаго, шляхціцы без лішніх слоў выцягнулі ўзятыя з дому адмыслова дзеля такой нагоды кубкі і рушылі былі да бочкі, як нечакана чыесьці магутныя рукі схапілі абодвух ягамосцяў за каўняры, узнялі ў паветра ды так пляснулі лбамі, што, як ім здалося ў той момант, іскры пасыпаліся ва ўсе бакі, а ў вачах небаракаў заяснеліся чырвоныя і жоўтыя мілавіцы. Волатам, які так лёгка выхапіў шляхціцаў з паўдарогі, быў не хто іншы, як манах-бернардзін айцец Марк. Паглядзеў ён са шкадаваннем спачатку на аднаго, а потым на другога, раскрыжаваў рукі «дарожным знакам» і, як мячыкі, штурхнуў пана Міхала ў сцяну левую, а пана Яна ў правую. Потым склаў рукі, набожна пераждагнаўся і са словамі «Pax vobiscum!» паклаў на бочку накрыўку, залез на яе і, па-басяцку звесіўшы ногі, пачаў пераможна аглядаць шляхту.

— Ойча, святы, моцны? Чаго гэта ты сваволнічаеш? — запытаўся, крыху апрытомнеўшы, пан Міхал.

На што вялебны Марк роўным, нават вясёлым голасам заўважыў:

— Quem Deus pérdere vult, deméntat[228]. Няма чаго гневацца, мае дзеткі. Бо хоць і завяршыліся піліпаўскія запускі, але разгаўляцца яшчэ дужа рана, бо ў суседняй вёсцы стаіць сотні з дзве казакоў, якія праз колькі хвілін тут будуць.

— Ледзь мазгаўню не расквасіў, — флегматычна адзначыў пан Ян, трымаючыся за галаву, і скрозь зубы ў другі бок нячутна дадаў: — Ten mnich diabła w kapturze nosi[229].

Між тым «мніх» меў рацыю, бо ў суседняй вёсцы казакі пачулі стрэл і пачалі ўсаджвацца на коней. Есаул, якога павінны б былі вартаваць два Чачоты, уцёк, пакінуўшы аднаго вартаўніка з разбітым лбом. Колькасная перавага была на баку маскалёў, а да таго ж шляхта ўжо разляцелася па маёнтку і думала больш аб рабунках, чым аб вайне: «Рабунак у двары пачаўся на здзіўленне: той правяраў аборы засяленне <...> другі калоў валоў і парасятак, уторкваючы шпагу ім каля лапатак. І птушкі ў небяспецы — вось гусей грамады, нашчадкі тых, што ратавалі Рым ад здрады, дарэмна гагаюць, іх крык людзей не ўзрушыць...»[230]

---

[227] Хто мёд п’е, той доўга жыве; дзе мёд, там і хлопцы (*пол.*).
[228] Каго Бог хоча загубіць, у таго ён адбірае розум (*лац.*).
[229] У таго манаха д’ябал пад каптуром сядзіць (*пол.*).
[230] Міцкевіч А. «Пан Тадэвуш».



На варце, праўда, засталіся радзівілаўскія гусары, але і яны з прычыны сваёй нешматлікасці не здолелі б аказаць належнае супраціўленне казакам.

Тым часам у маёнтку адбывалася вайсковая нарада. Перад ёю бернардзін тайна перамовіўся з панамі Гедройцам і Міцкевічам; узяўшы пад руку Мікіту Рыкава, сказаў і яму некалькі слоў, пасля чаго загадаў скруціць Плута і ўсунуць яму ў рот анучу — «каб нічхнуў, поган праклятая!» — потым выйшаў хуткім вайсковым крокам на двор.

— Пан капітан, — так пачаў Міцкевіч, звяртаючыся да спакойнага, але суровага рускага афіцэра, — не буду, як ліс, круціць хвастом: прыйшлі мы не ў госці. Таму не гарэлку будзем піць, а справу чыніць, бо маем пільны загад — выхапіць з-пад вашай апекі ЯВяльможнага Пісара літоўскага. У цыдулцы, якую ён пры сабе мае, лёс і гонар цэлай Рэчы Паспалітай заключаныя! Таму буду кароткім: вырашай, вашэсць, — або адвядзеш казакоў і дазволіш нам сысці ў лес, або... сам разумееш: вайна, смерць, канчатковасць! А каб ягамосцю пану капітану лёгка было зацерці ўспаміны пра крыўду і знявагу, дамо яму гарнец залатовак, да якіх пан Гедройц яшчэ ладнага талераў насыпле. Усё на карысць табе і нашай Рэчы Паспалітай!

Рыкаў, які не раз вадзіў роты на турэцкія рэдуты, зацята секся з янычарамі, быў у палоне, ніколі не схіляўся перад небяспекаю. Стары жаўнер і сапраўдны рыцар, ён уласны гонар і гонар Айчыны цаніў больш за золата. Таму смела глядзеў у вочы Міцкевічу і, без жадных сумненняў, якіх-кольвек здрадніцкіх трымценняў у голасе, на прапанову адказаў так, як не сорамна было б адказаць нават вялікаму польскаму пану.

— Ягамосці ляхі, — прамовіў Мікіта Рыкаў, — вы дарма думаеце, што кожнага рускага можна купіць. Сапраўды, пнуцца да вас пераважна тыя вырадкі і прайдзісветы, якіх уласны народ цярпець не можа і выстаўляе за парог. Ёсць жа сярод нас — «маскалёў» — і тыя, для каго руская зямля гэткая ж дарагая, як і вам вашая Рэч Паспалітая. Заўжды вас, паны ляхі, паважаў за патрыятызм і самаахвярнасць. Аднак «служба — не дружба», як вядома, таму выканаць ваша патрабаванне не магу. Што ж да Плута? Праўдзіва ж кажуць: «сабаку — сабачая смерць».

Пераззірнуліся Гедройц з Міцкевічам і пачалі аб нечым раіцца. Рыкава ж вартавалі два радзівілаўскія гусары з агаленымі шаблямі ў руках.

— Добра, — за двух пачаў казаць пан Гедройц, — lupus non mordet lupum[231], а добрыя жаўнеры, няхай сабе і ворагі, ніколі адзін аднаму прыкрасці не ўчыняць. Дай слова, што кінеш ваяваць, і ідзі сабе.

— І гэтага слова я даць не магу, — адказваў Мікіта Рыкаў, — бо сам сабе не гаспадар.

---

[231] Воўк ваўка не кусае (*лац.*).

— Што ж, тады pro publiko bono!
— Pro publiko bono! — закрыўшы вочы і сцёршы з ілба халодны пот, паўтарыў пан Міцкевіч.

* * *

Як чорная хмара выплывае з-за далягляду, так і казацкая кавалерыя выплывала з-за сумётаў і занесеных снегам елак. Наперадзе, як імклівы Пярун на рудым кані-навальніцы, грозны і няўмольны, з шабляю-маланкаю ў руках, ляцеў ягамосць Трокскі кашталян Тадэвуш Агінскі. За ім чорным пранырлівым шэршнем высоўваўся літоўскі падкаморы Антоні Праздзецкі. Былі гэта драпежныя, хцівыя і крыважэрныя крукі, якія пад абаронаю расійскіх жаўнераў рвалі на часткі маястат ЯВяльможнага ваяводы віленскага Кароля Радзівіла Пане Каханку, нізрынутага майскай сесіяй Трыбунала і бессаромна выпхнутага з Княства за мяжу. Побач з Агінскім скакаў «аднавокі Юда» фон Дрэвіч. Здалёк ён нагадваў нязграбную, тлустую шэрую муху, якая ў нас на Літве аблятае квітнеючыя гоні ў пошуках гною і дзеля жарту называецца «шляхецкай».

## A linea

Паўнамоцны прадстаўнік Яе імператарскай мосці Кацярыны II на Літве, фон Дрэвіч зацята штурхаў адзін на аднаго магнатаў, сварыў шляхту, раздуваў справу аб дысідэнтах, распальваў агонь рэлігійнай нецярплівасці. Адным словам, цягнуў Княства і Рэч Паспалітую да гвалтоўнай смерці. З яго падказкі, напрыклад, Ігнацы Юзаф Масальскі перакупіў у віленскіх купцоў Тэпераў пазыкі Віленскага ваяводы і праз здрадніцкі Трыбунал рэквізаваў радзівілаўскія маёнткі ў Невельскім графстве. Менавіта фон Дрэвіч, нябачны і нячутны, быў вушамі і вачамі шэрага кардынала расійскай тайнай дыпламатыі сумна вядомага Мікіты Паніна.

Яшчэ адзін люты вораг Рэчы Паспалітай, Панін, шчодра раздаваў грошы і абяцанні літоўскім магнатам. Ігнаруючы права вольнага голасу і дэмакратычныя традыцыі шляхты, трымаў за цуглі маршалкаў каптуровых судоў і нават трыбуналаў. З д’ябальскім крывадушшам дэкляраваў абарону інтарэсаў Князя-канцлера і накідаў яму на шыю, сплеценую пераважна з нясвіжскай пянькі, трывалую пятлю бясконцых дамовых сварак (асабліва моцна такая палітыка супрацьвагаў у адносінах да Чартарыйскіх праявілася падчас Генеральнай канфедэрацыі Літвы і Кароны, маршалкам якой 23 чэрвеня 1767 года быў абвешчаны нясвіжскі ардынат К. Радзівіл, адзін з найбольш уплывовых апанентаў Familii), шчыра ўсміхаўся кароннаму гетману ЯВяльможнаму Яну Браніцкаму і зацята інтрыгаваў супраць яго поруч з меркантыльнымі Флемінгамі, бессаромнымі Масальскімі, амбіцыйнымі Агінскімі і Сапегамі, якія вырадзіліся ў рэнегатаў і адступнікаў.



Ледзь не штодня накіроўваў «рускі езуіт» у Пецярбург лісты са слёзнымі скаргамі на каталікоў і уніятаў. Падпісваліся пад гэтымі лістамі звычайна Ф. Левантовіч і Г. Каніскі, якія вымольвалі ў імператаркі ваеннай дапамогі для праваслаўных на былых «іскони русских землях». Парадокс заключаўся ў тым, што менавіта імператарка «агнём і мячом» выпаліла бунт украінскіх праваслаўных хлопаў, заліла цэрквы і кляштары такою крывёю, што асобныя гвалты «польскіх» паноў на фоне той маштабнай разні ўяўляліся сучаснікам дзіцячай гарэзлівасцю.

Нездарма ў сярэдзіне XIX стагоддзя адзін украінец, ацэньваючы дзве ўлады — царскую і панскую — са шкадаваннем адзначыць:

«Была калісь гетманшчына, больш не ўбачаць вочы; было калісь — панавалі, ды болей не будзем...Той казацкай волі, славы павек не забудзем! Украіна, Украіна! Сэрца маё, маці! Як успомню тваю долю, сэрцайка заплача!»[232]

— Не ўтрымаемся мы тут! Даліпан, не ўтрымаемся! — казаў пан Костусь, які вельмі насцярожана сачыў за падрыхтаваннямі казакоў. — Відаць, давядзецца, мосці панове, сёння нам паміраць!

— Quem fata péndere volunt, non mérgitur undis[233], — адказаў на гэта шляхціц Юрага з Міцкевічаў.

Пачуўшы такія словы, пан Міхал падступіўся да пана Дабрыньскага і тузануў яго ў бок так моцна, што той ледзь не паляцеў на снег.

— Пане Яне, — сказаў літвін дужа заклапочана, — пакуль яшчэ жывы, аддай, саколе, тое золата, якое мая жонка табе на Святога Мікалая пазычыла. Га? Ці чуеш мяне? Пазычай — злы абычай! Але што вінен, аддаць павінен!

— Адчапіся...

— Як гэта адчапіся? Як пазычаў, сякеру абяцаў, а потым і тапарышча шкадуеш?!

— А я кажу — адчапіся! Bóg zapłać[234].

— Za Bóg zapłać niewiele kupisz, каханы Яне, а я, між іншым, тое ўсё прадчуваў! Казаў жонцы: «Дурніца, не давай яму ні ламанага шэлега. Ён жа прайдзісвет і махляр!» А яна — карова гарластая — прывалакла з запечча цэлы гарнец! «На! Усё чыста забірай [далей іранічна. — *Т. К.*]. Канешне, нам нічога не трэба. А тое, што дзеўка яшчэ халасцячкай — гэта нішто. Лухта! Бо ў пасаг я ёй свае дзіравыя парткі аддам!» Страшныя

[232] Шаўчэнка Т.«Тарасова ноч». (У перакладзе Я. Купалы.)
[233] Каму суджана вісець, той не ўтопіцца (*лац.*).
[234] Бог аддасць (*пол.*).

рэчы дзеюцца, мілы мой Божа! Святы, Моцны, Несмяртэльны, Ты ўсё гэта бачыш і не пляскаеш з маланкі!

— Mądry bierze, głupi daje[235], — зноў флегматычна заўважаў пан Дабрыньскі.

— Не бяры да галавы, пане Міхале, — ушыўся ў размову Юрага і, пераглянуўшыся з Дабрыньскім, са смехам сказаў: — На тым свеце ён табе вуглямі аддасць.

— Цьфу на вас, забрынды вы дарашаватыя!

Пан Міхал плюнуў і, падумаўшы, перажагнаўся — спачатку ў левы, а потым (на ўсялякі выпадак) у правы бок, пасля чаго са злосцю адышоў.

— Obvigiláte[236]! Я кажу, мосці панове, разварушылі мы асінае гняздо, — зноў звярнуўся да прысутнай шляхты пан Костусь Саковіч, — чортава сіла іх сюды накруціла: сотні з тры, а мо і болей! Няма як ратавацца! Морды, бы насечкі — чараватыя! А бароды, як хвасты ў коней — кашлатыя! Парвуць яны нас як гарох пры дарозе!

На што пан Міцкевіч драпежна ашчэрыўся, выцягнуў шаблю з похвы і даў загад радзівілаўскім гусарам усаджвацца на моцных даўганогіх казацкіх коней.

Думкі ў галаве пана Ваяводы ўвесь час блыталіся. Ён пачаў звычайную жаўнерскую малітву: «Да Твае аховы звяртаемся, Святая Маці Божая». Прамовіў і спыніўся, неверагодна — забыўся на словы... зноў пачаў, зноў спыніўся... О Езусе! Толькі зусім не пра Яго — Найсвятога — думаў шляхціц у той момант. Стаяла ў Міцкевіча перад вачамі стальнічанка Эва. Згадаў ён той шчаслівы момант, калі на дзядзінцы Ажэшкавага замка гатаваўся да выправы і раптоўна, сярод тлуму, удалечыні, каля вежы, як ясную зорачку сярод чорных аблокаў, заўважыў яе. «Эва?» — прашаптаў і знерухомеў.

Паненка залівалася горкімі слязамі. «Нібы хавае каго, — падумаў чамусьці і вырашыў: — Мо мяне?» Так падумаў і падцягнуў папругу, прайшоўся далоняй па спіне свайго старога, шмат разоў выпрабаванага ў баях, шэрага ў яблыках літоўскага каня, адчуў гарачыню і моц яго цела. Усміхнуўся. Патаптаўся на адным месцы і раптам пайшоў, кінуў на снег рыштунак і зброю, не зважаў нават на паноў Казіміра і Костуся, якія чапляліся з нейкімі непатрэбамі ды, як харты, блыталіся пад нагамі. Пайшоў?

Не! Паляцеў, як ляціць карабель з раздзьмутымі ветразямі па ўлонні мора, імкнучыся да роднага берага — рашуча, упэўнена... Але за два крокі рашучасць счэзла, упэўненасць вычарпалася, імклівасць закульгала на абедзве нагі. Пан Адам мусіў спыніцца, бы напароўся на сцяну.

[235] Разумны бярэ, а дурны дае (*пол.*).
[236] Трымайце вуха востра! (*Лац.*)



Захістаўся, нібы канюшына пад ветрам, задрыжаў, змарнеў, памёр і ўваскрэс, а напрыканцы схіліў перад дзяўчынаю галаву і паглядзеў на яе спадылба — баяўся апаліцца, аслепнуць ад той яе анёльскай прыгажосці, страціць прытомнасць ад самой яе прысутнасці.

«Эва»!

Потым зрабіў яшчэ крок, другі... як у касцёле каля выявы святой Марыі, апусціўся на адно калена. Ледзь не перажагнаўся, спахапіўся, узяў яе руку і пацалаваў так пяшчотна, як у дзяцінстве цалаваў толькі руку маці. Усяго на імгненне Ён дакрануўся да Яе, але гэтага хапіла, каб сотні пудоў зляцелі з рамёнаў, тысячы ланцугоў скінуліся з ног і з рук. Эва праз слёзы расставання шчасліва ўсміхалася, і тады, у той самы момант, ён зразумеў самае важнае, тое, без чаго чалавечае існаванне не каштавала нічога: «Яна кахае яго». Вось! А ўсё астатняе — лухта, д'ябальская патароча і марнасць! Марнасць! Усё марнасць, акрамя Яе і яго Кахання.

— Нічога, мосці панове, — выгукнуў Ваявода, — неяк будзе! Продкі трымаліся, і мы ўтрымаемся, а як Бог дапаможа, то і пераможам!

— Пераможам! — паўтарылі ўслед за Міцкевічам.

— З намі Святая Дзева Марыя! Мацер Боская Вастрабрамская!

* * *

Шляхта рыхтавалася да хуткага бою. З дзесятак ягамосцяў — з ліку асабліва зацятых — скінулі кажухі і, узброіўшыся шаблямі ды нажамі, чакалі загадаў. На конях, як свечкі, сядзелі гусары. Стралкі са штуцэрамі і ружжамі ў руках размесціліся ўздоўж паркана, а таксама і на дзядзінцы. Пан Гедройц разам са слугамі выцягнуў з-пад дрындулькі гармату. Усе рыхтаваліся да таго, каб належным чынам даць адпор казакам. Адзін айцец Марк, як здавалася, нічым не цікавіўся і ў нейкай экзальтацыі перамінаўся з нагі на нагу: нібыта маліўся. Міцкевічаў пахолак Грышка збіраў рассыпанае жыта пад стадолаю.

Казакі спыніліся недалёка ад маёнтка. Шыхтавацца ім бракавалі сумёты, якія вялізнымі глыбамі высіліся ўздоўж дарогі, пакідаючы свабоднай толькі вузкую, пратаптаную коньмі, пакручастую дарогу. Фон Дрэвіч узняў руку, суцішыў сваю пярэстую кабылу і, аглядаючы наваколле, даў знак спешыцца і падрыхтавацца да наступлення. Казакі, гучна мацюкаючыся, палезлі ў снег. Праз паўгадзіны яны ўтварылі звычайны свой «паўмесяц» і, смалячы файкі, моўчкі чакалі — перагаворваліся. Дрэвіч марудзіў з загадамі, круціўся на адным месцы, здымаў і зноў надзяваў капялюш — нерваваўся, раіўся з афіцэрамі. Шляхціцам здалося нават, што «немец» не адважыцца ўжыць зброю, такі нерашучы ён меў выгляд.

Тым часам казакі зноў падышлі да сядзібы пана Гедройца і спыніліся ўсяго за дваццаць крокаў ад брамаў. З іх шэрагаў высунуліся паны Агінскі з Праздзецкім. Яны зухавата асадзілі коней і таксама пачалі круціцца на адным месцы, хутка, аднак, суцішыліся, наставілі вушы. Нарэшце ЯВ-ны Праздзецкі грымнуў два разы ў драўляныя дошкі, выпрастаўся ў сядле і, нібы хорт, пачаў уцягваць носам паветра.

— Бачыш ты, прынюхваецца, — зашапталася шляхта.

Па той бок заварушыліся. Пачуліся крокі. Нехта нябачны пану падкамораму спыніўся, усунуў вока ў шчыліну, патаптаўся на снезе, плюнуў і пайшоў сабе назад. Праздзецкага надзвычай абурыла такая непавага, і ён яшчэ раз грымнуў у брамы, распужаўшы ўсіх варон.

— А каго там д'ябал прынёс? — запытаўся з глыбіні двара, нібы з бочкі, малады незадаволены бас.

— Двух куцахвостых шатанаў, вашэсць: аднаго — дужа кульгавага, другога — надта крывога, — адказаў стары, рыплівы, таксама незадаволены барытон.

Пачуўшы такія зухвальствы абодва паны схапіліся за зброю. Кашталян, які ледзь не ўзарваўся ад злосці, склаўся з ружжа ў напрамку голасу. Як толькі перуновае рэха сціхла, пан Праздзецкі набраў у грудзі паветра і пачаў эквісцэрацыю, не дужа выбіраючы словы.

— Хаме, — сказаў ён грозным, выпрабаваным шмат разоў на сеймах і трыбуналах голасам, — лапцюжнік бясхвосты, дубіна сукаватая, здыхліна лядашчая! Клянуся — век вады не нап'юся, з жонкаю не патаўкуся, Пану Богу ні ў касцёле, ні ў полі не памалюся, пакуль цябе, падлу разлезлую, свінню няскрэбеную, не злаўлю, скуру не злуплю ды не напхаю яе саломай. Адчыняй зараз жа вароты! Чуеш!

На што пан Саковіч, а гэта яго барытон пачуў падкаморы, з-за тыну заўважыў:

— Матачкі! Родненькія! Праваліцца мне на гэтым месцы! Падзівіцеся на яго, мосці панове... Пііп з канапель — вытыркнуўся! Раскрычаўся! Кажа, што пан, ды гразёю напхан! Паны — па тры ў штаны! У нас у Нясвіжы, хоць людзі й хіжы, такімі балота гацяць. Няхай табе ў бок дуга, а я табе не слуга! Зараз як выйду за вароты, як задам перцу з харнапіксам — пад вадою не схаваешся, бацьку з таго свету пазавеш, даведаешся нат пра тое, куды Макар цялят не ганяў. Паляціш торчкі галавою, папаўзеш на карачках, сваіх не пазнаеш! От то цо ест!

Падкаморы спалохана агледзеўся і, нацягнуўшы цуглі, падаўся назад. Нязломкам, аднак, праявіў сябе ЯВ-ны Агінскі, які гучна запатрабаваў:

— Уладаю гетмана і яго мосці канцлера літоўскага! Ці чуеце мяне, праклятае ахвосце, зараз жа адчыніце вароты і кіньце зброю. Інакш, клянуся ўсімі святымі, ніводзін з вас, падлюкаў, не застанецца жывым!



— Пацалуй каня пад хвост, хамут жыдоўскі, — адказаў на тое патрабаванне пан вахмістр. — «Гетмана» прыплёў, гугнель! Няўжо гэта ён табе загадаў маскалёў па Літве цягаць ды людзей рабаваць!

— Пабачыш, гультайская юшка, скручу табе галаву!

— Сам скруцішся... Мы тут пад Радзівілаўскай харугвай і абаронай Божай трымаемся!

— Калі так, то выходзь каторы! Паглядзім, чыя ўлада мацнейшая — княская ці гетманская.

Пан Саковіч схапіўся быў за шаблю і нават зрабіў рашучы крок да брамаў, як раптам спыніўся, зноў усунуў вока ў шчыліну і ўгледзеў праз яе вялізнага, нібы волата, пана Агінскага, пра якога казалі, што ён адной рукою можа каня ўзняць і цераз дарогу перанесці. «А каб жа цябе паляруш разбіў», — сказаў прыцішаным голасам пан вахмістр і адышоў ад брамаў.

Агінскі тым часам распаляўся ўсё болей. Ён спачатку згадаў усіх д'яблаў, а потым, як апошні гарбар, вылаяўся і сыпануў праклёнамі.

— Паспрабуеш батага! — сказаў. — Ліха тваёй матары! Зараз жа выходзьце, гультаі, нават усе разам! Я вам пакажу, як б'юцца Агінскія.

— Каб ты ў ліхаманцы біўся, пудзіла паскуднае! — адказаў яму пан Міхал.

— Каб ты за грошы павесіўся! — дадаў шляхціц Юрага.

— Каб у тваёй галаве дзяцел чарвякоў вышукваў, — не змаўчаў і Міцкевічаў пахолак, за што атрымаў ад гаспадара ў каршэнь.

— Вось як! — знайшоў што адказаць на такія зычанні кашталян. — Ведаў я, што з хлопамі маю справу, а зараз яшчэ раз пераканаўся!

— Каб тваё мяса крумкачы склявалі! — не вытрымаў нарэшце і стары Мацей. — Каб цябе шатаны на шматкі парвалі, як ты добрых шляхціцаў зневажаеш.

— А хто там такія? — запытаўся грозным голасам пан Праздзецкі.

«Дабрыньскія [пачулася з усіх бакоў. — *Т. К.*]. Чачоты. Міцкевічы!»

— А-а-а! — тоненькім галасочкам, нібы каласочкам, страпянуў паветра ЯВ-ны падкаморы і падліў масла ў агонь, згадаўшы testimónium paupertátis[237] шляхты. — Галадранцы пайшлі ў танцы, галабокі пайшлі ў скокі! Шляхціцы — адна хата ды і тая без сцен! Калі вы сталі шляхціцамі, хамы?

— Chamy? — закрычаў у адказ Ян Дабрыньскі. — Nam urodzonym, nam wielmożnym, do złotych swobód wzwyczajonym! Такое казаць! Ja z kniaziów! А ты? Ты — z pradziadów chłopów uszlachcony, urodzony z ojca kruka, matki wrony.

[237] Крыўднае сведчанне аб ўбостве (*лац.*).

— Szlachta zagonowa — jeden kradnie, druga chowa![238] — перапыніў ЯВ-ны Агінскі.

— Kiedym został szlachcicem? Sam Bóg to pamięta![239] — абурыўся пан Мацей Дабрыньскі.

— Трантамі трасіце ды ў карчму нясіце, хамы. Ідзіце з віламі гной кідаць! — не суцішваўся пан Агінскі. — Хто тут з вас не зломак? Выходзьце, калі шляхціцы!

У адказ на тыя словы адчыніліся брамы з такім стогнам, нібы спачатку тысяча баб разам загаласіла, а потым яшчэ і ўзвыла тысяча ваўкоў. Пад носам Трокскага кашталяна нечакана з'явіўся Міцкевіч — з шабляю на плячах, чорны, як чорт, і злы, як войт. Агінскі спачатку стаяў на адным месцы, бы ўкапаны, але калі да Ваяводы засталося якіх два ці тры крокі нервова нацягнуў цуглі і падаў каня назад — злякаўся. Між тым пан Ваявода ветліва павітаўся.

— Salve, ягамосцям, — сказаў, — тое, што вы мяне, абываценя Навагрудскага ваяводства і шляхціца спакон веку — з часоў Палемона, да хамаў залічылі — тое няхай сабе: дарую! Але тое, што вы па-гайдамацку пад чужы двор пад'ехалі і парушылі спакой паважанага дома — тое вам на пагібель.

— На пагібель табе, Ваявода, — адказаў падкаморы, пазнаўшы Ажэшкавага дваранiна і ў імгненне вока выхапіў з рукава тонкі, бы змяінае джала, літоўскі нож. Такім чынам, res ad triários rédiit[240]!

Нават не зварухнуўся Міцкевіч у той момант, калі стальное лязо пранеслася ля самага яго вуха. Але толькі саксонская кабыла ЯВ Праздзецкага падалася наперад, у імгненне вока шляхціц адскочыў, схіліўся ледзь не да зямлі і з усёй моцы ўдарыў шабляю па пярэдніх нагах жывёлы. Страшны, амаль чалавечы крык агаласіў наваколле, кабыла ўзнялася на заднія ногі, задрыгала абрубкамі і ў агоніі болю павалілася на снег, прыціснула гаспадара. ЯВ-ны падкаморы, бы немаўля ў воўчых зубах, толькі жаласна крычаў ды прасіў аб дапамозе. Міцкевіч жа ў імгненне вока наблізіўся да ашаломленага Агінскага і ўдарыў яго плазам шаблі па спіне.

— Скачы, ваша, адсюль, пакуль жывы, — прашыпеў літвін, — скачы сам і маскалёў прыхапі! Qui servit iniquo[241]!

[238] Хамы? <...> нам гербаваным, нам вяльможным, у свабодах залатых хаваных! <...> Я з князёў! <...> Ты — з прадзедаў набілітаваных мужыкоў, народжаны ад бацькі крука, маткі — вароны: шляхта лядашчая — адзін крадзе, другі хавае (*пол.*).

[239] Калі я стаў шляхціцам? Толькі Бог гэта памятае! (*Пол.*)

[240] Справа дайшла да кулакоў (*лац.*).

[241] Той, хто служыць несправядліваму. Тут — алюзія на службу Агінскага рускім інтарэсам (*лац.*).









# XII
# БІТВА

Oczy zamknę, to się marzy:
Nasze konie, chorągiewki,
Ognie nocne, krzyki straży
I wiarusów naszych śpiewki.
Ocykam się i w ocknieniu
Słyszę głos mego kaprala;
On mię klaszcze po ramieniu:
«Wstawaj! idźwa na Moskala!»[242]

Íедалёка ад апісаных падзей заварушыліся казацкія шыхты. Фон Дрэвіч шпагу «ўверх узняў з фасонам»і па-камандзірску хіснуў ёю: «Агонь паўбатальёнам!» «Цераз сцвалы ўзвілася нітка прамяніста, і з чорных дулаў свіснула куль трыста»[243]. Паў конь Агінскага, зваліўся і кашталян, Міцкевіч жа нырнуў у снег — хоць быў і пан, пацалаваў зямлю. Устаўшы, у рог задуў — сігнал падаў, пачаў вайну.

Між тым на дапамогу хаўруснікам паімчалі яшчэ тры афіцэры ў зялёных з белым мундзірах — уланскага палка. А за імі марудна, без асаблівага жадання, быццам сяляне на паншчыну, тонучы па пояс у снезе, пасунуліся данскія казакі. Яшчэ хвіліна і, здавалася, Ваявода будзе акружаны з усіх бакоў, збіты з ног і пасечаны на часткі. Але ў тое імгненне, калі казакам засталося да Міцкевіча ўсяго на валоў рык, з рыпеннем адчыніліся брамы і на вузкую дарогу выскачыла гусарская язда пана Саковіча.

У паветра паляцела шалёнае гіканне, узнеслася і затрымцела радзівілаўская харугва.

«На пагібель маскалям!» — закрычалі літвіны і, нібы плынь горнай ракі, нястрымана, шалёна ў дзікунскай рашучасці знесці ўсё на сваім шляху, панесліся наўздагон. Відовішча было незвычайным — хіба што «рамансова-таямнічым». У сталёвых панцырах, з пер'ем наззяючых золатам шлемах, у вэлюме месячнага святла, гусары нагадвалі сышоўшых з неба велічных воінаў Одына. А пан вахмістр, які на даўганогім данскім жарабцы скакаў наперадзе, з распатланымі па ветры сівымі валасамі, з узнятым угару даўгім прадзедаўскім кордам, з перунамі ў вачах быў падобны да базіліска.

Такога страху нацярпеліся маскалі ад відовішча той выправы, нібыта ўгледзелі не два дзесяткі гусараў на чале з панам Костусем, а ўсіх д'яблаў трыста разам з самім Люцыпарам.

---

[242] Міцкевіч А. «Pieśń żołnierza».
[243] Міцкевіч А. «Пан Тадэвуш».

Імклівa пранесліся яны міма Міцкевіча і Агінскага, стапталі, як каровы грады, аслупянелых афіцэраў і, нібы ваўкі ў статак авечак, уляцелі ў шэрагі пешых казакоў. Пан Саковіч сек ад вуха, рыкаў, скрыгатаў зубамі і страляў маланкамі з вачэй. Каб гэтак жа стралялі з гармат, даліпан, цэлыя роты клаліся б нежывымі. Гусары працінaлі галовы, збівалі шапкі і крышылі косці. У віхуры кавалерыйскай атакі яны цалкам забыліся пра бяспеку і імчалі ў самае пекла — наўпрост да Дрэвіча, які, разявіўшы рот, сядзеў на кані, нібы загуменная варона на паркане, і з вялікім недаўменнем глядзеў на ўсё, што адбывалася.

Казакі ж перад той «жалезнай плынню» расхіналіся ва ўсе бакі, уцякалі і, як маракі з тонучага карабля кідаюцца ў ледзяныя хвалі акіяна, кідаліся ў выратавальныя сумёты. Але і там — у снежнай пастцы — некаторых даставалі гусарскія шаблі. Так што белае каляднае палатно перад домам пана Гедройца хутка пакрывалася чырвонымі сцяжкамі — акурат як літвінскія ручнікі «на смерць» чырвонымі рунамі, а да неба разам з ваяўнічымі поклічамі ўсё часцей ляцелі жальбы паміраючых.

У першыя хвіліны бойка адбывалася непасрэдна на вузкім шляху, уздоўж яго, а таксама каля брамаў. Казакі «збіліся, таўкліся». У тузаніне дзікай гэтай, як каля брамаў пекла, «няма як нават шабляй размахнуцца»; «страляць не могуць» маскалі і б’юцца зблізку: «Б’е шаблю штык, сячэ эфес, скуголіць, кулак таўчэ кулак, плячо няволіць!»

Перарэзаная на дзве часткі гусарамі пана Саковіча, казацкая пяхота на флангах амаль бяздзейнічала. Левае крыло, угледзеўшы малюнак крывавага жніва ў цэнтры і на шляху, падалося назад, а правае, якое складалася з сотні адчайных башкіраў, наадварот, шмат прасунулася наперад, увайшло нат на дзядзінец, знесла з дзесятак Міцкевічаў і амаль што падступілася да ганкаў.

Дом бараніў сам гаспадар — ЯВ-ны Гедройц разам з двума дзесяткамі слуг і некалькімі шляхціцамі з ліку гасцей. Падпусціўшы башкіраў на адлегласць, з якой можна было разгледзець іх жоўтыя азіяцкія твары, літвіны грымнулі з ружжаў, а потым схапіліся на шаблі.

У пісара літоўскага сарматаў кроў уваскрэсла, якая некалі Альгерда, Вітаўта над іншымі ўзнесла. Біў хвацка ён, заўжды зацята, на тое і першы быў у ваяводстве забіяка. Ледзь толькі грымнуўшы з двуруркі, Гетмана Вялікага Літоўскага прэзента і добрага, ангельскай якасці, патэнта, убачыў, як два гультаі задралі ногі, і з ног усіх пусціўся да стадолы, там афіцэр крычаў, як войт на селяніна, змушаў башкіра да вайны, камічныя паказваў міны і шыхтаваў рады. Склікаў усіх наўкола. Шыпеў: «Спыніце бой дурны і бесталковы, дзе ўсе без стрэлу паскладваюць галовы!» «Злы афіцэр быў, што страляць не можа, бо ў таўчэчы свайму, замест чужога, усадзіш кулю ў плечы».



Прыгледзеўся Гедройц да афіцэра і спалатнеў: «Халера!» То Рыкаў быў, а побач з ім Круцілаў-Плут, абодвух у ёўні разам з іншымі замкнулі і слугам загадалі вартаваць належным чынам, каб нат ні чхнулі. Але ў таўчэчы, у блытаніне вартавыя паўцякалі, палонных у турме не ўпільнавалі.

Угледзеўшы сярод натоўпу маскалёў свайго крыўдзіцеля — маёра, Гедройц узвыў, як ваўкалак, і з новым ваяўнічым запалам паляцеў у атаку, каб найхутчэй ушыцца ў бойку і там дзейнічаць, як раней продкі — секчы і біць «гасцей», расшкуматаўшы іх у ашмёткі. У руках пана пісара была такая вялізная катаўская сякера, ад аднаго выгляду якой у ворага спынялася кроў. Даўгім і шырокім лязом пан Гедройц пачаў збіваць галовы, як гарлачы з частаколу. Услед за ім пасунуліся гайдукі з віламі і косамі, пакідаючы па сабе жахлівыя крывавыя сляды.

— Стройся! Гэй, ка мне! — выкрыкваў Рыкаў, але яго каманды нікнуць сярод крыкаў.

У адчаі капітан выхапіў шаблю і пайшоў насустрач ворагу. «Маёр» — крычыць, але таго і след прастыў — схаваўся за дрындулькай і там, скуголячы, сядзеў сабачкай-карыулькай. Вусамі толькі варушыў — як таракан, ды вочы закрываў — як непрытомны. Шукаў яго й Гедройц. Ён шлях праторваў вольны — направа і налева, сціраў штык са ствала, як кнот са свечкі, маскоўцаў скуб, як шэрсць скубуць з авечкі.

Пад брамамі «тым часам шляхта рускіх біла». З Міцкевічаў крывы, ды біткі пан Крапіла, з ім Сак, Мацей стары, Прусак, Канонік, Члян — канюшы Радзівіла, Валенты Аглабля, падсудак навагрудскі, Юрага, Брытва і Шахран — былы маршалак слуцкі: «Той рэжа напалам, а той галовы трушчыць. Так, як машына, што германцы збудавалі, а потым малатарняю назвалі».

Не шкодзіў сваім і пан Адам Міцкевіч, які спачатку схапіўся з Агінскім, ды хутка мусіў адступіць і біцца ўжо з рудабародым казакам — майстрам над майстрамі «праклятым ляхам» кроў пускаць, вывозіць іх дабро вазамі. Трымаў казак шпантон — сякеру з пікай, «якая і цяпер бытуе ў флоце, а ў той час сустракалася ў пяхоце». Махаў шпантонам той казак, як млын крыламі, быў велiканам ён між маскалямі, ды аступіўся небарака, уперад нат падаўся і ў хвілю тую з жыццём развітаўся. Ды Ваявода перамогу не святкуе — яго яфрэйтар справа атакуе: юнак зусім — ды гэтакі заўзяты — сын двараніна з Пецярбурга — знатны і багаты. Ды і яго пагібель не мінула, кроў юнака на снег, як піва з бочкі, пырснула-лінула! «Літва! Наперад!» — крыкнуў у запале і сам падаўся побач з Мацямі — старога Мацяя двума сынамі — утрох яны як мор прайшліся між шыхтамі — нікога не мінулі, секлі і каралі.

Плячо ў плячо ішлі пан Міхал ды Янук Дабрыньскі — адзін касіў касой, другі мячом, бы перунамі, бліскаў. Яны ўдвух — як павукі на столі, спачатку блыталі, затым калолі: выкідвалі наперад джалы-шаблі,

нібыта насядалі — наскоквалі імгненна, білі і ўцякалі, цікуючы здалёк, ці яшчэ жывыя іх ахвяры.

Мацей стары, яшчэ ён Когутам празваны, — што ў Добрыне пануе над Мацькамі, — жаўнер, герой раней — кардаш над кардашамі, а зараз — толькі «пень, багаты што грыбамі». Яму на карак наступае прапаршчык вусаты — сячэ і коле — упарты і заўзяты. Мацея цісне, гоніць, а той — не здыхае, «адно сябе бароніць». Убачыўшы старога ў небяспецы, Юрага шляхціц стрэліў маскалю ў плечы — не схібіў, хоць і не забіў — параніў. Мацей завяршыў, трызну над казакам справіў. А далей — болей: за шляхтай гурмы маскалёў, за маскалямі — шляхта, наперадзе гусары біліся ўпарта, а за гусарамі ізноў — стаялі маскалі шырокаю сцяной.

На шляху і ў цэнтры перамога была за ліцвінамі. Фон Дрэвіч пабег, нібы жару ўхапіўшы. Без камандзіра казакі ніяк не маглі выбудавацца ў шыхты і арганізавана супрацьстаяць радзівілаўскім гусарам. Паасобку яны спрабавалі бараніцца, але гінулі найчасцей пад капытамі коней. Услед за гусарамі сунуліся Чачоты — з дзесятак дужых, адзін у адзін, хлопцаў — яны завяршылі разгром, забіваючы недабіткаў і руйнуючы апошнія спробы абароны.

Нягледзячы на часовы поспех, агульная сітуацыя ўсё ж была складанай. Найперш схамянулася і падалося назад левае крыло на чале з тым самым есаулам, якога не паспеў павесіць Міцкевіч. Супрацьстаяла ім усяго з дзесятак стралкоў з ліку Дабрыньскіх. На правым флангу башкіры Рыкава шалёна насядалі на пана Гедройца, і бойка ўжо адбывалася на лесвіцах і ў пакоях дома.

Башкіры біліся зацята — невялікія ростам, тонкія, кволыя, але спрытныя, яны кідаліся на ліцвінаў і абступалі іх падобна да таго, як ваўкі абступаюць коней. Нястомна атакавалі і, дасягнуўшы поспеху, агаломшвалі наваколле гучным «Алла-а!». Так, пад іх шалёным напорам адзін за другім палеглі паны Суліструоўскі і Жавускі, Вільбік, Ісаевіч. Не мінулі свайго лёсу і пяцёра Гедройцавых гайдукоў. Аднак пісар хоць і адступаў, але змагання не кідаў і біўся па-ранейшаму адважна.

Разумеючы небяспеку, Міцкевіч даў загад гусарам адступаць. Жалобна прагучаў паляўнічы рог, і выкшталцоныя жаўнеры спрытна павярнулі коней у адваротным кірунку. Чачоты расступіліся, прапусцілі вершнікаў, а потым і самі падаліся ўслед, адбіваючыся ад насядаючых казакоў.

З новай сілай бітва закіпела на дзядзінцы. Гедройц крутнуў сякерай — ажно паветра ўзвыла. З Гедройцам побач біўся пан Крапіла. Удвух яны — такое вытваралі, пра што ў газетах нат і не пісалі: пан пісар сек, Крапіцель — тоўк, затым наадварот — Крапіцель — сек, пан пісар — тоўк. Пан Міхал з Янам Добрыньскім мясілі, бы цеста ў дзяжы, клінкі ў маскалёў садзілі. Кап'ём арудаваў Сак — як той шавец іголкай — сшываў казакоў нібы ніткай тонкай — чырвонай ніткай, кроўю фарбаванай. Валенты пан дубінаю драўлянай, бы булавою б'е, — узад і ўперад — не шкадуе, гурты забітых на зямлі фармуе.



«Хістацца сталі» тут казакі! Бягуць, бы зайцы, небаракі. Ды Рыкаў ім дарогу заступае, з палову батальёна ля сябе збірае. Крычыць: «Да зброі!» Па загаду капітана ўміг зброя хруснула даўно панабівана. «Цэль» — вымавіў: ствалы заззялі шнурам. «Агонь чаргой» — б'е стрэл за стрэлам! І ўжо наперад рушылі за афіцэрам, зацята зноў з «палякамі» сякуцца, у дом, як свінні да карыта з ежай, пнуцца. Ды тут гусары, нібы сокалы з аблокаў, зляцелі з флангаў, абступілі з бакоў — сякуць і рэжуць зноў без стомы, кладуць забітых як снапы саломы.

Пан Рыкаў зноў карэ з салдат фармуе, крычыць, сіпіць, рукамі знакі падае, нібы мастак, малюе. «Шыхтуйся [крыкнуў. — *Т. К.*], хлопцы, разам, жвава! І ўміг уся шарэнга са штыкамі стала. Хінецца, прыбаўляе кроку». У гусараў рад упіваецца з налёту. Нізрынуты пан Костусь, два гусары збіты — крывёю, бы вадою мёртваю, абліты. Яшчэ забіты Сак, паранілі Чачота, абодвух Мацяёў, Юрагу збілі з плота. Цяпер ужо хістацца стала шляхта. Зброю ж не кідае і да стадолы разам адступае.

Напэўна б шляхта маскалям не дала рады, каб не галас той кананады. Гармата, што цішком сабе стаяла, агнём карцечным роты збіла-змяла, маскоўскія прарэдзіла рады, пусціўшы з дымам узвод, а можа, і тры.

Праз столькі год нат цяжка разабраць — каго героем лепш за ўсё назваць. Ці Міхал, ці Мацей, ці можа Пётр Дабрыньскі, або Кароль, ці Члян, ці можа Ян Жалінскі. Усе, каго чарты штурхалі ў каршэнь, сабе прыпісвалі той дзень, і славу дня і перамогу. Ды лгуць яны сабе, другім і Богу — фіціль паднёс вялебны бернардзін, а шрот напхаў халоп, халопскі ж сын. Манах і Грышка — дуэт іх адмысловы — маскоўскі патушыў запал вайсковы. Віваты ім, і перамога ім, ды хлоп уцёк, а бернардзін — услед за ім.

Згрудзіліся маскалі, спалохана таўкуцца. То ўзад, то ўперад, то ва ўсе бакі адразу пхнуцца. Ім варта б адступіць ды, залізаўшы раны, якія новыя прыдумаць наступлення планы. Так і было б, каб з-пад дрындулькі не выпаўз Плут накшталт казюлькі.

— Арлы! — крычыць. — Во имя Господа и русского царя — вперёд! Псямаць, псякрэв. Ура!

Штурхае, тузае, бы пугай, шпагай б'е. З шыхтоў вынырвае і зноў у іх нырне. «У душу, Бога, у такую «вашу маць»! Рабяты, — кажа, — будзем наступаць!»

Тым часам Рыкаў батальён склікае, салдат шыхтуе, флангі папраўляе. Дае загад параненых збіраць, страляць і ружжы шпарка набіваць. Стары салдат, ахвяраў не жадае, ён бесталковыя атакі адмаўляе. Загадвае памалу адыходзіць, шыхты за брамамі нанова строіць. Ды Плут крычыць, таўчэ ў спіны — руйнуе рэшты дысцыпліны.

Маскоўскія рады сапраўды нагадвалі вялізны статак. Быццам спуджаныя валы, беглі наперад адны, другія — паказвалі азадак. Усе блыталіся, тузаліся, дарма крычалі, і хутка надта лёгкаю здабычай сталі. Чачоты справа прарэджвалі роты. З прыступак пан Гедройц з трыма Мацькамі — няспынна білі перунамі. А ў цэнтры — пан Тамаш, з Дабрыньскімі гусары — сцяною непахіснай, бы стаўпы з Радоса, сталі. З двururкі біў Міцкевіч вельмі ўдала: «(у манету, ускінутую ўверх, трапляў, бывала), дык немалую ворагу наносіў шкоду: спярша фельдфебеля са строю выбіў з ходу, пасля з двух дулаў двух сяржантаў зразу валіць — цалуе ў галуны або па цэнтры смаліць».

«Дык Рыкаў злы, аж лае матку, нагамі б'е, кусае шпагі рукаятку». «Маёр! — крычыць. — Што робіцца з той банды! Яны ж пакінуць наша войска без каманды!» Дык Плут у адказ крычыць:

— Гэй ты, шляхцюк, маёра слова, «на пляц выходзь, каб біцца ганарова»! Ці варта гэта дваранiна — скажи, стрелять, как вору, из-под тына? Оставь в покое, лях, солдат. Пусть Боги нас рассудят, сабли всё решат.

Міцкевіч, да якога Плут звяртаўся, двурурку кінуў, корд схапіў ды паімчаўся. Бяжыць-крычыць: «Праклятыя маскалі, каб д'яблы вас на чвэрці рвалі! Выходзьце ўсе, ды па чарзе, дам я па мордзе вам, яшчэ й па барадзе!»

— Чакай, — крычыць Гедройц, — ці ж гэта справа, мяшацца шляхціцу ў справы пана?! Старэйшы за цябе я «на три года». Сыдзі з дарогі, Ваявода! Бо кожны ведае, псяюха — не ты, а я забіць павінен зуха! Ён дом абразіў мой, мяне змяшаў з гразёй, дык гэта я яму сплачу крывёй. І, так сказаўшы, узняў сякеру, згадаў псямаць, прыплёў халеру і, быццам лось праз гай з балота, пабег да Плута па сумётах. А той злякаўся — паганы вырадак — за спінай Рыкава схаваўся. Счэз, быццам праваліўся пад зямлю. Адтуль загадвае піскляваe: «Агню! Агню!»

«Дык Гонт («стралок найлепшы ў роце») рыхтуе карабін у той жа хвілі, таварышы яго шынялямі прыкрылі, на пана пісара наводзіць мушку і б'е наўпрост у тулава вярхушку!» Гедройц як аб лясіну спатыкнуўся, у паветра падляцеў, на снезе расцягнуўся.

«Здрада!» — выгукнула шляхта і рынулася, бы ў бітву з сатаною, у бой з маскоўскай штыкавой сцяною. Як на Літве падчас вясны — няма спакою ад вады. Ракі магутныя струмені глытаюць хаты, трушчаць сцены. Так і шляхецкі вал маскалі, хоць біліся мужна, не стрымалі. Ішлі казакі да стадолы, ішлі і падалі паволі. Ужо не снег — адно балота агідна хлюпала навокал. Каго мінала куля — шабля даставала, каса ад цела душы адрывала!

Крывава хрысціць каля хаты Агінскі шляхціцаў заўзятых. Як воўк, акружаны хартамі, ашчэрыцца, блісне, бы джаламі, вачамі. Баіцца шляхта, толькі назаляе — каторы выпхнецца, клінком махне, заенчыць і... уцякае. Прыцісне вушы, лаецца, божыцца, як порах у агні, шыпіць, іскрыцца, а вось каб біцца — хавай Божа з кашталянам біцца! Ужо Тамаш стары Дабрыньскі, Чачоты тры, адзін Жалінскі, два дужых Мацяя вітаюць ключніка Пятра. Янук і Міхал — сябрукі — крычаць: «Агнём яго смалі!»

Адзін схапіўся за ружжо, другі падсоўвае плячо: «Цаляй яму, камрат, у лыч! Праўдзівы д'ябал той паніч». Ды схібіў Ян, бо чхнуў другі — прайшоў свінец ля галавы. Агінскі толькі спатыкнуўся, снег з бот абтрос ды мацюкнуўся. Аблогу зняў — ланцуг разбіў — Міхалу грудзі раскраіў. І мусіць знік бы за парканам, ды ў снег улез — ні ўзад ні ўперад, як кажуць, пан патрафіў у нерат — і мусіў бойку прыпыніць, у шляхты літасці прасіць.

Агінскі быў апошнім, хто змагаўся, але і ён з бядой спазнаўся. Чацвёра з дзесяці — і толькі ўцалела! Як сонца ранкам заяснела, казакі адышлі за брамы, а далей — у лес залізваць раны! Пан Рыкаў з імі — паранены і злы на Плута, на сябе, на тое, што жывы.

Так быў завершаны той бой — чарговы бой Літвы з Масквой.

* * *

Сонца ўставала з-за далягляду цяжка, марудна, нібы паранены з поля бою жаўнер. Скрываўленае, спавітае шэра-блакітнай смугою, яно разлівала чырвань па даляглядзе, пускала барвовыя ручаі, нібы каранi-метастазы, у аблокі і нават фарбавала верхавіны стромкіх, магутных хвояў, якія чапляліся за нябёсы і трывожна гулі разам з Дажджбогавымі ўнукамі — літоўскімі вятрамі. У паветры адчуваўся неспакой, як быццам прадвесце таямніцы, доўгачаканне нейкага высокага і няўмольнага рашэння. Ноч яшчэ валадарыла, як валадарылі і начныя птушкі — совы і пугачы, крукі і вараны, але валадаранне гэта было ўжо прыцішаным, сарамлівым. Нават ваўкі не рызыкавалі галасіць і, прынюхваючыся да паветра, чакалі надыходу дня моўчкі. Саступаючы дарогу сонцу, знікалі адна за адной зоркі, маладзік блытаўся ў аблачынах. Неўзабаве цемень змянілася прыцемкамі, а прыцемкі станавіліся ўсё больш празрыстымі і пагоднымі. Прачыналіся дзённыя птушкі, а разам з імі прачынаўся і зледзянелы, занесены снегам калядны лес.

Сядзібу пана пісара літоўскага апанавала доўгачаканая цішыня. Шляхта адпачывала і рыхтавалася да адступлення. Пан Ваявода разумеў усю хісткасць свайго становішча, бо маскалі, хоць і пераможаныя, але далёка не зломленыя, у любы момант маглі атакаваць. Што было роўным смерці, бо знясіленая, ледзь не на палову выбітая шляхта на гэты раз наўрад ці ўтрымалася б, нягледзячы нават на той нязвыклы ўздым, які прынесла перамога. Літвіны і мазуры кідалі ў паветра шапкі, забыўшыся на старыя звады, абдымаліся і плакалі, як дзеці.

Сам пан Ваявода нічога таго не чуў. Яшчэ надта слабы пасля працяглай хваробы, ён ледзь валачыў ногі і, каб суцішыць шалёны грукат

у грудзях, прытуліўся да стадолы — адпачываў. Брамы, якія вялі ўнутр гаспадарчага памяшкання, былі адчыненыя. Грубыя, з тоўстых, пачарнелых ад вільгаці дошак, яны нагадвалі цмокаву пашчу. Хіба яшчэ, можа, — тую чорную бездань, у якой хаваюцца ад архіанёла Міхаіла пякельныя выпаўзні, злыя душы. На брамках, упіўшыся кіпцюрамі ў шурпатае дрэва, сядзеў важны, надзьмуты крук і, паварочваючы час ад часу галаву, адным вокам касавурыўся на Міцкевіча. «Цікуе, — вырашыў шляхціц, — пэўна памру».

Ваявода паварушыў рукою, але крук нават не страпянуўся, толькі трывожна павёў дзюбаю.

— Кар-р-р-р! — сказаў крук пану Адаму.

— Чаго ты? — не зразумеў шляхціц. — Ты ж ведаеш, пане круку, што я жывы, дык чагоназаляеш, чаго круцішся? Ляці, ваша, на дзядзінец, спраўляй сабе вяселле!

— Кар-рр-рр-р! — зноў паўтарыў крук.

— Мне яшчэ рана! — адказаў чалавек. — Бог сёння тут, на зямлі, мяне пакінуў, дык навошта наперад бацькі ў пекла? Пажыву яшчэ колькі... мо дзяцей нараджу. Яна ж у мяне цяпер ёсць. Цяпер, пан крук, я не адзін! А шатану скажы... няхай чакае.

Крук незадаволена захлопаў крыламі і адвярнуўся. З-за спіны яшчэ раз паказаў сваё чорнае бліскучае вока і зляцеў, разагнаў белае пер’е снегу. На хвілін колькі ўсталявалася цішыня, якую парушыў Грышка. Пахолак з’явіўся з дзядзінца, выцер рукавом пот і, звяртаючыся да Ваяводы, кінуў кароткае:

— Памірае, мапанку!

Міцкевіч пачуў навіну і ўсхапіўся на ногі. З нежаданнем, пераступаючы праз целы забітых, марудна пацягнуўся ў дом. На ганках стаялі, зняўшы шапкі, гайдукі. Пад вокнамі скупіліся сяляне — каля чатырох дзесяткаў ладных дзецюкоў з косамі і віламі ў руках на чале з лідскім маршалкам панам Дамінікам Руднем-Збароўскім з Карэлавічаў, даўнім знаёмым Міцкевіча і добрым ва ўсіх адносінах чалавекам, літвінам паважанага роду. Ваявода павітаўся з ім, сказаў колькі пачцівых слоў сялянам. Пасля ўзышоў на ганак і перайшоў цераз парог дома. У невялічкім, далёкім ад параднага выгляду, цёмным, са старой мэбляю пакойчыку яго сустрэлі Магда Гедройцава — прыгожая белакурая паненка з чырвоным ад слёз тварам — і яе малодшая сястра Ружачка — кірпатая дзяўчынка, нязграбная і дужа спалоханая. Паненкі заломвалі рукі, галасілі і, перашкаджаючы адна адной, аб нечым у адзін голас прасілі, ад вялікага хвалявання блыталі польскую мову з літвінскай гаворкай. Міцкевіч спыніўся, ласкава павітаўся, нешта адказаў па-літвінску і праз сілу пайшоў далей. Мінуў колькі пакояў і патрапіў у залу, дзе таўкліся шляхціцы, лёкаі і кроўныя пана Гедройца.



Наўпрост на драўлянай лаве, пад абразом ляжаў гаспадар дома, над якім схіліўся айцец Марк і шэптам чытаў малітву. Пан пісар паміраў, у сутаргах сціскаючы палы разарванага, скрываўленага кантуша, з хрыпеннем дыхаючы і хістаючы ў розныя бакі галавой. Зрок яго, аднак, быў яшчэ свядомым. Відно было, што пісар пазнае прысутных і ў тое імгненне, калі, здавалася, рука смерці не так горача сціскае яго горла, суцішваецца і нібы шукае некага паглядам.

Ваявода спыніўся недалёка ад лавы і павітаўся з бернардзінам. Манах крадком кінуў вокам, перажагнаўся, нахінуўся да пана Гедройца і прашаптаў яму нешта на вуха. У адказ пісар заварушыў вуснамі.

— Падыдзі, — сказаў бернардзін, звяртаючыся да Ваяводы.

Міцкевіч паслухмяна наблізіўся.

— Я ведаю, — ледзь чутным, але цвёрдым голасам вымавіў пан Гедройц, — ведаю, навошта ты сюды прыехаў, Ваявода. Лічыш мяне мярзотнікам, здраднікам, а сам... — пісар запнуўся і ўляпіў, бы аплявуху, пагляд у Міцкевіча, — а сам...

— Што, вашэсць, сам?

Гедройц шматзначна ўсміхнуўся і хацеў быў нешта сказаць, але зайшоўся ў кашлі. Хвіліны з тры змагаўся са смерцю і курчыўся ад болю, але нарэшце знайшоў сілы, каб працягнуць:

— У яго тая цыдулка праклятая, — хіснуў галавою ў бок бернардзіна і дадаў: — Паслухайся мяне, хлапчыска, не вязі ты гэты ліст да Ажэшкі. Спалі лепей і развей па снезе. Інакш — сцеражыся! Не хацелі мы, каб магнаты ўсё вырашалі, бо шляхта, а не яны — соль і гонар Айчыны. Радзівілы, Ажэшкі, Браніцкія, Масальскія прыватныя інтарэсы пільнуюць, а таму не яны, а вы — шляхціцы — на элекцыі апошняе слова сказаць павінны! І яшчэ аб адным прашу цябе, Міцкевічу... не пакідай, вашэсць, маіх дачушак на людзей, бо будуць помсціць праз мяне ім, а яны ж ні ў чым не вінаватыя! Як неба святое... гэта праўда. Абяцай!

— Абяцаю.

— А напрыканцы скажу табе яшчэ раз: сцеражыся Ажэшкі... Dixi!

Неўзабаве дыханне пана пісара пачало слабець, ён адразу паменшаў, быццам ссохся, і раптам абваліўся на ложку — памёр. Міцкевіч устаў, таксама як і манах перажагнаўся, прачытаў «Вітай Марыя» і выйшаў з пакоя.

А на дзядзінцы адбываўся гармідар. Шляхта гаманіла, шалела, бы піва ў бочцы пенілася, лаялася, спрачалася і пагаджалася. Літвіны, ужо добра падпітыя, цягнулі да яблыні, на якой матлялася пяньковая вяроўка, двух чалавек. Першага — спалатнелага маёра Плута, які спярша схаваўся ў стадоле, а потым, ледзь бойка сціхла, выйшаў на разведку і патрапіў як ліс у аборы. Плут жаласліва енчыў і прасіў аб шкадаванні ў імя Езуса і ўсіх прошлых і прышлых святых. Другім быў «нягоднік» Агінскі. Трокскі кашталян, у адрозненне ад маёра, як мог супраціўляўся

і на ўступкі нат не спадзяваўся. Заўважыўшы Міцкевіча, магутнымі рукамі строс шляхту і крыкнуў apértis tibis[244]:

— Не пакінь без спавядання, Ваявода! Чуеш, пусці ксяндза.

Міцкевіч на хісткіх нагах падышоў да натоўпу, які расступіўся, і запатрабаваў цішыні.

— Bona venia vestra[245], панове, — сказаў Ваявода, — з вялікай павагаю да ягамосцяў і ў імя Божае! Навошта мы, як апошнія гайдамакі, будзем чыніць забойствы?! Facta contra jus non valere[246]. Даверым спраўдзіць суд Яму, які зараз глядзіць на нас і горка плача па нашых душах. Няўжо мы гэтак зняверыліся? Літвіны! Нашто дарма ліць кроў? Годзе яе і так...

Шляхта наставіла вушы, суцішылася.

— І даравацъ нельга. Няхай бы маскалі гайдамачылі, але ж свае... Толькі ўсім вядома, што culpam poena permit cones[247]. Каб кожны круцель — ад Ліды да Варшавы — памятаў пра гнеў Боскі, мы іх будзем судзіць па-хрысціянску. Грышка!

На покліч Міцкевіча з’явіўся пахолак, які трымаў у руках два ружжы.

— У адным з іх смерць, у другім — жыццё [сказаў Міцкевіч, звяртаючыся да Плута. — *Т. К.*]. Выбірай motu proprio![248]

У вачах маёра адлюстраваўся звярыны страх, ён патаптаўся на адным месцы, доўга скуголіў, але нарэшце ружжо ўзяў і шкадлівым, ліслівым вокам паглядзеў на пана Ваяводу.

— Памілуй, ваша!

— Ідзі за стадолу, Плут! І няхай Бог цябе прабачыць! — адказаў Міцкевіч.

Плут, абціраючы кроў з разбітых вуснаў, хістаючыся, на дрыготкіх нагах пайшоў за стадолу. Шляхта, стаіўшы дыханне, нецярпліва чакала. Нарэшце лязгнуў узведзены курок, пачулася агіднае хныканне Плута. Страх, які адчуваў здраднік, здавалася, чорнай, мярзотнаю юшкаю разліўся і атруціў празрыстае марознае паветра. Хвіліна бегла за хвілінай, а Плут усё не адважваўся спусціць курок.

— Ці доўга будзеш важдацца, паскуда? — прыспешваў яго пан Ян.

Плут нешта адказаў, але такім пісклявым, такім ціхім голасам, што нельга было ні пачуць, ні зразумець яго слоў. Так звычайна пішчыць парсюк, якога селянін выцягвае з калюжыны за вушы і выспяткамі пхне ў свіран. Нарэшце пачулася бразгатанне: жалеза ўдарыла аб жалеза.

[244] На ўсё горла (*лац.*).
[245] З вашага дазволу (*лац.*).
[246] Здзейсненае насуперак закону — незаконнае (*лац.*).
[247] За правінку чэшуць спінку (*лац.*).
[248] Тут: сваёй рукой, самастойна (*лац.*).



«Et fiat volúntas tua»[249], — сказаў ледзь чутна пан Міцкевіч і сціснуўся ў прадчуванні гучнага стрэлу. Але...

«Каб цябе паляруш разбіў! — загула расчараваная шляхта. — Такі гад, што нават чорт яго не ўзяў!»

Пад кпіны і здзекі з-за стадолы белы, як снег, вывалакваўся ледзь-ледзь жывы Плут. Спыніўся ён насупраць пана Ваяводы і пляснуўся на калені.

«Памілуй!» — паўтарыў чарговы раз маёр.

Ваявода здзіўлена пагледзеў на пахолка, а потым з прыкрасцю кінуў вокам на Плута. Не ведаючы, што чыніць далей, патаптаўся на адным месцы і толькі наважыўся сказаць слова, як з натоўпу выбег зацяты Дабрыньскі і ў імгненне вока маланкаю крутануў катаўскаю сякерай пана Гедройца... «швах-х-х!»

Галава Плута, які і ёкнуць не паспеў, адляцела, быццам макавая кветка з тычкі.

Шляхта стаяла як перуном працятая. Пан Міцкевіч — заліты крывёю, якая пырснула, быццам вада з радзівілаўскага фантана, ашалела азіраўся навокал і толькі паўтараў: «Навошта, ягамосці? Навошта?!»

— Порах падмок, мапанку, — знайшоў што сказаць шляхціц і дадаў: — Jakie życie taka śmierć. Missia est![250]

Між тым грамада сяк-так ачаломкалася і гучным галасам прывітала пана Дабрыньскага. Відавочна, што чарга была за Агінскім...

Трэба сказаць, што смерці магната чакалі ўсе, а асабліва моцна — пан Ян, які да болю ў сэрцы жадаў адпомсціць за смерць Міхала Міцкевіча, свайго найлепшага сябра і калегі. Не першы раз на Літве вяльможны пан гінуў ад рукі ўбогага шляхціца. Згадаем хаця б смерць Сапегі падчас канфедэрацыі Міхала Коцела ў 1701 годзе. Тады край захлынуўся грамадзянскай вайной. Але шляхта свайго дапяла — сплаціла магнату за крыўды, так, як яму і належала. Канешне, тады быў здзейснены варожы Пану крымінал, аднак зараз справы паварочваліся зусім інакш, бо Агінскі — дзяржаўны злачынца і здраднік. Ведаў пра гэта Міцкевіч, але з загадамі марудзіў.

— Veto! Мосці панове, не можам мы яго пакараць, — сказаў нарэшце пан Ваявода, — бо ён сенатар Рэчы Паспалітай, а таму ex consuetudine[251] падсудны толькі сейму. Перададзім яго ў рукі Ажэшкі, няхай ён сам лёс гэтага круцяля вырашае. І будзе гэта lege![252]

— Маніфестуем! — закрычалі Дабрыньскія.

— Няма згоды! — выгукнулі Чачоты.

[249] І хай здзейсніцца воля твая (*лац.*).
[250] Усё скончана! (*Лац.*)
[251] Паводле звычаю (*лац.*).
[252] Паводле закона (*лац.*).

Змаўчалі толькі Міцкевічы, якія, аднак, з вялікім здзіўленнем і нават недаверам паглядалі ў бок кроўнага.

— Dixi! Мосці панове, — сказаў суровым голасам Ваявода, — на сёння годзе ўжо крыві! Не мы і не я, але Бог і Рэч Паспалітая няхай яго судзяць.

## XIII
## КАЗАННЕ. ТЭАТРАЛЬНАЕ ВІДОВІШЧА. ПАДЧАШЫЧ. ВЯРТАННЕ ШЛЯХЦІЦАЎ У ЗАМАК. БАЛАДА. ЭВА АЖЭШКАВА

Õацяі са спазненнем... але brevi manu[253] у замку пачыналася калядная ілюмінацыя. Праз столькі год пан Людвік Кандратовіч-Сыракомля не без здзіўлення пра яе напіша: «Як ліхтарня, палац ззяе сотнямі свечак, толькі лой аплывае, езуіцкі пан рэктар расквечвае вечар, феерверкі пускае». А напрыканцы са шкадаваннем дадасць: «От, вядома, шалеюць з раскошы магнаты, шум і смех у палацы, плацяць плачам за гэта змарнелыя хаты, плацяць чорнаю працай». Памяць пра тыя даўнія і нечуваныя зараз панскія забавы, паляванні і баляванні, вясёлыя ігрышчы, дзівосы і частункі жыве ў народзе і, напэўна, жыць будзе яшчэ доўга. Бо ніколі на Літве не смажылася адразу столькі птушак, не забівалася ў пушчах столькі дзічыны, не гатавалася ўсялякай усячыны — старапольскія зразы, баршчы, халаднікі, мяды, бігасы; французскія супы à la Julienne, Filets de boeuf, Sauté dans sa glace, Rognons au vin і etc. Далібожта, Ажэшка «пэўна мора меў грошы, не чувана нідзе дый не бачана гэткай раскошы»!

Распачаў фэст, як гэта і прынята ў добрых дамах, ксёндз-правінцыял недзе а шостай вечара з імшы ў касцёле каля замка. Пазбіралася ў ім шмат вядомых абывацеляў нашага Краю, сярод якіх былі і ягамосці ліфляндскі ваявода Францішак Шэмбель, пінскі абозны ЯВ-ны Ігнацы Пратасевіч, пінскі мечнік Людвік Орда, ягамосць Марцін Марыконі, які заступіў месца пана Гедройца і праз год зрабіўся пісарам Вялікім літоўскім і страшэнным ворагам Нясвіжскага ардыната, бо спрычыніўся да смерці яго сябра і калегі па альбенскай бандзе — пана Ігнацы Валадковіча.

Былі там таксама і ягамосці Павел Кунцэвіч, гродзенскі краўчы і добры выпівоха [прывітай яго Пане. — *Т. К.*], літоўскі харунжы Ян Красінскі, славуты паляўнічы і стралок; віцебскі падсудак Анджэй Вішчыцкі, а

[253] Тут: знянацку (*лац.*).



таксама і Міхал Рэйтан, брат будучага «літоўскага Катона» Тадэвуша Рэйтана, неблагі таксама чалавек, хоць і палівода, якіх мала.

На першых радах у касцёле сядзелі багатыя і вяльможныя паны разам з жонкамі і дзецьмі, далей — шляхціцы сталага ўзросту і паважаныя ў павеце, маючыя заслугі перад Рэччу Паспалітай, за імі месціліся ўсялякія нахлебнікі, якія карміліся з ласкі Ажэшкі, і толькі потым паўз сцены стаяла шляхта.

Ксёндз прамаўляў казанне. Згадаўшы цела і кроў Хрыстовы, спачатку запатрабаваў ад прысутных любасці і пакоры, бо «prawo to święte na ziemi i niebie: «Kochaj bliźniego jak samego siebie», потым спыніўся на роўнасці і аднолькавай адказнасці за грахі перад Богам. Напрыканцы звярнуўся да апякункі нашай Рэчы Паспалітай з дужа пекнымі словамі. І вельмі шкада, што іх ніхто не слухаў.

«Niebieskiego dworu Pani, — палка казаў ксёндз, — do Ciebie z płaczem wołamy, litości Twojej żądamy. Matko, ty najbliższa Twego Syna, powiedz Mu o naszej doli. Matko, patrz na stan nasz, nie na winę».

Шляхта пераймалася іншым — жывілася ўражаннямі ад незвычайнага тэатральнага відовішча, перашэптвалася і гула, як цэлая хмара шэршняў. Але і згадаць было пра што... Спачатку чароўная Анэлька, дзяўчынка puélla cycno[254], танчыла так гожа, так натхнёна перабірала ножкамі, што стары Войцах Пясэцкі, былы Возны трыбунала і цяперашні маршалак ваўкавыскай шляхты, ажно слязу пусціў — так расчуліўся. Не шкадавалі сябе і італьянскія музыкі. З’явіліся яны ажно са Слоніма і прывезлі шыкоўныя падарункі ад пінскага старасты ЯВ Міхала Казіміра Агінскага. Хвацка выконвалі гуллівыя мелодыйкі, ад якіх ногі самі па сабе пускаліся танчыць, а таксама высокія адычныя канты і уланскія маршы.

Нашыя навагрудскія жыды, verbum nóbile[255], на вяселлях граюць не горш, можа, толькі крыху цішэй, бо італьянцы ашаламілі ўсіх нязвыклым галасам, выццём, рыканнем і бразгатаннем такім, што хоць вушы затыкай. Асабліва расхадзіўся бубен. Мажны, сталага ўзросту музыка з такім запалам стукаў у яго, што, здавалася, трэслася паветра, а спакуслівыя грудзі пані Каралінкі калаціліся і хваляваліся так, што, joco remóto[256], уводзілі ў грэх прысутных у зале панічоў.

Пасля гэтак цудоўна аздобленай «сялянкі» пышна прыбраныя лёкаі з Ажэшкавымі «паўкозічамі» на галунах прынеслі густых, каб на іх ліха, літоўскіх мядоў, шыкоўных венгерскіх він, гады на два мо маладзейшых за пана Войцаха. Слонімцы схаваліся, але іх месца заступіў мурын — чорны,

[254] Як лілея (*лац.*).
[255] Слова гонару (*лац.*).
[256] Без жартаў (*лац.*).

бы ў печы смажаны, «чорт». Стаў ён сабе пасярод залы дый пачаў выраб-ляць такія штукі, ад якіх узняўся яшчэ большы вэрхал. Мурын глытаў шаблю, як цмок, пускаў з пашчы агонь і вылузваўся са скуры не горш за змяю. Смеючыся і пляскаючы ў далоні, падпітая шляхта не забывалася larga manu[257] страляць у столь, так што хутка залу зацягнула парахавым смуродам і густым дымам.

Па ўсталяванні цішыні трупа Ажэшкавага тэатра распачала модную ў тыя часы камедыю ягамосця пана Францішка Багамольца[258] — шлях-ціца з-пад Віцебска, бацька якога з маім бацькам разам пад адной харугвай хадзілі і шмат славы сабе і нашаму ваяводству здабылі, але не пра тое размова. П'еса пана Багамольца мела назву «Каханне паводле календара».

Спачатку на пляцоўцы з'явіліся дзве кабеты — адна, прыбраная, як варшаўская паненка, зацна і прыгожа, другая — больш сціпла, але таксама па апошняй модзе. Нават пані Каралінка Сабяшчанка, даліпан, не магла пахваліцца такімі файнымі спаднічкамі ды шалікамі. Вось жа я і кажу, пане дабрадзею, выйшлі гэтыя кабеты ды пачалі адна адной на жыццё скардзіцца. А справа ў тым, што Эліза, паненка з нашай літоўскай правінцыі, закахалася ў аднаго дужа багатага і вяльможнага чужаземца. І ўсё б нічога, ды пан Старушкевіч, яе бацька, пастанавіў не аддаваць цурку ў людзі. Навошта, сапраўды, шукаць жаніхоў за морам, калі сваіх хоць балота гаці. Знайшоў ён для Элізы куды лепшую пару — шляхціца са старажытнага і паважанага ў нашым ваяводстве роду. Праўду сказаць, кожны бацька вырашыў бы гэткім жа чынам. Ды і якая дачка ўздумала б пярэчыць бацьку? Як той казаў, кабета, твая рэч — глянь у печ! І дзякуй Богу, што на Літве старога звычаю пакуль яшчэ трымаюцца і слова бацькі паважаюць ex cathedra[259], у адрозненне ад Кароны, дзе даўно ўжо іншым звычаем жывуць.

Шляхта ж той п'ескай была моцна ўражаная. Ягамосці шапталіся, раіліся, разважалі над тым, чаму пан Францішак захацеў, каб літоў-ская паненка закахалася ў чужынца, ды яшчэ, даруй Божа, у немца. Ажно пасля з'яўлення яе жаніха — пана Марнатраўскага [nomen est omen[260]. — *Т. К.*] — усё праяснілася.

Адшукаў пан Старушкевіч такога ёлупня і гультая, якога ў нашай літоўскай правінцыі напэўна ўжо больш не будзе: раллі не пільнаваў,

[257] Шмат разоў (*лац.*).

[258] Багамолец / Bohomolec Францішак (29.01.1720–24.04.1784) — польска-беларускі драматург, публіцыст, асветнік. Адзін з пачынальнікаў рэформ у Рэчы Паспалітай. Стаяў на чале партыі рэфарматараў у галіне асветы (т. зв. «кузніца Багамольца»). Фальклярыст. Рэдактар.

[259] Без пярэчанняў (*лац.*).

[260] Імя, якое гаворыць само за сябе (*лац.*).



бацькавы вёскі па варшавах праездзіў, быў гол як сакол і ў даўгах як у шаўках: «non vitia nóminis, sed vitia saéculi»[261]. Кіраваўся той Марнатраўскі хітрасцю, нахабствам, разлікам і падступнасцю. Невядома нават, ці варта было такога прайдзісвета называць шляхціцам, але пан Францішак на тым якраз і зрабіў акцэнт, давёў, што ўсё зло ад шляхецтва паходзіць. Саслоўе, якое больш ад іншых заслуг перад Рэччу Паспалітай мела, выставіў у такім адмоўным святле, што нам, літоўскім нобілям, ад сораму не было куды падзецца.

Няма чаго хаваць: апошнімі часамі з'явілася шмат такіх махляроў, якіх і людзьмі назваць цяжка. Як блохі, распаўзліся яны па Літве, зба-ламуцілі маладзёнаў, увялі новыя моды і туалеты, выдумалі газеты і брашуры, pro domo mea[262] штурхалі людзей да чорнай бездані паняверкі. Такім быў і Падчашыч, пан са славутага некалі, але заняпалага зараз роду Кішак. Ён першым «у нас стаў жыць па чужаземнай звычцы»: ездзіў на двухкольнай дрындульцы — «замест лёкаяў сабачак ззаду пара, на козлах немец, як драўляная пачвара», а на нагах у немца два камашы, на галаве — парык, а ў руках трасціна, сам гонкі і тонкі, бы ссохлая лясіна. «Падчашыч аб'явіў, што новыя рэформы праводзіць будзе, дасць жыццю другія формы, тлумачыў, што ў той час французскія пісакі адкрылі, быццам людзі між сабой аднакі»[263].

Аднак у хуткім часе «панічык» з'ехаў у сталіцу, зямлю прадаў, а сялян пакінуў камісарам на здзек. Бог так захацеў, каб у Варшаве Падча-шыч згалеў, змарнеў і жыў адно толькі падманам ды махлярствам. А да ўсяго яшчэ распаўсюджваў нядобрую славу пра наша ваяводства.

Як прыкра было, калі сандамірац ці варшавянін з усмешкаю пытаўся: «А ці не вашага ваяводства пан Кішка?» «Нашага» — адказваеш і за шаблю хапаешся, бо ведаеш, чым размова можа завершыцца.

Колькі з-за таго баламута літвіны нацярпеліся — адзін Бог толькі ведае. Вось і вырашыў нехта, што за постацццю Марнатраўскага сам пан Кішка хаваецца. Перакананне гэта ўзмацнілася пасля таго, як Марна-траўскі пачаў да Элізы заляцацца ды такія фіглі выдумляць, што вушы балелі слухаць. Акурат як Падчашыч, калі дачку пана Суддзі ачмураў. А яшчэ быў ён прыбраны па французскай модзе — у рудым парыку з касічкамі, шлафроку ды тых самых, д'ябал іх бяры, нямецкіх камашах, у якіх так любіў лёкай пана Кішкі па нашым павеце расхаджваць.

І вось, ваша, выходзіць гэта пан Марнатраўскі ў тых камашах, дзь-мецца як не парвецца, важны як пан нехлямяжны. Спыняецца пасярод залы дый кажа:

[261] Заганы не чалавека, а веку (*лац.*).

[262] У асабістых інтарэсах (*лац.*).

[263] Міцкевіч А. «Пан Тадэвуш».

«Mam z łaski niebios dosyć swego. Oto i teraz komisarz mój pisze ze Gdańska, że za moje towary zebrał tam czerwonych złotych pięć tysięcy. Oto i list własną jego ręką odpisany».

І толькі пачалі мы разважаць, за якія такія вартасці пан Марнатраўскі такі шыкоўны прэзент мог атрымаць, як з глыбіні залы пачуўся бас пана Гарабурды:

— Мацер Боская! Падчашыч... Пачвара! Юда!

На што пан Войцах, якому пан Кішка быў вінен не адну тысячу злотых [гэта цяпер дурні перавяліся, каб пазычаць, а тады было іх шмат. — *Т. К.*] і які яшчэ не астыў ад злосці, адказаў стрэлам і, не зважаючы на паненак, гучнай лаянкай. Бедны Лойка, актор, якога я добра ведаў, не зразумеў, пра якога Падчашыча ідзе гутарка, але ўбачыў колькі аголеных шабель, спалохаўся, схапіў лахі пад пахі дый даў лататы. Шкада толькі, не было яму куды ўцякаць. Паторкаўся Лойка ды нарэшце паспрабаваў схавацца пад дубовым сталом, які стаяў крыху збоку, але таксама на пляцоўцы.

— Хапай круцяля за камашы, — крычаў пан Пясэцкі і апантана сунуўся па галовах прысутных ягамосцяў.

Апярэдзіў яго пан Ліпскі, які быў п’яны і лыка не вязаў, а таму, хоць і ведаў Лойку, таксама прыняў яго за Падчашыча і за чупрыну выцягнуў на свет Боскі.

— Даўно я хацеў цябе бачыць, — казаў пан Войцах, казычучы шыю беднага акцёра лязом шаблі, — нешта, пане дабрадзею, абмінаеш нас, страціў цікавасць. Мо пакрыўдзіўся на што? Га?

Нешчаслівы Лойка дарма даводзіў, што ён ніякі не Падчашыч, згадваў усіх сваіх кроўных з засценка Броннікі (недалёка ад Навагрудка), кляўся і бажыўся, прысягаў нат на круцыфіксе Езуса, чым яшчэ больш разззлаваў пана Пясэцкага, які ўжо выцягнуў аднекуль вяроўку і пастанавіў «круцяля» павесіць.

Тым бы ўсё і завяршылася (ці першы раз!), каб не гучны галас вартавых, якія звычайна папярэджвалі аб вяртанні ў замак гаспадара. Шляхта пакінула «Падчашыча» ў спакоі ды пасунулася да дзвярэй.



* * *

Едуць сто вершнікаў чорных, галовы схіліўшы свае,
Сярод цемені ночы па празрыстай вадзе.
Ні з каханай дзяўчынай, ні з шчасцем чакаюць
Сустрэчы яны. Ні да хаты ў Бярэсце ці Кракаў,
Кіруюць у пустэчы адны...

Кожны з паўночных вояў душу трымаў у руках.
Па дарозе празрыстай да зораў ляжаў іх шлях.

*З літоўскай рауды*

Адразу за гнілымі драўлянымі брамамі, якія выходзілі на дзядзінец, пан Рамбайла загадаў пабудаваць вялікую трыумфальную арку. Праз яе, паводле тагачаснай моды, мусіў уязджаць ЯВяльможны Стольнік, вяртаючыся з Налібоцкай пушчы, куды яшчэ з раніцы разам з усім дваром накіраваўся на ловы. Аднак, насуперак чаканням, з-за краю ліпавага парку з’явіўся аддзел вершнікаў, зусім не падобных да паляўнічых з шыкоўнага атачэння польскага магната.

Ехалі вершнікі марудна, на дужа стомленых, пакрытых шэранню конях, без харугвы, моўчкі, абы-як расцягнуўшыся па дарозе на добрыя паўвярсты. Вытыркнутыя з замка паны госці са здзіўленнем, а некаторыя і з абурэннем назіралі за дужа абшарпанымі, змрочнымі постацямі, якія немаведама чаму прыцягнуліся на святочны, калядны фэст.

Пасля ж таго, як вершнікі, ні слова ні кажучы, пачалі праязджаць праз трыумфальную арку, прысутных, без перабольшвання, скаваў жах. Канешне, мажліва ўсё гэта ўспрымаць як aniles fabéllae[264]. Але нават зараз старыя людзі згадваюць пра тое здарэнне шэптам, з вялікім страхам і хваляваннем. А тады некаторыя паненкі, пястункі варшаўскіх салонаў і французскіх густаў, надта далёкія ад нашых літоўскіх рэалій, папросту падалі без прытомнасці на снег, а мужчыны, асабліва з ліку франтаватых панічыкаў, згадвалі Святую Марыю, разбягаліся ў розныя бакі і хаваліся адзін за аднаго, бы зляканыя шкаляры.

Першым, каго пазналі, быў пан Костусь Саковіч, камандзір гусарскай язды з аддзела ЯВ-нага Ваяводы Віленскага. Вочы яго былі заплюшчаныя, а галава — зусім белая і цалкам бязвольная, бо боўталася ва ўсе бакі: то спадала на грудзі, то закідалася далёка назад. У сівізне валасоў, а таксама на скронях пана Костуся заўважаліся чорныя плямы крыві.

«Мёртвы!» — пранеслася па натоўпе навіна.

[264] Бабскія казкі (*лац.*).

Услед за нябожчыкам Саковічам праз арку ўязджалі і іншыя — калісь магутны Вільбак, заўжды іранічны, а зараз маўклівы Ісаевіч, стары Мацей, празваны Мацькам над Мацькамі, белатвары Юрага, а ўслед за імі — з дзесятак Міцкевічаў і Чачотаў, два Заны і два дзесяткі Дабрыньскіх. Збітыя, знявечаныя, яны былі прыкручаныя да коней, якія, пераадолеўшы брамы, спыняліся на дзядзінцы, апускалі морды і пачыналі прагна есці снег.

## A linea T. K-Kego[265]

Выпадак той меў вялікі розгалас на Літве (пісаў пра яго нават варшаўскі «Манітор»), а таму не дзіўна, што застаўся ён у памяці філаматаў, пакінуў па сабе добрую памятку — «рамансовую», па-юнацку шчырую баладу, напісаную на літвінскім дыялекце ў Вільні недзе каля 1824 года (сёння, думаецца, толькі я пра тую баладу і памятаю, бо архіў філаматаў быў расцярушаны па Краі і амаль знішчаны ў віры нашых апошніх паўстанняў). З нагоды прыводжу некалькі радкоў «Філамацкай балады»:

У гэтай шалёнай пагоні вар'яцкае штосьці было: вершнік літоўскі ў далоні д'ябла трымаў за крыло.

Гэта шляхцюк быў прыгожы тварам — бялейшым за снег, з вуснамі макам чырвоным, з вачамі з-пад віленскіх стрэх.

Ды толькі...Што толькі?

Святыя! Быў гэты вой малады з рассечаным тварам і коўдрай, запэцканай плямай крыві. Конь верны з пякельнага бою свайго спадара ратаваў і зараз пад зоркай начною яго нежывога трымаў...

Аж там, дзе ўзыходзіла сонца, смерць сабе ціха ішла. Крывёю святою літвіна прагу спаталяла яна. Мужна змагаліся вої за спадчыну дзедаў сваіх, ды ворагаў болей і болей — няма пераліку на іх.

Скуль узялася тая пошасць на нашай крывіцкай зямлі? Даволі цярпелі іх...Досыць! Няўжо паржавелі мячы?! З Богам у сэрцы — да зброі! Няхай будзе святым наш шлях! Рабамі не будзем ніколі, пакуль яшчэ моцы ў руках!

Манголы з усходу ўсё пнуцца з бясконцых Маскоўскіх гаёў. Што трэба вам тут — захлынуцца! Зрабіць з нас дурных маскалёў! Божа! Наш ойча! Езус, бясконцы сваёй чысцінёй, адмый нас ад гэтага бруду сваёю крывёю святой!

Штандары з выявай «Пагоні» адзін за адным у баі — гублялі забітыя вої з няведама якай зямлі.

[265] Дадзеная ўстаўка ў тэкст аўтара «Успамінаў», пана Тадэвуша Княтынскага.



* * *

Вяртаючыся да апавядання, адзначу, што ўслед за мёртвымі з'явіліся і жывыя, іх было, праўда, не нашмат больш, аднак ехалі яны па два ў шэрагу і жорстка трымаліся строю. Наперадзе, з Ажэшкавай харугвай у руках, рухаўся змрочны, як хмара, пан Ваявода, побач з ім боўтаўся ў сядле Грышка, крыху далей сунуліся бернардзін у пары з панам Янам Дабрыньскім. Паміж імі і шляхтай per pedes apostolórum[266] рухаўся Агінскі. На шыю яму была накінутая даўгая пяньковая вяроўка, якая чаплялася да сядзельца пана Яна і калі-нікалі балюча ўпівалася ў лебядзіную задалікатную шыю кашталяна.

Першым арку мінуў пан Міцкевіч, які спыніўся насупраць грушы, кінуў цуглі, агледзеўся і з цяжкасцю саскочыў на снег. Аднак не паспеў зрабіць і кроку, як ледзь не з кулакамі падляцеў да яго Рамбайла (праўдзіва ж кажуць: asperius nihil est humili, cum surgit in altem[267]):

— Ты што, ваша, ашалеў? — крычаў ён.

Пан Ваявода без асаблівай цікавасці паглядзеў на маршалка, азірнуўся, аддаў некалькі кароткіх загадаў і, нібы не зважаючы на Шчэрба, няцвёрдаю хадою пайшоў далей. Раз'юшаны маршалак забег шляхціцу наперад і зашыпеў:

— Я табе кажу, гайдамача! Якога ражна цябе сюды прыкруціла? Паганая ты сіла! Няўжо не разумееш, сюды нельга! Не-ль-га!!! Тут заўтра гетманы будуць, а мо і сам канцлер сюды з'явіцца! Што мы яму скажам? Што-ооооо?

Раптам Рамбайла напароўся паглядам на ледзь жывога, з адарваным вухам, скрываўленага, расхрыстанага Агінскага і змоўк, бы жабу праглынуў. Так, разявіўшы рот, і застаўся стаяць, з жудасцю і са здзіўленнем гледзячы на нешчаслівага пана кашталяна. Праз добрых дзесяць хвілін Гервазы, аднак, аджыўся, мацюкнуўся, перапрасіў Езуса, яшчэ раз мацюкнуўся і яшчэ раз перапрасіў, потым ціхім-ціхім, лагодным-лагодным голасам заўважыў:

— Вось тэраз, мосці панове, як неба святое, нам гамон!

Міцкевіч зноў нічога не адказаў, яшчэ раз азірнуўся і раптам гучным, роспачным голасам закрычаў: «Эва-а-а-а! Эваааааа!»

Ад гэтага ляманту ў прысутных сэрцы сціснуліся. Маршалак адарваў пагляд ад Агінскага, плюнуў на снег і сказаў, бы батагом сцебануў:

— Забірай сваіх і вымятайся адсюль зараз жа, інакш, клянуся крывёю Езуса, загадаю гайдукам страляць!

[266] Апостальскімі крокамі, г. зн. пешшу (*лац.*).
[267] Няма больш суровага за таго, хто з нікчэмнасці ўзвысіцца / Не дай Бог свінні рогі, а мужыку панства (*лац.*).

Пан Міцкевіч нічога не пачуў. Апантаны, глядзеў некуды наперад і ўсё паўтараў: «Эва! Эва! Эва!» Рамбайла, які аж плямамі пакрыўся ад злосці, выхапіў сцізорык і прыставіў яго да шыі Ваяводы. З усіх бакоў на мёртвых і жывых глядзелі ружжы Ажэшкавых гайдукоў. Прысутныя чакалі немінучага гвалту, але ў той момант, калі да бойкі застаўся ўсяго адзін крок, з пакояў выбег… анёлак? Не, усяго толькі дзяўчынка. Эва Ажэшкава:

Яшчэ раз голас пачуць твой,
падыхаць тваім пахам,
зразумець цябе назаўжды
ўсімі сваімі думкамі
і зноў згубіць цябе,
і зноў спасцігаць пацалункамі.

Праставалосая, у накінутым на кашулю вялізным кажусе, белая, быццам калядны снег, з распасцёртымі рукамі, басанож, яна бегла да пана Ваяводы праз натоўп надворнай шляхты, праціскалася паміж коней і не спынялася нават тады, калі шлях ёй заступалі людзі. Услед за паненкай, блытаючыся ў даўгім каптуры, ляцеў і сыпаў мальбамі вялебны Ерамія.

— Спыніце яе! — крычаў манах. — У імя Марыі, толькі не страляйце! Гэта ж стальнічанка!

Але «стальнічанка» не зважала на мальбы. Пані Шэмбелева, мажная і добрага нораву кабета, зрабіла спробу злавіць «дзіця», нават расставіла рукі — быццам мядзведзіца, — але схапіла толькі кажух, пакінуўшы паненку ледзь не ў адной толькі ільняной кашулі.

Ведаюць...
ведаюць пра яго
мае ўсхваляваныя грудзі,
абуджаныя пацалункам у змроку!
Плечы, дрыжачыя
ад згадак,
што прыціхлі ў глыбіні далоні.
Ведае пра яго
душа мая, што жабрачкай
выпрошвае столькі год пяшчоту.

«Які сорам!» — зашапталі жанчыны. Дзяўчына спынілася ўсяго на імгненне, але адразу ж патрапіла ў абдымкі Ерамii.

— Ну, куды ты, шалёная! — шаптаў манах і цягнуў яе за рукі. — Хадземо! Дурненькая! Нельга табе тут.



Але Эва ніякіх угавораў не жадала слухаць, насуперак ім па-ранейшаму імкнулася да Міцкевіча, білася, як ваўчыца, акружаная з усіх бакоў хартамі.

— Годзе, годзе ўжо! — угаворваў сваю пястунку Ерамія.

— Забяры яе, манах! — крычаў тым часам Рамбайла. — Зараз жа, каб духу яе тут не было!

І толькі чырванатвары, раз’юшаны Шчэрб наважыўся занесці над Міцкевічам меч, як дзядзінец агаласіў сухі, бы стрэл з дубальтоўкі, гук. Прыдворныя ў здзіўленні застылі на месцы і... Steteruntque comae[268]!

Манах атрымаў ад Эвы аплявуху, схапіўся за твар і, быццам выцягнуты на бераг шчупак, бездапаможна хапаў паветра. «Святая Марыя, каралева нябесная», — толькі і здолеў сказаць Ерамія. Неўзабаве Эва — гэтая шаснаццацігадовая нямая дзівачка, як пра яе казалі Ажэшкавы нахлебнікі, — павярнулася да Рамбайлы і ўладным голасам літоўскай, праўдзівай крыві князёўны загадала:

— Кінь меч, хам!

Шчэрб пачуў гэтыя словы і скалануўся, быццам у плечы яму ўсадзілі сякеру.

— Адыдзі ад яго, пёс!

На дзядзінцы ўсталявалася такая цішыня, што чутно было, як па небе анёлы ляцяць. Аслупянелыя прыдворныя спалохана глядзелі на Эву, якая стаяла, бы прамацерка Багіня, — золатавалосая, грозная і магутная нейкай незразумелай спрадвечнаю сілаю, сутнасць якой у гэтым кволым цельцы растлумачыць ніхто не мог.

Першай пачала варушыцца Міцкевічава шляхта. Нобілі шпарка саскоквалі з коней і адзін за адным схілялі перад Эваю галаву.

— Не ў касцёле, дурні! — пачаў быў пан Ліпскі, але сустрэў грозны пагляд Ваяводы і таксама плюхнуўся на снег. Гледзячы на яго, схіліліся і прыдворныя.

— Commoditas omnis[269], — падвёў вынік гэтым падзеям бернардзін і з весялосцю п’янага студэнта паражагнаў усіх прысутных.

— «Amen». Ite, missa est[270].

[268] Валасы сталі дыбам (*лац.*).
[269] Усё сказана / справа завершана (*лац.*).
[270] Ідзіце, меса завершана (*лац.*).

## XIV
## КАНЦЭПТ ПРА РАДЗІВІЛА. У КАРЧМЕ. СТОЛЬНІК

Ñтаяў на ўзлеску, недалёка ад Віленскага гасцінца, драўляны касцёл святога Яна Непамуцэна, але выракліся яго людзі і набажэнствы не чыніліся ў ім гадоў ужо, мусіць, з дваццаць. Вядома, што занядбаны касцёл робіцца прытулкам для ўсялякай д'ябальшчыны. Так адбылося і тут...

Nihil tam vólucre est, quam maledictum[271]. Сяляне Ажэшкавых вёсак часцяком чулі каля касцёла пачварныя енкі, стогны, гукі вяселля, страшнага балявання, а калі — і плакаў у касцёле нехта, з роспаччу прасіў аб дапамозе. Бачылі там і ваўкалакаў… (Як жа без іх!) Невядома, пане дабрадзею, колькі б год тутэйшы люд абмінаў стары касцёл, каб не ЯВ Кароль II Станіслаў Радзівіл, цяпер ужо нябожчык, а тады — за жывым бацькам — мечнік літоўскі.

Здаецца, на Задушкі, а мо толькі крыху пазней, альбенская банда разам з Радзівілам з п'янага зухвальства наехала на касцёл. Мала было паліводам мядзведзяў ды вепраў, якіх яны ў літоўскіх пушчах багата набілі, заманулася ім, як вядома, stultórum plena sunt ómnia[272]… упаляваць шатана. Забіякі тыя альбенчыкі, а да ўсяго яшчэ in pace léones, in proelio léportes[273]. Канешне, браць Люцыпара з наскоку не адважыліся і вырашылі весці перамовы. Дзеля гэтых мэтаў быў скіраваны пан Міхал Рэйтан, бо «legatus non caeditur, neque violabitur»[274].

Радзівілаўская плойма схавалася за высокім ельнікам і чакала.

— Дык няма там д'ябла, пане каханку? — запытаўся Радзівіл у пана Міхала пасля таго, як той апошні вярнуўся.

— Чаму няма? Ёсць! — адказваў альбенчык.

— Пабажыся!

— Даліпан!

— Не падманулі, значыць, Радзівіла, — заўважыў князь, якога моцна даймала цікаўнасць. Перавёўшы дыханне, ён з вялікім імпэтам запытаўся: —А калі мне паглядзець?

— Калі ласка, чаму ж не паглядзець? — адказваў пан Міхал. — Д'ябал, мосці панове, да століі прычапіўся і, як кажан, вісіць сабе — у вус не дзьме! З парога яго адразу відно.

— А далей?! — страчваў цярпенне Радзівіл.

— Што далей? — нібыта не разумеў альбенчык.

---

[271] Добрая слава ляжыць, а благая па дарожцы бяжыць (*лац.*).
[272] Дурняў не сеюць, не жнуць, а самі раджаюцца (*лац.*).
[273] Зух — калом на мух (*лац.*).
[274] Пасланца не сякуць, не колюць (*лац.*).



— От жа ж, пане каханку, не прыкідвайся дурнем, бо я ведаю, што ты хітры ліс. Што ён табе сказаў?

— Ён, вяльможны пане, запытаўся на лаціне: якога ліха мне тут трэба?

Радзівіл ажно ў далоні запляскаў — так зацікавіўся тымі навінамі. Але, ведаючы пра даўгі язык пана Бароўскага, вырашыў усё ж удакладніць:

— Нешта ты, асіндзею, брэшаш… Сам разваж, адкуль тутэйшаму шатану ведаць лаціну? Яго, здаецца, езуіты ў пялестры не вучылі.

— Пэўна ж вучылі, бо запытаўся... — нават вокам не міргнуў пан Бароўскі.

— А ты што, пане каханку! Каб цябе мядзведзь зтрыз, як ты здзекуешся з Радзівіла. Не марудзь, кажы як ёсць!

— Як ёсць — толькі д'ябал ведае. Каб нас пан Пішчала па-людску вучыў, дык мы б не толькі хвацка стралялі [275], але і Бога як належыць славіць умелі.

— Дык ты ні чорта не зразумеў, што табе шатан сказаў? — вылупіў вочы Радзівіл.

— Ні чорта! — пагадзіўся Бароўскі.

— Эх ты, пане каханку, — невук і ерэтык, — ледзь не плакаў князь, кажучы тыя словы, — але ж і я ад цябе не лепшы. Мой продак святой памяці Мікалай Крыштап сем моў знаў. Лаціну як арэхі грыз, у Палесціну пешшу зайшоў і вярнуўся, а я, даруй Божа, — вырадак… Ганьба, ой, ганьба Радзівілу! Але… каб мяне пярун ляснуў, як я без законніка яшчэ раз у дарогу збяруся. І што зараз рабіць? Ніводзін з нас па лаціне не ўмее! А пакуль з Нясвіжа якога ксяндза прыцягнуць, шатан уцячэ, далібожта — уцячэ!

Вырашылі альбенчыкі той касцёл спаліць.

— Няма чаго тут думаць, — сказаў Радзівіл, — шатан — не мядзведзь, яго, мосці панове, з ружжа не застрэліш. Тут трэба мець розум, а яго ў нас, даруй, пане каханку, ні ў воднага няма. Спражым яго як рака, а што застанецца ў Вільню да Масальскага[276] дашлём, нех паглядзіць на сваяка, мо пазнае!

---

[275] Тут аўтарам прыводзіцца агульнавядомы анекдот пра методыку навучання князя Караля Радзівіла і двух яго сябраў (паноў М. Рэйтана і І. Валадковіча) альфабэце. Настаўнік, шляхцюк пан Пішчала, як сведчыць Севярын Сапліца / Г. Жавускі, маляваў крэйдай на дошцы літары, у якія вучні мусілі патрафіць з пісталета. Так яны спачатку чытаць навучыліся, а потым з Боскай дапамогай і пісаць. З той прычыны кожны з «вучняў» пана Пішчалы «ledwo czytać umiał i to, jak Pan Bóg dał, <…> ale o dwadzieścia kroków na koniu siedząc, nigdy z pistoletu tuza czerwiennego nie chybił».

[276] Тут, хутчэй за ўсё, маецца на ўвазе Ігнацы Якуб Масальскі, прыкра вядомы Віленскі біскуп.

І толькі пан Сапліца разам з панам Бароўскім узяліся падпальваць касцёл, як выбег адтуль плюгавы яўрэйчык ды з божканнямі кінуўся аслупянеламу Радзівілу ў ногі.

— Ратуй, яснавяльможны пане! — крычаў яўрэйчык. — Я ні ў чым не вінаваты! Клянуся…

Радзівіл ледзь паспеў перажагнацца, як выбегла з ужо задымленага касцёла яшчэ і яўрэйка з багатым вывадкам дзяцей. І такі тут пачаўся гвалт, не пераказаць. Дзеці лямантавалі, яўрэйка галасіла, яўрэй укленчваў. І ўсё гэта было так гучна, ажно рэзала вушы.

— Ці бачыш ты, яснавяльможны пане, — звярнуўся набожны Бароўскі да Радзівіла, — гэта шатан яўрэяў з чыстца выпусціў. Чуў я ад навагрудскіх дамініканаў, што некаторыя з іх туды раз на год ходзяць. У чыстцы яны замест чарцей дровы ў вогнішча кідаюць, на якім грэшнікаў смажаць, а ім за гэта чэрці злота сыплюць.

На што Радзівіл ледзь не зашыпеў ад злосці. Кінуў перуновы пагляд на пана Бароўскага і сказаў:

— Не дурань ты, пане Міхале, ксяндзоў ператлумачваць! Толькі ўсё гэта хлусня, бо чуў я пра нейкага італьянца[277], які нібыта ў пекла хадзіў. Бачыў там рознага ліха, такога што барані нас Езус! Люцыпара, грэшнікаў, чарцей... а яўрэяў там не было!

З гэтымі словамі сеў ЯВ Радзівіл на гнядога жарэбчыка, якога пан Мнішак даслаў яму з Кракава, дый паехаў сабе ў Белую, дзе колькі тыдняў баляваў разам са сваёй партыяй, а пасля фальварак пану Трызну спаліў дашчэнту, пра што ўся Літва добра ведае.

Яўрэй той так і застаўся каля касцёла. Праз нейкі час выпрасіў у пана гетмана[278] дазвол ды пабудаваў на тым месцы карчму. А як ад ранейшага будынка сёе-тое засталося, то прыляпіў да ранейшага яшчэ кавалак свайго. Падмураваў, падфарбаваў, дзе-нідзе шыбы ўставіў. І атрымалася, што калі глядзець на той будынак z przodu , то падобны ён быў да касцёла, а калі — z tyłu, асабліва з боку той дарогі, якая віецца праз Міндоўгаў гай, то відавочна рабілася кожнаму, што сустрэў ён не абы-што, а карчму. Яе апісанне цяперашні чытач лёгка знойдзе ў вядомай паэме пана Адама Міцкевіча:

Karczma z przodu jak korab, z tyłu jak świątynia:
Korab, istna Noego czworogranna skrzynia,
Znany dziś pod prostackim nazwiskiem stodoły;
Tam różne są zwierzęta, konie, krowy, woły,

[277] Маецца на ўвазе аўтар «Боскай камедыі» Дантэ Аліг’еры. Твор, пра які князь мог чуць ад сваёй маці Ясна Асвяцонай мосці княгіні Уршулі з Карыбутаў Вішнявецкіх.

[278] Міхал Казімір Радзівіл Рыбанька, гетман літоўскі, ардынат Нясвіжскі і ваявода Віленскі (13.06.1702–22.05.1762).



Kozy brodate; w górze zaś ptastwa gromady
I płazów choć po parze, są też i owady.
Część tylnia, na kształt dziwnej świątyni stawiona,
Przypomina z pozoru ów gmach Salomona,
Który pierwszi ćwiczeni w budowań rzemieśle
Hiramcy na Syjonie wystawili cieśle[279].

Якраз у гэтай карчме і спынілася паляванне Літоўскага стольніка. Усё з-за таго, што запазніліся Ажэшкавы слугі, якія ўзнялі мядзведзя ў Налібоках і гналі яго з пушчы на залогі стралкоў, але па дарозе згубілі і мусілі шукаць, рыскаючы па балотах і хвойніках. Цягам гэтага часу ЯВ Ажэшка таптаўся на снезе, калаціўся на марозе і лаяўся так, што нялюба было слухаць. Мядзведзя з балота выгналі, але зноў гора — патрапіў ён не на паляўнічую залогу, а на абоз, у якім кухары разводзілі агонь, каб прыгатаваць літоўскі бігос, пра які пан Адам слушна заўважаў: «Смачнай ежай бігос бывае. Ураз з гароднінаю свежай капуста квашаная да яго бярэцца, што, згодна прыказкі, у рот сама кладзецца. Закрытая ў катле з прыправамі і з мясам, гатуецца, пакуль уся не сойдзе квасам, пакуль агонь яе не змякчыць і не сцісне, а з берагоў начыння з парай вар не свісне і не напоўніцца паветра араматам». Хаця, канешне, каб «песні ацаніць літоўскія і стравы, здаровым трэба быць, вяртацца трэ з аблавы»[280].

Тым часам у сумётах, пад стромкаю сасною, стаяў медны кацёл. У ім плавала капуста, не хапала толькі мяса. Мусіць, ведаючы пра гэта, звер з уласнай ініцыятывы і залез у кацёл ды па-гаспадарку размясціўся там. На вачах у аслупянелых кухараў з’еў капусту, а рэшту яе расцерушыў па снезе.

Потым ленаю хадою накіраваўся да воза са старымі літоўскімі мядамі, выбіў з бочкі чоп і ладнага такі назюзюкаўся. Пасля заснуў, як забіты — хроп сабе, бы войт, не зважаючы нават на тое, што кухары за вушы сцягвалі яго з воза. Адзін з найбольш зухаватых гайдукоў падсмаліў беднаму мядзведзю лапу — тады звер, здавалася, прачнуўся, на імгненне адкрыў вочы, паглядзеў на спалатнелых дзецюкоў і зноў заваліўся на воз, прытуліўся галавою да бочкі. «А каб на яго халера!» — вырашылі кухары і, плюнуўшы, пацягнуліся да вогнішча.

[279] Міцкевіч А. «Пан Тадэвуш». Карчма, як карабель, а ззаду, як святыня: / Чатырохгранная, як тога Ноя, скрыня. / Вядомая пад простай назваю стадолы. / Там — козы барадатыя, з другой жывёлы — / Валы, каровы, коні, ўверсе птушак хмара / І насякомыя, і паўзуноў хоць пара. / Палова задняя, як дзіўная святыня, / Нагадвае гмах Саламона, што ў краіне / Сіонскай першыя ўмельцы ўзнеслі — / Герамавы, далёка ведамыя цеслі. (Пераклад П. Бітэля.)

[280] Міцкевіч А. «Пан Тадэвуш».

Так і застаўся мядзведзь на возе — соп, нешта маркатаў, час ад часу пераварочваўся на другі бок.

Стольнік, як толькі пачуў пра выбрыкі мядзведзя, загадаў усыпаць дзве сотні батагоў палясоўшчыкам — атрымалася акурат па дзесяць на брата. Магнат прыляпіўся да воза, доўга са змяшанымі пачуццямі абурэння і захаплення глядзеў на п'янага звера, які хвацка абшчапіў бочку з мёдам ды салодка вадзіў мордаю з аднаго боку ў другі. «Што з ім рабіць? — разважаў Стольнік. — Забіць басяка — ніякай славы, адна прыкрасць. Разнясуць па ўсёй Літве плёткі: маўляў, такія паляўнічыя, што мядзведзь не вытрымаў і сам да іх прыйшоў. Пакінуць так — яшчэ большая ганьба!»

Так і не вырашыў Стольнік, толькі паціснуў плячамі, тупнуў нагою і загадаў збірацца ў дарогу. Галодныя і цвярозыя паляўнічыя моўчкі ўсаджваліся на коней, маючы не дужа вясёлую перспектыву трэсціся ўсю ноч па сцюжы. Ужо не памятаю, хто першым згадаў пра стары касцёл, але Стольнік, як толькі пачуў пра яго, прэндка зацягнуў цуглі і загадаў:

— Наперад, мосці панове, а гэтага, — кінуў вокам на звера, — возьмем з сабой!

— Як з сабой, ясны пане? — абурыўся Паўлоўскі. — А што, калі прачнецца?

— Хто? — не зразумеў Ажэшка.

— Мядзведзь, вядома!

— Як прачнецца, — вырашыў Стольнік, — дамо апахмяліцца і адпусцім! А зараз, мосці панове, да карчмы!



# XV
# РЭЧ ПАСПАЛІТАЯ
## *(камедыя ў I дзеі)*

Pierwsza mowa szatana do rodu ludzkiego
Zaczęła się najskromniej od słowa: dlaczego?[281]

### Дзейныя асобы:

П а н  Г р о з а — чорт з пекла.
П а н  С м е ш ы ц — чорт з балота.
С т о л ь н і к  л і т о ў с к і  А ж э ш к а — польскі магнат, з-пад Наваградка.
П а ў л о ў с к і — слуга Ажэшкі.
Ж ы д о к.
М я д з в е д з ь.

Падзеі адбываюцца ў карчме.

Праз якія тры гадзіны ў карчме, пане Тадэю, і камару не было б як праціснуцца. Шляхта спала, разваліўшыся на падлозе, на лавах, сталах і пад імі. Здарожыўшыся, згаладаўшыся, паны выпілі і з'елі ўсё, што знайшлі — нават казу, якую карчмарка набыла ў крулявецкіх купцоў ажно за 5 чырвоных злотых. Даўно ўжо не было такога спусташэння ў стадоле. Аглядаючыся навокал, жыдок толькі войкаў ды з роспачы хістаў галавою.

У пакоі за тым самым сталом, за якім тэраз сядзім мы, размясціліся Стольнік і яго госці — пан Гроза і пан Смешыц. Адкуль яны ў карчме ўзяліся, ніхто напэўна не сказаў бы — ні тады, ні тым больш зараз, але я засведчу хоць бы сабе і на астатнім судзе, што былі гэта пасланцы з самога пекла…

Пан Смешыц, «сапраўдны немец», апрануўся ў паўфрак малінавага колеру і блазанскі каўпак. Быў гэта мажны, невысокага росту д'ябал з чырвоным тварам, на якім камічна размясціліся: вялізны буслiны нос, вочкі-дзіркі, вузкія палоскі-шчарбіны замест вуснаў ды шырачэзны, як рыдлёўка, падбародак. Жыў пан Смешыц на балоце, сяляне называлі яго «кумам» і зусім не баяліся, бо быў ён баламутам, смешным, крыху дурнаватым, здатным на ўсялякія жарты і штукі. Ён не толькі не мог зрабіць крыўду чалавеку, але і сам цярпеў ад яго здзек і прыніжэнне.

[281] Міцкевіч А. «Думкі і заўвагі».

Пра пана Смешыца добра сказаў Адынец у баладзе «Хохлік»: «Жыву я між людзьмі заўсёды, іх дразню, ды толькі не раблю ім шкоды». Кантраст пану Смешыцу складаў яго сусед — пан Гроза — шатан, які прыняў аблічча езуіта. Манах сталага ўзросту, пан Гроза быў аскетычны, высокі і прамы, быццам гонкая літоўская жардзіна. Твару яго, праўду сказаць, не было відно з-пад капелюша, затое відаць былі рукі з даўгімі, тонкімі пальцамі, якія нагадвалі павучыныя лапы, бо гэтак жа драпежна варушыліся, то падляталі ў паветра, то ападалі ўніз і хаваліся пад сталом. У размове рэй вёў езуіт…

— Рэч Паспалітая, — пачаў ён ледзяным голасам, — не ўзрастала з жаданняў сэрца, з глебы евангельскай любасці і хрысціянскай пакоры. Душа Рэчы Паспалітай нараджалася не ў касцельнай цішы, не пад гімны анёлаў расхінала яна свае крылы, а пад дзікунскае гіканне язычнікаў з харугваў Вітаўта, пад акампанемент бразгатання зброі крыжакоў, пад жахлівыя стогны паміраючых на Грунвальдскім полі рыцараў. У адкрытай нянавісці нараджалася душа Рэчы Паспалітай. І ці можна такую душу назваць Боскай?

— Д'ябальскай лепей назавём яе, каханыя мосці панове, — радасным голасам адгукнуўся на гэту прамову пан Смешыц, — і будзе гэта праўдай.

— У нянавісці, кажу, нараджалася душа Рэчы Паспалітай, — шаптаў езуіт, — падумай, узваж! Два браты выпускалі тую душу на вольную волю. Чаго жадалі яны? Аднаго толькі — каб як найхутчэй счапіцца ў бойцы! І не дзіва… дзіва, каб было інакш.

Хто першым з'яднаў Літву і Карону? Ягайла! Які «był poganin z litewskiego szczepu, zacny i w swej potędze znakomity mąż»[282]. Знакаміты тым хіба, што забіў уласнага дзядзьку — гаспадара на Троках кунігаса Кейстута[283]. Як ваўкалак, з праваслаўнага Якава перавярнуўся на каталіка Уладзіслава і, нібыта «chrztem świętym obmyty»[284], хрысціў агнём і мячом уласны народ — язычнікаў жэмайтаў, быў для іх горшым, чым крыжакі для прусаў. І гэта, насуперак таму, што пісалася, быццам «za swym panem poszedł zaraz cały lud»[285], быццам за добрым пастырам статак авечак. Нібыта не было забойства апошняга Крыва Крывейты і знішчэння Зніча, які два тысячагоддзі не згасаў у даліне Свентарога:

[282] Быў язычнікам літоўскага роду, годны і магутнасцю сваёй знакаміты муж / Цыт. паводле перакладу з лацінскай: Klemens Janicki, Ianicius (1516–1543) «Jagiełło, czyli Władysław IV» (*пол.*).

[283] Пан Ігнацi Ходзька ўдала адлюстраваў забоства Кейстута ў апавяданні «Апякунчы дух» («Obrazy Litewskie»). Гэта забойства назаўжды запляміла Крэўскі замак, было горкім і крыўдным. Удвая ж крыўдным было тое, што здзейсніў яго свой, літвінскі Каін — Ягайла.

[284] Святым хростам абмыты / Цыт. тамсама (*пол.*).

[285] За сваім панам адразу ж пайшоў увесь народ / Цыт. тамсама (*пол.*).



W bluźnierskich błędach Litwin zaślepiony
Fałszywym bogom oddawał ofiary,
Kiedy Jagiełło lud swój ulubiony
Prawej Chrystusa przyszedł uczyć wiary:
Kruszył bałwany; gdzie gmachy pogańskie,
Wznosił przybytki i ołtarze pańskie[286].

Ягайла! [езуіт раптам усхапіўся на ногі, узняў правую руку ўверх і, нібы пагражаючы некаму ў далечыні, пачаў прамаўляць гучна, важка, страшна. — *Т. К.*]. Воўк, які ўлез у авечую скуру, ніколі не перастане быць ваўком. Добрага ж караля атрымала Польшча! Варвар, «касматы мядзведзь», выхаваны на лес гледзячы, захопнік улады… І падумаць толькі: невук, ён рупіўся аб пашырэнні асветы і залажэнні школьніцтва! Тыран, які не цярпеў сапернікаў, закладаў падмурак вольнасці! Літовец пашыраў святло славянскасці… Ці не глупства?

— Глупства! — цяжка ўздыхнуў пан Смешыц.

— Часта чуем мы, — працягваў пан Гроза, — ад легкаверных людзей і чытаем у панегірыках такое, што каралева Ядвіга запаліла ў сэрцы караля паходню дабрыні, мудрасці і любові. І з таго часу нібыта…

dola i niedola
Wspólna dwu narodom była;
Boska się spełniła wola,
Miłość święta je złączyła[287]!

Калі і гарэў які агонь, мосці панове, у сэрцы варвара, то… хіба толькі агонь прыпыхі шатанскай, ад яго запальваў ён — круцель — і «Богу грамніцу, і д'яблу свечку»[288].

— Асаблівa ж камічна, мосці панове, тое, — рагатнуў пан Смешыц, — як Ягайла пад Грунвальдам малітву складаў. Ну ці не смешна? [Цытуе Я. Длугаша. — *Т. К.*]:

«Lecz król Władysław bliskością oną i tym nagłym wroga nadejściem bynajmniej nie poruszony, za rzecz uznał ważniejszą, by wprzód Bogu powinność oddać, zanim się wojną zajmie; zaczym udawszy się do kaplicy, dwóch mszy z wielką wysłuchał pobożnością»[289].

[286] Цыт. па: Julian Ursyn Niemcewicz // Śpiewy historyczne.

[287] Цыт. па: Jan Czeczot / Jagiełło i Jadwiga // Antologia Wileńska, t. 2, S. 57.

[288] Выраз, які ўжыў кароль Уладзіслаў у хвіліны асаблівага ўзрушэння / паводле: Julian Klaczko «Aneksja w dawnej Polsce» // Antologia Wileńska, t. 2, S. 120.

[289] Але кароль Уладзіслаў блізкасцю тою і тым раптоўным ворага набліжэннем нікольк не ўсхваляваны, за рэч важнейшую палічыў Богу належнае аддаць, пасля ўжо вайну распачаць, дзеля чаго схаваўся ў капліцы, у якой дзве імшы выслухаў з вялікай набожнасцю (*пол.*).

Скажы ты, міласцівы пане! Немцы пашыхтаваліся ды ўжо літвінаў, як воўк казу, скубуць, а ён: «Чолам! Чолам Багародзіца!» Моліцца! Іншага часу нямашака! І адкуль тая набожнасць узялася ў язычніка? Не інакш як чакаў пан Уладзіслаў, покуль высекуць усе сорак харугваў, якія былі пад панам Аляксандрам, каб потым адным махам усіх мух забіць — крыжакам і літвінам адной анучай нос уцерці… Але літвіны былі не зломкамі, дарма пра іх пан Длугаш казкі складаў ды баязліўцамі называў, што потым палякі падхапілі. Праўда была ў тым, што не столькі палякі, колькі літвіны «крыжацкаму змею галаву адсеклі». Нездарма адзін літвін напіша: «Zjednoczone siły litewskie złamały Zakon Krzyżacki w roku 1410 w bitwie pod Grunwaldem»[290], а другі дадасць: «Дзяды нашы білі драпежнікаў прускіх, не даўшы надзець на сябе кайданы, — пад Грунвальдам білі, на возеры чудскім»[291].

— З таго часу ўзаемнай нязгоды, — працягваў езуіт, — калі ўважліва прыгледзецца, так і жывуць паляк з літвінам, як жылі Ягайла з Вітаўтам — і браты нібыта, і ворагі. Асабліва ж моцна недавер паміж Лехам і Русам праявіўся падчас Люблінскага сойма 1569 года, калі душа Рэчы Паспалітай стала адначасова і Яе целам — дзяржаваю двух панстваў. У старых дыярыушах пра паяднанне Літвы з Польшчай можам прачытаць:

Z serca życie powstawa, z serca miłość wschodzi,
Głosa sercu ozdobą i rząd głowa rodzi.
Sercem jest zacne Księstwo, głową ona Korona,
Związek piękny, gdy głowa z sercem zjednoczona[292].

Але ці былі сэрца — Вялікае Княства і галава — Карона Польская — разам заўжды? Ці не занадта пафасна прагучала ў акце Люблінскага сойма:

«Krolestwo Polskie i Wielgie Księstwo Litewskie jest jedno nierozdzielne i nieróżne ciało, a także nierożna jest jedna a spolna Rzeczpospolita, która się z dwu państw i narodów w jeden lud zniosła i spoiła»[293].

Калі б так і сапраўды было, пэўна б ужо Яніцыус ад імя Рэчы Паспалітай не скардзіўся:

Jestem rozdarta na dwie, nawet więcej części,
Co źródłem państw upadku już było najczęściej <…>
Każdy dba o swą korzyść, za swą sprawą chodzi[294].

[290] Цыт. па: Miłosz Cz. Rodzinna Europa // Dzieła zbiorowe. — Institut litteraire, S.A.R.L., 1980. — 246 s.

[291] Броўка П. «Вершы. Паэмы». — Мінск, 1994.

[292] Цыт. па: «Na unią Korony z Litwą» Jakuba Trembickiego.

[293] Каралеўства Польскае і Вялікае Княства Літоўскае — адно непадзельнае і непарушнае цела, адна непарушная, агульная Рэч Паспалітая, якая з дзвюх дзяржаў і народаў адзіны народ учыніла (*пол.*).

[294] Цыт. па: «Skarga Rzeczypospolitej» / Klemens Janicki, Ianicius.



А ксёндз, вялебны Пётр Скарга, не непакоіў бы сейм пякучымі словамі аб узаемнай нязгодзе:

«Macie jednego pana i króla, jedne prawa i wolności, jedne sądy i trybunały, jedne sejmy koronne, jednę spólną matkę, ojczyznę miłą, jedno ciało, z rozmaitych narodów i języków skupione i spojone, i dawno zrosłe. Jakoż się wadzić, dzielić tym i nie zgadzać możecie?»[295]

А дзяліць «супольную маці Айчыну» пачалі ўжо ў Любліне. Так, паслы з боку Літвы, даведаўшыся пра намеры Кароны праглынуць Княства, 1 сакавіка 1569 года пакінулі Люблін: «<...> на другім тыдні посту вялікага паны сенатары літоўскія, бачачы многа рэчаў, якія іх не задавальнялі, ад'ехалі»[296]. Пра што потым Ян Каханоўскі з вялікай іроніяй заўважаў: «Litwa z name uniją uczyniła strojną, uciekli, zostawiwszy Haraburdę z Wojną»[297].

У адсутнасць літвінаў [даводзіў езуіт. — *Т. К.*] караняжы гвалтам далучылі да сябе Валынь, Кіеўшчыну і Падляшша — не разам, а «паасобку, па адной зямлі ад Літвы адрываючы»[298]. Зрабілі так, бо ведалі: Літва, якая мусіла супрацьстаяць магутнай Маскве, не ашчэрыцца, не агрызнецца, не кінецца ў бойку. Праўду сказаць, агрызацца Літва магла толькі так, як пан Мялешка, кашталян брэсцкі і смаленскі, на вальным сойме 1589 года. Без жадных сумненняў, гледзячы ў вочы Жыгімонту III Вазе, літоўскі радны пан ахарактарызаваў караля, аўтара Люблінскай уніі, Жыгімонта Аўгуста, наступнымі словамі: «Того нечего і в люді лічіті, бо Подляше і Волынь наш вытратів, ляхом мінечіся. <…> Да колі ж бы гетакого чорта да кулаком в морду»[299].

Пану Мялешку адказаў Станіслаў Ажахоўскі, які ў адным вядомым трактаце зухвала напісаў: «Кесар нябесны, Езус Хрыстус, назваў сваё панства каралеўствам, а д'ябальскае — варожае яму — княствам!»[300] Ці варта да гэтай высновы будзь што дадаваць? Канешне, як сведчыць Аўгусцін Ратондус, не ўсе літвіны жадалі «swej zdawna zasadzonej a porządnej rzeczy pospolitej»[301] да Каралеўства далучаць. І тым больш

[295] Маеце адзінага пана і караля, адзіныя правадаўства і вольнасці, адзіныя суды і трыбуналы, адзіныя сеймы каронныя, адзіную агульную матку — Айчыну мілую як адзінае цела, з адрозных народаў і моў сабранае, злучанае, даўно зрослае. Як вы можаце сварыцца, біцца і не згаджацца? (*Пол.*)

[296] Цыт. «Гістарычныя запіскі» Ф. Еўлашоўскага ў перакладзе на беларускую І. У. Свяжынскага («Старажытная беларуская літаратура (XII–XVII стст.)» Мінск, 2007).

[297] Літва з намі ўнію ўчыніла прыстойную, усе паўцякалі, пакінулі Гарабурду з Войнам (*пол.*).

[298] Цыт. «Гістарычныя запіскі» Ф. Еўлашоўскага.

[299] Цыт. па: Старажытная беларуская літаратура (XII–XVII стст.).

[300] Цыт. па: Królestwo a księstwo. Wolność polska a niewola litewska / Stanisław Orzechowski.

[301] Тут: сваёй здаўна слаўнай Рэспублікі (*пол.*).

абураліся яны на тое, што пан Ажахоўскі «barzo grubie napisał», нібыта літвіны да «шчаслівага часу уніі» «niewolniki byli», гэта значыць варвары і цёмныя ў істоце сваёй людзі, як сцвердзіў Стрыйкоўскі ў «Хроніцы», «leśny naród z Żmodzią pobratany»[302]. Відавочна, такі vitium argument у справе еднасці не дужа спрыяў, а больш таго, падліваў алею ў агонь узаемнай — польска-літвінскай — варожасці.

Як не згадаць тут пана Андрэя Волана з яго балючаю прамоваю «Do Polaków i do Litwy». Калі, слушна казаў пан Андрэй, «jeden wylata a drugiego depce i mówi, iże to łotr», «tam między takiemi już trudna bywa zgoda, a nie może nic urość, jedno zła przygoda»[303]. Калі адзін перад адным жадае мець перавагу — еднасці не будзе! — сцвярджаў пан Волан. А калі ж яшчэ адзін другога ганьбіць пачынае, як гэта зрабіў пан Ажахоўскі, назваўшы літвіна «рабом ад нараджэння», то і наогул — крэс згодзе і сяброўству.

— І смешны ж той Ажахоўскі! Не ўцямлю, мосці панове, як з яго «płochej głowy nierozmyślnie wyszly dziwne wymysły»[304], быццам бы на Літве немаўля ў чэраве сваёй маткі ёсць ужо «niewolnikiem panu swemu», а ўжо пану нібыта «wolno z nim czynić, co jedno żywnie chce». Мудрагель! Праз якое шкельца ён разгледзеў на Літве «прыроджанае рабства» («przyrodzona niewola, dyjabelskiej niewolej podobna»), у якім лесе ўбачыў «сыноў гневу Боскага» — літвінаў-рабоў?

— Вось якая, паны ляхі, ваша «droga do zgody i spójnej miłości»[305], вось што вашыя «срамныя языкі» вымаўляюць, вось як вы літвінам спрыяеце — трызненні ды плёткі блазнаў і мудрагеляў на свет Боскі пускаеце! Ну, то добра ж вам будзе, паны ляхі! Сцеражыцеся! Бо тое, што вы вольнасцю называеце, — сваволя дзікунская і распуста каралеўская, чаму «przykładów siła»!

Як у ваду глядзеў пан Андрэй, кажучы: ланцугі на вольнасць сваю накідайце, калі жадаеце «państwa wcale potomstwu zostawić»[306]. Бо менавіта са смерцю апошняга Ягелона караля Жыгімонта Аўгуста, які «нашчадкаў не пакінуў», знікла дынастычная повязь паміж Літвой і Каронай. Яшчэ доўгі час па Любліне Рэч Паспалітая нагадвала дзве разарваныя часткі, узаемна нязгодныя і нават варожыя адна адной.

— Нездарма, — заўважыў, глытнуўшы гарэлкі, пан Смешыц, — Ян Салікоўскі сам у сябе пытаўся: «А пасля уніі што змянілася?» і слушна адказваў: «Ні чорта, як было, так і ёсць, толькі мудрэй!»[307]

---

[302] Лясны народ са жмудскім народам з’яднаны (*пол.*).
[303] Дзе адзін з брудам раўняе другога ды яшчэ кажа гультай, ніякай не будзе згоды, нічога не будзе, апроч злой прыгоды (*пол.*).
[304] З дурной галавы выйшлі такія бязглуздыя дзіўныя плёткі (*пол.*).
[305] Дарога да згоды і братэрскай любасці (*пол.*).
[306] Калі жадаеце дзяржаву сваю нашчадкам пакінуць (*пол.*).
[307] Цыт. па: Ziemianin albo rozmowa Ojca z Synem o sprawie Polski / Jan Dymitr Solikowski.



—І хітрэй, і мудрэй! А хітрасць жа была ў тым, мой ясны пане, што першы Ягелон нарадзіў душу Рэчы Паспалітай, апошні — Яе цела. Грэшная душа, заплямленая ўзаемнай варожасцю, язычніцкай зайздрасцю, выпацканая ў крыві, атрымала велічныя шаты, сшытыя, аднак, нядбайнай рукою няўмелага, празнадта амбітнага майстра. І была падобная Яна да…

— Падобная да прывіду каралевы Барбары, які містрж Твардоўскі выклікаў Жыгімонту Аўгусту ў замку на Вавелі. Быў той прывід здалёк нібыта пекны і святлом Лялівы ахутаны, але зблізу нагадваў пачварную відму смерці:

Chuda, blade, żołte lice
Świecić się jako miednica,
Upadł ci jej koniec nosa,
Z oczu płynie krwawa rosa,
Przewiązała głowę chusta[308].

— І аб’ядноўвала душу з целам толькі роўнасць шляхецкая. Без яе не было і не будзе *нашай* Рэчы Паспалітай. Роўнасць, па словах Яна Панятоўскага, аздобіла «маястат Каралеўства», была галоўным дыяментам у кароне Боскага панства. Што прывабіла прускую шляхту, дазволіла ёй насуперак сваволі паноў вялікіх злучыцца са шляхтаю польскай? Роўнасць! Што прывабіла літоўскую шляхту, падказала ёй на сейміках выказацца за унію з Польшчаю, нягледзячы на пратэсты магутных валадароў? Роўнасць! Яна адна была падмуркам дзяржавы і найвялікшым дасягненнем продкаў, якія «сваёй крывёй заслужылі», каб іх «нашчадкі з уласнага засценка маглі перанесціся на лаўку дэпутацкую, на крэсла сенатарскае і на трон нават».

І, як роўнасць запанавала — Рэч Паспалітая зрабілася непераможнай! Нездарма Ян Кахановскі адзначыць: «Miał Niemiec i z Polaka i z Litwina siły, póki te dwa narody spólnie się trapiły»[309]. Спачатку апошні магістр крыжакоў Альбрэхт Гогенцолерн прысягнуў Жыгімонту Старому, потым туркі схіліліся перад «сармацкім Марсам» Хадкевічам, які, звяртаючыся да славянскага войска, сказаў: «Litwa i Polanie, osiądźcie Turkom karki i nastąpcie na nie»[310].

Ішла шляхта на вайну з уласнай волі, а не пад бізунамі, як зараз, і білася за свабодны Край, дзе нават кароль, як выказаўся Замойскі, «rege, sed non impera» («panuje, lecz nie rządzi»).

— Праўдзіва кажуць, мосці панове, — узняў палец угару пан Смешыц і павадзіў ім перад самым носам пана Ажэшкі, — даўней было складней! Дзяды не зналі бяды, бо кожны граў як знаў! Згадваецца мне,

---

[308] Цыт. па: Rozmowa mistrza Polikarpa ze śmiercia.
[309] Цыт. па: Proporzec albo Hołd pruski / Jan Kochanowski.
[310] Цыт. па: Wojna Chocimska / Wacław Potocki.

як за часамі Яна Казіміра шляхта ў казацкай аблозе сядзела. Было гэта на Падоллі… Часы такія надышлі гайдамацкія, што Рэч Паспалітая ледзь трымалася, ледзь не захлыналася ў крывавым віры. Казакі Хмяльніцкага, як ваўкі, па ўсёй Украіне рыскалі. Пасля Жоўтых водаў нічога не баяліся — ні караля, ні Бога, ні... д’ябла. Атачылі абоз кароннага войска, шанцы пачалі рыхтаваць, з гарматаў і самапалаў смаліць. Яшчэ хвіліна — і на штурм пайшлі б... А шляхце да таго спраў няма — сеймікуюць ды п’юць як апошні раз... А паслу караля, пану Валадыёўскаму, харунжаму з абозу Ярёмы Вішнявецкага, зухвала адказваюць: «My wkroczmy w służbę nową z winem albo z miodem!»[311]

Chociażby pod Kamieńcem
Chmielnicki był z chanem,
Mnie pod biesiadnym wieńcem
Dobra myśl hetmanem <…>
Nich mię wódz w podjazd zaśle;
Do beczki, nie dalej,
Pójdę, lecz przy tym haśle:
Natocz albo nalej.

Вось якая вольнасць і роўнасць былі. І ніхто, кароль нават, не мог шляхту да корда прымусіць.

— Змоўчы, блазан, не пра тое размова! — гучным голасам перапыніў пана Смешыца пан Гроза. — Але пра тое, яснаасвяцоны пане Стольніку, што, нягледзячы нават на прыроджанае калецтва, на брак маральнай дасканаласці, духоўнай чысціні, душа Рэчы Паспалітай не загінула, не паляцела ў бездань паняверкі. Чаму? Таму, што падмуркам дзяржавы зрабіўся... Касцёл. Святыя айцы адмалілі ў Бога душы грэшнікаў.

— Святыя?! — зноў рагатнуў пан Смешыц. — Бачыў я аднаго бардзо камічнага каноніка, які з амбона віленскай фары казаў: «Грэх у мех, а спасенне ў торбу, хто кажа грэх — лупі ў морду!» А другі Андрэй сказаў мадней. Будучы біскупам кракаўскім, аднаму літваку [яўрэю. — *Т. К.*] шапнуў крадком на вуха: «Wierz i w kozła, jeśli chcesz, płać mi tylko dziesięcinę!»[312] Ведаў, пра што казаў сумленны Бернард з Любліна: «Wszytko w kościele zdworzało, nabożeństwa bardzo mało»![313]

— Гэта даўно было ды быллём парасло! — заўважыў пан Гроза і, пазяхаючы, дадаў: — Езуіты ўсё выправілі, людзей да Бога навярнулі, Рэч Паспалітую ад смерці гвалтоўнай выратавалі.

— Мячамі людзей у касцёлы заганялі…

— Але тым Рэч Паспалітую збавілі! — пан Гроза памаўчаў і, падумаўшы, дадаў: — А пачалося ўсё з вядзьмаркі Боны, якая біскупствы на золата выменьвала, сына свайго, апошняга Ягелона, у традыцыях далёкіх ад славянскіх выхоўвала. Іронія лёсу ў тым заключалася, што душу каталіцкай Рэчы Паспалітай язычнікі нараджалі, а цела — пратэстанты-недаверкі і бязбожнікі. Калі яшчэ, як не за часамі Жыгімонта Аўгуста, узнялі галаву ерэтыкі, кроўныя д’ябальскі прыгожай Барбары на чале з Мікалаем Радзівілам Чорным, князем на Алыцы і Нясвіжы. Гэта ён прынёс вучэнне Кальвіна, пацягнуў у Зборы шляхту, выгнаў з Літвы каталіцкіх святароў, якія «miszkania swoje i świątynie przymuszeni byli bezbożnym zostawiać»[314]. Меў рацыю езуіт Савіцкі, калі казаў: «Cała prawie Litwa herezjami zarażona; bluźniercze zewsząd na Boga, świętych Pańskich i kościół Rzymski podnoszono głosy»[315].

— Ха-ха-ха! Мосці панове, — чырвоны твар пана Смешыца перарэзала на дзве няроўныя часткі шчарбіна-ўсмешка, — у Вільні спачатку сінагогу ўзвялі, а потым касцёл на карчму перакруцілі; і там, дзе ксёндз з амбона святую імшу прамаўляў, чуеце, цяперака жыд гарэлку разліваў. Нават чэрці пляваліся, гледзячы на тое безгалоўе і паскудства… І кожны пачаў сваё гнуць: спачатку Радзівілы, як тыя дрыганты каля кабыл, пачалі каля касцельнага маястату круціцца, а потым, на іх гледзячы, цуглі закусілі ды праз плот да пратэстантаў пераскочылі Агінскія, Валовічы, Вішнявецкія, Войны, Патоцкія, Пацы, Хадкевічы, Дарагастайскія, Шэметы… і пачалося такое, пра што Святы Ян Евангеліст казаў: «І з’явіцца шатан, у якога сем галоў» — сем касцёлаў, сем рэлігій, сем розумаў. Ды адно панства, мосці панове, чуеце? Адна Рэч Паспалітая!

— Рэч Паспалітая… літвіны, русіны, мазуры. Тры народы — тры культуры, тры прычыны жыць паасобку. І кожны паасобку не стрымаў бы ні навалы крыжацкай, ні агрэсіі маскоўскай, ні мангольскага гвалту, ні турэцкага. Рэч Паспалітая, мосці панове, была тою замкавай сцяной, за якой тры сэрцы трох народаў схаваліся. Сэрца першага — у Святой Сафіі Полацкай, другога — у даліне Свентарога, трэцяга — у Касцёле Святых Станіслава і Вацлава. Як злучыць іх, як прымусіць біцца разам?

— Аб’яднаць духоўнай прасторай, заручыць верай!

— Хрысціянскай, вашэсць?

—Якой заўгодна, мосці панове, абы адной для ўсіх! Гэта ідэя толькі на першы пагляд дзіўная. А калі ўсё ўзважыць як след ды гісторыю прыгадаць? Уладзімір Кіеўскі чым землі рускія ў адно пазбіраў? Ве-

[311] Цыт. па: Pieśń w obozie pod Żwańcem // Pieśni / Jan Andrzej Morsztyn.

[312] Вер у казла, калі жадаеш, толькі дзесяціну сплочвай // Reformacja Piotra Chmielowskiego (*пол.*).

[313] Усё ў касцёле свецкім стала, набажэнстваў надта мала! // Z przedmowy do Żywota Ezopa Fryga (*пол.*).

[314] Дамы свае і касцёлы змушаныя былі бязбожнікам пакінуць (*пол.*).

[315] Амаль уся Літва на ерасі захварэла; па-блюзнерску на Бога, на святых Боскіх і на Касцёл Рымскі ўзносіла галасы (*пол.*).

раю! Як перастаў Полацк Ярылу маліцца, Кіеў — Перуну чалом біць, а Ноўгарад — Вялесу ахвяры складаць, так і землі славянскія рускімі называцца пачалі, бо ў адно месца сышліся, аднаго Бога хвалілі![316] Чы добра зрабіў Уладзімір тым, што веру спрадвечную славянскую замяніў на веру чужую — грэчаскую? Добра, бо панства сваё над іншымі ўзвысіў, падмурак заклаў такі трывалы, што і сёння Расія на ім стаіць. Але, мосці панове! Заўжды ёсць «але»! Падумайце, чы дабром ён з язычніцтва народ свой выцягнуў? Вось яно, пане Стольніку, самае галоўнае: дабра дапяць злом толькі можна!

Уладзімір — перш чым Кіеў хрысціў, мора крыві праліў. Агнём і мячом з Русі язычніцкай святую Русь зрабіў. Колькі нязгодных было, колькі пратэставала! І што б было, мосці панове, калі б Уладзімір замест таго, каб ім галовы адцяць, пачаў выслухоўваць? Нічога добрага! Чалавек, які Богам натхнёны, які ведае праўду і бачыў святло яе, мае права бізунамі весці па шляху гэтай праўды цэлы народ. І ў імя яе, і ў імя народа Ён — Прарок — мае права на забойствы і гвалты! Усё pro publiko bono, мосці панове!

Канешне, вы прызвычаіліся слухаць і чытаць такое, што не існуе злых шляхоў да дабра! А я кажу вам: толькі такія шляхі і існуюць! Іншых няма і не было ніколі. Хто зрабіў Рэч Паспалітую дзяржаваю? Гуманісты і асветнікі? Не, панове! Цемрашалы і крывапіўцы! Езуіты! Любасцю і міласэрнасцю? Не! Хлуснёю, здрадамі і забойствамі! Тры народы езуіты ў адзін з'ядналі, тры веры ператварылі ў веру адну — найсвятую! Бо пратэстантызм — духоўная разарванасць — у істоце сваёй нагадваў мнагабожжа. Замест таго, каб Айчыну ад знешніх ворагаў бараніць, людзі паспалітыя адзін на аднаго паўставалі — арыянін на лютэраніна, лютэранін на кальвіна, кальвін на ўсіх разам. А ў выніку швед, маскаль і казак галаву ўзнялі, пачалі наезды на Рэч Паспалітую рабіць. Бо на пахілую бярозу, як вядома, нават козы скачуць.

Скуткамі духоўнага «пахілення», а дакладней — грамадзянскага паскудства зрабіліся паражэнне ад Хмяльніцкага і «шведскі патоп». Ці варта

[316] Тут мы згаджаемся з меркаваннем нашага сучасніка пана Зарыяна Даленгі-Хадакоўскага, якое ён размясціў у вядомай працы «Славяншчына да хрысціянства». «Прыхільнікі новай веры, — піша пан Зарыян, — сцвярджаюць, што з аднолькавай лёгкасцю пераход да новай веры рабіўся ў Познані, Кіеве і Ноўгарадзе. Быццам бы дастаткова было прыкладу і волі валадара, каб толькі за адзін дзень ці за год усё было скончана. <…> Пераход у новую веру не мог і не быў раптоўным і шчаслівым. Ад Кіева на чатыры гады спазніўся ў прыняцці новай веры Вялікі Ноўгарад, на 100 гадоў — Растоў, яшчэ больш у часе Шчэцін». І самае галоўнае: «Жрацы мнагабожжа, схаваўшыся ў глухой Літве, зрабілі нязнанай да таго краіну, дзе быў узняты меч помсты на польскія і рускія сядзібы. <…> Усё паказвае, што чалавек, які жыве сярод сваіх суродзічаў, ніколі не змяняе сябе, ніколі адразу не пазбаўляецца ад сваіх звычаяў».



было іншага чакаць? Наўрад ці, бо абывацелі Рэчы Паспалітай у найзлых ворагаў абароны шукалі! Глінскага мо прыгадаць або Хмяльніцкага ў прыклад прывесці? Куды яны — абласканыя Маці Польшчаю — народы свае павялі? У бездань маскоўскую! А арыяне, а кальвіністы — колькі ад іх здрадаў Рэч Паспалітая нацярпелася? Не, мосці панове, у сітуацыі — дзяржаўнага разброду — патрэбная рука з праўдзівым бізуном, каб заблукаўшых авечак да роднага парога прывесці.

Бізун жа той, мосці панове, якраз і трымалі езуіты, якія Боскай намоваю з'явіліся ў Вялікім Княстве ў 1569 годзе, у тым самым годзе, мосці панове, калі Рэч Паспалітая з мёртвых паўстала. Таму заўжды казаў і казаць буду: не ў актах Люблінскіх душа і сэрца Дзяржавы заключаныя, а ў казаннях Пятра Скаргі[317], у чынах Мікалая Радзівіла Сіроткі[318], у рашэннях паслоў соймаў 1668 і 1733, паводле якіх дысідэнтаў і адступнікаў пасадаў пазбаўлялі і да баніцыі змушалі, а хуткім часам, Бог дасць, і да смерці на спатканне дашлюць[319].

Першы іх крок — спальванне на Віленскай плошчы бязбожных кніжак (1581), другі — руйнаванне пратэстанцкіх і праваслаўных школаў, брацкіх друкарняў, выгнанне арыянаў. Дарма пішуць, што на Літве «нормы рэлігійнай талерантнасці не дапусцілі такіх жудасных і агідных форм, як у Заходняй Еўропе». Там сапраўды на вогнішчах згарэлі Дж. Бруна і Дж. Ваніні, а ў полымі Варфаламееўскай ночы (24.08.1572) і Трыццацігадовай вайны (1618–1648) — тысячы і тысячы бязвінных душаў загінула. «Дарма», бо і на Літве «неталерантнасці» хапала.

Яшчэ Стэфан Баторый Касцёл каталіцкі над іншымі ўзнёс, а Жыгімонт III пачаў фізічна знішчаць праваслаўных і пратэстантаў. Бізунамі ў касцёлы заганяў. Кроў праваслаўных і пратэстантаў лілася без усялякай меры, галовы зляталі, вогнішчы гарэлі — і днём, і ўночы. Езуіты шчыравалі... Але пасля новага крывавага — польскага — хросту Рэч Паспалітая да лепшага змянілася. Нездарма пра свецкага правадыра езуітаў — караля Жыгімонта III — будзе сказана:

«Жыгімонт III зразумеў, што заваяваны народ у думках ніколі не скарыцца народу-пераможцу, ні на хвіліну не перастане ваяваць з ім. Ён зразумеў, што ў параўнанні з Масквой наша нацыя абапіраецца

[317] Скарга Пётр (2.2.1536–27.9.1612) — польскі тэолаг і пісьменнік. Ідэолаг контррэфармацыі, натхніцель Берасцейскай уніі 1596 г., аўтар вядомых «Жыцій святых» (1579), а таксама «Казанняў на нядзелі і святы цэлага года».

[318] Мікалай Крыштоф Радзівіл Сіротка (2.8.1549–28.2.1616) — маршалак вялікі ВКЛ, каралеўскі пасол на Берасцейскай уніі, сын М. Радзівіла Чорнага, вызначыўся тым, што выгнаў пратэстантаў з Нясвіжа і Клецка, быў апекуном Касцёла ў Вялікім Княстве, адным з выбітных «літоўскіх сепаратыстаў», прыхільнікам шырокай аўтаноміі ВКЛ.

[319] Д'ябла або пан Гроза мае на ўвазе сойм 1764 г., які прыняў сумна вядомае рашэнне аб пакаранні смерцю адступнікаў ад каталіцтва.

толькі на каталіцкую рэлігію. Не вучонай мудрасцю, не філасофіяй ён апалячваў рускія землі, а рэлігіяй, мніхамі; калі каталіцкая рэлігія цалкам запанавала ў тых мясцінах, то ўсе іншыя праявы польскага жыцця ўкараніліся там самі па сабе»[320].

— У Рэчы Паспалітай, мосці панове, — заўважыў пан Смешыц, — «Касцёл забыўся пра навуку Езуса і пачаў займацца выключна дзяржаўнымі справамі <...>, Касцёл зрабіўся ўстановай адміністрацыйнай — польскай», а не хрысціянскай.

— І гэта нібыта праўда, але іншага выйсця, акрамя як усе народы вадою польскаю абмыць, на той час не было! І зноў, мосці панове, дзеля таго, каб грамадства ў адну сям'ю сабраць, спатрэбілася ўзброіцца самымі злымі сродкамі — апалячваць і акаталічваць. Усё — паводле Святога Аўгусціна, які сцвердзіў: «Гасподзь дазваляе існаваць злу, пакольні гэта садзейнічае дасканаласці, <…> дапускае зло ў імя дабра».

— Гэй-гэй! Мосці панове, колькі з-за таго дабра зла нарабілі…

— Але malum nullum est sine áliquo bono[321], — па-воўчы ашчэрыўся пан Гроза і працягнуў надта ціхім голасам: — І Уладзімір, і Ягайла, і Жыгімонт III зрабілі адно: пазбавілі суайчыннікаў свабоды. Бо выбралі паміж мнагабожжам і хрысціянствам, праваслаўем, каталіцтвам і пратэстантызмам; прымусілі гэтага выбару ўсіх трымацца. У гэтым іх веліч! Бо не пабаяліся кесары ўзваліць на сябе цяжар выбару, уласнай воляю, няхай сабе і гвалтам, людзей да дабра павярнулі. Што было б з імі і з іх рэчпаспалітымі, калі б яны інакш зрабілі?

— Гэй-гэй! Мосці панове: нічога б добрага не было — адно толькі благое! Асабліва калі б валадары тых «разумнікаў» слухаліся, якіх не паспелі дапаліць езуіты. «Нельга, — плявузгалі тыя недасекі, — гвалтам насадзіць сярод людзей дабро, бо дабро, дасканаласць, сапраўднае існаванне павінны быць дасягнуты свабодна. Дабро, Дасканаласць, Праўда, Бог не здольны і не пажадаюць гвалтоўна прывесці да сябе». Найперш таму, што «чалавек ёсць істота ірацыянальная <...>, ён згодны адмовіцца ад усялякага разумнага парадку ў жыцці, ад усялякай гармоніі, калі яна — гармонія — пазбаўляе яго свабоды і калі яна будзе пад прымусам». Ну, ці не глупства?

— Глупства, бо гісторыя іншаму вучыць!

— І мы вучыцца павінны, — пасля хвіліннага перадыху пан Гроза паглядзеў на Ажэшку і сказаў: — Сёння Рэч Паспалітая — цела, якое гвалтам раз'ядналі з душой. Каб ратаваць Дзяржаву, забыцца трэба на мараль, узброіцца не хрысціянскай міласэрнасцю, але помстаю д'ябальскай і падступнасцю езуіцкай.

[320] Цыт. па: Жавускі Г. «Успаміны Сапліцы» (пер. з пол. мовы і камент. М. Кенькі; прадмова А. Фядуты. — Мінск, 2005).

[321] Няма ліха без дабра (*лац.*).



Ведаем мы шмат такога, ад чаго сэрца крывёю абліваецца. Напрыклад, пра ліст віленскага іераманаха Левантовіча да Кацярыны II. Просіць манах праваслаўных узяць «в найкрепчайшую всероссийскую протекцию», «греческого закона церкви и монастыри защитить». Два гады назад у снежні Левантовіч перадаў маскалям такую цыдулку, паводле якой нібыта «правильно и праведно забрать 600 вёрст лутчей и плодороднейшей земли с безчисленным православным народом».

— Няхай бы адзін Левантовіч чалом біў. Ці ж бы гэта гора? Гора, што ўслед за ім уся схізма ў бок Масквы пацягнулася, — пан Смешыц суцішыўся, са страхам агледзеўся, нахіліўся да пана Ажэшкі і на вуха яму ледзь чутна сказаў: — Магілёўскія папы ваду ўскаламуцілі, — пасля гэтых слоў чорт выпрастаўся, узняў палец угару і, бліскаючы на Стольніка чырвонымі вачамі, працягнуў: — Хадайнічалі святары перад маскалямі, каб тыя спынілі з рымска-уніяцкага боку «прыдзерзасці». Дзеля чаго прасілі на Літву казакоў даслаць.

У адказ віленскі біскуп Ігнацы Масальскі разам са жмудскім біскупам Тышкевічам шляхту на гвалты намовілі. Такі вэрхал пачаўся — не пераказаць! Яшчэ пан харунжы літоўскі Геранім Радзівіл, які цяперака ў пекле, усіх «грэкаў» са сваёй зямлі выгнаў, цэрквы абрабаваў і жыдам у арэнду раздаў; месяц яшчэ не прайшоў як віленскія шляхцюкі разам з мінскімі і магілёўскімі вызначыліся — пастанавілі набажэнствы ў цэрквах зрываць: ні табе пахрысціцца, ні табе ажаніцца, ні табе памерці… гора, адным словам. Гледзячы на гэтыя і іншыя гвалты, у Пецярбургу вырашылі да віленскага біскупа даслаць палкоўніка Тучкова з мехам чырвонага золата.

— Ха-ха-ха! — адгукнуўся пан Смешыц. — У Пецярбургу думалі, аднаго меха з золатам хопіць! Дзе там? Масальскія запатрабавалі Радзівілаўскіх маёнткаў. «Усяго чатыры тысячы рускіх салдат, — казаў гетман літоўскі палкоўніку Тучкову, — і мы выганім Радзівіла з Літвы, партыю яго змарнуем, а землі паміж лаяльнымі расійскаму прастолу асобамі размяркуем». Кацярына II, пачуўшы такія навіны, ажно на троне падскочыла. «Вот тебе на!» — сказала яна. Не чакалі ў Пецярбургу ад польскіх саноўнікаў такога «рвения».

— Рэч Паспалітую груганы на часткі рвуць, — уздыхнуў пан Гроза, — што думаеце, мосці панове, на Трыбунале літоўскім Радзівіла скінулі дзеля справядлівасці Боскай, гвалты яго прыгадалі над шляхтаю? Не! Аб інтарэсах Familii вялося ды аб перадзеле Літвы і Белай Русі. А Радзівіл — мо ён патрыёт? Той новы Хадкевіч, які Польшчу з бяздоння зла выцягне??! Чакай татка лятка — улады прагне Радзівіл, вось чаго яму не стае! Пхне Нясвіжскі ардынат на трон саксонскага курфюста і трымаецца за яго, як п'яны за плот.

А ты, Ажэшка, ты за што трымаешся? Навошта ты цэлы аддзел казакаў высек, якія пана Гедройца ахоўваць мусілі? Зараз уся Літва

маскалямі споўніцца. Э-э-эх! Паны-паны, няма на вас бізуна. Хто больш зухаваты, хто дужэйшы, той і лепшы!

А гэты ёлупень — пінскі судовы стараста Міхал Казімір — яму чаго не стае? З якой прычыны ён абівае парогі пецярбургскіх саноўнікаў? Таксама кароны прагне! Дурні ўсе — і Радзівілы, і Агінскія, бо яшчэ ў кастрычніку 1763 года на імператарскім савеце Панятоўскаму трон прысудзілі.

А шляхта? Яна мо соль зямлі? Шляхта, мосці панове, зусім сорам згубіла. У сітуацыі бескаралеўя не толькі наезды на суседнія маёнткі, але і на суседнія краіны чыніць пачала. Увосень пінскія шляхцюкі рускія памежныя землі абрабавалі, а вясной 2000 душ з Прусіі Усходняй вывелі. Штомесяц сеймікуюць, б'юцца, мірацца і зноў б'юцца. То за Пяста сцяной, то за Саса. Гармідар, мосці панове, і канец свету!

На гарадзенскім сойме, які з тыдзень назад адбыўся, партыя Пяста стаўкла партыю Саса — з дзесятак шляхцюкоў ногі выцягнула, на навагрудскім — яшчэ невядома, чым справа завершыцца, а ў Бярэсці дэпутаты пратэставалі «супраць паніжэння шляхецкай вольнасці» — пацярпела каля 20 чалавек. У Мінску панВаладковіч разам з шасцю шляхціцамі нясвіжскай міліцыі і двума з альбенскай банды зрабіў напад на каптуровы суд. У адсутнасць суддзі, які схаваўся ў каноплях, пакараў пісара пана Матушэвіча: «...położyli go na stole czerwonym suknem pokrytym, a pan Wołodkowicz swoją ręką pięćdziesiąt nahajów odliczył»[322]. А што да ваўкавыскага старасты пана Быкоўскага — то каб на яго ліха! Такога разбойніка спаконвеку ў Навагрудскім ваяводстве не было. Мала таго, што сеймікі баламуціць, дык яшчэ і крымінал чыніць — жанок гвалціць, яўрэяў рабуе.

А ці не твой дваранін — пан Міцкевіч — у мінулым годзе вёску лідскіх дамініканаў спаліў, а ў гэтым на пана Бжастоўскага наезд зрабіў, сям'ю ў пень высек? Навошта?

А пан ротмістр Ян Солтан навошта ў Рэчыцкім павеце не толькі на соймік напаў, але яшчэ «сарваў прысягу сабраных у згодзе 100 чалавек, а затым яго людзі сталі рубіць, біць і калечыць. Прысутныя паўцякалі да суседняга касцёла. Іх дагналі, скрывавілі дзверы, прыступкі і пасеклі каля 35 чалавек».

Часы надышлі д'ябальскія, мосці панове! Рэч Паспалітая перастала быць мурашнікам, у якім усе працуюць у імя адной мэты, кожны робіць тое, што падказваюць яму шатанскі гонар і далёкія ад дзяржаўных інтарэсы. Шляхта, якая некалі з перамогай вярталася ў часы Яна з-пад Вены, усё больш мізарнее, траціць вартасці свайго саслоўя і набывае вялікія грахі перад Айчынай і Богам. Пабачыце, мосці панове, вельмі хутка надыдзе і «wielki post — niewola»[323].

[322] Паклалі яго на стол, пакрыты чырвоным сукном, а пан Валадковіч уласнай рукой яму пяць дзесяткаў бізуноў адлічыў (*пол.*).
[323] Вялікі пост — няволя (*пол.*).











* * *

Езуіт змоўк, устаў і нервова захадзіў па пакоі. Пан Смешыц склаў рукі — нібыта маліўся. ЯВ Ажэшка кінуў вокам на дно куфля, адшукаў там рэшткі піва, перакуліў яго ў перасохлае горла і пачаў абдумваць навіны. Яго разважанні перапыніў пан Гроза, які раптам пляснуў кулаком па стале і пранікнёным голасам зазначыў:

— Рэч Паспалітую, мосці панове, трэба ратаваць, бо яна зараз на краі бездані. Яшчэ крок — і амэн!

— Хто бачыць блізкую бяду? — урачыста, нібы з амбона, працягваў пан Гроза. — Шляхта? Не! Бо яна вырашае Саса ці Пяста на трон ёй усадзіць, быццам не ўсё роўна, з кім у агні пякельным гарэць. Магнаты? Не! Бо яны Літву і Карону нанова дзеляць. Святары? Не! Бо няма іх зараз — адны прайдзісветы. Адзін аднаго прадае, купляе,тузае і ўсе разам у бездань ляцяць. Патрэбны такі чалавек, які б не толькі спыніў, адвёў ад бездані, але і лад усталяваў. Рэчы Паспалітай, мосці панове, патрэбны рэформы!

Магнаты павінны адмовіцца ад латыфундый, шляхта — ад сармацкага самавольства. «Павінны»… як быццам бы гайдамакі і кантушовыя д'яблы ў адно імгненне перародзяцца! Не і не! Перш чым рэфармаваць, трэба абручом сталёвым сціснуць! Пазбавіць свабоды, мячом і агнём самавольства выпаліць, прымусіць перарадзіцца… Толькі ў жалезнай дысцыпліне, у кайданах Івана Грознага выратаванне для Айчыны!

— Але хто здольны ўзняць карону з зямлі, а разам з ёю і бізун Боскай помсты, хто здольны накінуць кайданы на самавольствы і бязладдзе? Палякі? Літвіны?

— Не! Маскалі.

Пачуўшы такую навіну, Стольнік нават келіх з рук выпусціў. Сядзеў, бы перуном працяты, і на ўсе вочы глядзеў на езуіта.

— Бо толькі яны, — працягваў пан Гроза, — маюць дастаткова моцаў, каб Край да адзінага закону прывесці, злачыннае злоўжыванне свабодай спыніць. Няма зараз ні Ягайлы, ні Жыгімонта, ні Хадкевіча, ні Сангушкі… безгалоўе на бацькоўскай зямлі. Толькі маскалі дапамогуць караля абраць, штыкамі да рэформаў Рэч Паспалітую падштурхнуць. Маскалі і іх умяшанне ў справы польскія — зло, але зло ў імя дабра знойдзе апраўданне.

— Чыні не сэрцам, а розумам, — уставіў свае тры грошы пан Смешыц.

— Цяжкую гэтую ісціну зразумелі Чартарыйскія. Час прыйшоў зразумець і табе, Стольнік… Усвядоміць нарэшце, што дзеля дабра, дзеля выратавання ад хваробы цэлага народа часам трэба адмовіцца ад маральных прынцыпаў, апрануць маску злачынцы, здрадніка, узброіцца д'ябальскімі сродкамі, ахвяраваць сябрамі... Дык што, ясны пане? У імя Рэчы Паспалітай, у імя будучыні і ў імя Бога… пакрыві душой, упішы

ў цыдулку, якую табе пан Міцкевіч прывёз, прозвішчы дэпутатаў, якія ўвесну на элекцыі маўчаць будуць ды адпаведным чынам прагаласуюць… за новага караля Станіслава Аўгуста Панятоўскага ды за новую Рэч Паспалітую.
— А маскалі? — запытаўся ЯВ Ажэшка.
— А маскалі, ясны пане, як бруд з ботаў, потым абтрасуцца. Ніхто аб іх не ўспомніць нават, а Рэч Паспалітая застанецца!
— А Рэч Паспалітую ўратуем, мосці панове! Усё pro publiko bono…
— Cha-cha-cha!!!
— Ха-ха-ха!!!

* * *

Ажэшка перавярнуўся на другі бок і нечакана паляцеў з драўлянай лавы на падлогу. Пляснуўся добра — ажно ў галаве закруцілася. Адкрыўшы вочы, Стольнік убачыў шчарбіны на стале, а таксама павуцінне ў кутах. Пасля правай рукой памацаў вакол сябе — патрапіў пальцамі ў місу, перакуліў келіх і нарэшце дацягнуўся да калоды… не, не калоды, хіба дывана? Не, не дывана… Якога напрамілы Бог дывана?
Стольнік павярнуў галаву і… спалатнеў. Побач спаў, скруціўшыся ў клубок, захінуўшы морду лапамі, той самы гаротнік-мядзведзь, якога чорт ведае навошта прыцягнулі з пушчы. Колькі часу ляжаў Ажэшка нерухома, баяўся нават кірхнуць — такі яго апанаваў жах. Але, як пераканаўся, што звер моцна спіць, пакрыху ўсё ж адпоўз да сцяны і вельмі асцярожна ўзняўся на ногі.
— Паўлоўскі! — шэптам паклікаў ён. Але за дзвярмі ніхто нат не адгукнуўся. «Відаць, не пачулі», — падумаў Ажэшка і, пазіраючы на мядзведзя, цяпер ужо ўголас, слабенька так паклікаў: — Паўлоў-ў-ў-скііі?!
Неўзабаве пачуліся крокі, грукат перакуленага стала, крэслаў, гукі мацюкоў, божканняў, і праз пэўны час на парозе з’явіўся Паўлоўскі. Ладны дзяцюк, высачэнны, як журавель, з капою саламяных валасоў і заспаным кірпатым тварам.
— Чаго, мапанку? — сказаў ён хрыплым, прыдушаным голасам і падрапаў вялізнай правіцай патыліцу.
—Я табе дам «чаго», — зашыпеў Стольнік і, хіснуўшы ў бок мядзведзя галавой, запытаўся: — Гэта хто?
Паўлоўскі прасачыў за рухам галавы Стольніка і абыякава заўважыў:
— Мядзведзь, ясны пане.
— Я і сам бачу, што мядзведзь, — вочы Ажэшкі ад злосці ледзь не вылезлі наперад носа. Ён патрос кулаком у паветры, пагразіў і зноў запытаўся: — Як ён сюды патрапіў?



— А Бог яго ведае, — адказаў без усялякай ахвоты пахолак, відно было, што яму надта баліць галава, а таму ўвесь свет нялюбы, — шукаў напэўна звер, дзе смагу сталіць, дый сюды ўшчаміўся! Ведама, п’яніца!
— Сам ты п’яніца! Ідзі прэч, каб вочы не бачылі!
І толькі Паўлоўскі павярнуўся да дзвярэй, каб схавацца ў другім пакоі, яго зноў паклікаў Ажэшка.
— Стой, — сказаў ён і няўпэўнена агледзеўся, — а дзе мае госці?
— Якія госці, мапанку? — Паўлоўскі нават рот разявіў, так моцна здзівіўся. Стольнік прайшоўся далоняй па вусах і зноў пацікавіўся:
— А хто цяперака ў нас кароль, вашэсць?
Паўлоўскі зусім аслупянеў. З недаверам паглядзеў на Ажэшку, пакруціўся на адным месцы і ціхім голасам адказаў:
— Няма ў нас караля, мапанку, памёр!
— Цьфу ты! — з палёгкай уздыхнуў Стольнік. — Сасніў, значыць! А я ўжо… а мяне ўжо… ледзь ліхаманка не схапіла! Дык дакладна не было нікога?
— Дакладна, мапанку!
— А каб цябе немач! Ідзі. Стой! Піва прынясі! І гэтага, халера на яго… мядзведзя забяры!
— Як я яго забяру? — здзівіўся Паўлоўскі.
— Як хочаш! — закрычаў Стольнік і пляснуў кулаком па стале. Неўзабаве на падлозе пачулася варушэнне і мармытанне. Ажэшка з Паўлоўскім апусцілі вочы і, каб маглі куды ўцячы, кінуліся б адразу. Мядзведзь узняўся на тры лапы, чацвёртаю працёр вочы і без усялякага здзіўлення паглядзеў на знямелых людзей. Пасля чаго пераступіў цераз перакуленую лаву, нюхнуў паветра, усунуў пысу ў місу, пакатаў па падлозе келіх і пайшоў сабе да дзвярэй. На парозе спыніўся, павярнуўся, з дакорам паглядзеў на Стольніка, але ўсё ж выйшаў, мінуў вялікую залу, нарабіў гвалту, адчыніў дзверы і схаваўся ў нетрах хваёвага лесу.
Трэці раз з палёгкаю ўздыхнуў Стольнік і трэці раз дарма, бо на тым самым месцы, дзе ляжаў мядзведзь, на шурпатых дошках ахайна было надрапана: «Finis sacrificat media. Nunc aut nunquam»[324].

[324] Мэта апраўдвае сродкі (дэвіз ордэна езуітаў). Зараз або ніколі (*лац.*).

## XVI
## ВЯЧЭРА. ЖАНОЦКАЕ І БОСКАЕ. ЗВАДА. ПАН ПАДКАМОРЫ. ПАЛАНЕЗ

Трапяткое маё каханне,
Залатая мая надзея…
Ад высокіх нябёс пасланне —
Бел-чырвоная бел-лілея.

*Ірына Багдановіч*

Ïасля тых падзей мінула добрыя два тыдні. У замак на вячэру былі запрошаныя самыя багатыя і ўплывовыя фаміліі ваяводства: Несялоўскія, Агінскія, Рэйтаны, Валадковічы і Белапятровічы… Мураваныя, са слядамі куль і шчарбінамі часу сцены залы ўпрыгожвалі рознакаляровыя габелены, а таксама вялізныя сармацкія партрэты, што складалі даўгую галерэю вусатых і суровых, мілажальных і цнатлівых, падступных і ліслівых Ажэшкавых продкаў. Шчарбіны ў замкавым бруку хавалі зялёныя і чырвоныя дываны, на якіх выгодна адбівалася святло дзівосных вянецкіх люстраў. Насупраць вялізнага каміна, у якім пішчалі і стралялі распаленыя дровы, муштраваліся лёкаі — хлопы з тутэйшых вёсак — таксама ў мундзірах, але жоўтага колеру з Ажэшкавымі паўкозічамі на спіне. Пасярод залы стаялі сталы і лавы, а ўжо што было на сталах, таго і пераказаць нельга: усё было, аднаго толькі — птушынага малака не ставала.

Гасцей сустракаў сам гаспадар «ля брамаў пекных замка». Апрануты, як і яго продкі, па-сармацку: у даўгі кармазінавы кантуш, маляўніча аздоблены і расшыты золатам. Падпаясаны Ажэшка быў парчовым, «багатым, таксама з золатам і срэбрам, з палямі пунсовымі» пасам, са слуцкай персіярні Радзівілаў. Справа налева, як полымя агню, грудзі Стольніка апаляла чырвоная з белымі палосамі па краях ордэнская стужка, а збоку ад яе, як бляск грамнічнага святла, сляпіла вочы крыж-зорка «Белага арла». «Так нашы дзеды апраналісь, ад строяў іншых адмаўлялісь», — заўважаў колісь паэт. Дадамо яшчэ тое, што левая рука Стольніка накрывала фамільную карабелю, а правая раз-пораз падлятала, каб падкруціць даўгія вусы, якія і без таго ўрачыста тырчалі — адзін толькі чамусьці ўніз, а другі ўверх.

Стольнік па-старасвецку ветліва ўсміхаўся, дарогу саступаў і нізка нахіляўся — як перад яснымі, вяльможнымі панамі, так і перад дробнымі з засценкаў шляхцюкамі. За ручку дам трымаў, пра справы хатнія пытаўся, з паненкамі пачціва жартаваў, у кампліментах рассыпаўся. Так на Літве даўней «сустрэнуць кожнага з пашанай, ветліва, як дома», бо ветлівасць, як усім вядома, — навука, ды і не малая, навука трудная, бо тут не ў гэтым справа, каб толькі дзе ўхмыльнуцца, ножкай брыкнуць



жвава, такую ветлівасць назваў бы я мяшчанскай, але не старапольскай і не панскай»[325].

Гасцей праводзіў у залу пан Рамбайла, які то дзьмуўся, то крывіўся, то па зямлі, як дым, сцяліўся — прад братам шляхціцам быў велькім панам, прад велькім панам, проша, быў баран баранам. Магчыма, толькі не бляяў, а так — карк гнуў, нібы грыбы ў гайку збіраў. Мне распавёў стары Мацей: няма як пана з хама злей. Казаў: «Пан быў і панам застанецца, а хам як стане панам — не даўмецца: як прыступіцца да яго, як умудрыцца дагадзіць — ці словам лашчыць, ці наўпрост у морду біць». Так і Гервазы — як стаў маршалкам, адмяніўся, з засценкамі сваяцтва даўняга пазбыўся. Быў, разам з тым, шляхцюк і верны пёс Ажэшкі — «даўгі, кастлявы, недарэчны, смешны; твар меў сухі, здаровы, але маршчыністы, пануры і суровы».

Убачыўшы Міцкевіча, пан Гервазы апрануў квасную міну, павярнуўся, паказаўшы спіну. Ды Стольнік горача Міцкевіча вітае, як сябру лепшаму, як брату руку паціскае, смяецца, у вочы шчыра заглядае, віншуе з перамогаю, за стол з вяльможнымі пускае. «Залішне гонару! — шалеў і пеніўся Рамбайла, гледзячы на зуха. — Ведама ж — псяюха! Як бы якога ваяводу садзіць на покуць паліводу! Яшчэ падумае, што роўны Несялоўскім ці Рэйтанам! Хапіла б месца пад парканам!» Ды раптам твар Рамбайлы бы святой вадой абмыўся. Усмешкай ветлівай расплыўся. Госць новы — золатам, срэбрам ззяе, кляйнотамі абсыпаны, атлас, парча з яго, як з лыжкі мёд, сплывае! Стольнік хоць зіркнуў строга, ды нехаця падаўся да парога. Гасцінна рукі расхінуў, усміхаецца, прымае. Паміж паненкамі, дочкамі падкаморага саджае.

Міцкевіч кінуў вокам — паніч — быццам дуб вялізны, камзол чырвоны, гузікі на ім, як свечкі, твар белы, бледны, парык даўгі нямецкі. Вялікі пан ды нейкі ўвесь няпэўны, зменлівы і, бы вуж жмайцкі, склізкі. Тут Ваявода напутрыўся, прыгледзеўся і абамлеў: «Агінскі!» Хацеў адразу кінуцца да бою, ды Стольнік моцнаю рукою свайго ўлюбёнца прытрымаў. «Памалу, сынку, — загадаў, дадаўшы ціха: — Хоць горшы ён ад гадзіны зласлівай, ядавітай, ды ён патрэбны нам і нашай Рэчы Паспалітай!»

Тым часам, гледзячы на рангі і пасады, за стол мужчыны паміж дамамі сядалі. Перш-наперш ваявода Несялоўскі, за ім вялебны ксёндз, адданы служка боскі, услед за святаром, як гусяняты за гускай, сядалі Возны, Войскі, князь Агінскі з жонкаю княгіняй, Аскерка з жонкай, ротмістр мазырскі, за ім Белапятровіч мастаўнічы пінскі, за мастаўнічым — яго жонка з гожаю дачкою — і так усё ішло сваёй чаргою. Ніхто не чуўся дрэнна, ні ў чым не заўважаў абразы. Усімі кіраваў, усіх злагоджваў Гервазы. Сярод запрошаных былі, што праўда, і паны з Масквы — з палка ўланскага, што

---

[325] Міцкевіч А. «Пан Тадэвуш».

ў вёсках Стольніка стаялі. Глядзела шляхта на ўланаў скоса, палітыкі ў размовах не краналася, гавэндзіла пра дробязі, лухтою пераймалася. А вось Ажэшка частаваў гасцей уласнаю рукою — фрыкасы накладаў, не шкадаваў напояў.

Паміж мужчынамі нясмела дзяўчына гожая сядзела. Была яна ў строі нарадовым, сказаў бы я прасцяцкім, нат вясковым. Хусцінка простая, а зверху камізэлька — пад ёю чырванню расшытая сукенка.

Якія фарбы ўзяць, каб апісаць яе, у якога мастака пазычыць пэндзаль? І хіба можна апісаць вясну, якая асвятляе, прастае радасць, шчасце рассыпае; ці сонца апісаць, ці ружу, белую лілею? На жаль, не маю фарбаў тых, так маляваць не ўмею. Скажу вам толькі: вочкі ў паненкі былі блакітныя, бы чэрвеньскае неба, а броўкі, бы крылы птушачкі, а вусны, як пялёсткі маку. Усмешка мілая яе так ззяла нада мною, як зорка першая над ціхаю вадою!

Падалі страву трэцюю. Пан падкаморы ўзняўся над сталом ды паглядзеў з дакорам.

— Даўней, — сказаў стары, — за ежай не маўчалі, аб справах у павеце, у ваяводстве размаўлялі. А тэраз кожны сам сабе — ажно глядзець нялюба. Маўчанне за сталом — дзяржаве згуба.

— Я згодна, — адгукнулася шляхцянка, — не будзь я Сабяшчанка, калі сама сабе не дам тут рады! На тое й Бог стварыў Каляды… У мінулым годзе бавіла ў Варшаве. Якія мілыя забавы, якія балі, рауты, вячэры, якія гжэчныя ў Варшаве кавалеры. Літва — правінцыя, панове! Усё толькі пушча ды балота, лес, поле, лес, а далей сум, нуда і слота! Ну а размовы — мілы Божа — ці грэчка ўзышла, ці паднялося збожжа! Ах! У Варшаве ў салуне воевудзянкі зусім пра іншае казалі варшавянкі. «Якіх паненак пекнымі лічыць, на што зважаць, за чым сачыць?» Адзін барон даводзіў смела, што ў розныя часы жанчына мела свой ідэал той прыгажосці. Цяпер, казаў, у модзе косці, косці… Даўней пра іншае вялося. Пра што вялося? Растлумачу панству. Карціну тую быццам зараз бачу. Не памятаю майстра… нідэрландзец. Эпоха позняга Барока. Ёсць што глядзець, так міла фарбы вабяць вока. На той карціне… як бы вам сказаць, на карціне — голыя жанчыны! Прашу паненак, каб закрылі вушы, бо далей — болей распавесці мушу. Уявіце: дзве спакусніцы, дзве панісакатушкі, жывуць у ложках растаптаных, бы ў гнёздах птушкі.

«Спяць з вуснамі, адкрытымі для пацалункаў. Іх вочы — гнуткія ліяны. Распараныя ў лазні, ад віна румяныя, надзьмутыя, як ліпеньскія яблокі, гатовыя ў любы момант да фізічнага шалу».

«О раскошныя, — галасіў той дзівак-барон, — о празмерныя, падвойным адмаўленнем адзення, патроенай гвалтоўнасцю паставы! О, тлустыя-тлустыя жрыцы кахання!»

— У нас такіх кабет, — заўважыў падкаморы, — закрыўшы вочы, адшукаць мажліва сярод ночы! Ці варта ездзіць да варшаваў дзеля падобных ідэалаў? Цьфу!



«А сёння прывітаныя іх ссохлыя сёстры, — у роспачы хістаў галавою барон, — за якімі відаць увесь пейзаж на карціне. Раней яны непрыкметна ішлі гужам. На другім плане ледзь зафарбаванага палатна. Бежанкі стылю. Адпрэчаныя жабрачкі! Птушыная прырода ног і далоняў, на кастлявых лапатках спрабуюць уляцець у рай. Стагоддзе трынаццатае памясціла б іх на залатым фоне, дванаццатае — на срэбраным пастаменце! Васемнаццатае — выкінула б гэтыя дошкі на сметнік»[326].

Так вырашылі мы і ад часоў тых у Варшаве зноў формы пышныя ў пашане. А што панове думаюць аб прыгажосці — што даспадобы больш вам — формы або косці? А мо якія іншыя прычыны ёсць для кахання ў мужчыны?

— Натура пекная, — заўважыў пан Агінскі, — аб'ект даследавання хісткі. Натура — тло, прывід дзівацкі. Сапраўдны ідэал, мастацкі — у іншых сферах палягае. Жанчына, што зямлю кранае, хоць гожая, ды ўнутры пустая! А каб карціна ўзрушала, натхняла, вабіла і чаравала, мастак шукае не жанчыну, а ідэал яе — багіню. Яна — анёл, ёй можна захапляцца, кахаць здалёк, рукою не кранацца. Такая прыгажосць у Боскай Маткі Вастрабрамскай. Другую прыгажосць лічу плебейскай я і хамскай! Яшчэ дадам: дарма шукаць багінь у нашым смутным краі! Ад нашых пушч, лясоў нябянкі паўцякалі. Жывуць яны сярод узгоркаў італьянскіх, гаёў аліўкавых гішпанскіх. Вось там сапраўднае натхненне, а ў нас — у нас адно гібенне!

— О брава, брава! — паўшчувала Караліна. — Якая, запытаюся, правіна сюды даслала нас? У гэты край мядзведжы… дзе толькі сум, нуда і горкі жаль бязмежны! Няма нідзе як у Парыжы, а тут і людзі, і нябёсы хіжы.

— Як можна, — Міцкевіч адазваўся, — кахаць якуюсь там нябянку, калі багіняю ў нас любую б я назваў сялянку. Дзяўчына, што вяночак свой сплятае, аб любым Янку ўспамінае, так міла нахіліўшыся над вадою, рамонкі росіць горкаю слязою. Або ці бачыў хто, падчас жніва як корміць маці немаўля? Чым не мадонна, запытаюся ў вашэсці, навошта трызніць, на нябёсы лезці? О, што за прыкрыя навіны — край ганіць свой, зласліва сыпаць кпіны! Шукаць якогась ідэалу ды па натхненне… ехаць у Варшаву! Падумайце, панове ягамосці, аб чым вядзецца — формы, косці! Якая марнасць усё ў параўнанні з нашай любаю Літвою, якую б я назваў адно — святою. «Ojczyzno moja! ty …» Вам брак натхнення ў нашым Краі? Не бачылі бярозку сціплую вы ў гаі! Дубоў магутных вы не заўважалі, якія, каб падслухаў іх, дык столькі б расказалі пра славу нашу й нашы перамогі.

— Даўно ўжо на Літве, — усміхнулася паненка, — вядома, што міцкевічы сядзяць зацята дома! Як тыя пні, што абраслі грыбамі. І носа

[326] З верша Віславы Шымборскай «Жанчыны Рубенса» / Kobiety Rubensa.

вытыркнуць не смеюць, у засценках так жывуць, чарвеюць. Сваё ім толькі даспадобы, а ўсё чужое — вартае шкадобы. Адразу лаюцца і наракаюць, як толькі праз парог пераступаюць.

— Не ўсё прыгожае павінна добра выйсці, — паблажліва заўважыў кашталян, — пра гэта ў кнігах прачытае, пан. Не хопіць рэчаіснасці, запалу. Мастак ляцець павінен к сферам ідэалу![327] Дазволю патлумачыць панству прыкладам з уласных падарожжаў. Быў неяк у замку я венецкіх доджаў. Стары і велічны — палаццо, дом натхнення. Звязана з ім крывавае здарэнне. Увага! Муж раўнівы дужа. Яна, што рогі настаўляе мужу. Ён — невядомы! Серэнада. Здрада. Звада. Кат, лямант, на тым і квіта. Гісторыя плітой цвінтарнаю накрыта, але фантазіяй яе расквецiць — яна зусім інакш засвеціць. Напрыклад, так… [узрушана і камічна дэкламуе. — *Т. К.*]:

У тых мурах венецкіх памятаю сонца... сонца… а зараз шэры-шэры змрок... Як быццам бы сляпы й бясконцы, як быццам бы знарок! І ў цемені блукаю — як упыр, што памёр, але жывы. Тут нараджаюся я, і зноў я тут канаю! Я — успамін, я — сцежачка слязы. Я — знічка малая, я — памінальны дым! Я..? Не — не я! А той, хто быў прад ім!

І раптам голас... чую... чую. На голас той спалохана лячу я. У зняменні! У вачах маланкі... Яна і не Яна! О, згадкі, зманкі! Пастава, усмешка, узнятыя ледзь плечы — усё Яе ды толькі... Толькі позірк іншы нейчы...

Як перад Богам — на каленях з душой аголенай, укрыжаваны, працяты перуном — дрыжу, шалею! Багіня — вы? — шапчу-крычу, марнею — ці здань яе, што з раю заблукала ў нашу сцiжму-ноч, у нашую завею?

Маўчыць. Усмешкай толькі адгукнецца. Два крокі зробіць — схамянецца: нібы ў развагах, у нейкім задуменні. То кінецца наўсцяж, то скамянее... Самлее ўся... Задышыцца, заб’ецца. То белы снег, то чырванню зальецца! Імкнуся да яе, лячу, бы апантаны — і разумею раптам усё: анёл, з паветра мой сатканы — не абяцаны мне, не мне ён абяцаны!

І зноў у цемені блукаю — і зноў як упыр — што памёр, але жывы. Тут нараджаюся я, і зноў я тут канаю! Я — марны ўспамін, я — сцежачка слязы.

Вось што прыйшло мне ў галаву ў замку тым Бірбанта-Рока. Каханне, маладосць, расстанне… А што нам скажа стальнічанка, яна — багіня ці сялянка?

Пытанне гэта як маланкаю зляцела. Знянацку Эву і Міцкевіча заспела. Пан Адась «і суседка падскочылі, рвануўшы ўраз свае галовы ў два бакі, нібы вяршаліны двух хвояў»[328].

[327] Міцкевіч.А. «Пан Тадэвуш».
[328] Тамсама.



Ды тут узняўся пан Белапятровіч, за ім устаў пан Валадковіч. Мажны, вусаты, бы прусак, пан Валадковіч быў мастак казаць прамовы. Пан Белапятровіч хоць маўчаў, ды быў да корда скоры. Відно ўжо з першага пагляду паміж панамі зваду. «Як гэта пан сцвярджае, — казаў абураны пан Валадковіч, — што ў маім фамільным гербе не паўліна, а качкі над прылбіцай пер’е? Ды мой «Радван» вядомы ў свеце, каля дзесятка прозвішчаў у павеце, што карыстаюцца тым гербам: Крычынскія, Паскевічы, Юдзіцкія, Шчыты — а пан вярзець як быццам бы той герб шляхецкі і сармацкі — ануча брудная, шматок прасцяцкі! Цьфу!» На што Белапятровіч уздыхнуў і гучным басам зацягнуў: «Кажу табе, што чуў ад езуітаў, як быццам бы Папроцкі іх распытваў, як выглядаюць пер’е і хвасты паўлінаў. Ажно сярод літвінаў Папроцкі сведкаў не знайшоў, таму й надумаў — замест пяра паўліна ад качкі пер’е ўсунуў». Тут Стольнік умяшаўся: «Панове ягамосці! Няўжо мы тут для злосці, для прыкрай звады? Суцішцеся, сюды прасіў вас для нарады. Вайна амаль што ля парога, спыніце спрэчкі дзеля Бога! Бескаралеўе, гайдамацтва, разня ў паветах, помсціцца казацтва. У Княстве — маскалі, у Гданьску — немцы. Радзіму з блотам топчуць чужаземцы, мяшаюць з брудам веру й славу. Так хутка стопчуць Вільню і Варшаву! Няўжо нам не шкада Айчыны? Няўжо няма якой прычыны, каб разам быць?»

На тыя словы пан падкаморы ўзняўся. «Нашто таўчы ваду ў ступе? — запытаўся. — Вядома, грамадою і бацьку лёгка біць!»

«І бацьку біць, — узвысіў голас Стольнік, — і на пасад садзіць! Перш чым Радзіму ратаваць, патрэбна — як паветра — караля абраць. Не чужаземца зноў, а Пяста! Каб смецце вымеў з дома й баста! Каб шляхту шанаваў, любіў Літву, Карону, Бога! Вось ліст, — прыцішыў голас Стольнік, — ад канцлера самога. Ягомосць просіць у жніўні сеймікі так па-майстэрску зладзіць, каб выбраць двух паслоў і ў верасні не здрадзіць — Пясту трон аддаць!»

— Такое лёгка напісаць, — зноў адгукнуўся падкаморы, — а што на гэта скажуць Радзівілы. Я чуў — курфюст саксонскі ваяводу мілы! І шляхта стане не за Пяста, а за Саса. Бо, нех даруе ваша, у шляхты Радзівіл як бы абраз Святога Мікалая. Што ён захоча — усё нараз спаўняе. Ды і нашто нам новая радзіна? Змяняць дынастыю якая тут прычына? Пры Сасах вольнасці — праз меру, блюлі і шанавалі веру… Парадак быў і лад у дзяржаве — сеймікавалі, ваявалі, магнаты шляхту прызнавалі.

— Я пратэстую, — Несялоўскі закрычаў, — пан Радзівіл у Вільні ваявода, няхай там і кіруе, калі на тое згода. У нас тут, заўважу, іншы манастыр! Тут ваявода я, панове, я тут — правадыр!

— Не дазваляю, — ускінуўся пан Міхал Рэйтан, — ганіць Радзівіла!

— Але, панове, — зноў узняўся падкаморы, — дарэмных слоў даволі. Калі нарада, то нарада! Якога ляда вы, паны, крычыце, калі няма чаго

сказаць — маўчыце! У Радзівіла дзесяць тысяч войска — і Бог, і д’ябал бачыць, што скажа Радзівіл — таго ніхто не перайначыць. У мінулым годзе сейм спыніў, маршалка батагамі збіў, а трыбуналаў колькі разагнаў — ды ўсіх ці пералічыш спраў! Вось і цяпер, якая сіла, скажыце, утаймуе Радзівіла?

— Якая? — пан Стольнік палец угору ўзняў і ўбок маскаляў ткнуў, цішком сказаў: — Нам з Пецярбурга, слава Богу, уланаў выслалі ў падмогу. Яны й парадак усталююць і Радзівіла ўтаймуюць. Панове, караля на трон усадзім, а там і маскаля з Літвы спраўадзім. У Варшаве ўрад— у дзяржаве лад, як будзе войска, наша «*язда народова*» — дык хто нам супраць скажа слова? Літва ўваскрэсне, заяснее — і перамога выспее, а вораг наш змарнее! А Радзівіл — ці мала крыўд ён прычыніў павету, ваяводству? Канец яго бязладдзю, крэс, панове, самавольству.

«Усіх пераканаў пан Стольнік, у мове гладкі, бо кожны меў з Нясвіжам непаладкі, як часта ў суседстве: то за шкоду ў полі, то за парубку, то за межы, а найболей іх зайздрасць, што Радзівіл багаты, падбівала. Так пачуццё нянавісці ўсіх аб’яднала»[329].

— Няхай жыве Літва! — загаласіў Белапятровіч.

— Няхай жыве Карона! — дадаў пан Валадковіч.

— Пан Стольнік хай жыве. Гайда на Радзівіла! — узнёс пан Несялоўскі ўверх кілішак.

— Каб тысячы, каб мільён чарцішак вас разарвалі на шматкі, — усхадзіўся Падкаморы, — дурні, вы і лайдакі! «Пакуль вялася аб Радзіме тут нарада і аб агульных справах, дык вам, дурні, звада, што нельга ні падумаць, ні дагаварыцца. Замест парадку, ладу, дурні, вы — сварыцца!.. А хай за дробязь помсты здарыцца нагода вам, дурні, дык адразу лад у вас і згода!»[330]

Сказаўшы так, узяў пан падкаморы шапку, пажагнаўся — «Довідзення!» Услед за падкаморым апрануў адзенне і выйшаў вонку Рэйтан, за ім пасунуўся вялебны Яндаловіч, не затрымаўся й Валадковіч, быў ён адданым сябрам і кліентам князя-ваяводы. Шукаў такой-сякой нагоды для развітання і Міцкевіч.

Ды Стольнік зноў пачаў казаць:

— Панове, трэ паслоў абраць. Свабода і кароль не зваляцца, як манна, з неба. Каго ў папірус упісаць? Каго правесці праз агонь пякельны, хто будзе ваяводству і павету служка верны? Маўчыце? Што ж! Паспрабую сам давесці… Хто больш за ўсіх павагу мае, хто сеймікі адной рукой трымае? Каго павет з павагай ваяводам кліча?

— Міцкевіча!

[329] Міцкевіч А. «Пан Тадэвуш».
[330] Тамсама.



— Другога трэба дэпутата, каб быў з паноў заможных, а карацей — магната! Каб шляхціц, седзячы ў засценку, быў пэўны, каб, разважыўшы, сказаў: «Калі ўжо Ён да справы той прыстаў!.. Адным словам, патрэбны абазнаны ў нашых справах, хто паездзіў па людзях, па варшавах. Каб, калі трэба, мог сказаць, адозву скласці, акт які спісаць. Ці ёсць у нашым ваяводстве, ягамосці, мудры такі пан?

— Ёсць! — выгукнула шляхта. — Кашталян!

— Optime[331]!

— Maximas tibi gratias ago[332]! — азваўся ветліва Агінскі, дадаўшы: — У палаце лордаў я сядзеў паблізу ад іх прэм’ер-міністра, або сеймовага маршалка. Быў сведкам, хоць міжвольным, палітычнай перапалкі. Торы — па-нашаму арыстакраты — прасілі аб дазволе паляваць на ліс. Але з вялікай перавагай дэмакраты ўсім давялі аб шкодзе паляванняў для прыватных землеўладанняў. У спрэчцы на баку арыстакратаў быў сам кароль, але за дэмакратаў — яе мосць каралева выступала. На думку каралевы, паляванне ёсць толькі злоўжыванне зброі, а таксама прыкрая нагода хавацца дэпутатам ад народа, мужам ад жонак уцякаць, у пушчах не сляды звяроў, а дам сляды шукаць. «Вось так, — заўважыў, смеючыся, Кашталян, — у парламенце ўзвысіўся жаночы стан».

— Віват, пан Кашталян! — загукала шляхта.

— Як можна?! — узняўся над сталом пан Міцкевіч і, зазірнуўшы ў вочы Стольніку, сказаў: — Мы з маскалямі — сябраваць?! Сеймікаваць? Гарэлку піць? Айчыну ратаваць?

— Маўчы!

— Маўчаць? Ясны пане… у засценках яшчэ ўсіх не пахавалі! Няўжо паўсотні жыццяў псу пад хвост? А маскалям крывавы хрост таксама дарма мы спраўлялі?

— Маўчы! Заб’ю…

— Эх, пан! Як быццам сярод ночы якіясь д’ябальскія моцы цябе на іншага перамянілі! — Міцкевіч раптам цяжка ўздыхнуў і працытаваў словы аднаго мясцовага святога, звернутыя да літвінаў падчас апошняга дзяржаўнага разброду:

«Дзе вы забылі свой гонар і славу, сарматы? — пытаўся той святы. — Стаць з вас героем не варты ніводзін. Не, не з такімі айчыну вяртаюць з нябыту! Выгляд сармацкі пасланцам дрыгвы не пасуе…»[333].

Пасля такіх слоў — адно пілі ды елі. То пляшкі дзынкалі, то лыжкамі брынчэлі. Не вытрымаў ЯВ Ажэшка, маўчанне перарваў. «Мая дачка, — сказаў, звярнуўшыся да Эвы, — каб не знудзіцца пры вячэры, сыграй

[331] Выдатна! (*Лац.*)
[332] Вялікі дзякуй! (*Лац.*)
[333] Багдановіч І. «Сармацкі альбом». — Мінск, 2004.

якуюсь нам мазурку або, каб нам настрой уваскрэс, сыграй, дачушка, проша, паланез!»

Нечакана мой суразмоўца спыніўся, выцер слязу, паглядзеў мне ў вочы і заўважыў: «Кожнага чалавека штосьці трымае на зямлі, вашэсць, каханне, вера, надзея на лепшае, а мяне трымаюць успаміны пра Эву. Не было ніводнага дня, пане Тадэвушу, каб я не згадаў той вечар і той паланез. І нават калі б цэлую вечнасць мне давялося гібець у пекле, дзеля аднаго таго імгнення я б вярнуўся ў мінулае, у той студзеньскі вечар. Даруй старога за, магчыма, залішнюю сентыментальнасць…»

Зноў і зноў я ўяўляю Яе за фартэпіяна. У белым плацці з адкрытай спінаю і з вадаспадам сонечных валасоў на худзенькіх дзявочых плячах. Яе ўсмешка — імгненне, у якім боль і асалода. Вось узляцелі пальцы, весялосцю заяснелася зала. Чырвань на твары, павуцінне зморшчынак каля вачэй, а ў двух васільковых азёрах — два анёлы...

**Яна, натхнёная, іграе паланез!**

Яна створаная для чароўнага, сатканая з тонкіх эмоцый, з найпрыгажэйшых промняў, з Эдэмскага запаветнага святла...

**Яна, гаротная, іграе паланез!**

Як часамі даўнімі, са слязамі выціскалі яго літвінкі са збалелага сэрца, выпраўляючы каханых на бой.

**Яна, нястомная, іграе паланез!**

Я бачу яе ў бальным плацці эпохі Станіслава Аўгуста, акрэсу нашага апошняга бескаралеўя...

Вось юная пані на белых ганках стылю віленскага Барока. Яна ў замяшанні — яе любы канфедэрат! Адась! — шэпчуць яе вусны! Кроў мая, жыццё маё! Памры за Айчыну і разам з табой памру я.

**Яна, самотная, іграе паланез!**

І маё сэрца ў тым далёкім Краі, побач з той польскай пані, з роду нобілус полонус, якая хутчэй памрэ, чым здрадзіць

Айчыне і каханню!

Айчыне і каханню!

І вось пад гукі мазуркі яе крылаты гусар — урываецца ў варожыя шыхты. Ён, быццам ястраб, сярод харугваў чужакоў!

За Айчыну і каханне!

За Айчыну і каханне!

Такт адбіваюць яе тонкія пальчыкі! Яна саткала паланез! З слёз і з крыві, з надзеяў і з расчараванняў! Да зброі! Смела, літвіны! Наперад! Няхай жывуць Радзіма і каханне!

Яна саткала паланез!

Застываючы!

Глытаючы слёзы!



Збіраючы рэшты неба...
Паміраючы...
І... нараджаючы
Гукі чароўнага ўрачыстага ззяння.
**Яна, нястомная, саткала паланез!**

А далей? Далей, мой Тадэю, той паланез змяніўся на рамансовую элегію. О! каб тады нам сказалі праўду, каб адкрылі вочы на тое, што я — Ваявода — буду названы здраднікам Радзімы, што заплямлю свой уласны гонар і гонар сваёй сям’і, што буду змушаны туляцца па чужыне, біцца ў легіёнах Напалеона, што, апрануўшы каптур бернардзіна, назваўшыся рабакам, я буду «гніць ля тачкі ў пруской яме», мерзнуць на рудніках Урала, у турмах Аўстрыі, Шпільберга і памру банітай. А Яна..? Памрэ яна ў Сібіры, не здрадзіўшы ні мужу, ні Айчыне, ні каханню.

Поўня ўзляцела, як птушка, Міндоўгаў асвяціўшы гай. Божага вока стужка слязой працінае край. І быццам бы толькі ўчора з’явілася з ласкі зямля — ні гуку, ні кроку наўкола! Пануе, крулюе зіма.

Літанію ўзносіць неба, касцельныя ззяюць крыжы: «Святая Марыя» — трэба ўкленчыць аб нейчай душы!

З’ехаў яе каханы, вецер задзьмуў сляды. Плача, сумуе панна — мінаюць, ідуць гады. Дзе тыя воі Касцюшкі? Дзе той падзеўся Май? Маскоўскія выюць «пушкі», хістаецца, гіне Край.

Студзень ля брамаў, люты... Восень і зноў вясна. Сэрца сціскаюць «путы». Чакае яго яна!

«Ойча! Наш Божа мілы! І ты, апякун Літвы, Святы Казімір, з магілы Яго да мяне вярні... Прымі мае слёзы, Маці, што свеціш на Яснай гары і Вострую Браму вартуеш у месцы старым на Вяллі.

Дашлі да майго парога ці мёртвага, ці жывога — з літоўскай зямлі жаўнера майго назаўжды касінера!»

З’ехаў яе каханы, вецер задзьмуў сляды. Плача, сумуе панна, **мінаюць, ідуць гады.**

## XVII
## МІНАЮЦЬ, ІДУЦЬ ГАДЫ. ПРЫПАВЕСЦЬ. РАЗВІТАННЕ З ЭВАЙ. ПРАГА ПОМСТЫ

Ïасля апісаных падзей мінула тры гады. Як і прадказваў пан Гроза, у верасні 1764 года на элекцыйным сойме каралём быў абраны Станіслаў Аўгуст Панятоўскі. Кацярына II безапеляцыйна запатрабавала ад яго рабскай пакоры, навязаўшы Рэчы Паспалітай ганебны пратэктарат. Уплыў імперыі асабліва моцна адчуваўся ў ваяводствах Літоўскай правінцыі. Пецярбург не хаваў намеру «разделить Польшу», раздуваў справу аб дысідэнтах, цкаваў шляхту на магнатаў, сварыў партыі, верхаводзіў на сойміках, судах і трыбуналах. Навагрудскае ж ваяводства было ахоплена полымем дамовых сварак, падзелена на шэраг канфедэрацый і кіравалася акупацыйнымі ўладамі[334].

[334] Рэч Паспалітая нагадвала цела загнанага паляўнічымі, моцна параненага зубра, да якога, адчуўшы пах смерці, зляцеліся драпежныя крумкачы. Прагныя да крыві, яны нават не чакалі, пакуль душа Дзяржавы адляціць да неба. Жадаючы наблізіцца, крывацмокі і упыры апраналі маскі анёльскай дабрачыннасці, а тыраны і каты — хрысціянскай міласэрнасці. З усмешкаю на вуснах, цытуючы Святое пісанне, дзеля агульнай дабратворнасці і еўрапейскай стабільнасці, яны адкусвалі па кавалку ад бездапаможнай ахвяры, пілі кроў, не зважаючы на закон і мараль. У Варшаве, быццам нічога не бачылі, пляці ранейшыя інтрыгі, склікалі сеймы, ладзілі балі і банкеты.

Бадай усё, што адбывалася ў тыя часы на Літве, валодала таемным містычным сэнсам. Рэч Паспалітая гінула... Выратававаць яе не былі здольны ўжо ні героі, ні святыя. Але гібель Дзяржавы, відавочна, не ўспрымалася як катастрофа зямнога цэсарства. Шмат хто з сучаснікаў тых падзей параўноўваў барацьбу за незалежнасць Рэчы Паспалітай з барацьбой castra Dei і castra diaboli. І справа не абмяжоўвалася канстатацыяй знешняга зла, што ўвайшло ў Край разам з маскоўскімі ротамі. Усе разумелі, што палаючыя Варшава і Вільня, як і 25 000 загінуўшых Барскіх канфедэратаў, ахвярніцтва касцюшкаўскіх касінераў і яшчэ шмат чаго іншага — гэта ўсяго толькі наступства нейкай іншай бяды... Зло, увасобленае ў тыраніі ўсходу і пратэстанцкім бязбожжы захаду, атачала толькі знешнія межы хрысціянскай дзяржавы. Да XVIII ст. межы тыя хоць і хісталіся, але ўсё ж неяк трымаліся на крыві і мужнасці нашых продкаў.

Напрыканцы ж панавання дынастыі Сасаў адбылося самае горшае. Дзяржава прайграла вайну сама сабе, бо патанула ў распусце, самавольстве і бязладдзі. Апошнія часы Рэчы Паспалітай — гэта свет, у якім ужо не было Бога. Тленне і дэмаралізацыя закраналі кожную частку яе грамадства, пачынаючы ад караля і магнатаў і завяршаючы засценкамі дробных шляхціцаў. Зло, якое расло надта доўгі час і якое пусціла надта даўгія карані, атруціла людскія душы. У страшэнна гайдамацкія часы панавання апошняга з Пястаў лёсам была пазначана крытычная кропка гістарычнага развіцця краіны, у якой цярпенне Бога было вычарпаным.



ЯВ Стольнік, які на элекцыі падтрымаў кандыдатуру Станіслава Аўгуста і злучыўся з партыяй Чартарыйскіх, на пачатку 1767 года канчаткова расчараваўся кіраўніцтвам караля-марыянеткі. Прадчуваючы пагрозу першага падзелу, вясной 1678 года ЯВ Ажэшка настойліва шукаў саюзнікаў сярод былых ворагаў — Патоцкіх і Радзівілаў. Дзеля замацавання саюза з літоўскім гетманам Міхалам Казімірам Агінскім Стольнік аддаў дачку за яго пляменніка — ужо вядомага нам Трокскага кашталяна.

— Deus avertat, — так пачаў сваё казанне айцец Марк, — дай нам Бог адрозніць святло сапраўднае ад святла ўяўнага! Бо ад пачатку стварэння сэрцы нашыя — поле бою паміж дабром і злом. І ў гэтым бясконцым змаганні супакой не прынясе нават смерць. Дапамажы жыць згодна з Тваім запаветам, вярні на шлях Твой з паняверкі і болю.

Манах змоўк і павярнуўся да вернікаў. Незвычайная цішыня апанавала касцёл. Чутно было, як калоцяцца людскія сэрцы, як шалее за сценамі непагадзь. Святая Марыя, выява якой ўзвышалася над амбонам, з сумам і спачуваннем глядзела на людзей. «Вайна! Кроў, смерць, рабункі. Міласэрная Мацер Боская, дапамажы перажыць усё гэта!» — думалі адны. «Што рабіць? — задавалі пытанне іншыя. — Вораг збівае ўжо жыта на нашых палетках, паліць нашыя дамы, разбурае нашыя святыні! Як бараніцца?» Здавалася, апроч Святой Марыі, чуў гэтыя думкі і манах.

— Душа чалавечая, — працягваў ён, — miserabile dictu[335] недасканалая... Няўжо мы бліжэй да Бога, чым ворагі нашыя? Ці не самі мы зло, ці не горшыя мы, чым тыя гайдамакі, што прыйшлі да нашага парога? Бо кажу вам: не дзеці вы Бога, але зграя шатанская. Гонар ваш — кат ваш, а пыха і сваволя — закон і праўда вашыя! Страціце Айчыну! А фартуны і вольнасці вашыя паточыць шашаль, самі ж вы зробіцеся жабракамі. Калі не кінеце сваркі дзеля дзяцей вашых, дзеля будучыні вашай — не будзе вам выратавання, згінеце без следу, а разам з вамі і Край ваш — ваша Рэч Паспалітая! Памятайце: «Ibi victoria, ubi concordia!»[336]

Гневам бліснулі вочы айца Марка, апусціў ён галаву і, крыху памаўчаўшы, працягнуў ціхім сумным голасам **прыпавесць**:

Qui aures habet, audiat[337]. Там, дзе вышыня неба сыходзіцца з шырынёй мора, а зямлі не відно нават сонцу, плыў з поўначы на поўдзень хуткакрылы прыгажун карабель. Магутныя павевы раздзімалі яго ветразі, бясконцая глыбіня расхінала перад ім свае пяшчотныя абдымкі. І не было таго ў свеце, што спыніла б яго рух. Адважна і смела кідаў ён выклік прасторы мора, змагаўся з хвалямі і супрацьстаяў бурам.

[335] На жаль (*лац.*).
[336] Дзе згода, там перамога! (*Лац.*)
[337] І той, хто мае вушы, пачуе (*лац.*).

Гонарам чалавеку і крыўдай прыродзе быў той карабель, але загінуў і ён, схаваўся ад зорак і аблокаў на халодным адхоне каменнага дна блакітна-ружовага мора.

Капітанам таго карабля быў яшчэ не стары, але слабы і абыякавы да ўсяго чалавек. Лёс і фамільныя фартуны дапасавалі да яго капітанскія абавязкі, але не меў ён паклікання да мора, а сваё прызначэнне ўспрымаў як цяжкі і сумны абавязак. Не любяць вада і неба слабых і баязліўцаў, але ў сто крат болей яны не любяць абыякавых, бо мора прагне адкрыццяў, а душа марака жыве вольнай прасторай і бязмежжам новых шляхоў. Абыякавых мора праглынае, забірае іх душы ў свае нетры і катуе цішынёй — невычэрпным спакоем. І аддаў той капітан уладу хцівым, тым, каго называлі — яснавяльможнымі дарадцамі, а былі гэта драпежныя звёры.

І пачалі яснавяльможныя сцвярджаць сваю ўладу і сваю моц. Каралі і катавалі яны без усялякай патрэбы, не ведалі жалю і справядлівасці: толькі каб узняць гонар і пыху — нечалавечую, але шатанскую! Цярпелі здзекі маракі, якіх запрасіў капітан з двух вялікіх гарадоў, паабяцаўшы ім шчаслівы лёс і абарону жыцця. Толькі ці ўсе абяцанні свята выконваюцца... Не! І калі пачалі маракі казаць капітану пра ўсе тыя зухвальствы і злачынствы, што здзяйсняліся супраць іх, адвярнуўся ён і закрыў вушы, каб не чуць і не ведаць, бо няма спраў абыякавым да чужога гора і слёз! Жахнуліся бедакі таго беззаконня і пачалі з роспачы піць і балявацъ.

Зло, якое сыходзіла ад яснавяльможных, кранулася зласліва і душаў прыгнечаных. Бо як цяжка перайсці праз балота не замачыўшы ногі, гэтак жа цяжка застацца добрым сярод злых, апантаных д'яблам недаверкаў. Хіба толькі святыя здольныя на такі ўчынак... Але як мала святых сярод жывых людзей! Пачалі маракі біцца адзін з адным, спрабуючы сцвердзіць свой гонар, перайшоўшы праз кроў роўнага сабе. І пашырыліся злачынствы на караблі, і ператварыўся ён у вялікі, атручаны злом востраў.

І глядзеў на тыя жахі Пан, і плакаў Ён па нешчаслівых дзецях сваіх. Не бывае ж такога ў свеце, каб цямнела неба, каб збіраліся хмары, захінаючы сонца і зоркі, каб віўся драпежнай змяёй вецер, — і нічога з таго не было. Як стрэліць пярун, так адразу ж трэба чакаць і маланку! Усяго за якое імгненне ўсхадзіліся хвалі, у чорную бездань ператварылася блакітнае мора. І захістаўся магутны карабель, загойдаўся, як маленечкая трэсачка на высокіх хвалях, як быццам штурхалі яго з усіх бакоў шатаны. І сказаў Гасподзь: «Напалохаю іх страшнай бурай. Можа, перад абліччам смерці яны схамянуцца і пакінуць зневажаць і крыўдзіць адзін аднаго, бо няма ўжо іншых сродкаў, як толькі жудаснай праявай сваёй Моцы выціснуць зло з іх душаў!»

І сказалі маракі, убачыўшы, як шалее мора і злуецца неба: «Вось бура і навальніца, якая праглыне нашых катаў, бо гэта пакаранне за іх нялюдскасць, іх злачынствы і самавольствы». І спалохаліся яснавяльможныя, але не гневу Бога, не навальніцы, якая вось-вось павінна была праглынуць карабель, а ўсяго толькі нейкай мізэрнасці — непаслухмества і помсты.

— Няхай лепш яны згінуць у салёным моры, — крычалі яснавяльможныя, — чым убачаць іх вочы наша прыніжэнне!

І знайшліся тыя, хто глядзеў на ўсхваляванае мора, а бачыў толькі мінулыя крыўды:

— Вялікі Божа, няўжо дарма цярпелі мы ўвесь той прыгнёт і ўсе тыя здзекі. Мы, вольныя падарожнікі мора, зрабіліся іх рабамі!

І ўзяліся іх моцныя рукі за зброю, ваяўніча заззялі іх вочы.

У час буры і навальніцы на кволай шкарлупінцы плылі людзі і жадалі крыві адзін аднаго. Ці чакае вецер, ці даруе мора? Няма клопату стыхіі да крыўдаў і слёз людскіх, і апантана рве яна ветразі, забівае і кідае ў чорную прорву смерці.

І быў сярод вяльможных той, хто любіў карабель больш за гонар і ўладу. Бачыў ён, як неадступна ляцяць за ім чорныя здані, драпежныя цмокі, нястомныя пасланцы Кастлявай. І звярнуўся ён да ўсіх, хто быў побач.

— Людзі! — сказаў ён. — Наш карабель гіне, але магчыма яшчэ выратаваць яго. Існуе яшчэ надзея ацаліць сабе жыццё! Толькі трэба пазбыцца мінулага, замірыцца паміж сабой і, як роўны перад роўным, змагацца з магутнай бурай, з яе ненажэрнай шатанскай моцай. Няхай лепш патоне тое зло, што назапасілі мы паміж сабой за час падарожжа, чымсьці зробяцца нашы жонкі ўдовамі, а дзеці сіротамі. Не даруе нам Бог грахоў, але яшчэ больш не даруе Ён нам бязглуздай пыхі. Будуць нашыя душы вечна блукаць па прасторы мора, бо не прыме іх неба, не прывітае Бог!

І не паслухаліся таго мудрага голасу асляпленыя помстай людзі. Задаволілі яны сваю прагу крыві, адпомсцілі яснавяльможным, але ці патрэбна тая помста нябожчыкам. Каго ў пекле цікавіў гонар?

Узняўся вецер, расхінулася мора і паляцеў у яго глыбіню прыгажун карабель, не пакінуў пасля сябе нават драбніцы.

Схіліўшы галаву, слухаў тыя словы пан Ваявода. Пяклі яны яго сэрца, насоўвалі на вочы салёныя кроплі слёз. Але надта далёкімі былі думкі шляхціца ад спраў грамадскіх! Рэч Паспалітая? Княства? Вайна? Незалежнасць? Адчапіцеся ад нешчаслівага, мосці панове… Каханне да дачкі ЯВ-нага Ажэшкі праглынала ўсю яго сутнасць, штурхала ў багну роспачы. Infandum renovare dolorem[338]. Быў час, калі жывіла яго надзея звезці Эву, але і гэта было немажліва з прычыны яе слабага здароўя. Апошнія ілюзіі разбіў выгляд маладых, якія выходзілі з Навагрудскай

[338] Як балюча зноў уваскрашаць боль (*лац.*).

фары. Кашталян вёў за руку Эву, а Міцкевіч ледзь стрымліваўся, каб не закрычаць на ўвесь свет голасам нечалавечага болю… «Як будзе, Ты, Божа, ведаў ад самага пачатку, ад нараджэння кожнага жывога стварэння»[339]. І пасля гэтага Ты — міласэрны, Ты — дабратворны?! Дзе там! Пан Бог і ты, што ў дзяцінстве жыццё мне даравала, Маці Боская... Дзе вы былі ў той вечар?

…Іду па сцежцы, побач елак шаты, зямля спавіта вільгаці бурштынам, бляск незвычайны — пад нагамі месяц ззяе, туман галінкі снегам ахінае, а хмары, быццам замкавыя вежы, вартуюць небакрай і зоркі.

Паветра споўнена пяшчотай і шэптам перадсмяротным лісця... Кіруе зух паўночны іх да ног майго анёла, якога нечакана стрэў я на ўскрайку саду. Каля ліпы... стаіць Яна. Бы воблака — уся ў белым, аксамітным ззянні...

«Анёлак» — лямантуе сэрца, ірвуся да яе, лячу праз бэз, праз повязь дробных хвояў, бы зубр, які заўважыў небяспеку і звар'яцела рушыў уперад — спыніўся перад ёй, ледзь дыхаю, знямогся, гляджу на постаць любую, чакаю воч яе шчаслівае вітанне...

Як быццам здань, над магілкай самотнай... Ледзь пагглядзела... зварухнулася... паляцела. Няўжо пайсці яна жадае? Не! Усяго схавала вочы. Зледзянела!

Як толькі расчараванне ператварала шляхціца ў злога базіліска, перад зрокам зноў і зноў, бы святая ікона, паўставаў Яе вобраз, і тады сэрца Ваяводы нібыта мякчэла… апантаны…ён паўтараў бясконца…

У вусны цябе цалаваў, косы твае расплятаў! Толькі ўсё гэта сышло. Сёння другая ты ўжо!

Кожны яе крок адбіваўся ў яго сэрцы балючым уколам. Страціўшы розум, ён хапаўся за шаблю, потым, схамянуўшыся, кідаўся праз тлум да яе, з адным толькі жаданнем убачыць сінія васільковыя вочы каханай... І Бог пашкадаваў Міцкевіча. Калі яна ўваходзіла ў карэту, то азірнулася... і ў тое імгненне яго душа памерла. Бо цалкам патанула ў вачах свіцязянкі, не здолеўшы вырвацца з іх глыбіні. Раптам, калі іх пагляды сустрэліся, вусны Эвы заварушыліся, і праз неверагодны лямант ён пачуў адно толькі слова: «Бывай!» У адказ ён шаптаў і маліўся… шаптаў і згадваў хвіліны іх расстання…

А калі прыйдзе гадзіна расстання — у сэрца мне кінеш пагляд дарагі. І без слязы, без згрызот шкадавання пойдзем у розныя два мы бакі.

[339] З верша Чэслава Мілаша «Алкаголік уваходзіць у райскія брамы» / «Alkoholik wstępuje w bramę niebios» (część 1).



Мілая! Ляці ўслед за паветрам — без працы змарнелі ўжо крылы твае. Блукай па нябёсах, па зоркавых нетрах. Звысоку ж, час будзе, зірні на мяне...

Ляці..! Але помні: ва ўсмешках кахання, у грэшным экстазе, у сумнай жальбе — у багнах і высях цярпенняў й жаданняў! Анёл мой! Я — побач. Я дзесь пры табе...[340]

«Бывай...» Сказала так і самлела… Як труп, звалілася без памяці на рукі Кашталяна. Душылі яе слёзы, і страшны плач вырваўся са скутых нялюбым варшаўскім строем грудзей. Скаланулася сэрца ЯВ Стольніка, калі зашапталі пацеры бабулькі, гледзячы, як нясуць беспрытомную паннапчку ў карэту. Збялеў Стольнік, затросся, заўважыўшы Міцкевіча. Напалохаў і здзівіў яснавяльможнага пана выгляд шляхціца, бо пазнаў Ажэшка ў яго шалёных вачах не толькі зацяты боль, але і страшнае папярэджанне: «Сцеражыся, ясны пан... Бо як будзе стаяць гэты свет, не дарую я табе ні той вялікай крыўды, ні таго неадольнага смутку!»

О, не!.. Не мог ён проста перацярпець. Бо гэта не каханне пакідала яго сэрца, а анёл, склаўшы крылы, даваў волю ў душы д'яблу. Глядзеў ён, як маленькія дзяўчынкі кідаюць пад ногі маладым пялёсткі ружы. Чырвоныя плямы ў белым аздабленні снегу выглядалі як кроплі крыві. Яго была гэтая кроў, бо з таго часу, як Эва Ажэшка зрабілася жонкай Агінскага, Міцкевіч не жыў.

Чуў ён, як зласлівы д'ябал шаптаў увесь час за яго спінай: «Заманулася яму шчасця,заманулася яму праўды, заманулася яму вечнасці, паглядзіце на яго!» «А чаму нельга мне таго шчасця? Хоць кроплю, хоць імгненне, — крычаў Ваявода д'яблу ў адказ, — няўжо я горшы ад іншых, няўжо я пракляты Богам?» А д'ябал шалёна смяяўся і лямантаваў яму на вуха: «Ледзь адмяжуе сон ад явы, ледзь датумкае, хто ён ёсць, ледзь крапіву ад жыта адрозніць! З пяска будуе замкі, гатовы ўтапіцца ў лыжцы з супам, шукаць залеташняга снегу, гняздо зязюлі, дзявочую цноту!» «Маўчы, шатан! — слёзна прасіў нячыстага пан Ваявода. — І мяне маці калісь нарадзіла, і мяне хрысцілі ў касцёле, і я дзіця Боскае». «Нават не смешны, бо гора не смешыць, — лямантаваў тым часам шатан, — вачмі толькі бачыць, вушмі толькі чуе! Розум мурашыны... Але пра ўсіх усё ведае, усіх павучае: занадта мудрае мяса еў у дзяцінстве! Паглядзіце на яго — разумнік!» «Вітай, Марыя, поўная ласкі, Госпад з Табою», — чытаў «Анёльскае прывітанне» пан Міцкевіч, закрыўшы вушы і заплюшчыўшы вочы. Але д'ябал не сунімаўся. «Знайшоў сабе месца пад зоркамі правінцыі. Жыве — як чарвяк гнаявы: знойдзе якую бляшанку — і тым шчаслівы. Як дурань з дзвярмі насіцца! Не выйшаў

[340] З верша Тадэвуша Боя-Жалінскага «А калі прыйдзе хвіліна расстання» / Kiedy przyjdzie godzina rozstania.

з дзяцінства — анёлак. Каб на яго трасца або халера! А які заўзяты! Які апантаны — хоць кол яму на галаве чашы. З ветрам у галаве, у падраных штанах, непаголены, без фрызуры і шкарпэтак. Гора — адным словам! Сапраўдны чалавек…»[341] «Багаслаўленая Ты між жанчынамі, — усё цішэй і цішэй чытаў пан Ваявода, — і багаслаўлены плод улоння Твайго Езус. Святая Марыя, Маці Божая, маліся за нас грэшных цяпер і ў хвіліну смерці нашае. Амэн».

Не… Быў… быў час, калі спадзяваўся пан Ваявода кінуцца ў ногі магнату, віцца вужам і крычаць: «Вазьмі за сына ці забі!» Але згадваў ён, як салёныя камяні, халодныя вочы Стольніка, яго пагардлівую ўсмешку, словы, што пякучай хваляй апалілі некалі душу…

— Мо пан жартуеш з мяне..?

Стольнік, адарваўшыся ад келіха, які сцадзіў амаль цалкам, кінуў кароткае:

— Не... Vade in pace![342]

— Не веру!

— Не верыш?

— Я і Яна — адно мы перад Богам!

На імгненне ў замкавай зале ўсталявалася цішыня. Чутно было толькі, як недзе пад дахам пералятаюць галубы. Белы, як першы снег, Міцкевіч стаяў, апусціўшы галаву.

— Адась, — ласкава сказаў пан Стольнік, — Эва заручоная, і ты ведаеш гэта не горш за мяне...

— Але мы кахаем адно аднаго!

— Бог толькі ведае, каго кахае жанчына...

— Разам са мною яна будзе шчаслівая!

— О, так, — у голасе Стольніка прагучаў здзек, — сапраўды ў тваіх Гарбатовічах панна Эва Ажэшка будзе шчаслівая! Бо дзе яшчэ яна паглядзіць на зорнае неба праз дзіркі ў страсе!? Parvo contentus![343]

«Дзе яшчэ»? Мо ў Вільні — яснай паняй — Эва будзе больш шчаслівая, чым з ім, няхай і бедным, але ex charta belli[344] і крыві не менш старажытнай?! Шляхціцам спакон веку, ад часоў Палемона? І нараджалі гэтыя пякучыя думкі ў сэрцы былога адгэрэнта[345] ЯВ-нага Ажэшкі спачатку шкадаванне, пасля боль і нарэшце — лютасць... О, стары ліс! Усё ведаў, усё бачыў! Як прыкідваўся шчырым сябрам, калі патрэбна была яго шабля і голас на пасольскіх сейміках. Як прыхінаў да сябе! Што абяцаў! О! Панская ласка... горш за цябе няма нічога!

[341] З верша Віславы Шымборскай «Sto pociech».
[342] Ідзі сабе з мірам (*лац.*).
[343] Задавальняйся малым! (*Лац.*)
[344] Найлепшага гатунку (*лац.*).
[345] Прыхільніка (*лац.*).



— Dixi[346]! — яснавяльможны Ажэшка ўзняўся з крэсла, павярнуўся да Ваяводы спінаю і пачаў нешта казаць маршалку свайго двара пану Гервазаму Шчэрбу. Міцкевіч пачырванеў ад крыўды і ледзь пераводзіў дыханне. Слёзы ручаём збягалі па вусах на кантуш. Трымаючыся за шаблю, шляхціц не зводзіў вачэй са спіны свайго пана. Той сказаў апошняе слова маршалку і няспешна пакінуў залу. Лёкай зачыніў за ім дзверы, даючы зразумець, што аўдыенцыя завершана.

— Пан Стольнік стаміўся ад працяглай размовы з іхмосцем, — Рамбайла са здзекам усміхнуўся.

Усё яшчэ не разумеў сутнасці меўшага адбыцца Міцкевіч, стаяў нерухома і не глядзеў на маршалка, бо зрок яго быў скіраваны ў бок паўночнай вежы.

Заўважыўшы гэты пагляд, Рамбайла зноў усміхнуўся:

— Куды табе, шляхцюга, заляцацца да нашай панначкі... ідзі лепш да вёскі, там шукай сабе малжонку! І што ты ўздумаў раўняцца з магнатам? Хто ты, і хто ён... Зямля і неба, маспане, зямля і неба…

Пахавальнай музыкай гучалі гэтыя словы ў вушах закаханага шляхціца. Бо не выходзіў у яго з галавы чароўны вобраз дзяўчыны... блакітнавокая, тонкая, як маладая бярозка, пяшчотная, бы анёлак... «Эва, — зноў шапталі вусны Міцкевіча, — я кахаю цябе, чуеш?»

— Гэй, вашэсць, — затрос Міцкевіча за плячо Паўлоўскі, — ідзі сабе з Богам.

— Не дарую, — адказаў на гэтыя словы Ваявода гэтакім зацятым голасам, што прысутныя скалануліся, — не дарую, нават калі прыйдзецца прасіць дапамогі ў самога д’ябла...

І сапраўды… Пасля няўдалага сватання страшэннае пекла адбывалася ў душы пана Ваяводы. З жудасцю ён прыкмячаў, як вяртаецца ў яго сэрца нянавісць, як праглынае ўсе астатнія пачуцці. Нянавісць, пане Тадэвушу, куды цяжэй, чым каханне... Абуджае яна тую прыроджаную злосць, пра якую чалавек не ведае, але якая сядзіць у ім і ўсё роўна калі-небудзь вытыркнецца. Нянавісць — галодны воўк, які датуль не спыніцца, пакуль не пад’есць... Не адзін год служыў пан Міцкевіч дому ЯВ Ажэшкі верай і праўдай. А што атрымаў? Знявагу? Крыўду! О, вялікі Божа!..

Чыталі мы ў катэхізісе пра бунт анёлаў — з якога *пачатак* усялякага дзеяння ў прад-свеце, з якога і ўтварыўся бачны Космас; толькі гэтак мы думаем, бо заўжды сілкуемся катэгорыямі «Прад» і «Пасля».

Нават, калі ў прад-свеце і луналі харугвы анёлаў — *што з таго*?, бо адзін толькі агаласіў сваю вольную волю, збунтаваўся сам і стаўся гетманам над другімі.

[346] Усё сказаў! (*Лац.*)

Невядома напэўна, ці гэта першы і наймагутнейшы з бунтароў, узніклых да існавання, ці ўсяго толькі праява цёмнай сутнасці Бога самога, якую яшчэ называюць Гневам Найвышэйшага.

Так або інакш, толькі анёл вялікай прыгажосці і магутнасці ўзбунтаваўся супраць незразумелай Еднасці, бо сказаў «Я хачу!», што было роўным адрачэнню.

Люцыфер — жрэц цёмнага святла, празваны таксама супраціўнікам, або Шатанам, у Кнізе Геоба — урадны абвінаваўца ў Каралеўстве Боскім.

Бунт узвялічыў асабістае «Я», а назву займеў «жарсць **і** жаданне»; паўтарылі ж яго нашыя прабацькі.

Дрэва пазнання Добрага і Злога, як адкрылі Адам і Эва, мелася называцца хутчэй дрэвам смерці[347].

Пасля тых падзей пан Ваявода пачаў страшэнна піць, але і гэтага было замала, каб перамагчы Яго вялікі боль. Пакрыўджаны шляхецкі гонар быў тым полымем, якое раздзьмухаў д'ябал і якое рана ці позна зноў павінна было прывесці чалавечую душу на такі шырокі і такі шматлюдны шлях да пекла.

А я пачынаў жыць такім маладым і шчаслівым, свята верыў, што сонца прачынаецца дзеля мяне, што дзеля мяне распускаюцца жоўта-блакітныя ірысы, што ўсмешкі на дзявочых вуснах таксама дзеля мяне. Ад ранку да вечара, пракляты Табой, я блукаў па зачараваным раі.

Але не ведаў таго, што, гартаючы Спрадвечную кнігу, Ты абярэш мяне дзеля новага эксперымента. Каб пераканацца, што чалавечыя жаданні нічога не вартыя супраць Твайго наканавання!

Калі пад тваім лагодным зрокам цярпеў, як з жывога здзіралі скуру, рабілася відавочнай мне жахлівая бездань створанага Табой свету[348].

Тым часам у касцёле гучалі словы малітвы. Хуткакрылымі птушкамі ўзносіліся яны ў паветра, адбіваючы ад муроў прыхаваную святасць. Голас айца Марка віўся над іншымі галасамі і працінаў паветра, як здавалася, ад Нёмана да Віслы. Такая магутная набожнасць і моц чуліся ў ім...

Святы Казімір, апякун Літвы, маліся з намі. Святы Юзафаце, апякун Русі, маліся з намі. Ад няволі маскоўскай, аўстрыйскай і прускай уратуй нас, Госпадзі... Аб смерці шчаслівай на полі бітвы просім цябе, Госпадзі.

Аб труне для касцей нашых у зямлі нашай просім цябе, Госпадзі... аб незалежнасці, непадзельнасці і вольнасці Айчыны нашай просім цябе, Госпадзі[349].

[347] З верша Чэслава Мілаша «Алкаголік уваходзіць у райскія брамы».
[348] З верша Чэслава Мілаша «Алкаголік уваходзіць у райскія брамы».
[349] З «Літаніі пілігрымскай» А. Міцкевіча // «Кнігі народа польскага і пілігр-







# XVIII
# NIE WYSTARCZY WIERZYĆ, ABY BYĆ DOBRYM. DIABEŁ NA PEWNO NIE JEST ATEISTĄ[350]. АБ'ЯЎЛЕННЕ ЧОРТА Ў МАГІЛЁВЕ. УМАНЬ. НЕСПАДЗЯВАНКА ДЛЯ ПАДАРОЖНІКА. ПРЫГОДЫ ЧОРТА НА ЛІТВЕ. ПРЫМХА ПРА ВАЛАДКОВІЧА. ЗАПАРОЖАЦ. ПАН ГРОЗА

Гляньце, паглядзіце: то канфедэраты,
Людзі, што меліся волю бараніць.
Бараніць, загубцы!... Будзь праклята маці,
І дзень, і гадзіна, калі панясла вас.

*Тарас Шаўчэнка*

Ó той час, калі ЯВ-ны Стольнік збіраў харугвы Барскіх канфедэратаў, а ў яго замак цягнулася з усіх бакоў узброеная шляхта, з'явіўся на Літве шатан, які спакушаў людзей ілжывымі словамі. Дзеля прыкладу згадаем пра яго аб'яўленне на кірмашы ў Магілёве. Вось што паведамляе пра той выпадак Ян Чачот: «Аж выйшаў тут д'ябал з рагамі — пазногці на лапах курыных — крукамі. Дзюбаты. З вужакаў — яго валасы. Хвост — казліны»[351]. Стаў шатан на бочку, выцягнуў з кішэні нейкую брудную цыдулку — як сам сцвярджаў, ліст ад яе мосці Кацярыны II — і пачаў гучным голасам чытаць. Абяцаў нячысты дух праваслаўным вольнасць і ўсялякія прывілеі. Заклікаў «усіх, хто ў Бога веруе», як найхутчэй узяцца за зброю ды выгнаць з Краю «праклятых ляхаў і жыдоў». Аднак месцічы шатана з бочкі скінулі і моцна збілі — адламалі яму рог, выдралі напалову бараду, выбілі вока. Праз пэўны час шатана бачыў жыхар вёскі Княжыцы на дарозе ў Мінск. Быў нячысты дух ледзь жывы і моцна скардзіўся на магілёўцаў: «Шэрсць са страху стала дыбам [казаў. —*Т. К.*], у дугу мяне звяло, я рвануўся — хвост астаўся, сам наўцёкі паскарэй».

Адначасова з тым шатанам ва ўкраінскай вёсцы Мядзведаўка «проці ночы Макавея» з'явіўся, як згадвае польскі храніст, якісь дужа зухвалы, высокі, сухі, непрыемнага выгляду і нікому невядомы запарожскі казак. Назваў сябе Жалезняком. Падобны быў да цыгана або да бесараба: чорная чупрына выбівалася з-пад шапкі, у святле месяца

рымства польскага» (падаецца ў перакладзе С. Даніленкі).

[350] Каб быць добрым, недастаткова толькі верыць, бо і д'ябал хутчэй за ўсё не быў атэістам (*пол.*).

[351] З балады Яна Чачота «Свіцязь».

блішчэлі хуткія, быццам у яшчаркі, маленькія вочкі, а з чырвонага носа на кармазінавы кантуш звісалі даўгія, чамусьці рудога колеру вусы. Узлез казак на сялянскі воз і прачытаў слова ў слова змест той самай — «магілёўскай» — цыдулкі, якую ўкраінскія хлопы ў царкве схавалі і перадалі кабзару, а той «пякельныя словы»ператварыў «у словы рыфмаваныя».

«Гіне Бацькаўшчына, — казаў казак, — слава... вырастаюць нехрышчоны казацкія дзеці; кахаюцца невянчаны; без папа хаваюць; запрадана жыдам вера, ў цэркву не пускаюць!.. Нібы галкі поле крыюць ляхі, уніяты налятаюць — няма каму рады даць праклятым»[352].

«Ляхі паганыя, — дадаваў ён, — шалёныя сабакі, кайцеся, бо ідзе Жалязняк Чорным шляхам з гайдамакамі, каб ляхаў, бачыш, рэзаць…»[353]

Заклік «рэзаць ляхаў» і «жыдоў», як вядома, заўжды знаходзіў водгук у сэрцах украінскіх хлопаў[354], а таму не паспеў казак прачытаць «указ яе мосці імператрыцы», як нейчыя дужыя рукі сашчапіліся вакол шыі карчмара Янкеля. Тут трэба сказаць, што яўрэй сам вінен. Не трэба было неабачліва называць казакоў «роднымі братамі». Чытаў я ў адной ксёнжцы пра той выпадак:

«— Мы ніколі яшчэ, — казаў бедны Янкель, — не знюхваліся з ворагамі. А каталікоў мы і ведаць не жадаем: няхай ім чорт прысніцца! Мы з панамі-казакамі як браты родныя!

— Як?! Каб казакі былі з вамі браты? — пачулася з натоўпу. — Не дачакаецеся, праклятыя жыды! У Дняпро іх, панове! Усіх тапіць, паганцаў!»[355]

І патапілі… у крыві — і жыдоў, і каталікоў! Не паспеў запарожац злезці з бочкі, як «задымелі ў пажарах панскія сялібы, палілася кроў ракою на лугі, на скібы»[356], а яшчэ ўзвіліся ў неба разам са зграямі груганоў жахлівыя праклёны!

«Як смерць тая, — спяваў кабзар, — не ўважаюць на гады, на ўроду шляхцяначкі, жыдовачкі. Цячэ кроў у ваду. Ні калекі, ні старога, ні дзіцё малое не мінулі <...>. Вячэраюць [гайдамакі], а кругом іх пекла чырванее. Павешаныя ў пажары на кроквах чарнеюць паноў трупы»[357].

[352] З паэмы Т. Шаўчэнкі «Тарасова ноч» (у перакладзе Янкі Купалы).

[353] З паэмы Т. Шаўчэнкі «Гайдамакі» (у перакладзе Янкі Купалы).

[354] Надта доўгі час ворагамі Украіны былі «польскія паны», да якіх адносілі ў асноўным шляхціцаў каталіцкага веравызнання. Каталіцызм і польскасць у свядомасці ўкраінцаў — паняцці тоесныя, таму часта нацыянальнае пытанне ставілася імі поруч з пытаннямі рэлігійна-канфесійнага характару.

[355] З аповесці М. Гогаля «Тарас Бульба».

[356] З паэмы Янкі Купалы «Бандароўна».

[357] З паэмы Т. Шаўчэнкі «Гайдамакі».



Пачуўшы заклік «ляхам кары!», хлопы распачалі паляванне на каталіцкіх святароў, шляхціцаў і проста людзей паспалітых з Кароны і Вялікага Княства: І ўжо «гнілы Цікіч [рэчка — Т. К.] крывёю чырванее і шляхоцкай, і жыдоўскай».

Пякельная прага крыві, якая авалодала тлумам, патрабавала новых ахвяраў. А таму «хутка ўвесь польскі паўднёва-захад зрабіўся апантаны страхам»[358]. «Уся Украіна, якая, здавалася, толькі і чакала таго, каб пачаць помсціць, ператварылася w teatr niesłychanych mordów. Кепскі стан польскага войска не дазваляў паспяхова супрацьстаяць бунту, які надта хутка распаўсюджваўся па Краі… Цэлыя вёскі ішлі ўслед за Жалезняком»[359], шляхта, як заўжды, не магла дамовіцца і арганізавацца ў паспалітае рушанне.

Аднак менавіта «неталерантнасць», «злачыннасць» шляхты справакавала крывавую разню на Украіне. 29 лютага 1768 года ў Бары пад кіраўніцтвам ражанскага падкаморага Адама Красінскага і варэцкага старасты Юзафа Пуласкага распачалася збройная канфедэрацыя. Яе першы універсал «Аб абароне каталіцкай веры» заклікаў «знішчаць дысідэнтаў і схізматыкаў» як вінаватых у гвалце над Рэччу Паспалітаю.

Ксяндзы «вярталі» ў каталіцызм «няверных», шляхта паліла цэрквы і забівала святароў. Кошт чалавечага жыцця, асабліва калі вялося пра жыццё праваслаўнага хлопа, не каштаваў ні ламанага гроша. «Польскія паны» пад сцягам канфедэратаў здзяйснялі наезды, рабавалі і забівалі, няславілі дзяўчат, не зважалі на сорам і закон[360].

«Разбрылі канфедэраты па Польшчы, Валыні, па Літве, па Малдавах і па Украіне, распаўзліся дый забылі волю ратаваці, засябравалі з жыдамі, дый ну руйнаваці. Руйнавалі, мардавалі, цэрквамі тапілі… а тым часам гайдамакі нажы асвяцілі»[361].

Драпежная зграя на чале з Жалезняком спынілася каля Умані, невялікага месца ў Канёўскім старостве. «Гарнізон горада, — як паведамляе Севярын Гашчынскі, — складаўся з невялікай колькасці польскіх і прускіх жаўнераў, а таксама казакаў Патоцкіх на чале з палкоўнікам

[358] З аповесці М. Гогаля «Тарас Бульба».

[359] З паэмы Севярына Гашчыньскага «Замак Канёўскі» / «Zamek Kaniowski».

[360] Нездарма пра аднаго такога «польскага пана» — Мікалая Базыля Патоцкага — напішуць: «З сваёй хеўрай гаспадарыў над цэлым народам». «Стогне змучана Ўкраіна, к небу шле праклянцце, дый Патоцкага збаўляе хеўра і багацце». Абапіраючыся на казацкую міліцыю, валадарыў Патоцкі ледзь не паловай Украіны. Маючы абсалютную ўладу, магнат карыстаўся ёю як тыран. Як сведчыць Ф. Карпінскі («Pamiętniki» / «Успаміны»), толькі ўласнаю рукою забіў ён каля 40 чалавек, па вёсках жа меў незлічоныя гарэмы.

[361] З паэмы Т. Шаўчэнкі «Гайдамакі».

Гонтам. Былі ў горадзе таксама вучні з школ пры кляштары базыльянаў, а таксама вялікая колькасць шляхты з ваколіц. ЯВ-ны Патоцкі паабяцаў Гонту падараваць дзве вёскі, калі той утрымае Умань».

Але Гонта здрадзіў. Казакі Патоцкага перайшлі на бок гайдамакаў, не забыўшыся забіць прускіх жаўнераў і адкрыць вароты. Час помсты настаў! За тры дні «крывавай разні» загінула ледзь не ўсё 16-тысячнае насельніцтва Умані. Нікога не пашкадавалі гайдамакі:

«...szesnaście tysięcy osób miało życie utracić rozmaitymi rodzajami śmierci; dziś jeszcze pokazują pod klasztorem bazylianów miejsce ze studni, gdzie do tysiąca uczniów żywcem wrzucono i zaduszono kamieniami»[362].

Кажуць, што ў той самы час пілігрымаваў па Навагрудскім ваяводстве той самы «магілёўскі» шатан. Ад гора і крыўды зрабіўся ён такім выпівохам і зухам, што бадай бы на яго трасца... Дзе ні з'явіцца — распачне зваду, наробіць крыміналу і счэзне. Невядома, мосці панове, колькі б яшчэ навагрудцы ад яго зла нацярпеліся, каб не пан Міцкевіч…

* * *

Была, мой Тадэвуш, тая сакавіцкая ноч нязвыкла зорная ды ясная. Ніводнага воблачка не пралятала па небе. Жоўты месяц марудна ўзнімаўся з-за верхавінаў хвояў і, быццам зуб ваўкалака, нядобра пабліскваў з далечыні. На раздарожжы Віленскага гасцінца і дарогі на Мір стаяў драўляны крыж, на якім, узнімаючы з пакутаю вочы ў неба, вісеў сабе драўляны Езус Хрыстус з адцятаю левай рукой. Паставілі яго яшчэ пры Яне III езуіты, потым пры Аўгусце II крыху паднавілі дамінікане, а ў часы бескаралеўя знявечылі нейкія вырадкі. Так і стаяў крыж «з Езусам без рукі» — сустракаў падарожных, выслухоўваў іх малітвы і скаргі.

З боку Міра ехаў каля таго крыжа ў дугу п'яны пан Ваявода. Быў ён моцна абадраны, без паса і шапкі — відаць, ехаў здалёк. Ледзь трымаючыся на возе, на якім акрамя ўсяго іншага ляжаў добры пуздэрык са старкай[363], на ўсё горла спяваў пан Міцкевіч зухаватыя песні і частаваў гарэлкай кожнага сустрэчнага. Заўважыўшы наперадзе плюгавага немчыка ў даўгім, падшытым ветрам паўфрачку, ён грозным голасам загадаў:

— Стой, чортава морда, як стаіш!

Немчык паслухмяна спыніўся, а пан Ваявода здзіўлена паглядзеў на яго, перажагнаўся і запытаўся:

[362] «...шаснаццаць тысяч чалавек загінула рознымі відамі смерці; і сёння яшчэ паказваюць пад кляштарам братоў базыльянаў месца са студняй, дзе каля тысячы вучняў задушаныя былі камянямі», паводле Севярына Гашчыньскага, «Замак Канёўскі» / «Zamek Kaniowski».

[363] Назва старога папулярнага некалі гатунку гарэлкі.



— А ці чуў, ягамосць, што-небудзь пра каралеўскі загад лавіць па Літве шатана?

— Не чуў, — адказваў зляканы падарожны.

— Кажуць, што ўцёк ён у мінулым годзе з Варшавы, — язык шляхціца моцна заплятаўся, — зрабіў там драўлянага дзядка, а таксама ператварыў жонку Ковенскага кашталяна ў чорнага сабаку. Пан падкаморы бажыўся, што мае obedientia in skriptis[364], дзе пазначана, нібыта той лотра, той смярдзюк, маспане, на намаляваным кані па нашым ваяводстве лётае… учора быў, кажуць, у Міры. Заблытаўся ў радзівілаўскіх званах, дый такі лямант узняў, што нават у Нясвіжы было чуваць. Ці не ты гэта быў, пане дабрадзею?

— Я, — пагадзіўся немчык.

— Прысягні! — вылупіў вочы Міцкевіч.

— Праваліцца мне на гэтым месцы! — уздыхнуў шатан.

Пан Ваявода пахітаў галавою, хмыкнуў і пацягнуўся па кілішак.

— А калі ты, — сказаў шляхціц, — дык целяпайся, воўк цябе рэж, сюды! Вып'ем віна de puro grano[365].

Без асаблівага жадання ўзяў шатан працягнуты яму панам Міцкевічам кілішак.

— Першая святая! — сказаў Ваявода і дадаў: — Добрым — на здароўе, а ліхім на безгалоўе! Каб табе смаку не было, шатане!

Чорт пакрывіўся, але двума глыткамі выпіў, аблізнуўся, чыхнуў і прасіпеў:

— Але ж і добрая, пане дабрадзею! Быццам lacrima Christi[366].

— А якая яна яшчэ бывае, пане асіндзею? — Міцкевіч усміхнуўся і, не марнуючы часу, нацадзіў з бочкі другі кілішак: — Бо на адной назе ніхто яшчэ не хадзіў, — сказаў ён. Нячысцік не схібіў і другі раз. — Бачыш ты! Рассмакаваўся, падлізнік кашлаты! — задаволены шляхціц з палёгкай уздыхнуў і пачаў распытваць у шатана пра жыццё-быццё.

— Якое там жыццё! Пекла, а не жытка, маспане, — няцвёрдай моваю пачаў казаць шатан. — Нас з панам Грозам даслалі, каб мы людзей збаламуцілі. Спачатку ўсё ішло як мае быць — шляхту на Літве пасварылі, згоду паміж магнатамі разбілі, каханкаў развялі, зерне нянавісці і расчаравання ў сэрцы кінулі… А потым мой калігант, пан Гроза, накіраваўся на Украіну, а я — нешчаслівы — тут застаўся. Падаўся ў бок Магілёва, толькі пачаў прамову сплятаць, да помсты і гвалтаў заклікаць, як нейкі боўдзіла ў вуха мне: «Плясь!» Ажно зямля пад нагамі захісталася. Я яму кажу: «П'яніца ты пракляты! Май, псяюха, павагу да пекла!» А ён у другое мне вуха: «Бах!» Я схапіў лахі пад пахі дый даў драла, а

[364] Пісьмовы загад (*лац.*).

[365] З чыстага зерня (*лац.*).

[366] Сляза Хрыстуса (*лац.*).

яны за мною з каламі. Я ў завулак — і яны ў завулак, я ў дом — і яны ўслед… Бяда, маспане! Прапаў, думаю, не за панюх табакі! Ажно тут Дняпро — скеміў, што на дне з ракамі лепей, чымсьці на вісельні з крумкачамі! Камень схапіў і з моста: «Гець!» Галавою аб лёд — усе зубы павыбіваў! Добра, што жывы застаўся… А яны не адстаюць — чортава паталочышча! Я барзджэй, дый нейкай бабе пад спадніцу — скок. Так і выратаваўся, але, праўду сказаць, дужа знямогся…

Прыглядзеўся пан Міцкевіч да чорта, і сапраўды — худы, лядашчы, вочы ўваліліся, ножкі танюткія, жывот да спіны прыліп, валасы на галаве дыбам, аднаго вуха зусім няма, а другое — моцна парванае.

— Ад той бабы, маспане, уцёк я ў Воршу, — спавядаўся чорт, — а з Воршы давялося ратавацца ў Ліду. Так і бегаю па Літве… не маючы нідзе спакою.

Пан Міцкевіч зноў хмыкнуў і зноў пацягнуўся па кілішак.

— За тройцу! — сказаў ён.

— За тройцу дык за тройцу, — пагадзіўся чорт і, пасля таго як выпіў, працягваў ужо зусім няцвёрда: — Вось што было пад Навагрудкам… Зашыўся я, маспане, у карчму пад лаву, сяджу сабе… — Чорт ледзь не плакаў. — Толькі вокам звеў, як прыехаў адзін недаверак[367]. Ліха яго матары! Ехаў бы сабе і ехаў, псяюха, але ж не, маспане, нячыстая яго прыкруціла — спыніўся пераначаваць. Гарэлкі не піў, баб не чапаў, біцца не лез! Дзіўна, думаю, і яўрэйчыка ў каршэнь штурхаю. Той да яго: «Мядку? Портэру ангельскага? Мо пан жадае закусіць з дарогі?» А падарожны: «Найн ды найн!». — «Немец», — вырашыў я. А раз немец — у веры няцвёрды. Дай я яго спакушаць, думаў на грэх намоўлю, будзе чым пахваліцца. Ажно ён свянцонай вадою дый мне ў морду! Ліха яго матары! Быў гэта не немец, а наш — псяюха — шляхцюк з-пад Ашмянаў… Але горш за ўсё было ў самім Навагрудку…

— Ці не выпіць нам, шатане, de nowiter reperta[368] ды ці не павесяліць сэрца якой-небудзь песняй? — раптам прапанаваў чорту Ваявода.

— Ашалеў пан? — нячысты ледзь не затросся ад жудасці. — Уздумаў спяваць насупраць крыжа з «Езусам без рукі»?!

Пан Міцкевіч пагардліва ўсміхнуўся і толькі набраў поўныя грудзі паветра, каб заспяваць, як зноў яго перапыніў чорт.

— Кінь, вашэсць, вокам на неба, — засакатаў нячысцік, — месяц на хмарах колам стаў, а з яго Люцыпар ногі звесіў. Няўжо забыўся, пра што ваўкавыскія дамінікане[369] казалі, як тут ягамосць пан Валадковіч упыра выклікаў ды біўся з ім, а потым душу страціў?! Не чуў? Дык я ўжо вашэсці распавяду. Быў Валадковіч надта п'яны ў той вечар, калі

[367] Пратэстант.
[368] Яшчэ па адной (*лац.*).
[369] У Ваўкавыскім кляштары знаходзіцца фамільны склеп Валадковічаў.



павадзіўся з панам Рэйтанам і ляцеў на кані якраз па гэтым месцы. Спыніўся насупраць крыжа, выцягнуў з кішэні пасвянцоную крэйду, грамнічную свечку, а таксама чалавечы чэрап. Выверну кантуш у адваротны бок і намаляваў вакол крыжа магічны круг. Так і было! Каб мяне крукі склявалі! Намаляваў, аднак, пан Валадковіч круг дужа няроўна, а чэрап кінуў сабе пад ногі, а трэба было пад крыж. Ці не дурань? Потым загаласіў, як на хаўтурах: «Заклінаю цябе, Чорная здань — дух Мефістофель, дух Азэруэл, дух Ададзел, Асхалам, Асхаі. Заклінаю цябе іменем цара твайго, які быў скінуты з вышыні ў пекла. Заклінаю цябе тваім прыніжэннем, пакутамі тваімі і тваёй пакорлівасцю Боскаму закону. Паўстань і забяры падараваную мне Панам маім душу!»

— А далей, шатане? — пацікавіўся шляхціц.

— Далей нічога, маспане. Бо альбенчык усё пераблытаў! Па-першае, «чорная здань». Якая сарока на якім хвасце прынесла пану Валадковічу тую навіну, што д'ябал чорны? Халера! Нават тым, хто не пайшоў далей інфімы[370], вядома, што д'ябал дух без-ця-лес-ны, а таму колеру не мае. Па-другое, няўжо ў Мефістофеля, Азэруэла, Ададзела і іншых, вартых павагі нячысцікаў, няма больш важнай справы, акрамя як цягнуцца па холадзе да нейкага п'яніцы?

— А карацей кажучы, — знецярплівеў шляхціц.

— Ніхто на той покліч не з'явіўся. І гэта нягледзячы на тое, што пан Валадковіч ажно тры разы ўкленчваў... Сонца пачало ўзыходзіць, калі ён спыніўся, сеў на дарогу дый давай плакаць. Калі роспач так дапякла, што анібожа, схапіў Валадковіч шаблю і са страшным лямантам пачаў секчы крыж. Гэтакага тлуму нарабіў, што калі і былі там д'яблы — пахаваліся. Ой жа ж, пане дабрадзею, ператоўк усё, не тое што крыжа — бярозак некранутых не засталося! А потым ужо на досвітку з дурной галавы і адцяў руку драўлянаму Езусу Хрыстусу. Толькі схамянуўся дый паглядзеў на зробленае, як «лясь»: стаіць перад ім немчык дый круціць хвастом, важны такі, бы падканцлер, і смяецца…

— Колькі жыву, а ніякіх хвастоў у немцаў не бачыў, — адгукнуўся пан Міцкевіч на гэтую прамову. І толькі ён так сказаў, як побач нехта зарагатаў. — Хто тут? — шляхціц усхапіўся на ногі і пачаў аглядацца. Але ні за возам, ні пад ім, а таксама побач нікога не было.

— Падалося! — сказаў чорт.

— Можа, і так, — пан Ваявода супакоіўся і сеў на воз.

Аж тут, каб табе ліха, паглядзеў пан Адам у левы бок і скамянеў: немаведама адкуль на шляху з'явілася дрындулька, запрэжаная белымі, як малако, конямі. Кіраваў дрындулькай падобны да цыгана запарожац, які трымаў у зубах люльку і меў шаравары шырынёй з Чорнае мора.

— Тпррр! — сказаў запарожац, звяртаючыся да зухаватых коней. — Стаяць, каб вас ваўкі не мінулі.

[370] Падрыхтоўчы клас у езуіцкай школе.

Як толькі коні спыніліся, выйшаў з брычкі высачэнны езуіт у чорным каптуры, падпаясаны пяньковай вяроўкай, агледзеўся навокал і павітаўся з чортам: «Будзь здароў, пан Смешыц».

— Пахвалёны, пан Гроза, — адказаў не дужа вясёлым голасам нячысты.

Езуіт агледзеўся, пастаяў крыху і нарэшце, звяртаючыся да казака, ледзь чутна сказаў:

— Пан Жалязняк, дапамажы іхмосцю пану Ваяводу сесці ў карэту! Праз хвіліну едзем!

## XIX ХАРАКТЭРНІК[371]

Бог дарма не дае нічога, ды ўсё адчыняе.
І кожны бярэ ад Бога, колькі ахвоты мае.

*Адам Міцкевіч*

Ñпачатку пан Гроза здзівіў усіх незвычайным цудам. У канёўскай карчме адзін п’яніца закінуў да яго прыкрасць. Езуіт адказаў, і пачалася, як звычайна ў гэтых выпадках, звада. Толькі казакі ўзяліся накруціць «крывому манаху» вушы, як раптам у карчму пабегла вада, дый так шпарка, нібы ў часы патопу. Вада лілася праз дзверы, вокны, нават праз дах. Не прайшло і хвіліны — усю карчму заліло. Канёўцы страцілі розум! З жудасцю ў вачах разбегліся яны ў розныя бакі, а вада ў тую хвіліну, як апошні абывацель уцёк, знікла, не пакінуўшы нават звычайнай калюжыны. Пранеслася па Канёве чутка, што манах той — чарнакніжнік. А тым часам пан Гроза абвясціў, што першым тром месцічам, якія з’явяцца да яго, выканае любыя жаданні. Увечары з’явілася панна Эльза, дачка Гонты, казацкага палкоўніка. Пастукалася ў дзверы, ціхенька ўвайшла і села насупраць.

— Што прывяло да мяне васпанну? — запытаўся пан Гроза мяккім голасам.

[371] Казакаў, якія валодалі «надзвычайнымі ўменнямі» называлі характэрнікамі (з націскам на [э]). Акрамя ўсяго іншага, мелі яны здольнасць прымаць аблічча дзікага звера, не адчувалі фізічнага болю, ведалі лекавыя расліны, умелі замаўляць кулі і хавацца ад ворага, нават сярод чыстага поля. Народ лічыў іх ведзьмакамі, і яны таксама лічылі сваё ўменне шатанскім. Самы вядомы сярод ліцвінаў характэрнік — наказны казацкі гетман Іван Залатарэнка, які загінуў пад Старым Быхавам 7 кастрычніка 1655 г. («на герцу постреленo у ногу з мушкета, от которой ноги и помер под Быховом»).



— Жадала б я прасіць дабрадзея аб дапамозе, — так пачала дзяўчына, — бацька жадае выдаць мяне замуж за пана Круковіча, але я люблю Яся, сына пана Касіцкага. Не ведаю, што і рабіць... парай, а я ўжо буду табе ўдзячная!

Паглядзеў манах на прыгожую паненку, паказытаў патыліцу дый параіў:

— Вазьмі, кажа, прыгажуня, зносак дый закапай яго на цвінтары каля магілкі таго чалавека, які памёр у пятніцу на мінулым тыдні (быў гэта такі горкі п’яніца і забіяка, якога свет не бачыў і які ўжо напэўна патрапіў пасля смерці ў пекла). Зрабі гэта апоўначы і чакай тры дні, а пасля трэцяга дня выкапай тое, што вырасце, і высушы на сонцы. Ператаўчы ды дай паспрабаваць нялюбаму табе жаніху.

Як сказаў, так панначка й зрабіла. Адвярнуўся ад яе пан Круковіч, і беднаму Гонту нічога не заставалася, як аддаць дачку Ясю Касіцкаму. Не доўга, аднак, была шчаслівая прыгажуня Эльза. Муж яе пачаў піць дый біць яе. Цягнулася гэта да таго часу, пакуль бедная жанчына ад гора і знявагі не ўтапілася.

У той самы вечар, пасля Эльзы Гонтавай, зайшлі да манаха яшчэ два мужчыны. Першы быў шляхціцам з Канёва, скардзіўся ён на тое, што бацька не пакінуў ніводнага злотага, каб хоць неяк на хлеб ды ваду хапала.

— Згалеў зусім, бачыш, у чым хаджу, — паказваў ён свой парваны кантуш, праз дзіркі ў якім было відно схудалае цела, — дапамажы знайсці скарб.

Параіў пан Гроза і яму. Аднак як пайшоў шляхціц за той парадай, так і не бачыў яго ніхто. Быў чалавек і няма... Трэці наведвальнік пастукаўся так ціха, быццам не чалавек, а палёўка паскраблася, і, перайшоўшы цераз парог, адразу ж зачыніў дзверы. Быў гэта казак Жалязняк.

— Маспане, — так пачаў Жалязняк, — дапамажы мне, бо ад роспачы я гатовы пайсці прасіць дапамогі ў самога Люцыпара.

На гэтыя словы пан Гроза ўсміхнуўся і прапанаваў разгубленаму ад хвалявання казаку крэсла.

— Было нас у бацькі двое: я і мая сястра Алена, — распавядаў Жалязняк, — удалася Алена прыгожая, як ранішняе сонца, жаніхоў было безліч — і вяльможных, і простых казакоў. Бо і мы паходзім ад запарожцаў, якіх яшчэ гетман Рэвэра Патоцкі да клейнотаў шляхецкіх падаў. Думаў, што рабіць з сястрою, як шатан усе планы парушыў! Патрапіла дзяўчына на вока майму пану, ЯВ-наму Мікалаю Базылю Патоцкаму. Не чакаў бяды, як выкраў ён Алену і зняславіў. За адну ноч мая красачка ператварылася з Боскага анёла ў здань. Вычварыўся над ёй мярзотнік... не вытрымала яе сэрца — страціла сястра розум. Каб толькі ўбачыў, вашэсць: сядзіць ля цвінтара — бабулечка, сабак ды галубоў корміць, усміхаецца кожнаму так ласкава, быццам дзіця бязвіннае. Выплакаў

я ўсе вочы… Кінуў мне Патоцкі грошы, даў фальварак, вёску. Але ці верне гэта маю Алену? Не! Вось і прашу цябе, чарнакніжнік! Страціў я надзею на міласэрнасць і справядлівасць Боскую. Пэўна няма Яго, раз такія пачвары па зямлі ходзяць. Няўжо Ён нічога не ведае?!

Пабудаваў пан Патоцкі кляштар недалёка ад Канёва, пасадзіў там законнікаў, якія грахі ў Бога перапрошваюць. Купіў законнікаў, купіў Бога... Бог дараваў, а я не дарую! Ніколі! Магутны ён — яснавяльможны! А хто я? Mea parvitas[372] — казак усяго, які шаблю дый гонар мае. Жыву побач, бачу ледзь не кожны дзень — і такая ў маёй душы нянавісць, што рукі самі да зброі цягнуцца. Ведае Патоцкі — сцеражэцца... Не забіць мне яго, пакуль жыццё маё куля ці шабля перарваць могуць!

Зарагатаў пан Гроза, забегаў па пакойчыку, запляскаў у далоні.

— Вось, — кажа, — што: дапамагу я табе, маспане, калі знойдзеш шыбеніка дый здзярэш з яго спіны скуру. Будзе гэта аркуш, на якім мы з табой пагодзімся... Дам табе магутнасць, якой не было ні ў воднага чалавека. Ніштo не будзе пагражаць, ніхто цябе не заб'е! Адпомсціш Патоцкаму і яго плойме. Пабачыш, як будзе збірацца іх кроў у калюжыны на бруку. Але ці не пашкадуеш душы дзеля таго?

Не пашкадаваў душы казак. Падпісаў з д'яблам кантракт і зрабіўся характэрнікам. Знік пасля таго і езуіт. Кажуць, што намаляваў вугалем на сцяне карчмы каня, сеў на яго, вылецеў праз комін і знік немаведама куды, як немаведама адкуль і з'явіўся.

А Жалязняк накіраваўся на правабярэжжа, дзе пазбіраў гайдамакаў, і ў суботу, калі ў касцёле ішло набажэнства, а ЯВ-ны Патоцкі маліўся аб выратаванні душы, увайшоў у Канёў.

Праз акно адзін з гайдамакаў стрэліў у ксяндза якраз у той момант, калі той звяртаўся з казаннем да прысутных вернікаў. Папярхнуўшыся на паловe слова, ксёндз пахіснуўся і паляцеў пад амбон. Гэта было пачаткам разні... Гайдамакі рабавалі, забівалі, гвалцілі... Вяльможныя і яснавяльможныя іхмосці гінулі пад сякерай ката, які быў абраны з ліку казакоў і дзейнічаў з нялюдскім аўтаматызмам, заліўшы крывёю плошчу. Яўрэяў садзілі на калы і вешалі перад уваходам у дамы. Яўрэек і белатварых паненак спачатку няславілі, здзекаваліся і нарэшце забівалі.

Але не гэтага жадаў Жалязняк. Выхапіў ён шаблю і ўскочыў у касцёл, дзе хаваўся пан Патоцкі разам з тымі, хто паспеў уратавацца з небяспечных вуліц. Уехаў конна і, нібы лесаруб, пачаў секчы людскія галовы. Гайдукі, якіх было з добры дзесятак, схапіліся за ружжы і пачалі страляць. Стоячы каля амбона, Стараста канёўскі з жудасцю назіраў, як

[372] Я — дробязь (*лац.*).



вершнік рухаецца наўпрост да яго. Ні стрэлы, ні шаблі ніяк не уплывалі на гэты д'ябальскі рух. Неўзабаве шлях да Патоцкага быў вольным.

Жалязняк саскочыў з каня і, трымаючы шаблю перад сабой, пайшоў да спалатнелага Старасты.

— Ну што, ляшэ, — прашыпеў, — напіўся ўжо нашай крыві, сабачы сын? Хопіць ужо мыцца нашымі слязамі!

І толькі рука гайдамака ўзняла шаблю, каб праццяць ёю валадара паловы Украіны, як перад Патоцкім узнікла дзяўчына з распушчанымі па плячах валасамі. Вочы яе ззялі, а сама яна калацілася, як у ліхаманцы. Была гэта родная сястра Жалезняка Алена. Цягнучы рукі да брата, яна сказала:

— Дзеля ўсяго святога, не забівай!

Адступіў Жалязняк на крок і закрычаў так, што скаланулася паветра.

— Гэта ж ён, Алена, той, хто зганьбіў тваю душу!

— Гэта ты зганьбіш душу, браце, калі заб'еш, — спакойна адказала Алена і дадала: — А я? Я — даравала!

— Даравала?! — не паверыў Жалязняк. — Як можна дараваць такое?!

— Так... — Алена захінула рукамі пана Патоцкага і лагодна, падзіцячы ўсміхнулася.

— Адыдзі! — зноў закрычаў Жалязняк. — Адыдзі, чуеш... бо заб'ю!

Тым часам у Канёў прыйшлі жаўнеры Кіеўскага ваяводы. Збілі гайдамакаў, якія ўжо пілі, здаволіўшыся крывавым гвалтам, і атачылі касцёл. Жалязняк апошні раз, звяртаючыся да сястры, папрасіў:

— Адыдзі!

Пасля чаго ўзняў казак шаблю — паляцела на мост акрываўленае цела Алены. Не загінуў, прабіўся Жалязняк праз польскія шыхты. Уцёк на Сеч, дзе пазбіраў гайдамакаў і «чорным шляхам» выправіўся на Умань.

## XX
## НАД МІНДОЎГАВЫМ ГАЕМ. ВЕРА І РОЗУМ. АШУКАНСТВА

І́е паспеў Міцкевіч перавесці дух, як дрындулька ўзнялася ў паветра і паляцела над верхавінамі Міндоўгавага гаю. На зэдліку карэты сядзеў казак Жалязняк і па-гайдамацку пасвістваў, прыспешваў коней. Насупраць шляхціца размясціўся пан Гроза. Ён прыязна ўсміхаўся і паблісквау з-пад каптура вогненнымі вачамі. На падлозе, бы хорт, скруціўся пан Смешыц і лавіў блох, з вялікім імпэтам запускаючы крукаватыя тлустыя пальцы ў густую рудую поўсць.

— Вось яно як! — сказаў пан Гроза, пахітаў галавой і са шкадаваннем паглядзеў на пана Міцкевіча.

У адказ шляхціц уцягнуў галаву ў плечы і недаверліва скасавурыўся на шатана.

— Да-а-а-а! — паўтарыў, расцягваючы галосныя, пан Гроза і чамусьці пляснуў кулаком пану Смешыцу па галаве. Той імгненна выцягнуў пальцы з поўсці, выпрастаўся і па-сабачы паглядзеў у вочы езуіту.

— Дык не аддаў Ажэшка дзеўкі? — запытаўся пан Гроза ў пана Смешыца.

— Не аддаў! — пагадзіўся той. — Cor plumbeum. Але што казаць пра старых пнёў, bis pueri senes[373].

— Шкада! — заўважыў езуіт, у задуменні паглядзеў на пана Міцкевіча і запытаўся: — А за каго аддаў?

— Ат, маспане! За гэтага ёлупня з Агінскіх. Праўдзівы боўдзіла — ні сабе, ні людзям! Не жыве — адно дні трэ ды бясконца наракае. А такі таўлай, што хоць ты яго цэпам малаці.

— Вось яно як! — паўтарыў езуіт і дадаў: — Nil sub sole novum![374]

— Non nova, sed nove![375] У Навагрудскай фары Яндаловіч вянчаў. Усё ваяводства піло два тыдні і месяц пахмялялася — «Quod di omen avertant!»[376] А панначка?! Ах, мосці панове, панначка, была... была... — чорт з замілаваннем узняў вочы ўгару, нібы шукаў сярод зорак патрэбныя словы, каб апісаць прыгажосць стальнічанкі Эвы, але ўздыхнуў і ўсяго толькі заўважыў: — Госпадзі, госпадзі, забі таго да смерці, у каго жонка хараша!

— А што панначка падчас шлюбу была шчаслівая? — пацікавіўся езуіт.

[373] Чэрствы чалавек... стары, малы — адно (*лац.*).
[374] Нішто не новае пад сонцам! (*Лац.*)
[375] Не новае, але па-новаму! (*Лац.*)
[376] Барані Божа! (*Лац.*)



— Шчаслівая?! — пан Смешыц падскочыў, быццам жару ўхапіў, і толькі за малым не выкінуўся з дрындулькі. — Якое там, мосці панове, шчасце?! Панначка спярша паспрабавала атруціцца, а потым зачынілася ў вежы. Ледзь вялебны Іерамія ўпрасіў яе не чыніць над сабой гвалту. А потым бацька на каленях стаяў і ўмольваў дзеля Айчыны, дзеля будучыні народа згадзіцца на шлюб з панам кашталянам. «Часам, дачушка, мы вымушаны рабіць не тое, што падказвае сэрца, а тое, чаго патрабуюць інтарэсы Дзяржавы! — даводзіў Ажэшка. — У Агінскіх — войска, улада, калі з’яднаемся з імі — пераможам, выратуем Рэч Паспалітую!» Плакала панначка і ўдзень, і ўночы, але… што рабіць?!! А да ўсяго яшчэ дайшлі чуткі, што ягамосць пан Ваявода ажаніўся…

Пачуўшы гэтыя словы, Міцкевіч захінуў твар рукамі і горка заплакаў. Калі сутаргі перасталі сціскаць горла, ён, нібы на споведзі, горача і апантана зашаптаў:

— «Мне здалося: зжыў я з сэрца дарагую, быў рады з выдумкі, і ўзяў сабе другую, якая трапілася, дзеўчыну-нябогу! Нядобра я зрабіў, і кара была строгай, я не любіў яе. Яна ж мяне кахала, бедная… Але сваім каханнем першым я быў з толку збіты, дык быў, нібы шалёны, заўсягды сярдзіты. Дарма шукаў сабе занятку. Інтарэсаў. Надарма ўсё! Дык, апантаны помсты бесам, не мог знайсці сабе ні месца, ні спакою нідзе на свеце. Стамлёны доляю такою, я піць пачаў!»[377]

— Хм... — сказаў пан Гроза і з яшчэ большым шкадаваннем паглядзеў на Міцкевіча. Потым гучна ўздыхнуў, узвёў чырвоныя вочы ў неба, склаў далоні — як на маленні, і паўтарыў: — Значыць, далі малайцу гарбуза!

— Далі! — пацвердзіў пан Смешыц.

— Хм! — у вялікім задуменні прамармытаў езуіт. — Простая, здавалася б, справа! Злучы закаханых, зрабі дабро — выратуй Рэч Паспалітую, самога сябе і дзяцей сваіх. Але ж не, мосці панове! Абавязкова трэба выбраць крывую сцяжыну, змудрагеліць! Падумаць толькі: у імя будучыні Рэчы Паспалітай адабраць будучыню ва ўласнай дачкі, зняважыць сябра! Завязаць жыццё столькім людзям! Haec etiam auditu acerba sunt[378]. І добра было б, каб свайго дапяў! А калі дарма ўсё?

— Дапяў? — абурыўся пан Смешыц. — Столькі зла нарабіў, ліха яго матары, унукам не разгрэбці! З шляхты гвалты чыніў, сеймікі зневажаў, крыві праліў… мора! Ротмістра мазырскага пана Дашкевіча, для прыкладу, у Лідзе засек, мінскага маршалку пана Дамейку на паляванні застрэліў, а на месца Дамейкі мярзотніка Марыконі прызначыў, які пана Валадковіча на смерць скіраваў. І дзеля чаго? Каб гэтага, няхай даруюць ягамосці, пенцюха Панятоўскага на пасад усадзіць!

[377] Міцкевіч А. «Пан Тадэвуш».
[378] Пачуеш — вушы вянуць (*лац.*).

— Значыць, дарма Ажэшка сеймікі разганяў? — ціхім голасам удакладніў езуіт.

— Дарма, міласцівы пане! — пагадзіўся пан Смешыц. — Улез у сваркі, як чорт у балота. Шляхта бажылася, што прыйдзе час — адпомсціць яму за крыўды! Lis litem generat[379].

— І што цяперака?

— А што цяперака? — здзівіўся пан Смешыц. — Сядзяць сабе ягамосці па засценках дый мацюкаюцца. Не ведаюць — маскалю ці Ажэшку кроў пусціць. Стольнік абяцаў кожнаму, хто далучыцца да канфедэратаў, гарнец злотых дый бочку піва! Але абяцанка-цацанка — дурню радасць! Вядома! Пакруцілася маспанства каля Ажэшкі дый «акыш» — пахавалася! Смачнейшая вада пры жыцці, чым піва пры смерці! Падаўся тады Стольнік да Агінскіх! Асабліва запрыязніўся з вялікім гетманам. Прагне Ажэшка намовіць Агінскіх далучыцца да барчан, абвесціць дэтранізацыю і выбіць маскалёў з Княства.

— А ці пайшоў на карысць шлюб? — зноў удакладніў пан Гроза.

— Не пайшоў! — замахаў рукамі пан Смешыц. — Дзе там! Яшчэ 10 сакавіка на каралеўскім савеце вялікі гетман звярнуўся да караля з просьбаю аб задушэнні канфедэрацыі і арышце яе кіраўнікоў. Магнаты, як заўжды, здрадзілі Айчыне, а кароль адмаўчаўся, бо нат спадзяваўся на міласэрнасць Кацярыны ІІ. Выратаваць становішча магло толькі аднадушша шляхты. Але шляхта без правадыра бяздзейнічала і сеймікавала. Колькі ЯВ-ны Стольнік ні ездзіў, колькі парогаў ні абіваў — усё дарма. Не даравалі вясковыя нобілі Ажэшку яго зухвальстваў. Між тым аднаго б толькі слова пана Ваяводы хапіла, каб шляхту ў канфедэрацыю сабраць. Аднаго яго загаду было дастаткова, каб без малога 30 літоўскіх харугваў у пагоню павесці. Лёс наканаваў Міцкевічу быць новым Янам Жыжкам. Але шляхціц піў, гайдамачыў і не звяртаў увагі на наканаванае яму Богам.

Не была шчаслівай і пекная Эва. У шлюбе з Міцкевічам павінна была нарадзіць вялікага паэта, прарока нязмеранай славы. А замест таго нарадзіла кволую дачушку, на якой род Ажэшкаў перарвецца. З-за адной толькі памылкі, якую дапусціў Стольнік, загінулі Айчына і каханне…

— Хм! — езуіт глыбока ўздыхнуў і, дачакаўшыся, пакуль думкі прыйдуць да ладу, заўважыў: — Людзі прызвычаіліся думаць, што адмаўленне Бога — адначасова і нявера ў Яго. Гэта і так, і не так… бо д'ябал не верыць, а ведае, што Бог ёсць. І гэта веданне — наша перавага, наша моц! Так, напрыклад, мы ведаем, што Бог злучае некаторых людзей да іх нараджэння! Стваральнік завязаў вузел паміж Эваю і Міцкевічам, ён усё спланаваў, усё ўзважыў. Між тым ex parvis saepe

[379] Сварка нараджае новую сварку (*лац.*).



magnarum rerum momenta pendent[380]. Бог не звярнуў увагі на злую волю аднаго толькі старога вар'ята, на яго прыпыху і жаданне велічы. Адна памылка Ажэшкі — і няма ўжо ні бласлаўлёнай сям'і, ні шчаслівых бацькоў, ні іх унукаў. Няма магутнай еўрапейскай дзяржавы, дэмакратычнай Усходняй Еўропы, няма славянскай еднасці, а ёсць толькі разарваныя, растаптаныя чалавечыя лёсы. Ці чакаў Бог менавіта такога выніку? Няўжо само зло — ад Бога?

Недахоп тэадыцэі[381] якраз у тым заключаны, што людзі вераць. Сутнасць веры ў яе бясконцасці, і сілкуецца вера гэткімі ж самымі катэгорыямі бясконцасці, але Бог — не бясконцасць. Ён памыляецца! Не ўлічвае дробязяў! Бог, як выказаўся Святы Аўгусцін, не «дапускае Зло». Ён проста не можа зла пазбегнуць! Чалавек, які жадае гармоніі, павінен быць пільным. Функцыя новага Адама ў тым, каб заўважыць памылку Бога і выправіць яе! Га, пане Міцкевічу? Той, хто ўбачыў хіб Бога, гэта ўжо не чалавек, а пёс Іеговэ. Такі чалавек за межамі маралі і закона. Ён — лязо халоднай сталі, якое выразае зло, пазбаўляе цела ад балючых язваў! Чалавека-пёс, мосці панове, не верыць, а ведае, і гэта веданне ў яго ад нас. Мы яму аддаём частку нашай магутнасці, бо мы… таксама любім Бога, пане Міцкевічу, нам таксама прыкра глядзець на несправядлівасць і ашуканства. Стольнік — язва, якую трэба выразаць, ён адзіны вінаваты ва ўсіх грахах! Няўжо будзем чакаць новых злачынстваў? Няўжо не спынім беззаконне? Ці згодны, пан Ваявода, узяць меч Боскай помсты і пакараць зло?

— Згодны! — прашаптаў шляхціц.

— Тады забі Ажэшку!

Вочы пана Міцкевіча зазззялі пякельным агнём. За хвіліну ён змяніўся —паменшаў, пачарнеў, сагнуўся. Сціснуў кулакі, смела глядзеў на шатана і драпежна ўсміхаўся.

— Добра, шатане! Раз ужо наканавана мне гарэць у пекле — няхай будзе па-твойму, але ёсць у мяне argumentum legis[382]. Я прашу шчасця для каханай!

— Дамовіліся! — у адзін голас выгукнулі пан Гроза і пан Смешыц!

— Што ж, тады даставайце, мосці панове, скрутак. Падпішам дамову!

— Які яшчэ скрутак? — здзівіўся пан Гроза і падазрона паглядзеў на Міцкевіча.

— На якім чалавек з д'яблам кантракт складае — з валовай скуры або са скуры шыбеніка! — удакладніў шляхціц.

[380] Вынік значных спраў часта залежыць ад дробязей (*лац.*).
[381] Апраўданне Бога за зло (*франц.*).
[382] Законны аргумент (*лац.*).

— А-а-а! — яшчэ больш здзівіўся езуіт. — Няма ў нас ніякіх скруткаў і не было ніколі! Іх пісьменнікі выдумалі! А скрутак — само жыццё, чалавек піша не атрамантам, а ўчынкамі. Забі, ваша, Стольніка — і дамова будзе мець сілу. А пакуль прапаную павесяліцца, разагнаць кроў! Гэй, мосці панове — bene cessit[383].

— Паталочышча! — залямантаваў пан Смешыц і тыркнуў пальцам у спіну Жалезняку. — Прыехалі!

Казак нацягнуў цуглі і прытрымаў коней.

У той момант месяц зачапіўся за край Міндоўгавага гаю, захістаўся, загойдаўся і нарэшце застыў на адным месцы — заснуў. Зоркі, гледзячы на месяц, таксама спачатку захісталіся і загойдаліся, а потым і зусім пазляталі з неба. На зямлі ўсталяваліся цемень і холад.

## XXI
## ВЕДЗЬМІНА ПАТАЛОЧЫШЧА. ДАЧКА ПЯРКУНАСА. СТАРЫЯ І НОВЫЯ БАГІ. МІЦКЕВІЧ. ВІДАВОЧНЫЯ РЭЧЫ. ПЛЯЛЁСТКІ БЕЛАЙ РУЖЫ

Ї рывезлі паны Гроза са Смешыцам беднага шляхціца на ведзьміна паталочышча, кінулі каля карчмы і забыліся на яго. Не верыў уласным вачам Міцкевіч, бо навокал адбываўся праўдзівы пякельны гармідар! Д'яблы розных памераў, колераў і нораваў пілі гарэлку і закусвалі яе смажанінай, танчылі і гралі ў мар'яш, біліся і мірыліся, а разам з імі ўсё тое ж самае рабілі ваўкалакі, пярэваратні, ведзьмакі, вядзьмаркі, купальскія дзядкі, ліхаманкі, марэны, багнікі, аржавені, вадзенікі; душабойцы, крывыя сведкі і злодзеі, скнары і ганарліўцы... усіх ці пералічыш? Вылятaлі нячыстыя духі з карчмы, як пчолы з вулля, і рассаджваліся на дрэвах. Схапіўшыся за рукі, вадзілі карагод пачварныя здані і зласлівыя упыры. Вакол гайдамакаў Жалезняка танчылі пярэваратні і шчыра дзякавалі за знішчаную Умань, за спаленыя шляхецкія сядзібы, за разбураную Рэч Паспалітую. Штурхалі і тузалі казакоў за чубы-селядцы ліхаманкі і марэны, апракідвалі келіхі і куфлі хохлікі і баламутні, а замест мёду гарэзлівыя гаёўкі налівалі людзям іржавую балотную ваду.

Схапіўшы запарожцаў, насіліся ў паветры вядзьмаркі, танчылі яны хуткія мазуркі і вясёлыя кракавякі. Толькі думалі гайдамакі, што трымаюць у абдымках пекных дзяўчат, ажно падманваліся, бо замест чырвоных вуснаў на тварах іх каханак відны былі бяззубыя пашчы, замест прыгожых

[383] Нарэшце ўсё добра атрымалася (*лац.*).



валасоў — сівыя пасмы, а замест белага дзявоцкага цела — схуднелае страхоцце. Бразгаталі косткамі шыбенікі, лямантавалі самазабойцы, падвывалі ваўкалакі, скрыгаталі зубамі і прытопвалі упыры, галасілі прывіды.

Неўзабаве з'явіўся і пан Смешыц.

Разам з двума шатанамі цягнуў ён вялізную — вёдзер на шэсцьдзесят (не меней) — бочку. Пачырванеў небарака ад высілкаў, знямогся. Упіраўся ў бочку рагамі, напружваўся, збіваў капыты і з вялікім азартам штурхаў яе да вогнішча. Калі сіл не ставала, Смешыц нервова бегаў вакол, прыкладаўся вухам, шчасліва прыплюшчваў вочы і драпаў бочку пазногцямі, нарэшце прадрапаўшы дзірку. Ды такую вялікую, што пабегла праз яе гарэлка.

Забегалі тады шатаны і пачалі паміж сабой біцца. Тузаліся і сварыліся, пакуль Смешыц не здагадаўся падставіць пашчу пад дзірку дый не выпіў з палову бочкі, раздзьмуўся так, што не мог устаць. Тады другі шатан адвалок пана Смешыца і лёг на яго месца. Нарэшце трэці вычарпаў бочку да апошняй кроплі, лёг побач з хаўруснікамі і захроп.

Ледзь не страціў розум шляхціц. Схапіўшы шапку, паспрабаваў уцякаць, але не паспеў зрабіць і двух крокаў, як з'явіліся немаведама адкуль ластаўкі. Трымалі яны ў дзюбах пялёсткі белай ружы і кідалі на зямлю, спяваючы нечувана прыгожыя гімны. Услед за ластаўкамі прыляцелі ястрабы, узняліся ў неба, накінулі рыбацкую сетку на месяц, прыцягнулі яго да зямлі, усадзілі на дах карчмы і зніклі. Залатое ззянне разлілося па гаі. Апусціў пан Ваявода вочы, каб не страціць зрок. Калі ж праз хвіліну паглядзеў — замест птушак заўважыў ружова-блакітнае воблака. Стаяла на ім дзяўчына анёльскай прыгажосці і нечалавечай дасканаласці.

— Пекная Мільда![384] — пранеслася па гаі.

— Дачка Пяркунаса![385] — адбілася ад магутных дубоў.

— Багіня кахання! — разлілося па зямлі.

— Гаспадыня Літвы! — адгукнулася на небе.

Як толькі ножка Пекнай Мільды кранулася пялёсткаў белай ружы, атачылі яе з усіх бакоў шатаны. І так пачалі завіхацца, так камічна выбрыкваць, вытанцоўваць і прымілaцца, зусім як нашыя панічыкі. Не звяртала на іх увагі Пекная Мільда, ішла сабе да вогнішча. Даносіліся ад яго жахлівыя енкі, стогны і д'ябальскія спевы.

Нечакана гармідар суцішыўся, а каля вогнішча з'явіўся пан Гроза. Апрануты ён быў не ў звыклы манаскі каптур, а ў расійскі сенатарскі сурдут. Выходзіў з карчмы і нізка схіляўся, вітаў знаёмых і незнаёмых

[384] Багіня пачуццёвага кахання ў Крыўі / на Літве.

[385] Тое ж, што і Пярун — бог нябеснага агню ў балцкім і славянскім пантэоне.

д'яблаў. Насустрач Грозу выбегла дробнае, надта непрыгожае чарцянё. Надзьмулася да маёрскіх памераў і загадала шыхтаваца ў харугвы: «Раз-дффа! — харугва шатанаў. Раз-дффа! — харугва вядзьмарак», — лічыў ён. Нячысцікі хутка пашыхтаваліся і ўзялі на каравул, трымаючы замест ружжаў куфлі з гарэлкай. Пан Гроза падзякаваў чорту-маёру за службу і яшчэ раз схіліўся перад шатанамі. Пасля чаго адвярнуўся і пачаў сачыць за Пекнай Мільдай, якая набліжалася ў атачэнні ластавак і ястрабаў.

— Шатане, —так пачала багіня, — я прыйшла прасіць у цябе за мой народ.

— Вітаю Пекную Мільду, — пан Гроза гжэчна расхінуў рукі і запрасіў госцю бліжэй да вогнішча. Але гаспадыня Літвы не кранулася з месца. На яе блакітных вачах з'явіліся горкія слёзы.

— Слухаем! — залямантавалі нячысцікі. — Кажы, чаго прыйшла, дачка Пяркунаса.

— Шатане, — паўтарыла Пекная Мільда голасам, у якім чутны былі спевы ўсіх птушак, бруянне ўсіх крыніц і подых усіх вёснаў Айчыны, — мой народ у страшнай небяспецы! І я гатова на ўсё, каб выратаваць яго!

Другі раз пан Гроза расхінуў рукі, каб запрасіць багіню ў цэнтр пякельнага кола. Але і другі раз пекная Мільда засталася на тым самым месцы.

— Я прыніжана, прашу мяне выслухаць, — пачулася, нібы шапаценне ветру.

— Мы слухаем цябе, — загаласілі д'яблы.

— Што ж... — Пекная Мільда паглядзела на шатана, але хутка адвярнулася, бо не вытрымала яго пагляду, і загаварыла ў цемень. Не загаварыла — заспявала: — Мой бацька, магутны Пяркунас, быў богам народа гэтай зямлі. Прайшоў час, выракся народ бацькі, прывязаў душы да Чужынца. Жыў Ён не ў кожнай расліне, не ў кожным павеве ветру чуліся Яго галасы. Хавалі Бога ад людзей святары, замыкалі на ноч у цэрквах. Глядзелі мы, як апаноўвае Чужынец нашых сыноў і дачок, і горка плакалі, бо прадчувалі бяду... Людзі выракліся нас, толькі мы не выракліся сваіх дзяцей. У часы голаду і войнаў, пошасцяў і хваробаў заходзіла я ў кожную літвінскую хату, сыпала ў кожны яе вугал каханне, выганяла за парог смерць.

Толькі смерць не адступалася ад народа, а новы Бог патрабаваў усё большых ахвяраў і ўсё новай крыві. Паназляталіся крумкачы, крыжаваныя і благаслаўлёныя Яго воляй і Яго моцай... І запалалі літвінскія вёскі, здаволіліся драпежнікі людскою крывёю. Адмалілі мы дзяцей нашых — у імя будучых пакаленняў нарадзіліся Альгерд і Вітаўт. Узялі ў рукі мячы, выкаваныя ў літвінскіх пушчах, і павялі харугвы на бітву, каб памерці за Край.



І бачылі мы, як непахісна стаяць смаляне, як, ашчэрыўшы пашчы, кідаюцца на іх крыжаваныя крумкачы. Як ад муроў адбіваліся іх чорныя хвалі, пакуль трымалі літвіны зброю, пакуль развяваў вецер Пагоню. Але меней і меней рабілася тых, каго яшчэ не ўзяла ў палон смерць, хто здольны быў трымаць меч. І ўкленчыла я да магутнага Пяркунаса, каб апошні раз дапамог, каб ацаліў нам свабоду. Пачуўся на крывавым полі ваяўнічы покліч кукентояў[386]. Наляцелі яны на ворага і біліся разам з жывымі, здабывалі свабоду Айчыне... І паддаліся ворагі, скалануліся іх сэрцы, пабеглі яны прэч!

Але з захаду наляцела вараннё. Мелі новыя ворагі салодкія вочы, казалі аб міласэрнасці. Цяжка было здагадацца, што хаваюць яны да часу ў шырокіх манаскіх каптурах. Калі адчулі вораны магутнасць, зноў запалалі літвінскія вёскі, зноў крывёю памыліся нашыя землі. Выплакала я ўсе вочы, як з усходу прыйшла новая бяда. З бясконцых Маскоўскіх лясоў вывалакся люты вар'ят, які імкнуўся да велічы Бога на зямлі. Жахлівы позірк кінуў на нашу зямлю, і не існавала больш ночы на Літве, бо вогнішчы ад гарадоў і вёсак асвятлялі ўсё — ад Віліі да Дняпра.

Кранулася я сэрца жанчыны з Астрожскіх, нарадзіўся волат, узняў народ. І зноў, як некалі, паляцелі ў пагоню ваяры, збілі ворагаў, абаранілі Край. І так штогод — войны, пошасць, смерць... чорная доля майго народа! Не паспявалі маткі нараджаць дзяцей, як прыходзіў вораг і забіваў, рабаваў, нішчыў.

Доўга разважала я над тым, чаму неўзлюбіў маіх дзяцей Чужынец. Ці не таму Ён дасылае бясконцыя выпрабаванні, што памятаюць іх сэрцы пра нас — даўнейшых?

Тых, каго залічыў Ён у царства зла, каго кінуў у змрочныя колы пекла. О, толькі не памерлі мы, як не памерлі і нашыя дзеці... Там, дзе пройдзе Яго магутнасць, дзе пакіне пасля сябе папялішчы, услед іду я, сыплю паўсцяж каханне... і не было яшчэ таго, каб смерць мяне перамагла!

— Ішла яна ўслед за смерцю і ўваскрашала народ каханнем! — неслася шатанскае бразгатанне па Міндоўгавым гаі. — І не было таго, каб смерць перамагла...

—Аднак прыйшла злая гадзіна, і народ мой апынуўся на краі бездані, — працягвала Пекная Мільда. — Войны і кроў зрабілі сэрцы літвінаў жорсткімі, а душы — каменнымі. Выракліся яны і таго Бога. Людзі-шэльмы перасталі быць народам. Жывуць паасобку, як дзікія звеpsы. Не здольныя яны да шчырага, сардэчнага кахання. Не маю я ўлады над іх лёсам! Затое бачу іх будучыню. Усемагутны Бог верне літвінаў у сваё Царства, але дзеля гэтага не пашкадуе іх крыві.

[386] Душы вояў, якія загінулі на полі бою.

Дасць Ён волю шатану, які спапяліць усё, запрыгоніць кожнага, нават найвялікшага з людзей. І апынецца народ мой ва ўладзе злога тырана, у такім прыгоне, якога не меў ніколі. І будзе панаваць шатан, пакуль не ўкленчаць літвіны да Яго міласэрнасці. Але толькі не мае Ён міласэрнасці, і вернуцца душы людскія зноў у пастку, раскінутую тым — ранейшым, Усемагутным.

— І вернуцца літвіны да Бога Усемагутнага! Так кажа дачка Пяркунаса, Пекная Мільда, — паляцеў па гаі голас шатанаў.

— Кроў... Усюды кроў. Спатолім мы сваю прагу! — загаманілі упыры.

— Зямля ператворыцца ў паталочышча! — адгукнуліся ведзьмакі.

— Аддаў Бог уладу шатану... О Усемагутны! Новы Бог.

— Змоўчце! — не сцярпеў гэтага выцця пан Гроза і, дачакаўшыся цішыні, запытаўся: — Але што Пекнай Мільдзе трэба ад нас?

— Што, што трэба Пекнай Мільдзе ад нас? — пранеслася паміж шыхтамі нячыстых духаў.

— Веру, што каханне пераможа тырана, што рана ці позна выйдзе атрута з крыві літвінаў. Убачаць яны, што замест гонару трымаюць на плячах чорных духаў, якія штурхаюць іх адзін на аднаго. Веру, што, народжаныя каханнем, мае дзеці не выракліся яго цалкам. І, калі прыйдзе час, каханне пераможа.

— Каханне пераможа? — зарагатаў пан Гроза. — Ах, Пекная Мільда! Ты ўсё яшчэ не страціла веру ў людзей? А між тым людзі даўно выракліся цябе!

— Няпраўда! — вочы Пекнай Мільды бліснулі, быццам дзве ружовыя маланкі. — Магчыма, яны забыліся на маё імя, але полымя кахання ў іх сэрцах не згасла!

— Згасла, Мільда! Ах, не горш за мяне ты ведаеш запавет Пяркунаса: да таго часу агонь кахання будзе гарэць у сэрцах людзей, пакуль будзе гарэць Зніч[387] у даліне Свентарога. Але Зніч даўно згас…

— Зніч згас, але каханне не загінула! — далоні Пекнай Мільды сціснуліся ў кулакі.

Пан Гроза паблажліва ўсміхнуўся, захітаў галавой, кінуў вокам на пана Міцкевіча і заўважыў:

— Нават табе, Пекная Мільда, нельга адмаўляць відавочныя рэчы!

---

[387] Святы нязгасны агонь у паганскіх культурах літоўцаў і беларусаў. Я. Длугаш пры апісанні вераванняў і культаў у Літве да прыняцця хрысціянства згадваў, што ў Вільні гарэў свяшчэнны вечны агонь, у які паганскія жрацы ўвесь час падкідалі дровы, каб ён не згас. Кароль Польшчы Ягайла падчас прыезду ў 1387 г. у Літву з мэтай увядзення каталіцтва загадаў патушыць вечны агонь, разбурыць свяцілішча і алтар // Цыт. па: Беларуская міфалогія: Энцыклапед. слоўн. / С. Санько. — Мінск, 2006.



Загулі, зарагаталі ведзьмаркі, зацмокалі упыры, загаласілі пярэваратні. Забегалі нячыстыя духі вакол Пекнай Мільды, замахалі рукамі: «Акыш! Акыш!» — шалёна закрычалі, прагналі ластавак, у дзюбах якіх усё яшчэ бялелі пялёсткі ружы. Горка заплакала багіня, падабрала спадніцу, адбегла ад вогнішча, ускочыла на воблака і перад тым, як знікнуць у чорнай смузе, з вялікай пяшчотаю паглядзела на Міцкевіча, з пяшчотаю і, як здалося ў той момант шляхціцу, з бясконцаю надзеяй.

## XXII
## ШЛЯХЦІЦ-ФІЛОСАФ. ВЯРТАННЕ ДА ПАДЗЕЙ АБЛОГІ ЗАМКА ЯВ-НАГА СТОЛЬНІКА ЛІТОЎСКАГА. АПОШНІ З БЖАСТОЎСКІХ. НЕСПРАВЯДЛІВА АБВІНАВАЧАНЫ, АЛЕ СПРАВЯДЛІВА ПАКАРАНЫ. КОЛЬКІ СЛОЎ АЎТАРА

Тут бухнуў стрэл з-пад брамы.
Стольнік заікнуўся,
Пачырванеў, збялеў, крывёю папярхнуўся.
Тады заўважыў я насупраць сэрца пляму,
А пан з хістаннем паказаў рукой на браму.

*Адам Міцкевіч*

За сценамі карчмы шалела навальніца. Чутно было, як праносяцца па нябёсах грымоты і як б'е па страсе спорны жнівеньскі дождж. Зрэдчас бліскалі маланкі, выў раз'юшаны вецер. Міндоўгаў гай, заатакаваны стыхіяй, узняў неверагодны тлум. Мой суразмоўца, відаць, стаміўся і вырашыў перавесці дух. Загадаў прынесці мёду, ужыў табакі, прыхінуўся да сцяны і заплюшчыў вочы. Мінуў пэўны час.

— Шмат, пане Тадэю, — нарэшце зноў пачаў казаць шляхціц, — трэба мець грахоў, каб дасягнуць мяжы Боскай цярплівасці. На маёй памяці адбылося безліч крывавых злачынстваў і зухвальстваў, ад якіх у вас, маладзёнаў, кроў спынілася б у жылах. Адзін Патоцкі быў чаго варты, ды і іншыя яму не саступалі. Аднак і другое было — ведаю я прыклады сапраўднай скрухі, сапраўднага вяртання і сапраўднай святасці. Часам, вашэсць, чалавек робіць найвялікшае зло ў свеце, нечуванае, жудаснае злачынства, але, маючы веру, якая жыве на самым дне яго душы, як

напамін аб маці, аб дзяцінстве, аб першым каханні, мусіць пакаяцца і выкупіць грахі.

Існуе пэўная мяжа гайдамацтвам і зухвальствам, перайшоўшы праз якую чалавек робіцца іншым: або лютым зверам, вар'ятам, або святым. Здараецца, што зло, шатанскасць нібы выбухае знутры, спыняе гайдамака і паварочвае ў адваротным кірунку. Колькі прыкладаў было таго на Літве, але не пра тое размова... Ёсць грэх, які ні выкупіць, ні даравць нельга. Грэх гэты — здрада Айчыне!

Шляхціц узяў келіх, адным махам выпіў яго, абцёр вусы і паглядзеў на мяне вачамі, у якіх заўважаліся слёзы. З вялікім болем і крыўдай на самога сябе ён працягваў апавяданне.

— Трымаючы стрэльбу, стаяў я пад сценамі замка ЯВ-нага Ажэшкі. Я і яшчэ адзін... пан Гроза. О, не! Хавай Божа! Не жадаю я сябе адбяліць. Мая віна ў смерці Стольніка, але не на мне яго кроў! Увесь той час, як біўся магнат з маскалямі, і я біўся з тым, хто шаптаў мне на вуха словы помсты. «Nobilis Polonus omnibus par[388], — казаў мне праклятаы езуіт. — Забыўся ясны пан на роўнасць шляхецкую, пыха захінула яго вочы. Зараз самы час адпомсціць! Ніхто не скажа на цябе, Ваявода!» Атачалі мяне з усіх бакоў шатаны і лямантавалі, шапталі на вуха:

— Зняважыў... і каго — цябе, які нават з Радзівілам запанібрата!

— Аддаў дачку на чужыну! Злыдзень ён... нялюдскі!

— Лёгка яму! Вядома! Мы здабудзем перамогу, мы пакладаем галовы, а ён атрымае новыя землі, прывілеі... бо ён пан, а мы хто? — так, нікчэмнасць!

Бачыў я, як лезуць маскалі на сцены замка, як настаўляюць медную пашчу гарматы на брамы, як апошнім азартам бароніцца Стольнік... І толькі ў маёй душы пачынала нараджацца шкадаванне, як паўставалі перад вачамі палаючыя шляхецкія засценкі... згадваліся кроў і гвалт. Нават я, які даўно ўжо прызвычаіўся да вайны, не мог глядзець на гэта! І з-за чаго? Нейкія словы, сказаныя незнарок. О, паны над панамі! Шмат мы цярпелі... Годзе!

Чуў я, як спявае вялебны Іерамія «Неба і зямлю», як крычаць маскалі «Ура!». Быццам не я — не сваёю рукою трымаў стрэльбу, рыхтуючыся сам не ведаў да чаго! І вось калі егры забегалі па дзядзінцы, мой вораг з'явіўся. Пчолы ахуталі рускіх жаўнераў. Самы час быў у імклівай атацы збіць і выгнаць чужынцаў з замка! О, каб я ўдарыў з тылу! Але замест таго мая рука пацягнулася да стрэльбы.

Як пераказаць мае пачуцці? Каб зразумець іх, трэба патанаць у багне роспачы, не мець надзеі. Але і гэтага будзе замала. Толькі той, хто ўжо быў на небе, каго крануўся анёл крылом, каму падараваў усмешку, хто быў шчаслівы ў раі на зямлі, толькі той зразумее, што значыць быць

[388] Шляхціц польскі ўсім роўны (*лац.*).



скінутым з вышыні пяшчоты і кахання ўсяго толькі злой воляй аднаго чалавека!

І няўжо, апынуўшыся ў бездані, у той жудасці, я мог гэтаму чалавеку даравць? Шатан штурхаў мяне і крок за крокам падводзіў да забойства!

Але не я страляў. Клянуся бязвіннаю крывёю Езуса!

У той момант, калі ЯВ-ны Ажэшка з'явіўся пад вежай, мая стрэльба адсалютавала небу. Мільганула ў акне Яе постаць. Не ведаў я, што Эва ў замку. Думаў далёка, у свеце, куды звёз яе праклятыы Агінскі. Счэзлі з майго сэрца шатаны, змоўклі пякельныя галасы, і рушыў я да каханай. Не бачыў нават, як паляцеў на зямлю Стольнік.

У нешчаслівае імгненне выхапіў шаблю і падбег да брамаў. Калі мінуў сцяну і ўляцеў на двор, паўсюль гаспадарылі маскалі. Стольнік ляжаў на зямлі, аднак яшчэ жывы. Пад сэрцам у яго відаць была вялікая пляма крыві. У другім баку, прыпёрты да грушы, моцна паранены, Агінскі змагаўся з трыма еграмі. Яго шабля адбівала атакі маскоўскіх штыкоў, але з кожным імгненнем усё слабей. Пан Рамбайла сядзеў каля Ажэшкі і ўкленчваў... Бедны маршалак зусім тады страціў розум! Збіўшы з ног аднаго егра, я апынуўся побач і завязаў бойку з другім. Бараніўся ад маскалёў і краем вока бачыў, як адкрыў вочы мой даўні пан.

— Міцкевіч, сыне! — прашаптаў ён і ўзнятай далоняй махнуў у мой бок.

Запаліліся нянавісцю вочы Рамбайлы. А я не зважаў, бо адбіваўся ад шалёных маскоўскіх атакаў. Сунуўся на мяне дужы капрал і два егры абыходзілі з флангаў. Бог дапамог пакласці на зямлю першага, ды толькі я наважыўся падчасаць нахабнага маскаля з правага боку, як і сам лёг побач. Не зразумеў я папярэджання Ажэшкі. Стаяў у мяне за спінай ганебнай памяці фон Дрэвіч, трымаў у руках ружжо, якім надта ўдала прыклаўся да маёй галавы.

— Пахвалёны! — сказаў фон Дрэвіч, звяртаючыся да Ажэшкі.

— На векі вякоў! — адказаў ЯВ-ны Стольнік, моцна закашляўся і ўжо ледзь чутна дадаў: — Толькі ў розных багоў мы з табой верым, маскале.

— Няўжо? — адгукнуўся пан афіцэр. — А я думаў, што Бог адзін і ў палацах магнатаў, і пад стрэхамі засценкаў! Але перад тым, як душу тваю схопяць шатаны і пацягнуць у пекла, прыгадай, яснавяльможны пане, майго бацьку — забітага з тваёй ласкі гаспадара Воўчай норы.

— Бжастоўскі! — з жахам у вачах прашаптаў мой былы пан.

— Апошні з роду!

Сказаў і другі раз стрэліў у сэрца Ажэшкі.

Так загінуў астатні Стольнік на Літве!

Так завяршылася Барская канфедэрацыя...

Маю Радзіму чакалі тры падзелы, акупацыі, гвалты, паўстанні, войны — адным словам, бясконцыя блуканні па пекле. Каб толькі мог я пра ўсё гэта ведаць, Бог бачыць — застаўся б побач з Ажэшкам. Толькі прага жыцця перамагла. Адпоўз я ўбок ад палаючых брамаў, скаціўся ў нейкую канаву і там страціў прытомнасць. Вярнуўся да жыцця праз тыдзень, калі ляжаў на брудной падлозе радзівілаўскай турмы. Судзілі мяне як дзяржаўнага злачынцу.

Прысягаў пан Рамбайла на Святым пісанні, што бачыў, як стаяў я пад вежаю са стрэльбай у руках. Я не адмаўляўся: «Стаяў! Праўда!»

—Дзеля чаго?

— Жадаў крыві і помсты!

— Да таго ж, — не пакідаў свайго маршалак, — сам Ажэшка паказаў перад смерцю на свайго забойцу.

— Праўда, вашэсць, назваў Стольнік маё імя перад смерцю.

— Дык ты забіў?

Што было адказваць? «Маўляў, не я! Хацеў забіць, дый не забіў!» Акрамя мяне, Бжастоўскага ніхто не бачыў, бо Іерамія паспеў вывесці Эву з замка праз патаемны ход, а лёкаяў высеклі, адзін толькі Агінскі і застаўся жывы. Кашталян мог пацвердзіць мае словы. Але ён быў далёка, сярод палонных у Вільні. Пастанавілі Ваяводу расстраляць. Асабліва рупіўся аб прыняцці такога рашэння Рамбайла. Ён запярэчыў нават, калі айцец Марк пажадаў мяне спавядаць.

«Не варта адпускаць грахі такому вырадку!» — з лютасцю ў голасе сказаў маршалак і з мечам у руках стаў на шляху манаха.

Канфедэраты таксама выказаліся за пакаранне смерцю, але супраць самавольства паўсталі Міцкевічы. Запатрабавалі спачатку завезці мяне ў Менск, дзе ў той час дзейнічаў Літоўскі трыбунал, і пакараць па закону, як нобіля. Пан Парахвяновіч з тым пагадзіўся. Басанож, абдзёртага, скрываўленага, прыгналі мяне ў Менск і пасадзілі на ланцуг у доме нейкага яўрэя. Паставілі на варце майго стрыя, пана Казіміра, і шляхціца з Гедройцаў, каптуровага пісара пана Баніфацыя, а самі разбегліся па месцы і пачалі балявацъ, святкуючы перамогу над маскалямі. Дзякуй Богу, ёграў Бжастоўскага або — калі пан Тадэвуш жадае — фон Дрэвіча дасланы наўздагон аддзел канфедэратаў разбіў дазвання. Дрэнна толькі, што сам Бжастоўскі разам з палоннымі ды некалькімі недабіткамі схаваўся ў царкве і дачакаўся дапамогі. Digitus Dei[389].

Рыхтаваўся я годна прыняць смерць, спрабаваў паразумецца з Богам дый перапрасіць у яго грахі. Але думкі, як зачараваныя, блыталіся і замест таго, каб маліцца, я ляжаў на падлозе і шаптаў імя Святой Марыі. Недзе каля апоўначы даляцелі да мяне гукі страляніны.

[389] Такая воля Боская (*лац.*).



Як потым даведаўся, з боку Койданава ўварваўся ў Менск полк данскіх казакоў, выбіў канфедэратаў і расцерушыў па павеце. Сам таго не жадаючы, застаўся я сярод жывых. Пасля Таргавіцы атрымаў ад маскалёў зямлю Стольніка і яго замак. Былі гэта трыццаць срэбранікаў, якія я прыняць не пажадаў. Ганебнае імя здрадніка назаўжды прымацавалася да прозвішча «Міцкевіч». «Знаёмыя са мной не сталі сустракацца, сябры мае мяне ўжо сталі выракацца. Хто баязлівы, той здалёк ледзь прывітаўся. Ды нат габрэй які, мужык і той стараўся, хоць пакланіўшыся, правесці злосным смехам. А слова «здраднік» адбівалася ўкруг рэхам»[390]. Жонка — старэйшая дачка пана Гедройца — у той час ужо памерла, не паспела нарадзіць дзяцей. Нішто больш не трымала мяне на Радзіме.

«Дзе я ні быў! Чаго ні перанёс! Але мне Бог памог душу ад смерці збавіць: паправіцца павінен быў я і направіць наколькі можна тое… Ажэшкі дачка памерла на Сібіры дзесьці, і кашталян, муж, прапаў там дзесь без весці, пакінулі дзіцятка на радзіме, Зосю. Я гадаваць яе загад даў…»[391]

— Зосю? — разанула мне па сэрцы, як распаленым нажом. — Так звалі маю маці.

— Так, мой Тадэвуш, Зося, народжаная Агінская і мая выхаванка — твая маці. А ты — няхай і па кудзелі, апошні з Ажэшкаў!

Шляхціц выпіў келіх мёду і прамармытаў нешта няўцямнае сабе пад нос.

— Хутка ўжо я пайду, — сказаў ён надта ціхім голасам, — але на развітанне скажу яшчэ колькі слоў.

— Крыўдна мне, Тадэю, чуць і чытаць зараз такое, што шляхта літоўская нібыта была найвялікшым злом, што ўся яна спрэс складалася з вырадкаў і п'яніц, крывадушнікаў і гайдамакаў. Сказаць або напісаць такую хлусню мог толькі вораг, бо шляхта — соль Літвы, яе абарона і гонар. Не катавалі мы мужыкоў, не пілі кроў з яўрэяў, не займаліся рабункамі і гвалтамі. Ніколі не былі мы апалячанымі ці абмаскаленымі, не былі чужынцамі для свайго народа — беларускага (як яго зараз называюць). Нам прыпісваюць прыпыху і фанабэрыстасць. Але няслушна, бо шляхціца вылучалі сціпласць, пачцівасць і сумленнасць. Усё наша жыццё, мой Тадэвуш, было прысвечана Бацькаўшчыне. Гонарам і вялікай узнагародай лічылі мы смерць за Айчыну. Таму біліся, таму паміралі, таму не засталося нас на зямлі.

З гэтымі словамі шляхціц узняўся з-за стала і на развітанне сказаў:

[390] Міцкевіч А. «Пан Тадэвуш».
[391] Тамсама.

— Не пакідайце Бацькаўшчыну, дзеці, бо на тым свеце дзяды ніколі не даруюць вам гэтакага блюзнерства!

Чалавек знік, быццам і не было ніколі. Адна толькі памятка і засталася па ім — гэтыя вось мае апавяданні. З таго часу мінулі гады, і зараз, седзячы на парыжскім бруку, я прыгадваю момант за момантам нашу размову. На жаль, гады шмат чаго сапсавалі ў маёй памяці, таму часцяком даводзіцца звяртацца да фантазіі, абуджаць памяць сэрца, якое захоўвае тужлівы, невычэрпна балючы ўспамін аб маёй улюбёнай Літве і яе жыхарах. Ведаю я, што ўжо не вернеш ні тых старасвецкіх сядзіб, дзе жылі заўжды гасцінныя і прыязныя да мяне людзі, ні тых звычаяў, ні той шляхецкасці, ні таго жыцця — павольнага, паэтычнага і праўдзівага. Мой страчаны рай ляжыць за непераадольнымі гарамі, і я ад яго невыносна далёка. Кожную вясну, выходзячы ў поле, я з зайздрасцю і захапленнем назіраю за тым, як лятуць птушкі ў родныя для мяне гаі, пушчы і азёры. І пераношуся разам з імі ў анёльскае дзяцінства ці шумнае юнацтва, калі з кошыкам або стрэльбай на досвітку ішоў у лес, расхінаў рукою вільготныя галінкі дрэў, глядзеў, як скача з дрэва на дрэва вавёрка, бачыў, як страсае слязу барсук, як уцякае ад раптоўнага гуку спрытны баязлівец-шарак. І Божа! Якое шчасце патрапіць зноў на Радзіму, якая асалода не бачыць усіх гэтых французаў, не чуць іх бясконцыя размовы пра грошы і прыбыткі. Але замест таго я маю толькі ўспаміны... ды яшчэ гэтую вось магчымасць занатоўваць мінулае на абыякавай да ўсяго паперы.

На развітанне заўважу яшчэ адну важную і дзіўную рэч. Няхай чытач даруе мне, магчыма, залішнюю сентыментальнасць. Справа ў тым, што, гледзячы пану Міцкевічу ў вочы, я зразумеў, што гісторыя, якую толькі што пачуў, на самой справе гісторыя маёй сям’і і маёй Айчыны. У адно імгненне адчуў повязь і з гэтай зямлёй, і з яе людзьмі. Зразумеў, што я — Тадэвуш Княтынскі — народжаны Літвой і што ніколі не адмоўлюся быць літвінам, не здраджу продкам. Не буду вырадкам, не адракуся ад мовы, ад гісторыі; не пажадаю пагоднага, але чужога неба, не прамяняю Айчыну і Каханне ні на якія дабрабыты.

Праз без малога дзесяць год, змагаючыся на барыкадах Варшавы за «Айчыну і Каханне», вырываючы ў цара свабоду для літвінаў і для палякаў, а таксама потым — у Сібірскіх рудніках, куды патрапіў пасля задушэння паўстання, разам з іншымі вязнямі, нібы малітву, я паўтараў апошнія словы з гісторыі майго суразмоўцы:

Мы ў свеце, як няпрошаныя госці.
І ў гэтым, і ў тым, што на пагосце,
Адзіны край такі ў Бога,
Дзе шчасця для паляка ёсць нямнога:
Дзяцінства край! Ён прад вачыма ўстане
Святы і чыст, як першае каханне,



Успамінамі памылак не разбіты,
Абманутай надзеяй не ўзрыты.
Не зменены нічым і не забіты.
Дзе рэдка плакаў я і не злаваўся.
З тым краем я ахвотна б прывітаўся,
З дзіцячым краем...[392]

[392] Міцкевіч А. «Пан Тадэвуш».

# Змест

Прадмова да чытача ........ 3

I
Аблога замка Стольніка Ажэшкі. Барскія канфедэраты.Фон Дрэвіч. Пчаліная помста. Смерць Стольніка. Рамбайла ........ 5

II
Мае вандроўкі па Навагрудскім ваяводстве.Наступствы навальніцы. Карчма. Засцянковы шляхціц ........ 11

III
Аповед шляхціца. На палову стагоддзя назад. Міцкевічы. Пракляцце ........ 14

IV
Пан Ваявода. Скруха. Кляштар.Пустэльнік. Бог не памірае тады, калі мы перастаем у яго верыць ........ 17

V
Кахаймася. Рахуймася. У замку Ажэшкі. Польны гетман. Палітыка. Ад прымаўкі да вымаўкі. Звада. Небяспека. Анёлак ........ 27

VI
Званы Іераміі. Несвядомасць. На шляху Дантэ. Святая Марыя. Збаўленне ........ 36

VII
Анёлак. Пан Ваявода. Хітрыкі шатана. Каханне і помста. Палітычныя замалёўкі пана Ю. Крашэўскага ........ 40

VIII
Даўнія падзеі. Валадковіч. Эва ........ 47

IX
Старыя паданні. Бекеш. Пракляцце роду Міцкевічаў ........ 49

X
Вяртанне да прытомнасці. Эва. Зло ў імя Дабра. Пякельны падман ........ 55

XI
Наезд літоўскі ........ 64



XII
Бітва ........ 89

XIII
Казанне. Тэатральнае відовішча. Падчашыч.Вяртанне шляхціцаў у замак. Балада. Эва Ажэшкава ........ 100

XIV
Канцэпт пра Радзівіла. У карчме. Стольнік ........ 110

XV
Рэч Паспалітая*(камедыя ў І дзеі)* ........ *115*

XVI
Вячэра. Жаноцкае і Боскае. Звада. Пан падкаморы. Паланез ........ 134

XVII
Мінаюць, ідуць гады. Прыпавесць. Развітанне з Эвай. Прага помсты ........ 144

XVIII
Nie wystarczy wierzyć, aby być dobrym.Diabeł na pewno nie jest ateistą. Аб'яўленне чорта ў Магілёве. Умань. Неспадзяванка для падарожніка. Прыгоды чорта на Літве. Прымха пра Валадковіча. Запарожац. Пан Гроза ........ 155

XIX
Характэрнік ........ 162

XX
Над Міндоўгавым гаем. Вера і розум. Ашуканства ........ 166

XXI
Ведзьміна паталочышча. Дачка Пяркунаса.Старыя і новыя багі. Міцкевіч. Відавочныя рэчы. Пялёсткі белай ружы ........ 170

XXII
Шляхціц-філосаф. Вяртанне да падзей аблогі замка ЯВ-нага Стольніка літоўскага. Апошні з Бжастоўскіх. Несправядліва абвінавачаны, але справядліва пакараны.Колькі слоў аўтара ........ 175